А прырода, як маладая жыцьцярадая дзяўчына, вось толькі што прачнулася ў цёпла-мяккім ложку і соладка-мляўка пацягваецца, скрозь цягуча-дакучлівую дрэму жмурыцца на залатыя ніткі-прамені, і ад пацалункаў іх—усьміхаецца, трапечацца, млее...

Так!.. Пацягваюцца ранішнімі ўздыхамі слабага ветру шыроколістыя кляны, кучаравыя, доўгавалосыя русалкі-бярозы, жмурыцца на сонца з-пад страхі-далоні шэрая раскатурханая вёска на пакаце, сьмяецца густы сакавіты лес, трапечацца сьветла-зялёнае ў васількох жыта і млее празрыстая даль на загонах...

Ад гэтага млела сэрца і пачуцьці, і таму хацелася ўсё ісьці ды ісьці, не аглядаючыся, ні аб чым ня думаючы,– ісьці ў гэтую залатую, п'яную даль, каб там далёка-далёка недзе зусім зьліцца радасьцю буйнаю з гэтай дальлю ружовай ..

Вось чаму так і весела было, так вольна сябе адчувалася...

Ужо вышэй паднялося сонца, і з густа-чырвонага неяк яно пабялела, пахарашэла, зыркасьцю абкруцілася і мацней да зямлі прылашчылася... А я гэтым часам ужо далёка зайшоў за вёску, і мне толькі трохі чутно было, як ужо зусім абудзілася вёска і ў сваім абуджэньні пляскалася зычнымі крыкамі, гоманам...

Мала думаючы і слаба ўяўляючы, неяк зусім махінальна, я павярнуў з дарогі на роўную, усю зарослую дзятлікам, канюшынкай, цімафееўкай і трыпутнікам ды абгароджаную высокімі і густымі сьценамі сьпеючага жыта—сьценку... Пасярэдзіне сьценкі беглі, як дзьве роўныя рэйкі, дзьве каляінкі, і гэтыя каляінкі далёка губляліся ў густа-зялёных ліпах ды ў шаўкова-залацістых косах беланогіх красунь-бярозак...

Ногі самі сюды мяне несьлі, бо кожны раз, калі-б мне ні собіла ісьці гэтым бальшаком,—мне трэба было (проста цягнула) зайсьці на гэты хутар...

... На хутары гэтым жыў цяпер дзед з маленькім унучкам і чамусьці заўсёды яны ветла-ласкава мяне сустракалі, падоўгу гаманілі... Дзед казаў мне вялікія „старасьвецкія“ (як ён сам іх называў) казкі, пасьвячаў нават у таемнасьці загавораў, калі гэта прыходзілася да слова, і ўсё марыў, шмат аб гэтым гаварыў і разам з гэтым вельмі шкадаваў, што яму не давялося пабачыць Леніна...

— Ого, сынок, каб мне давялося на свае ўласныя вочы яго пабачыць... Леніна гэтага самага!? Мо' даступіўся-б як да яго, на каленях-бы поўз... Хацеў-бы праўду яму расказаць... Ого!?—і, памаўчаўшы ды нешта сам сабе ціха пашаптаўшы, апусьціўшы сівую кудлатую, некалі кучаравую галаву, яшчэ цішэй, нібы сам сабе, казаў:

— Ого!.. Я-б расказаў яму!..—і голасам вялікай жальбы дадаваў,— ня прывёў госпад бог!..

Не адзін раз ён ужо аб гэтым мне гаварыў. Ведаў я, але больш здагадваўся, што нешта ў дзеда ёсьць на душы вельмі балючае, горкае,

проста рана гнойная; не адзін раз я дапытваўся ў яго аб тым, што-б ён сказаў Леніну, якую гэта хацеў праўду адкрыць,—і заўсёды, як відаць, з нездавальненьнем і горыччу ён мне, крутнуўшы галавою, адказваў:

— Прыдзе час і ты, сынку, даведаешся аб гэтым!..—і змаўкаў, а мне зноў усчынаць аб гэтым гаворку—ня прыходзілася...

Я шмат запрыкмячаў, што дзед пасьля гэтае размовы рабіўся сумным, нібы трохі злосным, маўклівым... Галава сівая з густою белаю, на канцы жаўтаватаю, барадою, нізка хілілася на грудзі, на лобе клаліся глыбокія разоры раздум'я, тады ўздыхаў дзед і часта, бывала, нічога ня кажучы, паднімаўся ды ішоў адзін цераз сенажаці да ракі...

У мяне закралася думка, што ў дзеда ёсьць вялікая жыцьцёвая таямніца, нешта вяліка-балючае, для яго вельмі важнае,—і напружна хацелася аб гэтым даведацца, убачыць усё гэта сваім нутром...

Так дні ішлі. Я кожны дзень прыходзіў на хутар да дзеда, кожны дзень ён мне шмат гаварыў, і пасьля разам, усе ўтраіх, елі рыбны квас, квашаніну ці так, наогул, смажаныя шчупакі, плоткі...

Дзед з унукам кожны дзень лавілі рыбу, і пад вечар унук адносіў яе за чатыры вярсты на станцыю, а разам з гэтым—два разы ў тыдзень—насілі яны ўжо ўдвух плеценыя кошыкі, фунт масла, сыр або (калі зьявяцца) ягады ды грыбы...

Гаспадарку яны мелі невялікую: дзесяціну ворнае зямлі ды паўтары сенажаці, трымалі карову ды пару авечак...

З гэтага і жылі.

Застаўся яшчэ, праўда, сад прыгожы, але ўжо, як і сам уладар яго дзед Язэп,—астарэў, асунуўся, перастаў даваць яблыкі, толькі разросься сад гэты, сплёўся верхавінамі, дзівосна перамяшаўся з кустамі парэчак і даў гасьцінны прытулак цэлым хмарам птушак...

Любіў дзед іх, любіў іх пяяньне, і вясною ды летам кожную раніцу і вечар прападаў у садзе.

А зямлі ў яго карыстаньні раней было больш, ды два гады толькі назад сам Язэп здаў яе ў дзяржфонд.

— Не ўраблю я сваімі рукамі... Стары стаў... На нас, цяпер, двух і дзьве дзесяцінкі хопіць... Карову прахарчаваць-бы, ды каб унук падняўся... А як падрасьце—прыдбае!..

Вяскоўцы цэлы месяц дзівіліся з яго, сьмяяліся і ледзь ня ў вочы звалі яго:

— Дурань!..

А як пачуў аб гэтым Язэп, трохі падумаў, плюнуў, адвярнуўся і, злосна бліснуўшы вачыма, рыкнуў:

— Ня з іх носам ведаць!..—А потым рашуча матнуў рукою.

Балуючы рукою каласы жытнія і ўсё думаючы аб дзеду, сустрэчы з ім ды любуючыся хараством гэтай прыгожай раніцы, я і не заўважыў, як ужо падышоў да хутара Язэпа...

Калісь вялікая і прасторная хата, цяпер згорбілася, пад дажджамі і сонцам счарнела, нібы ненарокам пакрывілася на адзін бок, задняй сьцяною падалася назад, і ад гэтага здавалася яна вельмі-ж моцна прыціснутай да зямлі, скалечанай, малой; насупроць—сьвіран з прыклетнікам прыстроіліся, дзе як дзень, так і ноч сушылася сетка рыбалоўная, трохі ўбаку—крыты ўжо паверх гнілой саломы яловымі лапкамі—стаяў хлеў для каровы. А ўсе гэтыя будынкі з усіх бакоў зялёным морам заліла буйная зяляніна саду, ды з задняга боку хаты—вялікі бярэзьнік блізка падыходзіўшага сюды лесу...

Вельмі прыгожа тут на хутары, у дзеда Язэпа!..

II

Разьбеглася сьценка ў вялікі, апырсканы рознафарбнымі краскамі, луг. Луг гэты роўным пакатам скочваўся адным канцом да зарослай алешнікам, вербалозьзем і бярэзьнікам ракі, а другім—падбягаў да прыгожага мешанага лесу, слаўся там у яго ног і, усё ўцякаючы далей,—зусім губляўся ў старых панурых хвоях.

З сьценкі вілася маленькая, пад пагнутай ад расы травой, ледзь прыкметная дарожка. Высокая і мокрая, шчэпленая над дарожкаю галоўкамі красак, трава не давала прайсьці, путала і мачыла ногі...

Блекатаў баран пад рэчкаю, плакалі кнігаўкі, весела на кусьце чылікала нейкая птушка, і над усім лугам і полем, угары зьліваючыся з глыбінёю неба, малінавымі званочкамі зьвінелі жаўранкі.

Яшчэ далёка не даходзячы да хутара, з густым і звонкім брэхам кінуўся да мяне дзедаў улюбенец, вялікі рабы сабака...

Апавіты мокраю травою, ён ня бег, а куляўся, плыў да мяне ў густой траве, ад брэху лезла трава яму ў рот, і ён, на хаду яе выкідаючы, неяк сьмешна мармытаў, яшчэ здалёку ўхмыляўся, а, сустрэўшы, пачаў скакаць на грудзі, візжэць, лізаць рукі...

Адчыняючы скрыпучыя вешніцы, я ўбачыў, як дзедаў унук—Алесь разьбіраў на прыклетніку сетку, калаты і нейкія вяроўкі. Яго моцна загарэлы, абветраны вясеньнімі ветрамі твар прыняў сур'ёна-дзелавое адценьне, карыя вочы пад прыгожымі поўдужкамі-брывамі ня бегалі па бакох, як бывала,—яны пільна ўглядаліся ў карму, дзе ў апошні лоў нейкім чынам прарвалася дзірка, і цяпер трэба яе закідаць...

Седзячы на ганку, выпрастаўшы ногі і разьбіраючы сетку,—ён паціху насьвістваў даўгую з пералівамі, як-бы бяз стала вызначаных матываў, песьню... Мне здалося, што гэта песьня—сьляпое перайманьне мэлёдыі ціхага ў лесе ветру, звон хвоі, а то можа і кавалкі з буры, віхру...

Не заўважыў ён мяне і тады, калі я зусім падышоў да яго, і толькі як мой доўгі ад ранішняга сонца цень каўзануўся ў яго ног,—ён скоранька, нэрвова-спуджана ўскінуў угару на мяне свае вузкія, прыжмураныя ад яскравых праменяў сонца, вочы...

— Ах, гэта вы?!..—радасна з усьмешкаю прагаварыў ён і, скінуўшы з ног сетку, скоранька ўсхапіўся і пачаў наматваць пашавецку, на локаць і вялікі палец, суравую нітку...

— Гэта-ж мы думаем у рыбу схадзіць, дык дзед, пасьнедаўшы, пакуль-што ў садку пчолы глядзіць, а я сетку трохі зашываю... Аб корч недзе ці аб сук разадралася... дык ледзь агледзеў...

Гаварыў і наматваў нітку, шырока расставіўшы свае босыя, патрэсканыя ногі, і весела, ясна ўсьміхаўся, паглядаючы то на мяне, то ў густую сакавітую зелень саду...

— Дык дзед, кажаш, у садзе?..

— Ну, але!.. Баіцца, каб рой ня ўцёк, дык пільнуе яго і птушак слухае... Вы-ж ведаеце яго?!

— Скора пойдзеце на раку?..

— Зараз!.. Сетка ўжо гатова!..

— І я з вамі думаю прайсьціся!..

— Чаму-ж не, можна?! Паглядзіцё нечага, як мы ўпраўляемся!..

— Ну, дык зьбірайся, а я пайду да дзеда!..

Залатою мітульгой калацілася і перасыпалася чыста-звонкая, шырокая, поўная ціхай радасьці маладая раніца. Мякка лашчыла вочы разьлітае чыстаю вадою блакітнае неба; аграмадна-пухкімі бярэмямі зяленіва падпіралася гэтая недасяжная блакітная даль з кавалкамі разадранай воўны ў ёй...

Шырокімі і густымі хвалямі плыў над хутарам салодка-прыкры дурманячы пах цьвітучых роз, адцьвітаючага язьміну, жыта і лугавых красак...

З густа-зялёнага саду нястройным хорам несьліся ярка-звонкія галасы птушак..

І хацелася легчы на сыравата-мяккую зямлю, поўную маладой сакавітай песьні, і, прыслухаўшыся ды падабраўшы мотывы, хоць-бы ціха, ціха запець аб хараstве, аб нованароджанай радасьці...

Дзеда я знайшоў за густымі кустамі парэчак і маліньніку, каля старой яблыні, дзе, выпетраны дажджамі і вятрамі, з выгляду, здаецца, зусім трухлявы, з пракручанымі сьвердлам дзіркамі і колікамі па бакох, каб можна было як узяцца за яго ў часе пераноскі ды ўсьцягаючы на дрэва, стаяў, прыхінуўшыся сьпіною да яблыні, вулей з пчоламі...

Дзед ляжаў на абагрэтай ужо сонцам мураўцы, пад шырокім і пукатым кустом, у вясёлым раздум'і пагладжваў чорна-загарэлаю рукою сваю сівую бараду і прыжмуранымі вачыма наглядаў за палётам пчол... Ён у сваіх глыбокіх думках і не заўважыў мяне, а да таго яшчэ маю постаць засланялі густою сьцяною кусты і цень яблынь, і я з вялікай прыемнасьцю разглядаў яго жоўта-зморшчаны, з адценьнем нейкай мяккай дабраты, твар, белыя кучаравыя валасы і яго мілую дзіцячую ўсьмешку...

Мне падумалася:

„Чалавек гэты—мілае дзіця ў душы, такі добры, здаецца, усім здаволены, не перанёсшы ў жыцьці аніякага гора, нуды, але чамусьці глыбока ахоплены цяжкімі, зьлітымі з горкасьцю, у пражытым вялікім няшчасьцем, думкамі і таму заўсёды прымушаны жыць з імі, таіць далёка ў сэрцы, нікому аб іх не гаварыць і гэтым, зразумела, хварэць...

Відаць, цераз мяккую душу яго прайшло нешта такое востра-балючае, што чалавечыя словы ня гояць раны гэтай, і толькі стварэньні бяз мовы чалавека, але са сваёй заўсёды радаснай, вольнай працоўнай песьняй цешаць старога“...

І тады-ж пастанова ў душы склалася, неабходная, проста міжвольная: „Трэба абавязкова сягоньня дапытацца ў яго, у душу яму паглядзець,—і, бязумоўна, куды лягчэй тады будзе яму!“.

Баяўся я, так ціха падкраўшыся, вітацца з дзедам, каб не спалохаць яго, і, каб вышла гэта як-небудзь складней, я зноў ціханька адыйшоўся назад і, ужо наўмысьля ступаючы на сухія леташнія галінкі, робячы трэск і шум,—падыйшоў да яго...

Я заўважыў, як спачатку спахмурнеў Язэпаў твар, нібы хмарка раптам найшла на сонца, потым з ціхай, расплыўшай па ўсім добрым твары ўсьмешкай (нібы хмарка гэтак-жа скора прабегла, як і набегла)—ён ужо, з крэктам устаючы, гаварыў мне:

— О-о-о-о?! Каго я бачу?! Даўно, даўно бачыліся... Ну, як здароўе?.. Што чуваць?!—дробна, пастарэчаму падыйшоўшы, трос сваёй цяжкаю, шурпатаю і заскарузлаю рукою маю руку... Проста ў самую душу глядзелі яго глыбока-разумныя, ад пражытых гадоў ужо выліня-лыя, але яшчэ сьвежыя, шэрыя вочы... Чамусьці больш, як калі гэта было, дзед Язэп сягоньня гаварыў мне аб пчолах, аб раёх, аб тэй жаласьці, калі ды ўцячэ гэты рой, аб песьнях птушыных...

І ў думках ён здаецца мне вельмі добрым, ціхім, як цяперашняя раніца, трошкі засмучоным, ідылістычным... А тымчасам глыбока ў душы маёй адчуваецца, што ў гэтым ціхім, радасным голасе—дрыжыць няведамая нотка пакуты, мяккага, як паміраючы летні дзень, смутку, нуды, у яго глыбокіх вачох скрозь сьмех блішчаць чыстай расою сьлёзы і, яшчэ глыбей сьмеху і сьлёз,—сьвеціцца нейкі чорны сполах, зьдзіў, што належыла гэта пячатка пражытых год буры...

Калі ён апушчае ў зямлю свае вочы, тады яны вельмі-ж выяўляюць мне нямую, мо' яшчэ нязнаную і самому дзеду, журбу, боль... І ад гэтага, разам са шчыраю любоўю, у мяне схавалася ў сэрцы нейкая да яго пяшчота, жаласьць, жаласьць, зьвязаная з маімі душэўнымі сьлязьмі!..

Вось чаму я так і любіў дзеда Язэпа, сябраваў з ім, хадзіў да яго на хутар...

— Ведаеш што, Мікола?!

— Што?

— Ды пойдзем разам сягоньня ў рыбу!.. Тут-жа вось недалёчка. Лапці дам...—і не даваў ён мне гаварыць, адказаць; даваў мне пытаньні і сам-жа на іх адказваў, сьпяшаўся ды радасна аглядаў неба, сад, пчолы...

— Ты лавіў дзе-небудзь рыбу гэтую самую?.. Ды пэўна-ж некаліс прыходзілася!.. Каб ты ведаў, што гэта за ахвота!? Вось сам пойдзеш... раз пабудзеш, зловіш што-небудзь, ну, тады і кожны дзень будзе цягнуць ахвота схадзіць на раку... Ого, гэта рыба!..

Гаварыў і сьпяшаўся ды яшчэ і мяне падганяў. З саду яшчэ Язэп крыкнуў цераз ціхі двор:

— Алеська-а-а!.. сыно-о-ок!..

— Чаго-о-о?—адгукнуўся той, ужо сабраўшы ўсё як сьлед у дарогу.

— Сабраў ужо?

— Сабраў!..

Зараз-жа дзед шмыгнуў у цёмныя сенцы і неўзабаве вынес адтуль пару чорных, трохі ўжо зношаных лапцей і, кідаючы мне, адвярнуўся да Алеся:

— Ідзі прынясі яму анучкі, вунь на плоце сушацца, ды хуценька ты!.. Абувайся хутчэй, Мікола!.. Ведаеш, раніцай вельмі-ж добра ловіцца рыба!..

Я абуваўся, дзед аглядаў торбу. Алесь, замкнуўшы хату, ужо ўзваліў на свае худыя плечы сетку, а Рабчык тыкаў мне ў твар сваёю мордаю, лез цалавацца, радасны тым, што я зусім сагнуўся, завязваючы аборы, і яму ўдалося выканаць гэта без клапот...

Урэшце выбраліся.

З вярсту трэба было ісьці да рэчкі—і ўсё ўклонам сенажацяй сярод густой, яшчэ не прасохлай травы; ісьці было весела, неяк радасна з шырока-вольнымі думкамі ў такіх вольных прасторах...

Ужо і добра паднялося сонца і стала памаленьку прыпякаць нашы сьпіны.

— Пагода сягоньня—як дым!..—паглядаючы на далягляд, сказаў дзед, і, папраўіўшы на плячох калаты і торбу ды моцна высмаркаўшыся, заткнуўшы адну палавіну носа пальцам, ён, абцёршы мокрыя пальцы аб штаны, прыжмурыўшы адно вока і глянуўшы на неба, многазначна дадаў.

— А-ткі дождж ужо і трэба... Высахла зямля вельмі-ж... ярына просіць, агароды...

І здавалася мне, што на залатой траве скакала адна сама сабою вялікая, нібы рымскіх глядыятараў, сетка, а пад ёю, як няпрыкметны жучок, нехта капашыўся... Гэты жучок, якога самога трэба хлебам карміць, ужо сам зарабляе і для сябе і для дзеда хлеб...

— Дай, Алесь, мне сетку—я панясу!..—папрасіў я ў яго.

Ён усьміхнуўся, скрывіў на бок рот (так, як калі гэта робіш што цяжкае ды прыдзецца к гаворцы), потым ветліва зірнуў на мяне і, ужо ня гледзячы, зачырванеўшыся, адказаў:

— Дармо, данясу!.. Не пяршыня мне гэта—прывык!..

— Эх і папалоўліваем сягоньня, хопіць ужо з нас!..—ня ўнімаўся рады дзед.—Дамоў мо' надта не сьпяшаешся?! Калі есьці захочаш, дык у мяне ў торбе ёсьць... Але вот гэта, дык радасьць, ахвота будзе... Усё аддай—і то мала!.. падбухторываў мяне дзед.

Але ўжо даўно мне і самому дужа хацелася калі схадзіць на рыбу, і, каб здаволіць старога, я запэўніў:

— Я сам ужо даўно хацеў вас прасіць, каб узялі з сабою калі-небудзь на рыбу, ды ня было так часу, а вось сягоньня магу хоць і цэлы дзень... Сьвята ў нас...

— А якое гэта?!—голасам, нібы дзівячыся сам з сябе, што ня ведае, спытаў у мяне Язэп...

— А як, ня ведаеце?.. Ды сягоньня-ж дзень вызваленьня Беларусі ад белапалякаў!.. У гэты дзень выгналі іх ад нас... Сьвяткуем...

— Што?.. Праўда?!. Праўда?..—учапіўшыся за мой рукаў, суняўся і суняў мяне, ды з нейкім ні то сполахам, ні то з жальбай утаропіўся Язэп у мае зьдзіўленыя вочы...

Ня ведаючы, у чым справа,—я спыніўся і зірнуў у вочы старога... Вось цяпер, да болю яскрава відаць было, як у гэтых шэрых разумных вачох—сьмех зусім прапаў, і запоўніла, заліло іх: сполах, гэтая доўга-скрытая жальба, туга, вялікі, нечалавечы боль, і скрозь іх ніколі мною нябачаныя аганькі злосьці...

— Так!.. Сягоньня дзень вызваленьня Беларусі...

— ...Вернемся!.. Вернемся назад... Сягоньня вялікае сьвята...—неяк дзіўна-перарываючым, як-бы ад вялікага хваляваньня, голасам, зьбялеўшы, сказаў Язэп.

І тут-жа адбылася перамена: за гэтую хвіліну як-бы фізычна заняпаў дзед, згорбіўся, зьбялеў, пачалі калаціцца рукі, час-ад-часу галава, вочы яснасьць ад сьлёз страцілі...

Надтрэснутым, нібы разьбіты звон, голасам ціха сказаў, як-бы, здаецца, нам дваім ён:

— Алеська-а, сынок... хадзі сюды!..

І падышоўшага да яго Алеся ён дрыжачаю рукою ласкава абняў, зьняў яму аблавухую шапку і пацалаваў у сьветлыя яго кудзеркі... Відаць было, як капнула залаціста-срэбная пад сонцам сьляза...

— Жыві, мае дзеткі, гадуйся!.. Гэта-ж бадай у той час ты нарадзіўся. І яны загінулі...

Але не даказаў дзед, хто загінуў, толькі неяк зморшчыўся, як ад раскалупваньня вельмі цяжкай і сьвежай раны, ды зноў пацалаваў яго ў галаву.

Калаціліся ў дзеда рукі, сам увесь калаціўся, а перад ім ціха стаяла расчуленае да сьлёз дзіця, уціраючае гэтыя непаслухмяныя сьлёзы дзіравым рукавом, і тут-жа я з боку—нічога ня ведаючы, ня знаючы...

— Бяры сетку і пойдзем дамоў!..—коратка сказаў дзед і, павярнуўшыся, бяз шапкі, нізка згорбіўшыся, памалу пайшоў да хутара... А як ішлі цераз балоціну, аднекуль кнігаўка сарвалася, узьнялася ўгору і, лётаючы вакол нас, з плачам кідалася проста нам у твар, нібы хацела выдраць у нас вочы за выкрадзеныя намі ў яе дзеці...

Дзед, які ішоў наперадзе, спачатку быў спыніўся, зірнуў на яе, але потым махнуў галавою і пасягаў далей...

III

Мы ішлі ўсе ціха.

У пачуцьцях маіх пенілася адна пакутная думка, пераплеценая з дрэнным адчуваньнем. З хуткасьцю маланкі перабягала яна ў маёй галаве.

„І нашто мне было гаварыць аб гэтым: успамінаць... Нашто было проста адным словам забіць дзеда, зьвеяць з яго пачуцьцяў такі добры, дзіцяча-радасны настрой“?..

Пакутвала мая душа, а думкі—цікавасьцю былі поўныя:

„Значыць, у памяці, у пражытым дзеда нешта ёсьць вялікае, балючае, атуленае нейкай таемнасьцю, загадкаю“...

Дзед Язэп убавіў (як-бы стаміўшыся вельмі) ходу і кіўком галавы падазваў мяне да сябе. Я падышоў, і мы памаленьку пайшлі з ім побач.

Язэп цяпер выглядаў так, як-бы ўжо перанёс душэўную навалу. Трохі спакайнейшым, ціхім толькі, усё так-жа, як і раней, гарэлі ліхаманкавым агнём яго вочы, і твар белы, ды зрэдку калацілася барада і рукі...

— Міколка...—пачаў ён дрыжачым, поўным нутраной пакуты і жальбы, здаецца, яшчэ больш, як раней, старэчым голасам.

— Міколка... сынок мой!.. Мне сягоньня цяжка на душы... душаць сьлёзы... нуда!.. Гэта кожны год так, як прыдзе вось гэта вялікае радаснае сьвята... Усе гады я марыў, таіў у сваёй душы, глыбока насіў у сэрцы... Паверыш, чалавека ня было такога, каму-б я мог расказаць... ня было... А табе—як сыну роднаму...

Ужо нэрваваўся дзед, калаціўся, калаціліся і калаты на яго плячах, і ў мяне мігнула думка, што і без таго яму цяжка на душы, а тут гэта яшчэ ношка, і я ласкава да яго зьвярнуўся:

— Дзядуня, аддай мне гэтыя калаты – я панясу, а то яны трохі і цяжкаватыя...

Моўчкі, не спрачаючыся, ён мне перадаў іх, паправіў торбу і, апусьціўшы галаву і рукі, цяжка ішоў каля мяне.

— Дзядуля, у чым гэта справа?.. Чаму табе так цяжка і нудна, калі трэба сягоньня радавацца... Прагналі-ж у гэты дзень паноў, і ўжо сягоньня мы нават забыліся аб тых днёх, калі яны тут панавалі ў нас пазьверскаму...

— Ага!..—як-бы прачнуўся Язэп.—Былі дзянькі!.. Крывавыя дні, каб яны больш не вярнуліся... скрозь зямлю праваліліся разам з тымі катамі, хто прынёс іх сюды... пачаў клясьці дзед тыя дні панаваньня

тут белапалякаў, кляў з апошніх слоў, памастацку, з пачуцьцем, ад душы, нават потым на лаянку перайшоў...

Я адчуваў, што тут, пад гэтай кляцьбой, ёсьць нешта вялікае, крэўна-балючае, і ціха запытаў у яго:

— Што яны зрабілі табе, дзед, што ты так іх чысьціш з апошніх слоў? Чаму?

— Што?! Ты сьмяешся?!—крыкнуў дзед, глянуўшы на мяне са злосьцю.—Што яны зрабілі, кажаш?! Што ты, маленькі, і сам ня бачыш таго, што яны, сволачы, нарабілі!.. Ня дуры!.. Але мне яны... Эх-х-х, мне! Як нікому, яны ўеліся ў мае косьці і сэрца! Воўк—і той пашкадаваў-бы!..

— Дык раскажы, дзед!..—ласкава папрасіў я.

І дзед, убавіўшы ходу, памалу, як-бы ад утомы, раскачваючыся з боку на бок,—ціха пачаў расказваць.

І расказаў ён мне гісторыю свайго жыцьця. Гаварыў скора, нібы ён сьпяшаўся, каб хутчэй расказаць, скарэй перадаць усё, што сягоньня ўспомнілася яму, усплыло напаверх душы такое жудаснае, балючае, бо яно, як рана раскавяраная, і балела і мучыла... І вось што я даведаўся ад дзеда.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... Ціхім такім, радасным, вясковым жыцьцём жыў дзед Язэп на гэтым самым хутары са сваёй жонкай. Жылі, здаволены былі ўсім, але вось аднаго разу моцна захварэла яго жонка, ды так, што як раніцай лягла, так вечарам ужо не магла і падняцца... Што ні рабіў дзед Язэп, якіх толькі знахароў ні прыводзіў, дзе ўжо ні браў вады, нават і фэльчара прывозіў— не памагло!..

— Нічога не памагло ёй...—ціха кажа мне дзед,—так на трэцюю ноч пагасла яна, мая галубка... Як пяруном тады яна мяне прыбіла... Як хворы, як дурны, хадзіў па лесе, па сенажаці, каля рэчкі... Сам ня ведаю, што-б было, але весялей трохі было, калі зазьвініць над вухам сынок мой, які астаўся ад яе (тады яшчэ малым быў, мо' трохі меншы за Алеся)... Той толькі весяліў мяне і аднэй уцехай быў ..

Песьціў дзед свайго Адамку, шкадаваў, ня будзіў яго на раніцу кароў выганяць—сам усё гэта рабіў, ня прымушаў да цяжкой работы, і хутка рос малады, прыгожы на ўсю вёску, хлапец... І разумны-ж быў Адам, мусіць разумеў ён, адчуваў, як добры бацька яго шкадаваў, любіў... і сам ён шкадаваў бацьку, слухаў яго, бывала, у агонь і ваду кінуцца гатоў, калі скажа гэта зрабіць Язэп... Не жаніўся другі раз Язэп, не хацеў ганьбіць памяць першай сваёй жонкі, падругое—накладаць на любімага сына ярмо мачыхі... Так і жылі яны ўдвух—бацька і сын...

Грымнула і пракацілася вайна, прынёсшая для ціхіх вяскоўцаў жудасьць, кроў, зьдзекі, калецтва і папіхачы... Потым усё гэта неяк зьнікла, растала, і нарадзілася радасная і вялікая рэволюцыя...

Як нешта вялікае і страшнае, пракацілася гэтая рэволюцыя па няЗьмерных беларускіх абшарах, але хутару Язэпа яна толькі ледзь-ледзь, адным крайком чапнула... З чутак даведаўся Язэп пра бальшавікоў, пра

новыя парадкі і, вышаўшы з Адамам на рыбу, шмат аб гэтым яны гаварылі, развражалі, меркавалі і наогул ні да чога агульнага прыйсьці не маглі...

За чатыры вярсты на станцыю хадзіў Адам ужо апошнюю зіму ў школу, і вось тут, вельмі чулы і разумны хлапец зразумеў усю сутнасьць Кастрычнікавае рэволюцыі, даведаўся аб новых парадках, аб вялікай бальшавіцкай праўдзе...

І позьнімі зімовымі вечарамі падоўгу расказваў сын бацьку аб усім тым, што ён пачуў у школе, а яшчэ больш—у комуністычнай ячэйцы...

Уважліва слухаў дзед дзіўны сказ аб новым жыцьці новых людзей і доўга дзівіўся, ківаючы галавою над недаплеценым лапцем ля палаючага камінка, і, глыбока падумаўшы, гаварыў Адаму, кінуўшы на каленях работу і гледзячы задумённа ў агонь камінка:

— Чаму не?!. Ого-о-о, каб так жыць, як вось гэтыя бальшавікі кажуць!.. Нашто тады што!? Гэта-ж любата адна была-б, а ня жыцьцё!..

— Так, тата, павінна быць, бо вось і кнігі пішуць!.. Так і Ленін кажа!..

— Хто гэта такі, ты кажаш, Аленін?..

Як толькі ведаў, гаварыў бацьку Адам аб Леніну, атуляў яго, часамі, казкай таемнай, легендай, і што дальш-больш—захапляўся Язэп Леніным, яго жыцьцём, яго вялікай сілай у слове... І потым несьвядома, інстынктыўна, з адчуцьцём вялікай павагі да нечалавечай сілы ў гэтым дзіўным чалавеку, перад словам якога „стаў на калені цар“, усе буржуі ды ўвесь сьвет—як толькі мог на гэта Язэп,—так горача ён пакахаў шчырым сялянскім сэрцам далёкага і вялікага Леніна...

І вось у адзін з такіх вечароў, пасьля адных і тых-жа гаворак аб далёкім і таемным Леніну і будучым жыцьці, Адам, задумённа пасядзеўшы, сказаў:

— Тата, а ведаеш што?! Ды я запішуся ў комуністыя!..

— Дык гэта і я запісаўся-б, каб не гады мае!..

Больш гаварыць ня было чаго. На заўтрашні-ж дзень Адам падаў заяву ў ячэйку аб прыёме яго ў партыю...

Пацяклі вечары зімовыя, у Язэпавай хаце, пад сьветлаю лямпай, Адам чытае бацьку газэты, знаёміць з бягучым палітычным становішчам, а стары Язэп ня можа налюбавацца, наглядзецца на свайго прыгожага сына...

Дый па вёсках пачалі дзяўчаты заглядацца на белы твар з чорнымі кучаравымі валасамі, на вялікія гарачыя карыя вочы прыгожага Адама...

А Адам усе вольныя дні ў ячэйцы прападае, да позьняй ночы там заседжваецца...

Дзівіўся бацька з сына і ня раз пытаў:

— Ну і што ты-такі такое робіш, што гэтак позна сядзіш у сваёй ячэйцы?!

— Справы ёсьць!..—як-бы ўхіляючыся ад правільнага адказу, буркне Адам і прымаецца з песьняй за работу.

І вясною, калі бацька з сынам выехалі к лесу скародзіць поле, Адам і кажа бацьку:

— Ведаеш што, тата?

— Ну, што?

— ... Жаніцца я думаю... Без гаспадыні нікуды гэта дзела не гадзіцца ў гаспадарцы жыць... Няспраўна вельмі-ж!..

— А дзеўку-ж маеш?..

— Ёсьць!..

— Хто-ж яна такая, чыя будзе?..

— Ды Волька Васілёва... Гэта дачка, што на станцыі служыць Васіль Канарэўскі...

Доўга падумаў дзед і ціха сказаў:

— А ці аддасьць ён яе за цябе?.. Дзеўку то я ня ведаю, але бацьку добра знаю... Чалавека такога—пашукаць толькі!..

— Аддасьць!..—кажа сын бацьку.—Па гэтым ты не бядуй, абы твая згода на гэта была!..

Неўзабаве і вясельле справілі, і Адам сваю маладую дамоў да сябе даставіў...

— Братка мой!..—кажа мне дзед у захапленьні.—Вось колькі я ўжо жыву, а яшчэ ні разу ня бачыў такой прыгожай і добрай жанчыны... Па харастве—сьвет сыйдзі—ня знойдзеш роўнай, ну і па дабраце яшчэ такім ніхто не раджаўся!.. Анёл, сынок мой, яна была, а не дзяўчына!.. Мусіць адчувала, бедная, свой век кароткі!..

Згодна, шчыра кахаючы адзін аднаго, жылі Адам з Волькаю і цешыліся, ды цешылі старога, але вось неяк раптам, у адзін дзень, прынёс Адам для Язэпа і сваёй жонкі невясёлую вестку.

— Партыйная, на белапаляцкі фронт, мобілізацыя!..

— Пайшоў Адам з дому на трэці дзень, пайшоў з радасьцю, з песьнямі, а я застаўся тут жыць з нявесткаю... Неўзабаве да нас прышлі палякі!..

Пакуль ён мне аб гэтым расказваў, сонца к поўдню падкацілася, і мы зусім ужо падыйшлі к хутару. І, седзячы ўсе ўтрох на прызьбе, дзед, гледзячы кудысьці проста перад сабою, за вяршыні прырэчных бяроз, апавядаў мне далей...

— Чорт іх ведае... Першыя месяцы яны нас тут не чапалі... Мала чаго патрабавалі і калі-ні-калі заходзілі на хутар... Але чамусьці мы і тады баяліся ўжо іх... Пагляд іх быў вельмі-ж зьвярыны, ды чалавека за чалавека яны ня мелі...

Хочацца мне верыць, слухаючы няскладныя словы дзеда, што і яго сэрца проста інстынктыўна адчувала панска-зьвярынскі, працяты адвечнай нянавісьцю да сялянства, пагляд...

Ціха, з сумным адценьнем у голасе, гаварыў дзед аб тым, як Волька, нявестка яго, вясною занядужала і на радасьць старога нарадзіла сабе сына, а дзеду ўнука—Алеську...

Я запрыкмеціў, як вельмі ўважліва ўсё гэта слухаў Алесь, ня зводзячы сваіх прыгожых бацькаўскіх вачэй з дзеда. Ня менш уважліва слухаў і я ўсю гэту гісторыю, якая рэзала сэрца старога востра-шырокай жыцьцёвай больлю...

— Вось з гэтага часу і пачалося!..—сказаў дзед і змоўк.

Пасьля з хвіліну маўчанкі ён пачаў зноў расказваць. Відаць было, што яму вельмі цяжка аб гэтым гаварыць, сумна, і адначасна трэба, каб як найхутчэй саскрэбці на сэрцы ўвесь гэты чорны, накарэлы за многа год накіп пражытага ў жыцьці, цяжкую журбу... Зараз-жа, па нейчаму даносу, пачалі жандары шукаць на хутары ў дзеда Язэпа яго сына-комуністага... Дзед, як толькі мог, кляўся, бажыўся, што яго забралі бальшавікі на вайну, а жандары ўсёж-ткі ня верылі дзеду, шукалі па ўсіх куткох, нават пробавалі ў лес праходзіцца... А потым пачалі да Волькі чапіцца...

Колькі гора, колькі сьлёз яны пралілі—проста ня можа дзед усяго гэтага і ўспомніць, толькі круціць галавою, кудлачыць свае кучаравыя валасы і доўга маўчыць, як-бы з думкамі і сіламі зьбіраецца...

— ... На Купальле якраз гэта было, вечарам... Загрымела на фронце, закалацілася ўсё, а ў мяне на душы—гэтак-жа сама пад грукат гармат—радасна калацілася сэрца... Бальшавікі, думаю, скора будуць... Аж яно так і ёсьць!..

З нейкім героічным уздымам, з радасьцю, з нечым шырокім, шчасьлівым у ваччу расказваў дзед аб вялікім наступу бальшавікоў з-за Беразіны, аб тэй агульнай радасьці вяскоўцаў, аб зьвярынствах над вяскоўцамі белапалякаў у часе наступу войск чырвоных...

А тут пачалі жандары шукаць і Вольку, бо на станцыі (зусім неяк выпадкова) яны захапілі аднаго падпольніка, які меў увесь сьпіс былой ячэйкі, і там, у сьпісах, была і Волька...

Ня было аніякай радачкі, як ёй хавацца... І хавацца тады, калі на руках зусім маленькае дзіцянё, і яна сама разьбітая, хворая...

Але нічога ня зробіш, і вось кабета хаваецца адны суткі ў бацькі дома, другія—у садзе, у патаеннай будцы, а трэція—у лесе...

А дзеда палякі катуюць.

— Кажы, сьцерва старая, дзе сын і нявестка?!

— Ня ведаю!..

І за кожнае слова—„ня ведаю“—моцны, агнёва-востры ўдар бізуном па сьпіне. Тады-ж забралі ў яго карову, каня з калёсамі, авечкі, падчысьцілі кублы ў сьвірне, кадушкі...

Слухаючы дзеда, мне думалася, што вось з тэй пары ён ужо напаіў свой розум клясавай злосьцю, а з ёй—вялікай помстай да катаў-людзей, якія ўвабралі ў шынэль польскага шляхціча-найміта, і з тэй пары дзед, а з ім і ўся Беларусь, спазналі, што ў пана побач з далікатнасьцю, як хмель, абвіло яго сэрца—зьвярынства... Мо' ад гэтага так і дарага

стала яму бальшавіцкая праўда і сам казачны Ільля Мурамец гэтай вялікай праўды і думкі—няўміручы Ленін...

А дальш-больш ужо ня мог сьцярпець дзед над сабою зьдзекаў і пабояў, і разам з усімі вяскоўцамі ды хворай нявесткаю, забраўшы з сабою апошнюю карову, перайшоў зусім у лес.

— Сьпёка, як у чалесьніках, авадні, заедзь... Жыта і сенажаць усё пад нагамі паляцкімі... Гарматныя стрэлы, а ноччу там-сям пажары... А мы ў лесе, а нас шукаюць і жандары і так польскія салдаты—хочуць коні забраць, а жандары—Вольку знайсьці ды мяне пакатаваць, а то і кончыць!.. Усё нам гэта хлопчыкі перадаюць... Ды нам то што, сам я, цэлы тыдзень ня бачыўшы дому, аднойчы, седзячы ў лесе, надумаўся:— Дай, думаю, прайду, пагляджу, хаця як і што там!.. Выткнуўся трохі, а каля хаты чалавек 20 шныпарыць... Шукаюць усё... А тут на сьпіне яшчэ не зажылі раны (дармо што цэлы тыдзень ужо ня спытваў шомпала і бізуна)...

Гаворыць, нібы бачыць ён зноў усё гэта перад сабою, і, ахоплены вялікімі думкамі,—маўчыць...

— А потым было вось што. Волька, ці то ад жыцьця такога, ці ад дзён, поўных нечалавечых зьдекаў і жуды,—зусім захварэла, і цераз ноч у яе зьявілася гарачка...

Кідалася, бедная, глытаючы сыравата-гарачае балотнае паветра, засьмяглымі, чорна-згарэўшымі вуснамі прасіла піць, час-ад-часу Адама ўспаміналa, Алеся, і што гадзіну ўсё слабела і слабела... Відаць, што крохкая і кволая, як крышталь, Волька не змагла перанесьці гэты дзікі, крывавы час, і ён надламаў яе і з хуткасьцю надыходзячай сьмерці пачаў гнуць да зямлі...

Былі суседзі каля яе, ня спаў ночы і неадступна сядзеў над ёй дзед, паіў яе, адганяў мух, сьляпнёў, даглядаў маленькага Алеся... Плакала без яды дзіцё, уцíралі сьлёзы і суседзі, гледзячы на гэтую пакуту Волькі, ды вялікай нястрыманай злосьцю поўнілася душа дзеда да тых, хто выгнаў яго з хаты, хто прымусіў жыць яго жыцьцём дзікага зьвера ў лесе...

Была ціхая, цёплая ліпнёвая ноч. Тлеў агоньчык пад шырокай елкаю, бабы і дзеці каля хворай ляжалі ў розных позах, мужчыны—дальш ад іх, у загарадзі стаялі каровы з авечкамі; коні-ж былі адведзены яшчэ дальш—на недаступны нікому з чужых астравок...

Трохі сьцішылася хворая, і толькі цяжка-пакутна, сіплым, перасеўшым у горле голасам стагнала. Мужчыны ціха самі з сабою гутарылі, агляддаліся... Меркавалі, здагадваліся, у якім месцы могуць быць цяпер бальшавікі, бо змоўкла ўсё на фронце, анямела.

Потым раптам, зусім недалёчка, здаецца, па дарозе-бальшаку, але ярка ў начной цішы прасакатаў кулямёт. Некаторыя зжахнуліся і сьціхлі, потым нехта падаў:

— Мусіць, нашы партызаны шчупаюць палякаў...

— Але!.. Недалёчка недзе!..

— Эх, каб скарэй хацяǃ.. Не дачакацца, здаецца, не дажыць да гэтага часу!..

— Кажаш, не дачакацца?!. Ды мне здаецца, што не дажывеш да таго дзянька шчасьлівага, калі гэта бальшавікі прыдуць!...

— Ну, але!.. Эх-х, сволачы польскія!..

У гэты час ці то ад голаду, ці ад таго, што камары цэлай хмарай абселі дзіця, — але яно пачало голасна і гулка, на ўвесь лес, плакаць... Кацілася рэха па лесе і, здаецца, далёка-далёка яно гінула, а потым зноў нараджалася і востра неслася яшчэ дальш...

Змоўклі ўсе, скорчыліся, як-бы адчулі вялікую перад сабою небясьпеку, і нехта толькі ціха зашаптаў!..

— Язэп, сунімай яго як-небудзь!..

Але ніякім парадкам ня мог суняць дзед дзіцяці, і пакуль яно само не перастала—аніякай радачкі ня мог даць...

Потым зноў сьціхла ўсё...

Некаторыя мужчыны нацягнулі на галовы, каб камары так ня кусаліся, бурносы і ціха задрамалі, дзеда схінуў сон, і толькі адна хворая ціха, працягла стагнала... Бралася пад дзень...

І вось... Нейкі падазронны, ледзь чутны з лесу трэск сучка, потым як быццам гаворка, гаворка скорая, незразумелая...

Наэлектрызаваныя гэтымі днямі і чуткія, як лясныя жыхары,—разам з усіх прапаў сон, і некаторыя, падняўшыся на локаць, чутка прыслухоўваліся, шырока раскрыўшы рот і спалохана—вочы, ды ўтаропіўшыся імі ў чорную, як дзёгаць, даль...

Потым ясна ўсе пачулі:

— Янэк! Беж тэго!

З хуткасьцю маланкі ўсе рынуліся ад патухаючага вогнішча ў гушчар... З другога боку, па ўцякаўшых зроблена было некалькі стрэлаў і з імі пушчана ўдагонку цэлыя бярэмі бруднай польскай лаянкі...

Здрыганулася цемра, а з ёю і Волька, і ўжо нават папрабавала ўсхапіцца, але потым зноў з цяжкім стогнам паваліласа на сьпіну. Моцна заплакала дзіця... Усхапіўся сонны дзед, папрабаваў кінуцца за сялянамі, потым уздумаў аб хворай ды дзіцяці і... вярнуўся назад.

— О-о-го-го! Вось дзе ты, сволач старая?!—і разам з крыкам паляк махнуў рукою, а за гэтым мякка-адрывіста рэзнуў па плячах бізун...— Даўно мы ўжо цябе шукаем... А дзе-ж красавіца твая?..

— Во!.. Во!..—некалькі чалавек ужо абмацала яе пад папарацьцю.

— Не чапайце!..—кінуўся да Волькі дзед.—Не чапайце, яна-ж зусім хворая... Устаць ня можа... дзіця...

Але словы яго перарваліся прыкладам польскага карабіна...

— Трэба, мусіць, заткнуць табе горла!..—і чалавек чатыры легіонэраў кінуліся на дзеда, палажылі ніц і... пачалася экзэкуцыя...

Цяпер ён аб гэтым і сам нічога ня помніць, ад удару прыкладам па галаве—ён страціў прытомнасьць, салдаты білі яго, колькі хацелі... Пакінулі толькі тады, калі дзед, здавалася, страціў усякія сьляды жыцьця...

Аб гэтым вельмі красамоўна сьведчаць тыя бела-чырвоныя і глыбокія рубцы, якія ён мне паказаў. Калі Язэп, закасаўшы на плячах сарочку, выставіў на сонца цэлую сетку гэтых рубцоў, сьведак польскай улады тут у нас, на сярмяжнай Беларусі,—Алесь некаторы час глядзеў на іх шырока раскрытымі вачыма, потым бачыў я, як набеглі ў яго чыстымі бліскучымі пацеркамі сьлёзы і закапалі на жоўты пясок прызбы; і потым, адвярнуўшыся ад нас, ён закрыў сваімі чорна-загарэлымі далонямі тварык і ў ціхім плачы закачаўся, як маладая бярозка пад ветрам, раняючы скрозь свае пальцы чыстыя дыямэнтныя росы... Гэта заўважыў дзед, апусьціў кашулю і нежна прытуліў галаву Алеся да сябе на грудзі.

— Чаго-ж ты плачаш, Алеська?.. Кінь, дуронька... ня пляч... Ня вернуцца ўжо больш ніколі такія дні!.. Кінь!..

Зноў задуменна пазіраў у даль дзед, а на грудзёх яго часта, нэрвова ўсхліпваў Алесь...

... Сам сабою ўжо прачнуўся ў лесе дзед, калі яркае ранішняе сонца пачало казытаць сваімі цёплымі і даўгімі валасамі ў барадзе ды па твары дзеда... Спачатку не разабраў нічога, як пасьля моцнага п'янства прачнуўшыся, забыўся, што было ўчора, і толькі як захацеў павярнуцца, каб устаць,—ня змог, бо па ўсяму целу разьбітыя раны, як жывое цела нажамі зрэзалі... Тады толькі здагадаўся ён, што парабілася тут учора. І, ахоплены трывожнаю думкай,—Язэп падняў галаву і глянуў у бок Волькі. Ціхая і нярухомая. Толькі чамусьці вельмі дзіўная, нязвычайная... Галаву пад сябе падабрала, валасы свае, як жыта сноп, вялікія далёка растрапала і раскідала вакол сябе, перагнулася ўся на адзін бок і... вельмі-ж ужо высока ногі голыя відаць, сьнегавой бялізной сьвецяцца... Аж жудасна глядзець неяк!.. Агнём запякло сэрца, само сабою дрэннае прадчуцьцё, здагадка скаўзанула недзе глыбока ў думках. І вось, сабраўшы сілы, ён падсунуўся да Волькі... І што-ж?!

— Гляджу—і веры не магу даць, што чалавек так можа зрабіць?! І яшчэ хто?.. Польскі пан!.. Задушылі яе... красуню нашу... зьбілі ўсю, спаласавалі... І яшчэ... І яшчэ... Братка мой... Скажы, ці зможа так чалавек зрабіць?!! чалавек, чалавек!..—пытаю, а ня зьвер?! Ды вось колькі ўжо год я па лесе хаджу, а ніколі гэтага ня бачыў сярод зьвярэй і ўжо, мусіць, век не давядзецца бачыць... Каб пан... шляхціц... згвалціў... Ды якую?.. Хворую, паміраўшую... што ўжо на сьмяротнай пасьцелі ляжала.. Так сьмерці яе ніхто і ня бачыў, і вочы не закрыў... Волечка, голубка ты мая!.. Царства табе нябеснае, калі яно яшчэ ды ёсьць разам з богам, бо зусім другое кажа Ленін... А трохі воддаль—ён, Алесь, ляжыць... ціханька так, нярухома... Я думаў, што і ён ужо разам з маткаю... Ажно жыў!..

Хоць адна, думаю, радасьць засталася...

І, памаўчаўшы, як заўсёды ён рабіў у вялікія хвіліны, дадаў:

— Мусіць, і мяне забіць хацелі, ды падумалі, гады, што я ўжо памёр ад прыкладаў... Ажно ткі хоць на гора, але застаўся жыць... А вось і ваш тады партызанскі атрад не падасьпеў, не абараніў... А я думаў, што хоць пасьля падбягуць, пераловяць усіх іх, сукінаў сыноў!.. Каму-небудзь галаву адкруцяць... Я-б сам тады гэта зрабіў, сваёй рукою!..— гаварыў гэта дзед і нібы сердаваў і на мяне і на ўвесь наш партызанскі атрад, што ў самую важную для яго хвіліну, калі вырашалася неацэнная задача жыцьця ці сьмерці,—мы ў тую хвіліну (цяпер на пакуту яму) не падасьпелі...

Цяпер толькі мне ўсплыло ў памяці, і я ўспомніў, што ў той час мы, сялянскія хлопцы-партызаны, былі зусім у другім канцы, у другой пушчы і, зразумела, дапамагчы дзеду і сялянам не маглі, і тады-ж смутна пачало мне прыпамінацца, што ў апошнюю ноч панаваньня тут на Беларусі белапалякаў мы, седзячы ў засадзе ў суседняй пушчы, чулі гэтыя стрэлы, здагадваліся, што гэта ідзе расправа з сялянамі, але кінуцца туды не маглі...

Плакала тады над Волькай маладое сонца, расой плакаў лес, плакалі, сабраўшыся вакол нябожчыцы, сяляне і, здаецца, плакаў, стракочучы па варожых шэрагах, бальшавіцкі кулямёт...

Галубка наша... Карміліца... Пакутніца ты!..—біўся сваёй сівай галавою аб мёртвыя і халодныя Вольчыны грудзі дзед Язэп...

І тут раптам нешта нябывалае, ужо сьцёртае крывавымі днямі з памяці многіх вяскоўцаў, але дарагое, вялікае і ўрачыстае, дзіўнай музыкай, гулкараскацістa пранеслася зусім блізка, здаецца, каля дзедавага толькі хутару...

— Ур-р-р-а-а-а!..

Потым другі раз, трэці... і пачуліся стрэлы... Яшчэ трохі пастаяўшы над трупам, як ап'янелыя,—усе рынуліся да вёскі... І дзед, сабраўшы ўжо ўсе апошнія сілы, неяк падняўся, узяў на рукі дзіця і, бяручыся за галіны дрэў, хістаючыся, на кожным кроку спатыкаючыся, пайшоў за ўсімі, няясна адчуваючы там вялікую радасьць...

Калі толькі вышаў дзед на прагаліну—адразу кінулася яму ў вочы (проста аж не зразумеў): каля двара яго палошчыцца ветрам шырокае палотнішча ярка-чырвонага колеру, тут-жа шмат людзей, сярод іх сяляне ў белых штанах... Потым пачуў песьню... Нешта вельмі знаёмае, роднае, недзе чутае...

Ды гэта-ж песьня майго Адама!.. Ён заўсёды яе пеў, вось і словы тыя, дарагія, словы Леніна,—пранеслася ў яго думках, калі пачуў ён:

Паўстань, пракляцьцем катаваны,  
Паўстань, хто з голаду век пух!..

Словы песьні падыходзіўшай роты. І тады-ж у яго вачох, само сабою, сын Адам паўстаў, такі самы, якога і выправіў: вясёлы, рады.

— Ён, пэўна, тут!..—і, закусіўшы губы ад нясьцерпнага болю, ён пашыбаў хутчэй да свайго хутару.

Ціха слухаў я дзеда, але як толькі пачаў Язэп гаварыць аб сустрэчы чырвоных, аб сыну—зараз-жа ён падняўся з прызбы і кіўком галавы павёў нас за сабою па дарожцы, кудысьці ў бок ад хутара, там, дзе мяжуецца жыта з лесам...

Я ня ведаў, куды мы ідзем, і не хацеў пытаць яго аб гэтым, і думалася, што ідзем толькі для таго, каб прайсьціся, разглядам сьвежых краявідаў трохі ахаладзіць свае гарачыя і ўзбуджаныя нэрвы і мазгі...

Цяжка і дробна, як прыбіты хворасьцю, ішоў дзед са мною побач і, захліпаючыся, блытанымі словамі, аддыхаючы, перадаваў канец гэтай жудаснай гісторыі. Я лавіў яго словы, я стараўся зразумець яго думкі з пачуцьцямі...

... А тады, як убачыў ён, што гэта бальшавікі ў яго на дварэ,—колькі мог бягом бег, сьпяшаўся, ледзь дзіця раз ня выкінуў з рук... Як сустрэў чырвонаармейцаў—плакаць пачаў, гаварыў нешта ад радасьці, а што?.. Мусіць і сам цяпер добра ня ведае...

Яго суседзі ўжо пасьпелі з большага расказаць камандзіру палка, што спыніўся тут, аб такім зьвярынскім здарэньні, і не патрапілі толькі скончыць, як і сам дзед зьявіўся...

У той час, хто бачыў дзеда,—плакалі... Растрапаны, худы, з запэцканым у кроў тварам, з мокрай ад крыві кашуляй, з чорнымі запечанымі камякамі на ёй, нэрвовы, узбуджаны, з ліхаманкавым бляскам у ваччу і з малым дзіцем на руках.

Гэты яго выгляд прымушаў спыняцца кожнага сустрэчнага і пытаць-распытваць аб крывавым здарэньні...

— Во ён!—нехта ціха з сялян сказаў камандзіру, калі Язэп бягом, плачучы і сьмяючыся, як вар'ят, з поўным радасьці тварам убег на свой двор...

Збавіцелі вы нашы!.. Братцы родныя!..—пасьпеў толькі, задыхаючыся, крыкнуць дзед і зваліўся на сваю прызбу. А калі трохі ачухаўся, то ўбачыў каля сябе седзячага з ім побач, як блізкага, роднага—прыгожага і сымпатычнага, з чорнымі вачыма камандзіра, які ўсё нешта некаму ціха гаварыў.

І дзіцяці ўжо ня было на руках, яго забрала да сябе на рукі суседка...

— Паночкі... таварышы!..—ня ведаючы, як іх лепей назваць, перабіраў дзед.—Мо' вы ведаеце, дзе сын мой?.. Даўно ўжо служыць!..

— А полк той ведаеш, дзе ён служыць?..

— Ведаю!..—і дзед назваў ім той полк.

І як толькі ён заўважыў, што камандзір з нейкім радасным тварам зьвярнуўся—паклікаў сваіх,—сэрца ў старога дзіўна затрапяталася, надзея захліснула і думкі, і пачуцьці, нават болю ўжо свайго ня чуў... Шукаў

радаснымі вачыма сярод натоўпу чырвоных ваяк яму роднае, дарагое абліччa... Бо вельмі-ж быў пэвен, што ён тут...

— А як прозьвішча, бо ў нас...

— Багуневіч!..—перапыніў камандзіра дзед.

— Адам Язэпавіч!?—нехта папытаў з чырвонаармейцаў.

— Так!.. Так!.. Верна!.. Правільна!...—прыхінуўшыся мокрай у крыві кашуляй да сьцяны хаты і абапёршыся рукамі аб жоўты пясок прызбы, здаецца, нічога не разумеючы, як у гарачцы, шаптаў дзед, росячы сьлязьмі сівыя вусы і бараду...

— Ён у 3 батальёне, 7 роце...—далажыў высокі, з шэрымі вачыма, наперадзе стаяўшы чырвонаармеец...

— Дык ён тут?! Тут?! Сынок мой дарагі!.. Уцеха ты мая!.. Пакажэце-ж мне яго, дайце хоць раз глянуць на яго!.. Я раскажу яму...—усхапіўся дзед і зноў, скрозь сьлёзы, плачучы, гаварыў, захліпаўся, нэрваваўся, памыкаўся некуды бегчы...

А камандзір палка, ціха пагаварыўшы з нейкім другім начальнікам, адышоўся, нахмурыўся і, гледзячы ў даль паверх сьцяны сагнутых жытніх каласоў, памалу жаваў канец чорнага вуса...

А двор быў повен сялян, чырвонаармейцаў, камандзіраў, і сярод іх, гэты стары, увесь апырсканы і асочаны крывёю, спаласаваны, радасны і да вар'яцтва ўзбуджаны дзед...

Тады паціху падышоў да яго камандзір, узяў за руку і, моцна яе сьціснуўшы ды гледзячы сваімі жывымі вачыма цераз вочы старога—у яго душу, павольна, але гучна, так, што чулі ўсе на двары, сказаў:

— Слава табе старому, выгадаваўшаму такога геройскага сына!.. Яго слава—твая слава, але мы ахвяр не забываем!..

— Але дзе-ж ён?—ужо трошкі з апаскаю і ацьверазеўшы папытаў дзед...

Камандзір, не выпускаючы рукі ды ўцякаючы вачыма ад дзедавага балючага погляду, сказаў:

— Не дайшоў!.. Тут-жа вось... у гэтым жыце ўпаў ад варожай кулі!..

Ахнулі сяляне, зараз-жа патокай жальбы яго атулілі, чырвонаармейцы змоўклі, а дзед, трохі пастаяўшы і агледзеўшы ўсіх вачыма чалавека, прыгатаванага да сьмерці, і, перавёўшы гэтыя вочы на камандзіра,—раптам, нечакана, кінуўся да гэтага камандзіра на грудзі, абняўшы яго шыю сваімі выпацканымі ў кроў рукамі і, як толькі мог, загаласіў на ўвесь двор...

— Сы-ы-но-о-к... мой да...ра-а ..гі-і... Сы-ы-но-ок!

Каравымі рукамі ўціралі сьлёзы сяляне, пыльным рукавом кашулі змахвалі вільгаць са сваіх воч і чырвонаармейцы... Плакаў і камандзір, даўшы волю выліць набалелае сэрца дзеду...

А Язэп там і пахаваў Адама, дзе яго забілі; а забілі яго ды яшчэ і на сваім полі, дзе ён цэлы век свой араў, сеяў, баранаваў...

IV

Як толькі скончыў дзед гаварыць, я ўзяў яго памаленьку пад дрыжачую руку і ўжо так удвох, памалу пайшлі вузкай, пратаптанай, сярод аднаго жыта, сьцежкай.

Ня гледзячы, што пякло ўжо паўднёвае сонца і нагрэтае паветра калацілася, як над вялікім вогнішчам,—у дзеда зуб на зуб не пападаў; усё калаціўся, і проста нейкім нябачаным токам перадаваў і мне гэтую ліхаманкавую калатніну...

Мне здалося, што за гэтыя толькі гадзіны дзед пастарэў, асунуўся на цэлыя гады...

Калі цераз сваё пляча мне выпадкова прышлося паглядзець на Алеся, ён, ціха ішоўшы за намі, паказаўся мне нудным, згорбленым, заплаканым і не па гадох удумчывым...

А вёска здалёку гула галасамі жыцьця вясёлага, разудалага, недзе на сенажацях пела дзяўчынка-пастушок, нехта, ахоплены паўнатой жыцьця, радасна гукаў на паплавох...

Рассыпала сонца золата, і яно востра-шырока сыпалася на тлустую і шчасьлівую зямлю і, здаецца, само-сабою,—у каласы пшанічна-жытнёвыя вылівалася... А мы расхіналі іх, цешыліся, цалавалі...

Зараз-жа яны трохі расступіліся, і пад навіслым з усіх бакоў жывым дахам глянула на нас схаваная, зялёная ў палявых красках і васількох, адзінокая магіла...

— Дык вось дзе твой тата, Алеська!..—і, больш нічога ня кажучы, дзед паволі стаў перад ёю на калені, скрыжаваў на грудзях рукі і цераз хвіліну нешта ціха зашаптаў...

Гэтак-жа ціха стаў на калені каля дзеда і Алесь...

Была хвіліна ўрачыста-напружанай, вялікай і, паміж іншым, аж жудаснай, як перад навальніцаю, маўчанкі...

Дзед Язэп і яго пачуцьці ўяўляліся мне да максымуму высока нацягнутаю струной, на якой ужо і так шмат ігралі: моцна, бязьлітасна... Здавалася, яна ў апошніх сваіх акордах не па тону ценкіх і высокіх вось-вось лопне, да канца не дацягне...

Так і сталася.

... Сашчаміўшы пальцы і высока падняўшы іх над галавою, душачыся навалай доўга стрыманых сьлёз і ад паднятых напаверх з дна душы гэтых пачуцьцяў, якім трэба было даўно ўжо выбіцца ў сьлёзы, каб, ачысьціўшы гэтакім парадкам дарогу, заняць ізноў сваё спакойнае месца,—кінуўся дзед сваёй сіваю галавою на густую і сакавітую мураўку магілы, замёр спачатку ў гэтым руху, а потым дробна-адрывіста закалацілася яго белая суравая кашуля на плячох, уздрыгнуўся ўсім сваім целам і разьліўся патокай жальбы, бурных нястрыманых сьлёз...

Мо' ня ведаючы, што рабіць у такія разы,—ціха, панура, але шырока раскрыўшы вочы ад зьдзіўленьня і ад жудаснай, цяпер ім толькі

зьведанай глыбінёю маладой і несапсутай сваёй душы, праўды—стаяў на каленях Алесь, і капалі з яго вачэй буйныя чыстыя сьлёзы...

Я не сунімаў дзеда: ведаў я, што накіданыя такім хаосам у пачуцьці балюча-вострыя перажываньні і чорныя жыцьцёвыя адценьні—яны калінебудзь павінны вырвацца з душы і рассыпацца ў струмені сьлёз, каб гэтым самым спаласнуць усё гэта ненармальнае, хваравітае, замяніўшы потым пустыя прасьцягі ціхай веснавой радасьцю...

— Сынок... мой дарагі... Збавіцель ты мой!..

Скрозь сьлёзы чуваць яго ціхія, дрыжачыя ад нэрвовасьці, словы. А як трохі супакоіўся ён, тады я выразна пачуў:

— Радасьць маю... ты крывёю сваёю купіў... Каты, забойцы!..

Згорбіўшыся, з торбай за плячыма, выставіўшы ка мне свае чорныя ад пяску і вады, растрапаныя лазовыя лапці і агорнуты ўспамінамі ды востра-глыбокімі пачуцьцямі, ізноў затарнаваўся дзед, кідаючыся сваёй сівай галавою аб магільную зямлю свайго сына...

А зьверху глядзела на нас чыста-блакітнае, бяздонна-вялікае неба і заўсёды яркае, нязьменна-радаснае залатое сонца...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І, гледзячы на гэты малюнак, мне прыпомніліся ранейшыя размовы з дзедам, яго пастаянная таемная задуманасьць, боль і журба ў разумных вачох; і тады-ж падумалася:

„Вось яно тое таемнае, ніколі мне ня высказанае, заўсёды мучыўшае старога... Вось над чым ён хварэў кожны дзень, нудзіўся... Вось што, мусіць, хацеў ён і сказаць Леніну... Сказаць аб тэй вялікай няпраўдзе, зьдзеках, што нясуць нам тыя, каго ўжо даўно сваім пяруновым словам выгнаў адгэтуль казачны асілак—Ільліч, і аб тэй вялікай радасьці працоўных на вольнай зямлі“...

І, запаўняючы ўсё папярэдняе, у мяне маланкай праляцела думка, моцна зьвязаная з маімі пачуцьцямі:

„Але-ж так, як гэты дзед, цяпер у гэты дзень стаіць над прадчаснай магілай ахвяр, барацьбітоў за рэволюцыю, замучаных белай рукою палякаў-наймітаў, не адзін ён...

Сотні магіл, а ў іх тысячы людзей,—і перад гэтымі магіламі—на каленях, бяз шапак, са сьлязьмі на вачох—уся працоўная, сярмяжная Беларусь...

Гэта-ж сярмяжная Беларусь, падняўшыся ад магілы і выпрастаўшы калені,—ужо ня плача, ня лье сьлёзы, а радасна глядзіць на сваё Сонца Чырвонае. І мне здалося, што і неба, і сонца, і зямля, і дзед з унукам, падняўшыся ад магілы,—усе яны разам—сьвецяцца вялікай нутраной радасьцю і веліччу вольнага і шчасьлівага існаваньня“...

# АДЗІНАЯ СПРАВЯДЛІВАЯ ВАЙНА*)

$(CHCL{=}CH)_3$ *As* (Люізыт)

*Роман*

**Іоганэс Бэхэр**

## Трэці разьдзел

„Спакой на зямлі".

Макс Хэрзэ, малады рабочы, наведвае соцыял-дэмократычны выбарчы сход.—Супакаеньне сьвету знойдзена. Сусьветны спакой, здаецца, забясьпечаны. Нямеччына: майстэрня індустрыі сьвету!—Чытачы газэт у кафэ. Жудасныя весткі. Нешта аб студэнце Пётру Фрыд'юнгу. Макс Хэрзэ і яго таварышы варочаюцца назад.—Колёны клейшчыкаў плякатаў за працай.—Людзі, якія сьпяць.

— „Спакой на зямлі".

I

Туман стаяў непарушна па вуліцах. Тысячы агнёў мігалі. Былі яны зялёныя, белыя, чырвоныя. Людзі ішлі вельмі хутка. Групамі рухаліся яны праз пляцы... Сьветлавая рэклама плыла ўгары...

Макс праціснуўся з натаўпу на заднюю пляцформу электрычнага трамваю.

Ён выўчаў яшчэ заклік профэсыянальных саюзаў.

Заклік гаварыў:

Дзе будзе разьвязана пытаньне, ці атрымаем мы зноў законны васьмігадзінны рабочы дзень?! У рэйхстазе. Дзе будуць складзены законы аб рабочых судох, аб рабочых дагаворах, аб конфліктных судох, аб тарыфах? У рэйхстазе. Дзе будуць законна разьмеркаваны цяжары, якія прынёс нам плян Даўэса!? У рэйхстазе..."

„Усё-ж такі!" падумаў Макс... „Толькі каб марка засталася сталая! Тады магчыма зноў хоць меркаваць... Сёньня трэба больш, чымся калісь, шмат грошы... Дапрацавацца да сьмерці! Але вынікам з гэтага ёсьць хоць сталая сабачая зарплата..."

---

*) Гл. „Полымя" № 1 за 1928 г.

Нейкая кампанія тэатралаў жартавала ў вагоне.

„Яны добра ўсплываюць наповерх, як тлустыя плямы на варыве...“

Радком стаялі апалчэнцы пад ранцамі і сталёвымі шаломамі... Яны ішлі з вайсковага пляцу.

Унтар-афіцэр растлумачваў новы прыцэл:

„50.000 стрэльбаў ужо прыстрелены. Бездакорна. Але кожны стрэл павінен у нас біць у цэль“.

Адрыўкі гутарак гудзелі:

„На, усё-ж добра, што мы зноў атрымалі парадак!.. Так, ведаеце, часы інфляцыі, яны тырчаць у мяне ў членах, як грып“.

„Я, пане Кулікэ, заўсёды казаў—што да розных партый адна левая, адна правая, адна сярэдняя: тады кожны мае што...“ „Пакіньце мяне з вашай уладай, пане бухгальтар, кажу я вам! Няхай новая ўлада крыху паляжыць. Вы самі ўбачыце, што нам трэба моцнага чалавека, якога пакуль няма... Бісмарка...“

„Усё-ж такі праўда, што Амэрыка будзе нас падтрымліваць...“

А з вагонаводам нехта курыў пахнючую цыгару і гаманіў:

„Ну, як... шмат няшчасных выпадкаў, як... Так, нямецкі народ зноў павінен навучыцца працаваць!..“

„Калі часта працуеш больш, чым 12 гадзін, пане, а яшчэ не хапае, каб хоць раз у тыдзень наесьціся дасыта... апрача таго, чатыры гады на вайне і некалькі ран, як мы... Тады вам здаецца ўсё прасьцей. Спрабуйце стаць каля маіх падважнікаў. Як усё прышло ў заняпад... Тармазы, забясьпечнікі... Але на гэта няма грошай...“

Мільёны колаў круцілася, каб давезьці людзкія масы да месца працы... Туды і назад. Магутны колярух, імпэтны віхор. Пад зямлёй, на зямлі, высока ў паветры. Сьціснутыя ў жалезных скрынях падземнай чыгункі, хутка несьліся натоўпы людзей праз цэмэнтава-мураваныя падземныя трубы, падніманіся ўгару па сходках, імчаліся ўсьцяж і поперак... Заклікі і сыгналы сычэлі, крыва пастаўленыя кідаліся аўтобусы па закругленьнях... Кожны сьцярогся другога... Як мора, ведае і вялікі горад свае прылівы і адлівы, наступ і адход хваляў... Толькі позна ўночы ідуць супакойна людзкія хвалі.

Макс дачытаў заклік саюзаў. „Усемагутны божа!“ стогне пра сябе ваенны калека. Ён насіў салдацкую шапку з чорна-бела-чырвонай і з чорна-белай цэшкай, жалезны крыж, фашыцкі знак, мёртвую галаву і гандляваў патрыотычнымі паштовымі карткамі. Ён кульгаў на сваёй назе-протэзе.

Перад кожным, хто быў лепш апрануты, аддаваў калека чэсьць, станавіўся ў фрунт.

„Рэйнскія дзяўчата з рэйнскім віном“, выводзіла шарманка. Паліцэйскі прайшоў міма, праверыў патэнт у вулічнага гандляра.

З садоў раздавалася шчабятаньне птушак.

II

Рабочы квартал:

З фасадаў дамоў абваліліся бальшэразныя, больш за чалавечы рост, кавалкі тынку.

Увесь квартал меў свой асобны пах. Густа туман пранікаў праз шчыліны муроў у дамы. Няпрытульна і брудна было ў крамах ад усялякіх матлахоў.

Усюды пахнула сырымі скляпамі. Усюды цякло. Крутымі зігзагамі падымаліся скрыпучыя лесьвіцы ўгару. Газ мігаў, як здань.

Стары з вязанкай дроў цягнуўся наўскасяк па вуліцы. Жанчыны стаялі групамі і шапталіся бяззубымі ратамі. Цьвёрдымі крокамі прайшлі некалькі хлапцоў, у шапках, засунуўшы кулакі глыбока ў кішэні. Дзеці ганяліся, на мордах фурманкавых коняй віселі торбы.

Сэрца—нутро дамоў, калі пабачыць скрозь даўно прагнілыя фіранкі, складалася з кухні, каморкі і пакою. Памяшканьні былі ўбога абсталяваны мізэрнымі рэшткамі мэблі.

Гэтыя дамы—твор чалавека.

Але ў гэтых дамох нязначна зьмяняюцца і самыя людзі.

Дамы гэтыя—вапнавая корка, над жывым зернем пакуты.

Дзе тут вартаўнікі, пытаюцца. Гэта самаахвотнікі-палоньнікі, адказваюць вам. Яны вартуюць саміх сябе. Яны аддаліся свайму лёсу. Няўжо яны любяць свой праклён?

І людзі і дамы гэтае краіны: злучаны на час усяго жыцьця! Сэрцы іх б'юцца аднальковa. Яны шчодра абсеяны пакутаю і адзнакамі сьмерці. Шмат забойстваў, забойстваў ад роспачы, здарылася ўжо на шляху іхнага жыцьця. Яны таяць у сабе шмат гора, гора надта вялікага для чалавека. Паглядзеце на гэтыя дамы! Яны ледзь трымаюцца на ўласных нагах! Падваліны даўно ўжо падрыты. Гразь з балота выходзіць з усіх бакоў. Усё стаіць тут напалову зламана. Яны сапраўды дрэнна кормяцца. Астачы гародніны, бульбы, юшкі, селядцоў. Заўсёды адно і тое самае. У каго ёсьць яшчэ вочы ў галаве, каб бачыць, той бачыць: гэта ёсьць турмы, астрогі для мерцьвякоў, дамы-магілы, і абрыўкі фасадаў трапаюцца каля іх, як рызьзё каля касьцяка. Назаві мне шчаснага ўладара, і ты пазнаеш: ён завецца можа быць яшчэ сёньня Крэцыг і жыве в Ostseewillenörtchen Heringdorf. Але дамы, разам 200 штук, яны вандруюць; яны вандруюць паміж Чэлаславaччынай і Амэрыкай: толькі кіраўнікі застаюцца, забіраюць плату за памяшканьне, клапоцяцца шчыра і аддана, па справах аб разьліках і высяленьнях. Бо нават на сьмяртэльна параненых дамовых вучастках усё-ж варта рабіць спэкуляцыю. Тут людзі вядуць дзень-ада-дня героічную барацьбу за памяшканьне. Тут у сьцяне вялікая, у рост чалавека, дзіра. Яе трэ' было-б замураваць. Ложкі трэба ставіць то тут, то там: бо столь цячэ. Яе трэ' было-б прасмаліць. Тут

пабудованы цэлыя сыстэмы барыкад проці пацукоў. Там дарма ідуць паходам на нечысьць. Тут расьце гразь сама з сябе. Са сьціснутымі зубамі стараюцца тут адратаваць тое, што яшчэ можна адратаваць. Але плесьня маршыруе і захоплівае лёгка нутро шафаў. Сухоты напалі, вэнэрычныя хваробы ставяць тут цынічна з трыумфам свой сьцяг. І вось, як заўсёды, зьяўляюцца беспрацоўе, голад, залатуха... Пякельная армія, складзеная з усіх кадраў людзкой пакуты і акінутасьці, ужо тут. Генэральны наступ пачынаецца. З шчылін сітавін, прарэзаў, мураў мільёны мордаў выкідаюць пагібель. Супраціўляцца немагчыма. Кожны адпор бескарысны...

А па дварох бадзяюцца дзеці, калі хочуць бавіцца, па костачкі ў загніўшых лужынах. Бязьлітасна робіцца тут перад вачыма закону на падставе закону-ж і такіх і гэткіх артыкулаў—бязьлітасна робіцца тут зьвярынае і сухое высмоктваньне крыві. А пад гэтай людзкой вялікай пакутай блішчэла глянцавіта-блакітнае бязьмежнае неба.

III

Кіно сьпераду:

З плякатам: карабель, які тоне ў Лёдавым моры, самаход, поўны людзей, зрываецца ў бяздоньне з мэксіканскай горнай дарогі, павялічаны малюнак блёндынкі „Ліо Мара“, названая „закутая красуня“, асьветленая бэнгальскімі малінава-чырвонымі агнямі.

А ззаду праз два двары знаходзілася саля сходаў, „Новыя франкфурцкія салі“.

Каля дзьвюх тысяч людзей было, відаць, прысутных. Відаць быў задні бок сцэны, намаляваныя засьценьні, малюнак мора, ззаду асьветленыя, пры захадзе сонца верхавіны гор, чырвоныя, як цэглы. На палатне на ярка-зялёнай горнай пашы пасьвіліся бурыя-лякаваныя каровы і прыгожая альпійская пастушка ў чорным аксамітным станіку—з губамі, круглымі, як куля, села таксама тут. Сіня-белыя вяночкі былі ўсюды панавешаны.

Калі Макс увайшоў, прамоўца ўжо гаварыў. Былі ўжо спробы перапыніць яго, аб чым таварышы зараз інформавалі Макса, але варта сходу працавала на гэты раз добра і нарушыцеляў спакою проста выганялі вон.

І Макс кіўнуў галавой:

„Бязгрунтоўная нахаба перашкаджаць нашым сходам... Хуліганы!“

І ён гардзіўся сваёй вартай.

„Добра, няхай яны нашалеюцца ў другім месцы...“

Варта сходу складалася з добра апранутых хлопцаў. Добра аддзетыя: у сініх шапках, абмотках, накідках. Узброеныя сталёвымі спружыновымі кастэтамі і гумовымі кіямі.

Трэ' было высьветліць сабе пытаньне аб падыходзячых выбарах у рэйхстаг. Прамоўца пры гэтым ня ўпусьціў выпадку задаць добра

рэакцыянэрам, асабліва нямецкім нацыяналістым, а потым перайшоў ад унутранага палітычнага становішча да па-замежнага і вытлумачыў дакладна і з посьпехам найважнейшыя проблемы. Яму ўдалося пры гэтым з відавочнасьцю давесьці, што пры цяперашніх палітычных умовах нямецкаму народу, які пад дрэнным кіраўніцтвам прайграў вайну, нічога не застаецца, як прыняць пастанову экспэртнай камісіі. Пастанова гэтая, у параўнаньні з абавязкамі, якія накладае на немцаў Вэрсальскі дагавор, дае істотныя палёгкі, ачышчэньне Рурскай краіны і з гэтым вызваленьне некалькіх мільёнаў немцаў ад францускай чужаземнай улады, індустрыі прынясе гэта жыцьцёва-важныя і вельмі значныя крэдыты, а парушанай нямецкай гаспадарцы зноў дапаможа—майце толькі на ўвазе пасыўны гандлёвы балянс,—а разам з гэтым дасьць таксама пролетарыяту магчымасьць заработку і працу. Аб разьмеркаваньні цяжараў няхай вырашыць рэйхстаг, трэба толькі як найкрапчэй там засесьці, каб пры разьмеркаваньні цяжараў скінуць як найболей з плеч працоўных мас на заможную клясу.

„Так, панове“, крыкнуў дакладчык, калі з кутка салі зноў падрыхтоўвалася выступленьне,—„але справа ў тым, што жывем мы ў капіталістычным грамадзтве, і я ніяк не магу, пры ўсім жаданьні, яго ні сёньня, ні заўтра зьнішчыць. Трэба, такім чынам, прызнаць гэта за факт і разьмесьціцца як найбольш прытульна ў гэтым грамадзтве... Майце цярплівасьць, чакайце, усё ў свой час...“

Усё гэта здавалася ясна, як сонца.

„Пакуль рабочая кляса сама па сабе яшчэ не аб‘ядналася... Як довад гэтага, можна ўзяць хоць якое прадпрыемства...“

І, нібы мімаходзь, закрануў дакладчык аб тым, каб ня пушчаць Гогэнцолернаў у Нямеччыну, колькі-б гэта ні каштавала: „у гэтым пытаньні мы не дамо сябе ашукаць“.

Макс быў таксама з ім згодны.

„Паны з Антанты ведаюць ужо, што на сусьветным рынку не абыйсьціся без нямецкага рабочага, бяз здольнага, сталага, сумленнага нямецкага рабочага. Нямеччына: вялікая майстэрня прамысловасьці сьвету! Гэта ёсьць зьмест і праўдзівая істота прынятай намі ўмовы.

Уявеце сабе, рабочыя, як ціха, але пэўна з кожным месяцам палепшае ваша становішча, і ровень вашага жыцьця паднімецца... Няўжо ў такі момант нам страціць адвагу?.. Пасьля ўсіх гадоў, калі над Нямеччынай, асабліва над вамі, пролетары, вісеў злы лёс? Не, тройчы не! Ніколі! З поўным правам можам мы сёньня клікнуць: ад нямецкае істоты, асабліва—нямецкіх рабочых, зноў паздаравее сьвет... Такім чынам, глядзі весёла ў будучыню!“

„Так, так!“

Шмат хто ківалі галавамі.

„Рэакцыя ці рэволюцыя!? Чорна-белачырвонае ці чорна-чырвона-залатое!? Вырашайце?! Монархія ці рэспубліка?! Аддайце, пролетары, вашы галасы за рэспубліку, дапамажэце справе вызваленьня працоўных мас. Рэволюцыя, вызваленьне пролетарыяту ідзе хоць і ціха... Усе на выбары. Яднайце свае шэрагі!.. Займем нашы пярэднія баявыя позыцыі! У выбарны бой!..

Хай жыве соцыял-дэмократычная партыя Нямеччыны!“

„Ура, ура, ура!“

Саля трашчэла.

Пяялі інтэрнацыянал.

IV

Што, ужо сапраўды вясна?! Вокны шырока адчынены. Са двароў чуваць чалавечыя галасы. Гэтая пара году сама па сабе героічная поэма. Моцныя і шэрыя, цягнуцца на кругавід цэлыя грады воблакаў: бяз формы, груба высечаныя; фігуры бунтаўнікоў...

Чытачы газэт сядзелі ў гэты час, як заўсёды, у кафэ. Лысыя, тоўстабрухія, іншыя з тугімі чырвонымі шчокамі. Пілі каву, смакталі лімонаду праз саломку, пілі яшчэ штось...

На вуліцы грымела навальніца з градам.

Невялічкі выпадак.

Адзін голас: „Вы—капіталістычная сьвіньня, вы—погань...“

„Што погань, капітал... Назвалі вы мяне. Пан, прашу вас зараз-жа аб прабачэньні...“

І абодва выйшлі за дзьверы.

Унутры кафэ сіяла, як акварыум. Тропічна цёпла; даведнікі кафэ варушыліся, быццам паветра было тут цяжкае, клейкая вадкасьць.

Прыемная атрута! Добрая прыемная папяровая атрута. Рэдка калі паднімалі яны вочы. Вочы іх уставіліся ў куткі газэт, якія яны трымалі перад сабой туга-нацягнутымі на драўляныя кіі.

Мазгі жралі. Мазгі ператраўлялі.

„Гранд-отэль, Гонолулу!“

„Іза, сэрбская прынцэса!“

„Забойства з рабункам!“

„Забойства ад корці“.

„Гішпанскія самалёты бомбардыруюць рыфаў-кабілаў газавымі бомбамі“. „Новыя злачынствы комуністычнага зброду“. „Чака“. „Парад „сталёвых шаломаў“.

Газэтныя аркушы варушыліся. Пераварочваюцца з трэскам. Таемны вецер вее. Новы пах здарэньняў. Адным поглядам вока бярэ цэлую старонку.

Новы аддзел напханы прыгодамі, здарэньнямі, забаўнымі навінамі... І вось рукі чытачоў учапіліся за паперу, як кіпці. „... аб фраках мужчын можна казаць, што ўсе яны без выключэньня былі ў найлепшым ангельскім стылі; ні міліметра белага жылета ня было відаць з-пад фрака...

Адзеньне жанчын было ў найпоўным стылі... аздобленыя футрамі, якія з прычыны дарагоўлі вельмі рэдкія... Ліза Бэнэдыкт была ў цёмна-ліловым адзеньні ў стылі Рубэнса, аздобленым марокскім шматкаляровым гафтам... Адзеньне сьветла-жоўтага колеру, размалёванае акварэляй пад залатністай хутрай... Здавалася, быццам знаходзішся ў Індыі..."

„Таксама чорнарабочыя!" прабурчэў ціха жабрак, які праходзіў паміж сталоў. Але, затрыманы ўласьнікам кафэі слугой, ён зноў пакінуў кафэ.

Чытачы тымчасам прабіваюцца ўсё далей скрозь папяровую твань. Вульканы пачынаюць дзейнічаць, краіны затапляюцца, колёніяльныя народы бунтуюць, масавае самагубства, машыновыя кары сьмерцю, голад. Сьмяючыся, пануе тут над захутанымі дымам галавамі буфэтчыца. Пры чытаньні ў мазгох гэтых галоў уваскрасаюць абісынскія рэзыдэнцыі, б'юць нафтавыя крыніцы, па Каліфорніі вандруюць буравыя вышкі, а нэгрыцянскія генэралы з тоўстымі і шырокімі эполетамі на плечах праходзяць парадам перад амэрыканскім прэзыдэнтам... Чытач яшчэ глыбей залязае ў мяккім крэсьле.

Вялікая мясная туша...

Цікавыя весткі ідуць з-за Вялікага акіяну на апошняй часьціне аркушу. А што тут праўды!?

„Сэр Вільям Попэ ў сваёй прамове, як старшыня хэмічнага таварыства, 27-га сакавіка 1919 г. заявіў: ангельская мэтода атрыманьня атрутных газаў у трыццаць раз больш дзейная за нямецкую, а выдаткі тымчасам у Нямеччыне ў трыццаць раз большыя за ангельскія. У канцы вайны Антанта магла-б вырабляць у дзень столькі, колькі цэнтральныя дзяржавы ў месяц. Увага рэдакцыі: За гэта трэба быць удзячнымі вядомаму правадыру сыёністычнага руху, профэсару Вайцману, адважнаму організатару хэмічнай вайны ў Антанты".

Як на шалёным кані, нясецца наш вельмі паважаны чытач далей. Трасецца. А потым едзе зноў звычайным крокам. Скачкі, якія робіць наш разбойны і пракляты богам час, прымушаюць няўпэўненага таварыша яшчэ мацней засесьці ў сядло... Новыя вынаходкі! Новая таямніца! І зноў, з-за акіяну, з краіны цудоўнай!

„Дождж сьмерці!—Новая атрута, такая сьмяротная, што трох кропель даволі на чалавечую скуру, каб выклікаць сьмерць,—апошняя вынаходка хэмічнага вайсковага аддзелу амэрыканскай арміі.

Спэцыялістыя гавораць, што калі выпусьціць гэтую вадкасьць праз трубкі па ніжняй плошчы самалёту, дык яна зьнішчыць усё, што трапіцца на дарозе машыны. А самалёт, дадаюць, можа разьліць дзьве тоны вадкасьці на працягу сямі міль у даўжыню і ста футаў у шырыню, і гэтага хапіла-б, каб не пакінуць у жывых ніводнага чалавека. Вадкасьць гэту лёгка здабыць, і прыгатаваць некалькі тысяч тон у дзень можна было-б вельмі хутка". Знойдзем яшчэ часу, каб усё гэта пера-

думаць?! Проста, хоць дух вон!? Нічому ня дзівіся, гаворыць сабе часта коньнік і энэргічна, і горда прыпаднімаецца на стрэмені. „Усё магчыма... усё ўжо было... Нішто ня нова пад сонцам!“

Так, напрыклад, вядомы ўжо грэцкі агонь у чацьвертым сталецьці да Хрыста, які быў складзены з смалы, газы, серкі і няпаленай вапны; агнём гэтым пазьней у дванаццатым сталецьці часта карысталіся сарацыны проці крыжакоў... А потым сярэднявякоўе! Багатая здабыча для нашай гістарычнай экскурсіі! У славутым „Зборніку таямніцаў“ доктара і прыродазнаўцы Леонарда Флёраванці з Балоны ў 1600 г. гаворыцца аб алеі са шпігінару, серкі, asa foetida, чалавечых экскрэмэнтаў, чалавечай крыві і г. д.; мешаніна гэта так сьмярдзіць, што ніводзін чалавек у цытадэлі, куды алей кінуць праз кідальную машыну, ня мог вытрымаць...

Такім чынам, усё ўжо было раней. Што і трэба было давесьці.

„З новым годам!“ крыкнуў дробны банкавы службовец, прачытаўшы гэта, „ня дрэнная пэрспэктыва гэта можа зрабіцца яшчэ вельмі вясёлым... Але з ваўкамі трэба павоўчаму выць...“

І ён захацеў завесьці гутарку на гэтую тэму са студэнтам, які сядзеў зараз з ім за сталом.

Але той энэргічна адмовіўся.

„Чаму-ж не... Можа вы яшчэ верыце ў ашуканства з разброеньнем!?“

„Прабачайце... Гэта я пажартаваў...“

Тымчасам бязупынна круціліся дзьверы.

Два знаёмыя спакаліся неспадзеўкі ў дзьвярах.

„Ты тут, ах, Эміль, хто мог-бы падумаць!... як, даўно ўжо?.. І заўсёды бадзёры... А як справа?..“ І ўжо заселі абодва за стол і, як у царкоўным памінаньні, закранулі ўвесь шэраг знаёмых і сяброў. Канцы вусоў швэйцара сьвяціліся, як два чырвоныя агеньчыкі.

Госьці горда спацыравалі па кабарэ, як на галерэі. Газэтчык клапатліва працаваў.

Пачыналася начное жыцьцё.

## V

Пётра Фрыд‘юнг быў студэнт-практыкант. Шэсьць гадзін штодзенна працаваў ён у адваката па патэнтных справах на старой вуліцы Якуба пры касе. Заявы аб патэнтах друкаваліся тут на пішучай машынцы. Рэдкае прадпрыемства. Сотні заяў паступалі кожны дзень. Былі там заявы на зручныя падарожныя мяшкі, на шлейкі, якія можна было зашпіліць аднэй рукой, на клёзэты з самадзейным ачысьціцелем, дваццаць модэлей „perpetuum mobile“ ў дзень! Рабочыя лямпы, якія адначасна можна было скарыстаць для гатаваньня страў. Вечнае пяро, якое сьвеціць у цемры, і г. д. і г. д. Пасьля высылкі значнага задатку заявы гэтыя складаліся ў чаргу і накіроўваліся ў патэнтнае бюро. Гэтым і канчалася справа канторы ў стасунку да соцень дробных вынаходкаў... Выкарыстаньне патэнтаў іх не датычыла.

Да рурскага выпадку быў Пётра нямецкім нацыяналістым да мазгоў касьцей, ён верыў у Нямеччыну, як у абраны народ, ён сам змагаўся і пакутваў за вялікасьць Нямеччыны. Няўжо чатыры гады вайны прапалі дарма? Няўжо-ж, сапраўды, што... Гэтаму ня мог ён даць веры...

Гэта было зьвязана з сэнсам або з недарэчнасьцю яго ўласнага існаваньня. Што вайна: ёсьць вынік дзелавых конфліктаў, што мэта вайны—накінуць супраціўніку тыя экономічныя ўмовы, якія лічылі для сябе канечна патрэбнымі; што істота вайны, так сказаць, душа вайны: кішэня, грашовыя інтарэсы капіталістых; у сапраўднасьці ўсё змагаецца за інтарэсы кучкі магнатаў фінансавага капіталу, за якіх-небудзь 300 чалавек, і што апарат трэцейскіх судоў служыць для таго, каб затрымаць выбух непажаданых воен. Усё гэта магло-б быць пэўным для Англіі, Амэрыкі, Францыі, для нашых супраціўнікаў, але для Нямеччыны?! Хіба ня было вайны для Нямеччыны: лёс, элемэнтарны, як сіла прыроды, выступ моладзі, хваляваньне крыві!? Бог жадаў вайны і я, Пётра, прымаў удзел... Як самаахвотнік, быў ён удзельнікам вайны, як самаахвотнік у палку „Ліст“ біўся ён з песьняй „Deutschland, Deutshchland über alles“, і з гэтай-жа песьняй на вуснах загінулі ўсе да аднога яго таварышы... Хіба ня было гэта найцудоўнейшым, найвышэйшым, самым героічным на сьвеце?.. А сьцяг чорна-бела-чырвоны, хіба ня быў ён сьцягам нашай крыві, сьцягам гонару ўсёй нацыі!—Сьцяг, які пад Танэнбэргам, пад Вэрдэнам... Уся ідэалістычна настроеная нямецкая моладзь павінна сабрацца каля яго, каб не разарваў яго чырвоны шуляк...

Пакуль ён аднойчы, сам сябра народнай баявой партыі, не зразумеў раптам: ёсьць розьніца паміж фразэолёгіяй (назвай) рэчы і зьместам яе. І што нацыянальныя балбатуны ў душы ня рупяцца аб інтарэсах нацыі, але барышнікі, газардоўныя іграцы, спэкулянты, гіены ўсе яны, рафінаваныя, гатовыя хлопцы, якія высмоктваюць кроў і мазгі народу; яны карыстаюцца нацыянальнай фразай, як прынадай для сьлепаверуючых, ашуканых соцыял-дэмократычным рэжымам дробна-буржуазных элемэнтаў; гэта яны, яны—сапраўдныя зраднікі народу, зраднікі краіны, а тыя... комуністыя, рэволюцыйныя пролетары—сапраўдная жыцьцёвая і творчая сіла нямецкага народу: ні якім чынам! ні як!

З таго часу стаў Пётра Фрыд‘юнг прыхільным да пролетарскага руху.

Здарэньні за здарэньнямі... як вялікі хаотычны сьнегазвал, падымаліся з кучы газэт. Мазгі Пётры былі захоплены вялікай сусьветнай віхурай.

„Смурод і сваркі: вось на чым мы схадзіліся. Расчараваньне наконт руху выяўлялася ў асабістых абвінавачаньнях, брахні, ганьбе найгоршага гатунку. Нішто і нікога не палілавалі жарты і брыдкія словы: і шмат хто хацелі ведаць... Абстрактнымі, прамочанымі патрыотычнымі фразамі, балбатаньнем няхай здавальняюцца тыя, каму ахвота... Ніхто не хацеў верыць у канчаткова пастаўленае зруйнаваньне. Кожны адносіўся больш-менш боязна да факту, што аб якой-небудзь місіі на-

роднага руху ня можа быць і гутаркі. І калі спынілася грашовая дапамога, крыніцы якой заўсёды заставаліся таемнымі і невядомымі, дык нельга было больш вытрымаць. Гэтак было: адзнакі, фашыцкія крыжы, сьцягі з чэрапамі, павязкі, абмоткі, фрэнчы: гэтым трэ' было дапамагчы сабе, калі ня было чаго казаць. Так, на кожным сходзе, на кожных урачыстых успамінах герояў гаварыліся прамовы, але, так сказаць, на пустое бруха... Кожны ня верыў другому. Грубасьці, усялякія эксцэсы, растраты былі ў парадку дня. Тут былі ўсялякія дэгенэраты, фэміністыя, хворыя балбатуны, авантурнікі, дылетанты, гомосэксуалістыя, пэдэрастыя, садыстыя, мазохістыя,—клюб дэклясаваных адчыніўся ў пышных салёнах, політыка толькі была маска для дзелавых і эротычных авантур, і гэты высока політычны клюб падтрымліваў праз сваіх кур'ераў і пасярэднікаў сталую сувязь з найгоршымі люмпэн-пролетарскімі клёакамі ды прытулкамі бяздомных. Люмпэн-пролетарыят у першую чаргу сталі заклікаць, абяцаючы яму матэрыяльную дапамогу і прыём у організацыі сталёвых шаломаў, потым пагналі дробную буржуазію, неразумную, парамі, яны прызвычаіліся скарацца, як авечы статак сабакам.

Яны ў дні лістапада адчулі страх перад уласнаю свабодай, іх навучылі слухацца толькі каманды. Невялічкая доза чорна-бела-чырвонае мазі было даволі, і зноў былі яны пад жэрдзінай. Ім звышэй было прапанована цягаць каштаны з агню. Пруская дысцыпліна, чыста нямецкая, пэўная: гэта былі звычайныя чароўныя словы, каб кожнага, які трапіў у няласку, трымаць у строгім паслушэнстве, і аб гэтым клапаціліся невялічкія пануючыя групы, якія з кожным днём станавіліся яшчэ больш нацыянальнымі. Гэта рабілася паводле ўсіх правіл мастацтва. Часам адчыняліся народныя сталоўкі, гэтым хацелі штучна распаўсюдзіць рух сярод пролетарыяту; ды цяжкая індустрыя давала тады шмат грошы, але пры ўсіх гэтых дабрачынных установах адпаведныя організацыі паглыналі больш за 60 процантаў.

Узьнікалі сапраўдныя гнёзды паразытаў, якія за самыя невялічкія паслугі ставілі агромныя нахабныя вымаганьні. А інфляцыя выкідвала ў народныя масы новых кандыдатаў на пасады... Потым быў пэрыод: кожны быў уласным Людэндорфам. Усе пачалі гаварыць цытатамі... А далей падышоў час, калі выныпнулі фігуры, якія ня толькі провокавалі адну старану, але служылі адначасна пяці-шасьці організацыям па праўдзівых і фальшывых вестках. Заражоныя найагіднейшымі хваробамі, крэціны выступалі ўсюды, крычалі „ура“, крычалі „караул“, да страты прытомнасьці паўтаралі пустыя фразы аб чыстаце расы сыноў сонца— арыйцаў. Падтрымлівалі культ бога Вотана і, паставіўшы вочы, захапляліся райскім зданьнем Вальгалы.

Тымчасам самі яны добра елі, хцівымі рукамі заграбалі ўсё, што можна было. Потым прышоў час, калі ніхто больш ня цешыўся з свайго ашуканства і злачынства і ўсе адухаўляліся зноў разумнай нямецка-нацыя-

нальнай рэальнай політыкай. Часам спрачаліся аб дробных рознагалосьсях. У стасунку да насьледных ворагаў наступіў крытычны момант. Падрыхтоўка рэваншу, якая была шырака задумана, але дрэнна організавана, разам праваліласяꞏ.. Гэта была-б, такім чынам, гісторыя аднаго політычнага руху, распачатага фінансавым капіталам і ім-жа зроблена ў даны момант сродкам націсканьня ў той час, калі яшчэ ня верылі ў магчымасьць легальнай рэстаўрацыі. Ідэолёгамі зьяўляліся ўсьцяж люмпэн-буржуа, інтэрнацыянальныя нягоднікі, прагнаныя афіцэры; выканаўцамі руху, масаю былі: студэнты, урадоўцы, гімназыстыя, дробныя службоўцы, люмпэн-пролетары, дробная буржуазія. Магло стацца, што туды заблукалі асабіста сумленныя характары і ідэалістычна настроеныя людзі, але яны ад агіды хутка выходзілі адтуль. Агулам гэта цягнулася ня доўга: увесь рух цалком захлібнуўся ў твані свайго распаду, смажыўся ва ўласным саку.

То тут, то там казаў прамовы нейкі вузкі сэктант у якасьці прамоўцы на дыскусіі. Натаўпамі перабягалі да нямецкіх нацыяналістых, іншыя са злосьцю кідалі політыку... Было даволі правесьці тры месяцы ў такім руху, каб падлічыць усё і навучыцца для будучыні. Толькі дурні і фантасты падвязваюць сабе навочнікі, распаляюць сябе самі штучна да 40 градусаў трасцы і нячулы да ўсялякага халоднага душу.

Уздым Нямеччыны роўназначны поўнаму выкараненьню гэтых бандытаў ды іх гаспадароў. Перамога над гэтым рухам ёсьць поўная падстава для сапраўднага аздараўленьня Нямеччыны: гэта стала мне бязумоўна ясна на працягу тых трох месяцаў, якія я пражыў у гэтай кампаніі. Антысэміты пазычаюць адважна ў яўрэя, а яўрэй, з свайго боку, дзякуючы за гэта, напісаў для народу антысэміцкі рэглямант!"

## VI

Думкі Пётры несьліся далей.

„Вось едуць магнаты прамысловасьці праз горад на сваіх пышных моцных машынах. Далёка за горадам усьцяж бруднай жоўтай рэчкі падымаюцца фабрычныя коміны. Фронты казармаў глядзяць няжыва, нязрушна. На пяцьдзесят паверхаў угару паднімаюцца ў гарадзкіх цэнтрах банкаўскія дамы.

„Адбываецца барацьба боксу: калі пераможнік адступіў, шалеюць 50.000 чалавек ад запалу. Вялікая плошча арэны ёсьць камяк з шмат тысяч трапяткіх нэрвовых жылак.

„У Маскве пасядае чырвоная ваенная рада. Чырвоны кавалерыйскі генэрал Будзёны гаворыць. Яго словы—сыгналы трубы, удары молатам...

„Вуліцы Іокаламы поўны чалавечых мас, якія дэмонструюць. Японія, уся Японія абурана проці амэрыканскага закону аб іміграцыі. У штаце Огіо лінчавалі нэгра, зрабілі вогнішча і продаюць багатым амэрыканкам па пяць доляраў кавалкі мяса, косьці ад сгарэўшага касьцяка трупа... Яны павінны прыносіць здароўе і шчасьце...

„А ў Штутгарце вядомы нямецкі соцыолёг скончыў свой даклад аб нацыянал-экономічнай проблеме славамі „назад да бога“.

„О, а тут сабралася ўся сям‘я ката, пане Грёплер: гэтак завецца ён, які вядомы толькі ўладзе, як сякера правасудзьдзя, а так толькі ўласьнік добра працуючай паравой пральні; ён сьвяткуе ўжо ў кампаніі сваіх мілых юбілей 50-ай кары сьмерцю. А сьцены яго мілага дому ўбраны выслоўямі з біблії ды портрэтамі кайзэра. Пяцярым, якія былі засуджаны на сьмерць, далі тры дні адтэрмінаваньня, пасьля каляд, каб хор арыштнага дому, у якім пяцёра бедных грэшнікаў прымалі ўдзел, на вялікае сьвята застаўся цэлы. „Алілюя!“

І зноў прадпрыемства спынілася. Тысячы зноў валочацца па вуліцах бяз працы, чорныя, галодныя, з дрыжачымі каленамі, халодныя...

А ў хэмічных лябораторыях робяць досьледы з новым атрутным газам. У ілюстраваных часопісах знаходзім юрліва ў асадцы ў кветках і вяночках фотографію геніальнага конструктара найноўшай бомбы для самалёта.

„Прапаведнікі з паднятымі рукамі прапаведваюць з амбонаў: „спакой на зямлі“.

„Спакой на зямлі!“ „Амін! амін“—раздаецца ў адказ шматгалосны хор веруючых. Катэдра—як труна. Ладан, бляск сьвечак, пацеры шэптам перablытваюцца адно з іншым...

Карная экспэдыцыя з войск дзьвюх эўропэйскіх нацый у роўных частках наступае на нечапаныя лясы, падпаленыя ўцёкшымі тубыльцамі. Бальшэразныя атрутныя камары лётаюць над трупамі, якія адмоклі ад страшэннай сьпякоты. Неба блішчыць ярка, як лакаванае сінім...

Тысячы паміраюць у даны момант.

Тысячы таксама зьяўляюцца з чэрава мацеры...

Жыцьцё і сьмерць—як непадзельны яны кожную сэкунду на сьвеце!

Хвалі акіяну б‘юцца аб шмат берагоў.

А тут сабачыя запрашаныя гасьціны. За сталом сапраўды пышныя стравы і ў раскошы. А ў Бомбэі сьмяротнасьць сярод дзяцей — 82 на тысячу. Пролетарскія кварталы ўсюды на сьвеце зьяўляюцца страшэннымі пекламі. Статыстыкі дакладваюць аб жудасных крывавых справах...

Сьвет падзелены...

Пасьля крывавай разаніны... Перад яшчэ горшымі забойствамі...

„Рэволюцыйны правадыр гаворыць на поўначы Бэрліна на пролетарскім сходзе. Другі жывымі агнёвымі літарамі бунтаўніцкія артыкулы... „Падбухторнікі“—ім пачэсная назва...

У якім кругаходзе мы жывем?.. Тэмп гісторыі б‘е молатам моцнымі ўдарамі... Сапраўды вялікі час, героічны час... А хто-ж, уласна, выяўнікі гэтага часу?.. Бязыменны героізм. Парываньне да барацьбы, парываньне да пакуты... Цэлая эбраеўня героічных спраў і легенд на будучыя тысячалецьці...

А адзін з маіх таварышоў, напрыклад, ніяк ня мог выбрацца з гэтага лябірынту, як ні стараўся, як ні натужваўся. Усё яму абрыдла, ён стаў сапраўды вар'ятам, тытуляваў Хрыста таварышом і прастрэліў сабе галаву. Націскваючы курок, ён закрычаў радасна: „збылося!" Чаму-ж не? Другі, прыяцель майго бацькі, фабрыкант Гэрмэрсгэймэр, напіхвае сябе туга ілюзыямі, выклікае духаў, круціць сталы і займаецца на старасьці тэасофіяй. І ён калісь загіне... Іншыя праходзяць міма. Ці праходзяць яны міма?!. Ніколі, ніякім чынам. І ім калісь трэ' будзе разьвязаць пытаньне, яны будуць да таго прымушаны...

„А вось колёны рабочых, якія ўвечары варочаюцца з фабрыкі, яны, здаецца мне, і мускулістыя, і крэпкія, ня гледзячы на надзвычайную працу. Іх ногі спрунжыняцца элястычна на хаду: яны паказваюць, што могуць яшчэ маршыраваць. А кулакі іх добра хапаюць. У добры час! Хапайце, калі ўжо да гэтага дайшло. Стойце на варце. Ня кідайце яе!..

„А там у даны момант лічаць тысячамі і зноў тысячамі арыштантаў, што сядзяць у падобных да клетак каморках дзяржаўных вастрогаў. Ва ўсіх пяці часьцінах сьвету. Каляровыя, як і белыя. Старыя і маладыя. Мужчыны, дзеці, жанчыны. Бяз розьніцы. Яшчэ—здаровыя і сьмяртэльна хворыя. Яны ціскаюцца ў кутні. Моўчкі. Толькі там ці тут прыпадак шаленства. Крыкі, як крывавы выліў. Што гэта, нескамянелыя астачы людзей?!."

„Паасобныя забойствы, масавыя забойствы, банкавыя крахі, абнімы, заціжараньне, згвалтаваньне, штрэйкі, подласьць, вулічныя дэмонстрацыі, эксплёатацыя, гульба: усё гэта адбываецца цяпер на сьвеце ў тую самую гадзіну, у той самы час... Але ўвесь сьвет падзелены на два вялікія лягеры..."

VII

Аўтоматычна круціліся дзьверы кафэ на ўласнай восі.

„А я яшчэ тут..."

Шынэлі на почапках награмаджаліся адна на адну.

Усё яшчэ сядзелі чытачы газэт, абароненыя сваімі газэтамі.

Зазваніў тэлефон.

Пётра пайшоў.

„Няўжо-ж гэта немагчыма? Самае людзкое, самае зразумелае і самае-самае простае? З прадастаўленьнем усіх сіл, усяго чалавечага існаваньня!?" Гэта, гэта трэ' было-б спрабаваць... А ня было-б гэта найпрасьцейшае, толькі відочна найпрасьцейшае, урэшце найцяжэйшым!?"

Тэатры скончыліся.

Новыя чалавечыя хвалі залілі вуліцы.

Концэрт самаходных гудкоў.

Зграі простытутак сноўдаліся па вуліцах.

Любоўныя парачкі, цесна абняўшыся, парываліся ў парк.

Дзяўчына з „Арміі ратаваньня“ гарланіла з кутка пляца: „Ісусе, салодкі жаніх...“

Правільна, рэлігія павінна застацца ў народа. Гэта выклікала сьлязу ў іншай з магнатнага панства, якая з кашэля з кракадзілавай скуры падала міласьціну на спажываньне бедным. З вычышчаным да бляску сумленьнем адыйшлася яна, самаздаволеная, пацягваючыся ў сваіх футрах.

„Чалавечая погань...“

Неба было нібы лёдавае мора. Як крыгі лёду, ганяліся хмары, зьбіраліся ў лёдавыя горы, крышыліся ў кучы абломкаў. Ясна вырысоўваліся ззаду на далёкім кругавідзе ў сініх хвалях нязьмерна далёка лёдавыя сьцены. А месяц асьвятляў іх, бясформавы, бяз мэты блукаючы абломак сьвятла.

„Але, але, гэта так і правільна: барбарства паўстае зноў, але ўжо з нетраў самой цывілізацыі і да яе належнае...“

І Пётра пайшоў па вуліцы ўверх, якая, здавалася яму, паднімалася ўсе стрмчэй і стрмчэй, быццам у часе штурму.

## VIII

Дыскусія ў „Франкфурцкіх салях“ пачалася.

„Зразумела, зноў-такі комуністы“, бурчэлі другія, калі старшыня сходу заявіў:

„Пан Шнэтэр мае слова“.

Раздаліся ўзгалосы протэсту.

Дакладчык усьміхаўся.

„Людзі думаюць, што яны зрабілі вельмі адважны крок, калі адкінулі веру ў насьледную монархію і прысягаюць дэмократычнай рэспубліцы. Сапраўды-ж дзяржава ёсьць толькі машына для ўціску аднэй клясы другою, і дэмократычная рэспубліка ня менш, чымся монархія.—Ворага, які працягвае нам руку для саюзу і сам набіваецца ў якасьці сябра і брата, таго, толькі таго аднаго трэба нам баяцца. Мы можам прымусіць масы нам верыць, калі правадыры цэнтру, прогрэсу ды іншых буржуазных партый—нашы саюзьнікі,—навошта тады барацьба з буржуазным грамадзтвам, якое ўсе яны абараняюць?.. А калі лінія клясавых супярэчнасьцяй сьцерта, калі мы знаходзімся на крывой плошчы компромісу, тады няма затрыманьня, тады ідзе яно далей і далей у бяздоньне... Вось асыгнаваньнем ваенных крэдытаў 1914 году соцыял-дэмократычная партыя Нямеччыны дасягнула гэтага бяздоньня“.

Тут прамоўцу перапынілі.

„Не гаварэце цытатамі і асабліва такімі, якіх вы самі не разумееце“.

„Гэта казаў ня я, але Кароль Маркс у сваіх уводзінах да „Грамадзянскай вайны ў Францыі“, а другая цытата Вільгэльма Лібкнэхта. Сваімі протэстамі вы толькі даводзіце, што нічога ня маеце супольнага з гэтымі асобамі...“ папярэчыў прамоўца.

„Ну, добра. Я-ж нічога больш і не казаў".

Протэстант меў посьпех.

„Здрада рабочых, якую вы сёньня прадстаўляеце", гаварыў далей таварыш Шнэтэр, „нарыхтована даўно. Ужо Каўцкі, гісторык... у сваіх „Папярэдніках соцыялізму"... А якое інтэрнацыянальнае значэньне мела ў 1914 г. асыгнаваньне на ваенныя крэдыты, можа вымераць толькі той, хто ведае тое выключна агромністае становішча, якое мелі тады нямецкія соцыял-дэмократы ў другім інтэрнацыянале. Нямецкая соцыял-дэмократыя была пэрламі..."

„Ня кідай іх цяпер перад свіньнямі, сабака..." „Тэорэтычная лухта!" „Канчай". „Даволі! Вон! Далоў! Да справы!"

Варта сходу праціснулася няпрыметна наперад, аглядала салю і заўважыла позыцыі тых, хто спачуваў комуністычнаму прамоўцу.

Колькі хвілін было неспакойна.

Старшыня сходу пазваніў.

„Клікайце проста паліцыю..."

Дакладчык зьвярнуўся да старшыні.

„Галасьней!" зарычэў нехта.

„Ніякіх гутарак! Гаварэце да сходу!"

„Гэта вы вінны ў забойстве Розы Люксэмбург і Кароля Лібкнэхта. Няўжо-ж вы ўсё яшчэ ня прызнаецеся ў гэтым... Вы, вы..."

І пад дзікі сьмех выцягнуў комуністы брошуру.

„Фу! фу! фу! Падлюга! Брыда! Збродзень! Брахня! Убогі манюка! Падкуплены Масквой! Гнюсная подласьць! Дай яму!" „Десяць гадоў S.P.D!"

„Саромце сябе, колькі хочаце!" усьміхаўся дакладчык.

„Рабочыя! таварышы! Прыгледзьцеся да вашых правадыроў! Мы, комуністы, ніколі зноў не зварачаліся-б да паводзін S.P.D. у часе вайны, калі-б політыка S.P.D. пасьля вайны, у кожнай эпосе пасьляваеннага часу, не выяўляла тую-ж самую здраду рабочай клясы... Гэты пан, пан дакладчык, які яшчэ сёньня ўвечары так смачна нарыхтаваў вам экспэртызу разуменьня рэчаў, хіба ён ня той самы, які аднойчы адухоўлена закрычаў: „Я іду да Гіндэнбурга" і які тады напісаў наступнае: „Толькі пад знакам гэтых струменяў крыві, толькі пад знакам жалеза, якое крышыць усё, а таксама выклікае гэтыя струмені крыві, можам мы гаварыць аб тым, што мэта блізка. Мы павінны задушыць у крыві пал да вайны ў ворага..." Гэта адно. Другое—даглядвайце добра!—ні за што на сьвеце не жадаў-бы я яшчэ раз перажыць тыя дні ўнутранай барацьбы! Гэтае гарачае парываньне кінуцца ў магутны струмень агульнага нацыянальнага патопу, і, з другога боку, вялікі страх сьлепа ісьці ўсьлед гэтаму парываньню, поўна аддацца настрою, які наўкол шумеў і бушаваў. Гэты страх: „ня станеш і ты жулікам сам з сабой і сваёй справай!? Маеш ты права так адчуваць, як у цябе на сэрцы? Пакуль,—я не магу забыцца на той дзень і гадзіну,—раптам не разьвязалася напружнасьць,

пакуль людзі не адважыліся быць тым, чым яны былі, пакуль—наўпроці адубелым прынцыпам і адзервянелым тэорыям—у першы раз (у першы амаль што за чвэрць сталецьця) ад поўнага сэрца, з добрым сумленьнем і бяз жаднага страху стаць здраднікам, людзі маглі бурна і ваяўніча засьпяваць: „Deutschland, Deutschland über alles!..“

Сход ледзь яшчэ дыхаў...

„Ну, таварышы-рабочыя і вельмі паважаныя панове-протэстанты, я пытаюся цяпер у вас, разьмяркуйце самі: хіба гэта мова соцыялістага!? У каго з вас жыве яшчэ іскра пролетарскага пачуцьця гонару, хто яшчэ мае хоць кроплю пролетарскага клясавага інстынкту, той ня зможа не запляміць гэтай думкі так, як сапраўды ёсьць: як выраз самай бяссорамнай, сабачай подласьці. Гэта—ня здрада краіне, таксама ня здрада ўладзе, кожны з гэтых шаноўных мяшчан заслугоўвае нагароду Pour le mèrite... але затое гэта ёсьць здрада рабочым, здрада рабочым і яшчэ раз здрада рабочым!..“

Шмат рабочых пры гэтых словах адчувалі сябе нерашучымі.

Другія ківалі галавамі:

„Няўжо ён сапраўды гэта напісаў?!“

„Не магу паверыць...“

„Так, пры настроі, які тады быў...“

Шмат вачэй шырака адкрыліся, шмат вушэй насаражыліся.

„Хутка! рабі скора!“ прашаптаў старшыня сходу аднаму з варты, а то ўвесь сход у нас прападзе. Лепш - няхай яшчэ палётаюць...

І той даў няпрыметна знак.

Чацьвёра ці пяцёра сярод тысяч раптам закрычалі:

„Лухта! Глупства! Падлец! Новая хлусьня! Ні слова праўды! Усё набрахалі!..“

Рабочыя пераглянуліся.

„Бачыш, я адразу падумаў, што гэта хлусьня. Было-б ужо... Той быў-бы павінен зараз адступіцца... Але чаго ні высмоктваюць з пальца комуністыя... Фу, чорт...

„Гэта пісалі вы, вы, вы, пан таварыш Бауэр, тады, і цяпер, цяпер вы не сароміцеся, зараз вы адважваецеся...“

„Канец, канец, канец!“

Старшыня сходу званіў.

„... такім чынам за грубую брахню (асабовага) пэрсональнага характару і поўную адсутнасьць бесстароннасьці і працавітасьці пазбаўляю прамоўцу слова... З прычыны таго, што ніхто больш не запісаны, заключнае слова мае наш таварыш Бауэр“.

„Правільна!“

„Брава! Брава! Вон з ім!“

Саля тупала.

І ўжо некалькі дужых хлапцоў з варты сходу сталі сьцягваць комуністага. Таварыш Бауэр круціў галавою і ня раіў разважыць пасяброўску ўжываньне гвалту ў гэтым асобным выпадку.

„Прыдворны судзьдзя—Раўшэр-Брэйер—Кутнэр!“ пагражаў комуністы кулаком... „а тады, у тыя дні, прыпамятайце, яшчэ на конфэрэнцыі друку... Вы—сапраўдныя вінавайцы забойства... Можа выдаць вам соцыялдэмократычны рэцэпт: што гаворыць ваш Вэльс: „нам няма чаго баяцца руху рабочых мас. Калі ён пагражае пайсьці далей цераз нашы голавы, мы станем у іх на чале і павернем рух, як у 1918 годзе...“

Гэта яшчэ закрычаў комуністы, напалову ўжо выцягнуты з салі.

Вялізны атлетычны хлопец з рэспубліканскай паліцыі біў цяпер па ім сталёвым кастэтам.

„Да справы! Маскавіт! Таварыш Бауэр мае цяпер слова...“

„Вон, вон“... раздалося наўкола.

Ля ўваходу ў салю комуністаму ўдалося яшчэ раз падняцца і вырвацца, і громкім голасам кінуў ён ім назад:

„Вы, вы там наверсе: вы ўкралі ў пролетарыята адвагу, пачуцьцё сілы і самаўпэўненасьць. І з усіх вашых він, грахоў, недагляду, подласьцяй гэта, можа быць, найгоршае. Вы знаходзіцеся ў шэрагах буржуазнай клясавай арміі як спэцыяльныя каманды для забойства дубінамі рэволюцыйнай рабочай клясы... Вы клясавы вораг ва ўласным лягеры... Фу! забойцы, падлюгі, здраднікі! Канец з вамі...“ Дзьверы самі зачыніліся.

„Гэткага комуністага жывым не дастаць...“

Паветра зноў ачысьцілася.

## IX

Макс разглядаў прамоўцу, які толькі што ўзяў заключнае слова.

Самы выгляд яго выклікаў ужо давер‘е. Шырокі, прыемны, нібы туга набіты лёгічнымі вывадамі, круглы, з адзнаньнем адказнасьці! Чырвонашчокі з чарнаватымі густымі вусамі. Поўная проціх лежнасьць комуністаму, маладому і абуранаму хлопцу... Бесстароньні, калі трэ‘ было быць бесстароньнім, поўны абурэньня і бурнай напышлівасьці, калі гаварылася аб подступах рэакцыі ці аб ганебных учынках і спробах стварыць раскол комуністых. Спакойны, як належыць быць мужчыне... У яго ёсьць веды, практыка, ён разумее справу, ён ня дасьць сябе абыйсьці. Ну, паглядзеце толькі!.. Урэшце, здавалася, што яго вуснамі гаворыць чалавечы розум. Затое як абурана, горача дзейнічаў комуністы! Няроўны ва ўсіх сваіх рухах і выразах, кожнае слова нязьмерна пераўвялічана. Такіх людзей трэба сьцерагчыся, як мігае ў іх вачох, як дрыжаць іх кулакі, як б‘юцца іх грудзі!

...Гэта не вар‘яты!.. Чорт пабяры!..

Ну, таварышы, таварышкі, паважаны сход! Гэтая, відавочна, сыстэматычна падрыхтаваная спроба комуністых сарваць наш сход, дзякуючы

актыўнаму ўмяшаньню нашай рэспубліканскай абароны—„Брава! дзякуй!“—не ўдалася“.

Урэшце нямецкі рабочы даволі справядлівы, каб бачыць сваіх супрацiўнiкаў у належным асьвятленьні. Я гавару зараз аб заможнай клясе. У нашых суджэньнях аб ёй не павінна быць асьляпляючай нянавісьці, і шмат каму з нас трэба грунтоўна папрацаваць над сабой, каб скласьці об'ектыўны погляд аб супрацiўнiку з прычыны таго, што тэорыя клясавай барацьбы вельмі нам пашкодзіла. Мы, соцыял-дэмократы, прадстаўляем цалком нацыю, мы прадстаўнікі інтарэсаў усіх колаў насельніцтва. Выраз „клясавая барацьба“ ўжо досыць застарэў і навукова адстаў. Такім чынам, з гэтым ганебным комуністычным нацкоўваньнем мы, соцыял-дэмократы, ня маем нічога супольнага, ня лічачы падлюк, якія нажыліся на вайне, і спэкулянтаў часу інфляцыі,—што дрэннага зрабілі нам багатыры, якія жывуць у палацах? Яны ішлі толькі за прыродным натуральным інстынктам пабудаваць лепш сваё гняздо. І гэты факт мы павінны ўразумець і, папраўдзе, не аднасіцца да іх надта строга.

А цяпер аб амністыі. Хто падняў пытаньне аб амністыі? Соцыял-дэмократы. Мне, разумеецца, ня трэба падаваць ліста Макса Гёльца. Вы ведаеце ўсе яго з „Форвэртс'у“, але, урэшце, ужо зусім ня так лёгка вызваляць з турмаў усіх тых, хто з прычыны пахабнай тактыкі цэнтральнага камітэту комуністычнае партыі штодзенна туды трапляе. І гэтыя паны выказваюць такую настойнасьць, што ім трэба проста дзівіцца. А хто сам душыць, няволіць, перасьледуе і здраджвае рабочых горш, чымся самая лютая рэакцыя? Бальшавікі. Гляньце на расійскія турмы, на сібірскія пустэчы. Падумайце аб лютасьці, засьценках чакі! А хто, пытаю я, стала выстаўляе сваіх кандыдатаў нават і там, дзе зусім няма надзеі на посьпех, каб такім чынам крышыць сілы рабочае клясы і быць об'ектыўным падтрыманьнем рэакцыі? Зноў комуністыя. Так, комуністыя вінны ва ўсім. І я кажу, калі-б сёньня яшчэ Роза Люксэмбург была жывая, дык яна пэўна стаяла-б у нашых шэрагах...“

„Брава! вельмі правільна!“

„А комуністыя робяць зьдзек над ёю. Дзеля гэтага дружна ідземо на выбары! Парахуемся з падбухторшчыкамі! З тымі паскуднікамі з рабочых, комуністычнымі профэсыянальнымі рэволюцыянэрамі! Прэч комуністычны рух, прэч комуністых, прэч рэакцыйную масу!.. Хай жыве...“

І зноў задрыжэла саля ад трыразовага „ура“. Ціха і прыкра прапелі цяпер апошнія строфы „інтэрнацыяналу“.

Які жалобны марш.

„Гэты сьвет павінен быць наш!“

„Ага, гэта так. Але хто гэтаму даваў веры!?“

Гэтае сьпяваньне было як бязмускульнае, слабое, высіленае, друзлае цела. Тысяча ратоў аўтоматычна адкрываліся і закрываліся... Ніякага ўздыму, ніякай сілы. Ня выходзіла добра...

„Толькі калі мы іх выганім,

Засьвеціць сонца без канца...“

Шмат хто ня ведаў тэкста.

Адна з пеўшых дзяўчына-пролетарка, маленькая, вузкагрудая, часта адкашлівала. Яе скура была празрыстая, вочы шырока адкрыты. Яна пяяла высокім прыгожым голасам, гэты голас шыбаў над горам, пакутай, будзённай абыякасьцю. Гэты голас быў, як чыстая сьцюдзёная вада. Рукі яе сьціскаліся ў кулакі, пяяла яна хутчэй за іншых, але цягучае, смутнае супольнае сьпяваньне затрымлівала яе...

Сход скончыўся.

Поліцэйскія патрулі хадзілі з карабінамі за плячыма.

Надвор‘е зьмянілася. Туман зьнік. Падуў сьцюдзёны вецер. Ноч была марозная.

Макс пайшоў з некаторымі таварышамі дамоў пехатою.

## X

Перад гасьцініцамі (готэлямі) доўгая чарга самаходаў; лёкаі ў галунах, з неакрытай галавой адчынялі дзьверцы. Пані ў футравых манто, мужчыны ў закрытых чорных палітох і цыліндрах урачыста выступаюць, як багі старажытнасьці або як рыцары... У вітрынах блішчаць, залітыя сьвятлом, цудоўна лякаваныя самаходы... Тут былі і прыгожыя жанчыны, якія, здавалася, адным поглядам могуць зьбіць чалавека, пахнючыя, з бездакорнымі фігурамі, земныя багіні, гібкія і пругія. Як самаўпэўнены іх рух! Каб зразумець іхную гутарку, трэ‘ было напружана ўслухоўвацца: загадкамі, вымова—усё было іншым.

„А нашы-ж жонкі дома руйнуюцца ад бязупыннай працы па гаспадарцы і клопатаў аб штодзённым хлебе!“

Усё гэтае хутка пранеслася, як здань, перад вачыма траіх рабочых, якія ішлі дамоў.

Толькі раз, ня кажучы ні слова, мэталісты Лянге пхнуў у бок Макса Гэрзэ: група размалёваных простытутак, балбатаўшых на рагу вуліцы, акружыла тоўстага п‘янага пана, які ішоў, хістаючыся, па вуліцы. Таўсьцюга ледзь спыніўся, злосна мігаючы, але пасьля перамаўленьня згадзіўся і зьнік у бочнай вулачцы, падхоплены дзьвюма жанчынамі,— з аднаго боку страшэнна сухарлявай, а з другога—тоўстай.

„Колькі будзе каштаваць яму гэтая ўцеха? Ну, паглядзі толькі на яго: гэткая ад‘еўшаяся сьвіньня. Добра, каб яго старая задала яму!“ Пролетары толькі засьмяяліся і паківалі галовамі.

„Не, Вільгэльм, калі я бачу, як працуюць яны на фабрыках! Нічога ня варта!.. Я кажу табе... пусьці мяне...“

„Пераліваеце толькі з пустога ў парожняе... і гэта называюць яны коопэрацыйнай і грамадзкай працай... Зразумела—правільна: памылкі заўсёды ёсьць, нават павінны быць; і толькі той, хто нічога ня робіць, не памыляецца. Але нельга на гэтым супакоіцца і трэба вучыцца на сваіх памылках...“

Толькі адзін з траіх рабочых—Лянге, Вільгэльм Лянге, спачуваў комуністым. Ён быў за токара па мэталю на буйным заводзе. Таварыш Штылінг з электрычнага заводу і Гэрзэ Макс энэргічна наваліліся цяпер на свайго таварыша Лянге.

На забастоўцы на турбінавым заводзе зноў мы бачылі тое самае. Прыемна пачакаць, пакуль усё пачнецца само сабой. Потым прычапіцца і балбатаць-балбатаць, але толькі самім нічога не організоўваць. Паважаныя паны-прадпрыемцы гавораць сабе: „Якое значэньне мае дадатак у тры-чатыры пфэнігі да зарплаты?“ А я кажу, ён мае значэньне, і той, хто не падзяляе з рабочымі іх штодзенных малых і нават самых невялічкіх прыкрасьцяй, не заслужыць веры рабочых і ў паважнай барацьбе... Для нас мае значэньне больш і менш упарадкаваны клёзэт, і хто гэтага не разумее... Сапраўдная палітыка ўсіх—прышый хвост. Вы яшчэ добра апячэцеся на ёй...“ „А тады, Вільгэльм, як было ў кастрычніку!.. Даю табе руку, я чакаў, што гэта ўрэшце прарвецца. Ледзь мог я яшчэ дайсьці дамоў і ўвесь час гатоў быў кінуцца наперад... і гэткае расчараваньне! Фу, чорт!..“

Абодва засыпалі Вільгэльма крыжавым агнём дакораў.

„Няхай так, няхай усё гэта будзе правільна, але мы самі, рабочыя на заводах, павінны адхіліць гэтыя недахопы. Але зусім адхіліцца, як вы... І падумайце: сямі тысячам—сотні гадоў астрогу і катаргі. А пятнаццаць чалавек расстралялі яны ў аднэй Нямеччыне. Разам гэта будзе трынаццаць мільёнаў чалавек. І гэтыя пролетары, таварышы з чыстым сумленьнем, змагаліся за нас. Гэтага вы не адмовіце. Гэта сапраўды наша кроў!..“

„Можа быць, але і ў гэтым вінны правадыры... яны ўцягнулі іх, а самі ўсе схаваліся... Масква...“

„Не, таварышы, справа ня ў гэтым; прычына ў тым, што мы дасюль ня мелі сапраўднай партыі. Яе мы павінны зараз стварыць. Бяз партыі няма і правадыроў... Так вось, таварышы! А S.P.D.—буржуазная партыя. Нам трэба зараз сапраўдную рабочую партыю. І гэта ня лёгкае заданьне...“

Таварышу Лянге самому толькі цяпер, калі ён гаварыў, стала ясна, што ён прапанаваў.

„Добра, я згодны шмат з чым, што вы казалі, ты, Гэрзэ, і ты, Штылінг. Але справа ў цэлым, і тут, ведаю я, мы правы...

„Ну, а праўда гэта, ці не, што вы, комуністыя, стала ставіце сваіх кандыдатаў нават там, дзе вы і надзеі ня маеце на посьпех. Гэтым драбніце вы рабочыя галасы і дапамагаеце рэакцыі. Як сёньня ўвечары правільна растлумачыў прамоўца...“

„Прыгожы палітычны фабрыкант-падмазчык“. А вось што гаворыць вам Кароль Маркс, гаворыць ясна і азначана: „Нават там, дзе няма ніякай надзеі на правядзеньне сваіх кандыдатаў, павінны рабочыя ставіць сваіх уласных кандыдатаў, каб бараніць сваю самастойнасьць, падлічаць свае сілы, афіцыяльна паказаць сваё рэволюцыйнае становішча і партыйны пункт погляду. Яны не павінны паддавацца прамовам дэмократаў нібы, напрыклад, такім чынам разьбіваецца дэмократычная партыя і рэакцыі даецца магчымасьць перамагчы. Пры ўсіх гэтых фразах выходзіць, урэшце, што пролетарыят ашукаюць. Посьпехі, што ён мусіць рабіць шляхам такога самастойнага выступленьня, нязьмерна важней, чымся страта, якую магла-б выклікаць прысутнасьць рэакцыянэраў у прадстаўніцтве...“

Вось вам чорнае па беламу, як тады, так і сёньня.

## XI

Але супрацiўнікі Лянге не супакоіліся на гэтым. Яны выставілі асабліва, як думалі, цяжкую гармату.

„І бацылы, халерныя бацылы, атрутныя газы і бюро падробак... Дык пачытай газэты!.. Існуе і нямецкая чака і групы тэрорыстых... Я не хачу мець справы з гэтымі бомбакідальнікамі і галаварэзамі... Кожны сумленны пролетар... Я думаю толькі... Фу, чорт...“

„Мы-ж вельмі зацікаўлены ў тым, каб капіталізм разьвіваўся. І пакуль дзьве трэці насельніцтва галасуюць за капіталізм... Не, Вільгэльм, не вядзі гэткай баламутнай палітыкі з... Ты можаш спрачацца за тое, што якраз комуністыя робяць найбольш клопатаў нашай „рэспубліканскай абароне“. Як было нядаўна ў „Спортпалацы“. Няўжо вы думаеце сапраўды: шум, протэсты, гумовыя кіі, кастэты—сродкі довадаў. Вы дасягаеце якраз адваротнага. Вам трэ‘ было-б пачынаць інакш... Вы хочаце апраўдаць усё гэта з пункту погляду рабочых, з пункту погляду пролетарскай рэволюцыі. Але загад ёсьць загад. І Масква для вас ужо чырвоны бог. Так, калі рубель коціцца, дык там, дзе ён упадзе, няма розуму—так заўсёды бывала ў сусьветнай гісторыі.

Сёньня трэці інтэрнацыянал ні што іншае, як прылада расійскай пазамежнай палітыкі... Інтарэсаў рабочых ён датычыць вельмі слаба... А „рэспубліканская абарона“ ці „сталёвы шалом“—якое з гэтых ліх меншае?.. Апрача таго, з капіталізмам пакуль што дзякуй богу, яшчэ ня так дрэнна. Хто жадае працаваць і ўмее, што рабіць, той мае работу і яду. Але паглядзі толькі раз у заводзе на пана-таварыша комуністага: ці разумеюць яны што з раместваў?!.“

Блазны, гарэзныя блазны яны з вялікім лычам; хіба могуць яны сапраўды паважна пярэчыць на об‘ектыўныя думкі? Яны адсталі і стаяць са сваімі поглядамі, больш нічога... То там, то тут, я дапушчаю гэта,

трапляюцца сярод іх сумленныя, фанатыкі... Я гавару сабе: трэба сьмела прабіцца... Жыць і даваць жыць... Усё зробіцца. А адросткі капіталізму трэба зьнішчаць. Нічога ня маю супроць, калі квотнікаў і шыбэраў,—няхай яны называюцца міністрамі, кайзэрамі, каралямі і бог ведае як,—аддадуць пад суд. Справядлівасьць павінна быць. Я за надта вялікую няроўнасьць паміж зарплатай і прыбыткамі; яе таксама трэба зьнішчыць. І калі мы калісь будзем мець у рэйхстазе большасьць, тады ты пабачыш: тады, як град, пасыпяцца падаткі на сьпіны заможных... Сёньня ўвечары-ж ты-ж сам гэта чуў..."

„Аблуды! Аблуды! Дзіўна, як пролетар яшчэ сёньня жыве гэткімі ілюзіямі... Так, што кожны сабе жадае, таму верыць ён... Так працуе S.P.D.

... Сапраўды, будзем у роспачы і суме..."

Вільгэльм Лянге ціха сьвіснуў.

„Спакой і парадак!"

І таварыш Штылінг з электрычнага заводу быў згодны з Гэрзэ.

„Нам патрэбны левы блёк, думаў той, з уключэньнем комуністых часамі, калі яны хочуць весьці позытыўную працу, працу па адраджэньні. Так, прыблізна, як у Англіі ці Францыі. Паглядзі вось на жыцьцё рабочага ў Англіі! А ў Амэрыцы. Хіба ты нічога ня чуў пра Форда. Ёсьць капіталістыя двух гатункаў: гэтакія і гэтакія. Кожны там адразу мае свой уласны самаход. Пэўна, што хутка і ў нас будзе таксама.

І я не разумею, чаму мы ня можам мірна разьвівацца і далей. Капіталістыя не зацікаўлены больш у вайне. Занадта вялікая рызыка. Дужа баяцца перамогі, якая заўсёды зьвязана з небясьпекай рэволюцыі. Але для комунізму мы яшчэ далёка не дасьпелі... Няўжо няма ў цябе вачэй і вушэй, Вільгэльм, і ты нічога ня бачыш і ня чуеш на заводах!? Гэткае сьвінства. Гэткая пэцканіна! Як адзін чэпіцца да аднаго, даводзіць, зьніжае зарплату, парываецца да звышвызначыных, падслугоўваецца да майстра (штрэйкбрэхэрнічае), зрывае забастоўку. Клясавая сьвядомасьць яшчэ далёка ад іх. А комуністыя, кажу я, даўно скончылі, дзякуючы сваёй рашучасьці, з гэтым. Рэволюцыйнае, надрадыкальнае балбатаньне. Цяпер, памойму, справа ідзе да аднаго—спакой на зямлі..."

Урэшце загаварыў комуністы:

„Глядзі, Макс, нядаўна пры шахтавай катастрофе ты гаварыў зусім іншае. Ты вылез з сваёй скуры S.P.D. А сёньня?.. Занадта многа гаварыць аб згодзе, чымся гэта сапраўды магло быць. Павер мне. Хіба ня маем мы, уласна кажучы, усё яшчэ вайны: у Індыі, Эгіпце, Кітаі, у туркаў, рыфкабілаў... У нас саміх: сухая вайна, калі хочаш... Кожны дзень нясе страты... Беспрацоўныя галодныя, гэткія, якім сьмяртэльныя хваробы проста сілай накінуты... Нядаўна быў я ў аднэй камісіі і аглядаў памяшканьні... Ну, скажу я табе: часта дзевяць, дванаццаць чалавек у адным пакоі, як куток хлява, і гэта было далёка не найгоршае... А тысячы памяшканьняў належаць таму, хто сядзіць сабе, можа, у Чарнові-

цах. Сёньня—гэты ўладар, заўтра—той... Гэтыя мяняюць дамы, як бялізну. Гэткія дамы—чыстыя об'екты спэкуляцыі.

... Пры гэтым яны гніюць, прападаюць... Хто клапоціцца аб іх? Можа ўлада!? Не, у яе іншыя клопаты.

... Праз прагніўшыя дошкі падлогі ложкі праваліліся ў склеп, там смурод... Немагчыма гэта апісаць... Я скажу табе: гэткае памяшканьне—павольнае самагубства... А апрача таго, кажу я вам, паглядзеце на ваенныя падрыхтаваньні; зараз толькі перапынак, і ўсё гаворыць за тое, што ў хуткім часе зноў загарыцца вайна..." А што нам трэба? Натуральна, натуральна: уздыму і аздараўленьня нашага гаспадарчага і палітычнага жыцьця вы не павінны прызнаць. Вам трэба лавіць рыбу ў каламутнай вадзе. Дзе чыстае паветра, там няма для вас атмосфэры. Але чым горшае згаленьне, чым больш ваенных конфліктаў, тым больш вады, думаеце вы, на ваш млын... Я магу думаць, што вы з гэтага пункту погляду, калі Эбэрт памрэ, дапаможаце Гіндэнбургу ў прэзыдэнты... Але пачакайце!.."

„Ах, кінем палітыку, на гэтым мы ўсё-ж такі ня згодзімся, счакаем час, але так, як ёсьць цяпер, камуністыя нішто іншае, як клюб агентаў расійскай пазамежнай палітыкі. Ленін—гэта быў чалавек, Троцкі, памойму, таксама, але ўсе іншыя—фэльдфэбалі рэволюцыі, прыкрыя... Ды паглядзеце вы на нямецкіх комуністых!.. Рэакцыйная маса... Хлопчыкі ў кароткіх штанах, лістападаўскія соцыялістыя; стаж—тры гады рабочага руху,—найбольш. А морда тым больш поўна фразамі, з рэволюцыйнымі лёзунгамі для людзкога вока, а калі што вынікне, таксама штаны поўныя... Толькі адзін цяжаровы самаход з паліцыяй... і гайда... нікога няма... Хіба-ж ты нядаўна ня бачыў, як на Аляксандраўскім пляцу дзесяць паліцэйскіх шаблямі разагналі цэлую дэмонстрацыю гэтых пархуцькаў... Гэтая моладзь! Варта ім!.. Ніводзін сумленны пролетар..."

Вільгэльм цяпер пачаў сячы:

„Але соцыял-дэмократычныя правадыры разброілі рабочых, зрабілі іх безабароннымі, здрадзілі, выказалі клясаваму ворагу... Вось што... І ўсе вы ўцяклі, сталі дэзэртырамі—зьбеглымі. Чырвонае зьмянілі на чорна-чырвона-жоўтае. Зьбегі!.. Але-ж гэта ня мае жаднага сэнсу. Мы, комуністыя, былі адзіныя, якія сапраўды з мечам у руках змагаліся з монархістымі: бяры капскі бунт... Так рабіць мы будзем і далей... А цяпер баста з гэтым..."

У спрэчцы нанасіў ён цяпер удар за ўдарам сваім супраціўнікам.

Таварыш Вільгэльм трапіў пад сапраўдны крыжавы агонь...

„А дзіцячыя трубкі ў рэйхстазе. Пякельныя машыны ў катэдрах. Разрыўныя матэрыялы... Ніякае павагі..."

„У нас якраз іншае разуменьне аб дзяржаве, як у вас. Мы, мы, пролетары, сапраўды законныя, калі хочам... А што да атрыманьня большасьці ў капіталістычных сыстэмах, дык гэта таксама утопічнае свавольства. Проці здабытку большасьці заўсёды стаіць моцны апарат пропаганды ў буржуазіі, кругавое радыё; апрача гэтага, і розьніца месца працы,

якое кожны займае ў процэсе працы. Толькі ў барацьбе, у агні ўзброенага паўстаньня здабываецца большасьць. Урэшце павінны-ж вы уразумець статыстычнае глупства.

„Добра. Але працаваць, працаваць, падрыхтаваць сапраўды рэволюцыю, організаваць—гэтага вы ня можаце.

...Толькі тэрорныя групы і бомбы...“

„Першае часамі правільна. Тут трэба яшчэ шмат вучыцца. Разумную крытыку нам трэба выслухаць. І гэта вы разумна сказалі... А што да провокацыі, дык вы, як пролетары, павінны сароміцца паўтараць гэтую буржуазную хлусьню... Хіба самі вы нябачылі нядаўна, як гэтыя падкупленыя суб'екты провокуюць, каб што-небудзь аб нас, комуністых, набрахаць... Заўсёды—гэта комуністыя; да гэтага мы ўжо прызвычаліся. Комуністыя ва ўсім вінны.

...Можа і сонца—чырвоная быдляціна!?

Вільгэльм высмаркаўся.

Адзін, другі яшчэ пабурчэлі.

„Ня ў крыўду казаць“,—буркнуў таварыш з электрычнага заводу.

„Калі з вамі спрачацца, дык трэба высока закасаць рукавы“,—адказаў Вільгэльм.

Замаўчаў.

Некалькі хвілін быў сапраўды перапынак бою.

XII

Гутарка спынілася.

Моўчкі ішлі яны ўтраёх.

Кожны думаў пасвойму.

На Моабіце на мосьце сустрэлі яны колёну наклейшчыкаў плякатаў.

З другога берагу відаць была ярка асьветленая фабрыка малочных продуктаў Болэ. Дыміў фабрычны комін. Ночная зьмена. Цёмныя буксіры стаялі ўнізе каля берагоў Шпрэ.

Усе трое разглядалі толькі што наклеены плякат.

Зьняволены скрыўленымі пальцамі хапаецца за жалезныя пруты вастрожных кратаў. Уся фігура крывава-чырвоная. На перакрыўленым твары шалёная міна.

А зьнізу толькі лік: 7.000.

Макс прыпомніў апісаньне астрогу, якое ён нядаўна дзесь чытаў. І ў паліцэйскім аддзяленьні на Аляксандраўскім пляцу існуюць, кажуць, непраўдападобныя парадкі: арыштантаў б'юць, садзяць у цёмны карцэр і г. д. Там пануе страшэнная сыстэма прымусовых работ, выціскаваньне апошніх сіл у астрожных майстэрнях, дзе клеюць папяровыя пакеты, робяць вяроўкі для пакаваньня і г. д., дзякуючы чаму застаюцца бяз працы тысячы асоб, якія рабілі ўсё гэта ў хаце. А жабрачая плата, якую атрымліваюць за гэта зьняволеныя! Ніякія другія кнігі, апрача рэлігійных, не дазваляюцца.

Сьледчая справа з ужываньнем катаваньня... А ў надцывілізаванай Амэрыцы ёсьць ужо астрогі, пабудаваныя ў круг такім чынам, каб наглядач у цэнтральнай вежы з кулямётам мог назіраць за ўсімі камэрамі. Урэшце, проці бунтаўнікоў ужываюцца ўжо і газы, як пра гэта пісалі паміж радкоў нядаўна ў аднэй газэце. Прызнаньня ад палітычных зьняволеных дабіваюцца так, што зашчамляюць ім пальцы, б'юць бізуном, катуюць распаленым жалезам, б'юць па пятах... Яшчэ нядаўна прышлося спыніць дазнаньне аб двух абвінавачаных—адзін страціў розум, другі скончыў самагубствам. А калі чалавек засуджаны... Гэтае перавышае ўсялякую фантазію. Але ў савецкім раі, паводле буржуазных справаздач, справа яшчэ горшая. Значыць, гэта на руку комуністым. Усё гэта дурныя выдумкі...

Другі плякат наклееным вельмі высока. Фігура волата забівае дубінай павучастую здань фашыстага. Пад малюнкам подпіс: „Пролетары, уваходзьце ў чырвоны саюз франтавікоў!"

„Гвалт, гвалт, нічога апрача гвалту! А хвораму організму, якім, па сутнасьці, зьяўляецца нямецкі народ, нічога так ня трэба, як адпачынку."

Вільгэльм Лянге яшчэ раз глыбока ўздыхнуў.

„Ну, на разьвітаньне мне хацелася-б сказаць вам абаім, як я паразважыў: тое, што вы гаварыце аб пануючым у нас пэдантызьме, няправільна. Тэорэтычная яснасьць канечна патрэбна. А калі яе няма, дык і на практыцы ня можа выйсьці нічога добрага. З прычыны гэтага нам часта прыходзіцца ставіць кропкі над і. Калі-ж вы гаворыце аб рабочай клясе Англіі, вы павінны ведаць,—яна атрымлівае сваю частку з тых надпрыбыткаў, якія капіталістыя выпампоўваюць з колёній. Такім чынам, каб ангельскаму рабочаму лепш жылося, надрываюцца за працай мільёны індыйскіх кулі. Потым, вайна і капіталізм цесна зьвязаны. Экономічнае разьвіцьцё краіны зусім ня так добрае, як вы думаеце. Наадварот, яно ідзе цераз супярэчнасьці, крызісы, шчыліны, скачкамі. А што да нашай комуністычнай працы на заводах, дык вы правы: мы яшчэ не навучыліся працаваць, як трэба... І я магу сказаць, з чаго гэта вынікае: у мінулыя гады адпаведна з усімі політыка-экономічнымі абставінамі мы ўсю нашу партыйную працу прыстасавалі да канчатковай барацьбы. Добра, а цяпер нам трэба зьмяніць тактыку. І мы не адмаўляемся ад рэформ, але правільнае разуменьне іх такое: рэформы гэта ёсьць спадарожныя продукцыі рэволюцыйна-клясавай барацьбы. Заданьне сапраўды рэволюцыйнай партыі ня ў тым, каб адмовіцца ад хоць-якога компромісу, але ў тым, каб, ня гледзячы на ўсе гэтыя компромісы, паколькі яны сапраўды няўхільныя, застацца вернай нашым прынцыпам, нашай клясе, нашым рэволюцыйным задачам, нашай справе падрыхтоўкі рэволюцыі і падрыхтоўкі народных мас да перамогі рэволюцыі. Так што, вы бачыце, ёсьць компромісы і компромісы. Калі на цябе на бальшаку нападзе банда рабаўнікоў, і ты можаш выратавацца, толькі калі аддасі ім грошы, ты гэтае зробіш,

каб захаваць сабе жыцьцё—гэта адзін компроміс. Але далучыцца да гэтай банды разбойнікаў, каб супольна з ёю рабаваць другіх,—гэта таксама компроміс, які ўжываюць соцыял-дэмократы. Далей. Змагацца з брыдкімі праявамі капіталізму—гэта абазначае падтрымліваць у працоўных масаў ману, нібы існуе таксама і здаровы капіталізм, а гэтае у аснове няправільна. Урэшце, таварышы, я сьцьвярджаю, што наша рэспубліка ёсьць цяпліца для капіталістых ды рэакцыянэраў і астрог для рабочых. Што-ж да S.P.D. (соцыял-дэмократычнай партыі), дык яна, як агня, баіцца слова „клясавая барацьба“, на практыцы даўно адышла ад яе і замест гэтага балбоча аб агульным дабры і бацькаўшчыне, якое, як вядома, рабочыя ня маюць, S.P.D. (соцыял-дэмократычная партыя) па політыцы, якую яна праводзіць, а не па характару мас, што яна аб'яднае, ёсьць партыя буржуазная.. Бывайце здаровы!“

Разыйшліся. Макс падышоў да дому.

## XIII

„Імкненьне зьвіць сабе гняздо... рэакцыйныя масы... здраднік-дэзэртыр“—доўга яшчэ зьвінела ўвушшу Макса.

„Здраднік-дэзэртыр?“—гэтае пытаньне атрымала нечакана пэўны абрыс, перакінулася нібы ў чалавека, які доўга і праніклiва ўзіраўся на яго. Гэты чалавек быў падобны да яго. Кроў ад крыві яго. Зусім як ён. Зваўся таксама Макс Гэрзэ—і падышоў да яго, як яго ўласнае ўвасобленае сумленьне. Другі Макс Гэрзэ пытаўся ў яго: „Што, Макс, праўда? здраднік? Ці няма тут часткі праўды? Як гэта было яшчэ нядаўна ў часе катастрофы ў рудні? Хіба ня памятаем, што ты казаў тады пад непасрэдным уражаньнем ад гэтага няшчасьця? Ты, здаецца, штось абяцаў? Здраднік! Пакідаеш шэрагі тых, хто вядзе клясавую барацьбу. Пакінуў пролетарскі сьцяг. Сьцяг, пад якім змагаўся і пакутваў твой бацька, з-за якога матка твая часта ўрывала ў сябе кавалкі... Чырвоную, што разьвіваецца, надзею мільёнаў тваіх братоў-рабочых! Пагарду тваіх сясьцёр-работніц, якія, за гэтую надзею працуючы ночы, да крыві калолі сабе пальцы... Макс Гэрзэ! Ці ня хочаш зноў стаць сумленным чалавекам, сумленна-пролетарскім? Хіба ня праўду казаў Вільгэльм: „Для вас заўсёды ўсё застанецца пастарому, вы ведаеце аб чым я гавару,—дзень нараджэньня кайзэра і першае мая“.

„Зноў стаць сумленным, пролетарска-сумленным?“ — ужо ў напоўсьне паўтараў Макс Гэрзэ пытаньне, і так і заснуў, не разьвязаўшы яго.

## XIV

Праз сьцены даносілася дыханьне спаўшых людзей. Гэтае дыханьне чулася з усіх бакоў і ўсюль і перапынялася толькі хрыпам, уздыхамі і прыпадкамі задушлівага кашлю.

Цікала шмат гадзіньнікаў. Хтось зноў пачаў кідацца ў сваёй пасьцелі, хтось краўся па калідору, вось ён вобмацкам знайшоў засаўку, скрыпнулі дзьверы, з вуліцы чуюцца крокі, спачатку далёкія, потым усё бліжэй, як капаючая вада. Галасы, няўпэўненыя крокі п'янага. Гудкі самаходаў. Нечакана задрынчэўшы званок. І ледзь магчыма было адрозьніць скрыпаньне гнілых палавіц ад чалавечага стагнаньня і ўздыхаў.

Мяўкалі каты. Вылі сабакі. Вакно зьвінела ад ветру. Стукалі дзьверкі шафы.

Сны. Крокі.

З адным здарыўся прыпадак: белая пена каля роту.

...Тады другі запаліў сьвечку, кінуўся на яго і сілком затрымаў таго ў пасьцелі. Цяпер хтось засьпяваў колыханку ціха і аднастайна. Хтось кашляў... Даносілася плёханьне вады ў канале. Гудкі цягнікоў. Колы з глухім шумам несьліся па рэйках.

Плёханьне вады. Хтось мыўся. Пярэднія шэрагі рабочага войска, якія выступілі з золакам, паднімаліся і рыхтаваліся да бою. Ужо дрынчэлі па вуліцах калёсы малочніц. Каля слупа для абвестак працавалі людзі ў белых халатах, наклейваючы плякаты... Зубы скрыгалі, кулакі ад злосьці сьціскаліся, ногі працягнутыя, рукі рухаюцца па коўдры.

Так гэтыя людзі жывуць.

Так змагаюцца.

Так сьпяць.

Вось яны ляжаць: на брухе, на сьпіне, на баку, у розных постацях— адны ці ўдвох, шырока расхінуўшыся або скруціўшыся, голыя, безназоўныя. У розных постацях, як статуі з галерэі, якая завецца: „Праклён і пакута чалавечага жыцьця"...

Другія карысталі ноч як маску.

Натоўпамі—шлі на рабунак.

Іншыя на паляваньне на людзей.

Мо' чалавек чалавеку садзіць зараз нож у грудзі. Можа хтось зьвязвае вяроўку, намыльвае яе з вар'яцкай усьмешкай. Чуецца глухі стук, быццам штось звалілася. Гэта ён паваліў крэсла пад нагамі. Цела калышыцца яшчэ два—тры разы, потым выцягваецца, мускулы торгаюцца, сьліна яшчэ доўга цячэ з роту... Канец...

А тут хіба ня зьбіліся другія клубком па тры—чатыры целы на аднэй пасьцелі, не ляжаць па пяцёх на падлозе, амаль што седзячы, а ня сьпяць другія на рагах вуліц стоячы? А хто гэта храпе ў парку на лаўцы?!

Пякельным тэмпам б'ецца жыцьцё ў чалавечай машыне. Твары пакрыты, як таемным лякам, потам жаху перад жыцьцём і сьмерцю.

Раскіданыя, як на нязьмерным полі бойкі, трупы.

*(Працяг будзе)*

# САМАГУБЦА

*Новэля*

**Алесь Дудар**

Калі я першы раз спаткаў гэтага чалавека, я адчуваў, што яго постаць і аблічча надоўга ўрэжуцца ў маю памяць. Гэта бывае ня часта: звычайна большасьць людзей па твару можна падзяліць на некалькі тыпаў; і толькі час-ад-часу пападаюцца глыбока арыгінальныя твары, якія надоўга ўразаюцца ў памяць. Тут нават і гэтага ня было. Мой новы знаёмы—высокі, хударлявы хлапец з даўгімі жоўта-белымі валасамі, зачасанымі назад, быў падобны да многіх іншых, якіх мне ня раз даводзілася спатыкаць. Толькі вялікія, глыбока пасаджаныя вочы ды нейкая нэрвознасьць у рухах—толькі гэта вылучала яго з агульнай масы.

У фойэ ў часе перапынку лекцыі вядомага профэсара нас пазнаёміў мой сябра і адразу пастараўся пакінуць нас адных. Ён хадзіў са мною, трымаючы левую руку за поясам, а праваю час-ад-часу адкідаў назад непаслухмяныя пасмы валасоў; пры гэтым ён і ўсю галаву закідаў назад, і ледзь-ледзь прыкметна раскрываліся яго вусны, паказваючы вузенькую палоску пажаўцелых ад курэньня зубоў. Гутарка ў нас клеілася слаба; думкі майго знаёмца пра лекцыю неяк блыталіся, і відаць было, што лекцыя або незразумела для яго, або мала яго цікавіць.

— Вы студэнт, мабыць,—запытаўся я, калі пераканаўся, што лекцыя ўжо ня можа служыць тэмаю для гутаркі.

Ён ажывіўся.

— Так, сёлета паступіў на другі курс. Я дагэтуль быў гады чатыры настаўнікам у N-й акрузе. Ён пералістаў свае тонкія спаленыя вусны і дадаў:

— Гэта за апошнія два гады мая патаемная думка была—дабрацца да унівэрсытэту.

— А раней хіба не хацелася?

На твары майго знаёмага мільганула нешта накшталт усьмешкі.

— О, раней... Раней зусім ня тое было .. Гэта цяжка растлумачыць, але былі зусім інакшыя жаданьні, думкі другія.

Гэта ўжо было цікава. Рэдка можна спаткаць чалавека, які, раз спрабаваўшы навукі, ня думаў пашыраць свае веды. Таму мне хацелася дазнацца аб прычынах гэткага дзіўнага настрою. Я пачаў дапытвацца. Мой знаёмы спачатку як-бы абдумваў, з чаго пачаць, а пасьля пачаў, гледзячы міма мяне.

— Ну, я проста ня ведаю, як гэта распачаць. Бачыце, да рэволюцыі я яшчэ быў занадта малы, каб думаць пра гэта... як пайсьці, куды. А пасьля неяк ясьней стала ўсё і прычыны зьяў усякіх. І вось пацягнула ў глуш, у вёску, каб там рабіць нейкую карысную справу...

— Што-ж, пачатак добры,—уставіў я.

Мой знаёмы глянуў на мяне, і на твары яго пранеслася хваравітая ўсьмешка.

— Вы так думаеце?.. Вы мыляецеся.

І раптам, нібы-та сарваўшыся з нейкага нявідомага ланцуга, ён разгарачыўся. Рукі і пальцы забегалі жывей, твар разгарэўся.

— Гэта лёгка казаць, ня спытаўшы... А вось калі зімою ды стукнуць маразы, ды завея расходзіцца, нібы апошні дзень наступае... Калі да людзей ня бліжэй за паўтары вярсты, ды калі людзі на цябе воўчым поглядам глядзяць... Ды калі ведаеш, што на цэлым сьвеце няма аніводнай душы, якая пра цябе ўспомніла-б... Эх...

І ён безнадзейна махнуў рукой, ды зноў пачаў папраўляць валасы на галаве.

— Я ўсе гэтыя гады прабыў адзін у школе. Вёска невялікая, але крэпкая, гаспадары жывуць нічога сабе... Першы год прыходзілася ім ссыпшчыну зьбіраць на школу, апал даставаць,—пачалі на мяне за гэта касавурыцца; яшчэ дамагаліся, каб закон божы ў школе вучыў. Другі год пайшла з папом грызьня; ён, бачыце, спачатку мяне не чапаў, бо думаў з дачок каторую за мяне аддаць, у яго іх цэлы ўзвод. Ну, а як убачыў, што ня туды яно ідзе, дык і пачаў падстраіваць. Але я тады яшчэ ня страціў надзеі; энэргіі, запалу яшчэ шмат было. Ну, а потым... потым на мяне пачалі касавурыцца за тое, што пэнсію стаў атрымліваць, а потым за школьны надзел. Ды ці мала яшчэ было...

Ён апусьціў галаву і залажыў рукі за сьпіну.

— Ну і вось,—казаў ён далей крыху заглушаным голасам,—дайшло да таго, што мне нікуды паказацца нельга было... Прыдзе восень, пачнуцца заняткі ў школе—тады лягчэй. Хоць раніцаю ды людзі прыходзяць, маленькія. Але-ж і яны на старэйшых глядзяць. І вось пойдуць, настане вечар... Вецер барабаніць па школе, лісты асыпаюцца. А зімою, дык і ўспомніць страшна... І тады, у гэткія хвіліны...

Зазваніў званок, апавяшчаючы пра канец перапынку. Мы накіраваліся ў салю, мой знаёмы, абарваўшы зразу, як-бы ўспамінаў, на чым ён кончыў. Ён правёў рукою па лобе і голасам, у якім чуліся нейкія драбязглявыя ноткі, закончыў:

— Так, у гэткія хвіліны мімаволі паўстае думка: навошта жыць? Для каго і для чаго...

— Гэта дужа цікавыя разважаньні,—сказаў я.—Я з вялікаю ахвотаю пагутарыў-бы зноў з вамі на гэтую тэму. Калі-б вы мелі магчымасьць заглянуць калі да мяне...

— Калі дазволіце, дык чаму-ж!.. Толькі няцікава са мною гутарку весьці... Я сваім карканьнем магу чалавека ў такую нуду ўвагнаць, што ён пачне думаць пра ўсякія няцікавыя рэчы.

Я ўсьміхнуўся—у яго словах была доля праўды. Але, каб не падаць віду, што згаджаюся з яго словамі, я яго супакоіў:

— Нічога, я не з нэрвовых... Дык заходзьце калі...

Я накідаў у блёкноціку свой адрас і, выдраўшы лісток, перадаў свайму новаму знаёмаму.

* * *

Прайшло месяцы два. Я ўжо бадай што забыўся пра сваё выпадковае знаёмства. Хлапец ня прыходзіў да мяне, дый мяне ўжо мала цікавіла яго гісторыя. Я быў перакананы, што настрой яго быў выпадковы: проста няпрыемнасьць якая здарылася—гэта часта бывае, і хлапец ударыўся ў лірыку. І вось прышоў лістаносец і прынёс ліст на маё імя. На конвэрце стаяў штамп „N-ск“ і характар адрасу быў мне зусім незнаёмы. Я разадраў конвэрт і дастаў адтуль некалькі дробна сьпісаных лістоў, нібыта жаночаю рукою. Атрымліваць лісты ад жанчыны—гэта цікава для многіх. Я не складаю выключэньня і, грэшны чалавек, люблю, калі жанчына піша ліст на акуратненькім маленькім аркушы, зграбна складзеным і са строгімі чорнымі радочкамі. Калі ліст напісаны маладою жанчынаю, дык ад яго павявае заўсёды сьвежасьцю і маладосьцю яго аўтаркі.

Унізе ліста я з расчараваньнем прачытаў подпіс—Максім Шаўрук. Я стараўся ўспомніць, хто гэта такі. Нічога ня выходзіла. Памяць на гэты раз мне зрадзіла. Я пачаў чытаць ліст.

„Вы пэўне ўжо забыліся пра наша знаёмства і пра сваю пропозыцыю зайсьці да вас і пагутарыць на тую тэму, аб якой тады гутарылі... Вы можа і ня ўспомнілі за гэты час пра тыя магчыма дзікія думкі, якія я Вам пачаў выкладаць у часе лекцыі профэсара Г...“

І тады перад маімі вачыма зноў паўстала хударлявая постаць майго клюбнага знаёмага, яго доўгія валасы, яго нэрвозныя рухі і яго вочы, глыбока пасаджаныя на твары аскета—вочы фанатыка. І я ўзяўся за ліст ужо з большай цікавасьцю.

„Магчыма, што Вы гэты мой ліст, як і тую гутарку, можаце прыняць за звычайныя хлапецкія хістаньні. Але, і гэта зусім сур'ёзна, Вам апошняму пішу я гэты ліст і на Ваш суд аддаю ўвесь шлях маёй думкі за гэтыя гады. Я вельмі даўно задаўся думкаю, што няма чаго жыць, няма ніякай мэты і ніякага сэнсу. Вы можаце адмовіць гэта, можаце спаслацца на гісторыю разьвіцьця чалавецтва, на ўсякія ўзьнятыя пачуцьці, на інстынкты. І ўсё-ж такі вы ня здолелі-б мяне пераканаць. Я кінуў унівэрсытэт выключна ў выніку маіх разважаньняў: раз няма чаго жыць, дык вучыцца тым больш. І навошта гэта? Для каго? Для другіх, якія будуць карыс-

тацца вынікамі маёй працы—малая уцеха!.. А самому мне ня гэтак ужо многа і трэба. Вось у мяне нядаўна здарыўся адзін дзікі выпадак. Спаткаўся з ціхаю і ласкаваю дзяўчынаю, якая мяне пакахала. Я спачатку аднёсься да гэтага раўнадушна. А потым апанавала мяне нейкая злосьць. Як гэта! На мяне прад'яўляюць прэтэнзіі, мне хочуць навязаць на шыю нейкі абавязак, ці яшчэ што! І я рашыў ня грэбаваць дабром. Я пачаў удаваць, быццам і я закахаўся, пачаў ціскаць дзяўчыну па кутках, абяцаў жаніцца, і яна мне аддалася. Доўга плакала, казала, што я першы і... гэта аказалася праўда. Гэта на мяне зрабіла некаторае ўражаньне, але-ж, бязумоўна, я ня зьбіраюся ашчасьлівіць род чалавечы яшчэ параю гэткіх няздар, як я. Яна прыходзіць да мяне кожны вечар, яна прывыкла ўжо да маіх пяшчот і, відаць, у яе ўжо зьяўляецца думка, што я яе ашукваю. А я гэтага, каб і хацеў, папярэдзіць не магу. Не магу, таму што гэта было-б для мяне ні чым іншым, як зрадаю, ну хаця-б маім прынцыпам. Тут я крыху недакладна выказваю сваю думку. У мяне няма прынцыпаў, бо няма ніякай мэты. У мяне прынцыпам зьяўляецца беспрынцыповасьць. Бо сапраўды, хто мае нейкія прынцыпы, той ужо мае мэту. А я зноў кажу, што і маё, і ваша, і многіх іншых жыцьцё ніякай мэты ня мае і ня будзе мець. Жыцьцё ніколі ня пойдзе так, як хацелася-б мне. А я на запятках хаця-б і ў жыцьця стаяць ня хачу і ня буду ніколі. Вы можаце палічыць мяне за вар'ята. Можа Вы і не памыліліся-б у гэтым. Можа я і сапраўды вар'ят, але да гэтага я дайшоў ня сам. Мяне зьбілі з панталыку тыя людзі, што пусьцілі мяне на вёску, тыя, што пакідалі мяне аднаго чатыры гады. Мне і цяпер яшчэ жудасна ўспомніць. Зіма... Завіруха гудзе за вакном, трасе школу зьверху данізу і здаецца зараз паваліць яе. А непадалёку ў лесе заводзіць воўк, ды так заводзіць, што проста душу выматвае. І ва ўсім гэтым вінны другія, ня я. Адны—што прымусілі мяне паверыць, другія—што прымусілі перастаць верыць. Я цяпер зноў працую ў школе. Ужо ў горадзе. Але нішто цяпер ня зьменіць маёй пастановы. Я зраблю людзям яшчэ адну няпрыемнасьць, пакінуўшы гэта праклятае жыцьцё бяз усякіх апраўдальных дакумэнтаў. Няхай пабегаюць.

Даруйце, штс гэтак доўга адбіраю Вашу ўвагу, але толькі з Вамі адным я наважыўся закрануць гэтую балючую для мяне тэму, памятаючы Ваша жаданьне пагутарыць са мною. А затым бывайце і даруйце.

*Ваш Максім Шаўрук*".

N-ск, 15-га сьнежня
192... г.

Дачытаўшы ліст да канца, я доўгі час ня мог прывесьці ў парадак свае думкі ды ўявіць сабе, што гэта, урэшце, за чалавек—Максім Шаўрук. Чым можа сапраўды скончыцца гэта гісторыя? І вось мне ўяўляліся самыя жудасныя малюнкі. Стрэл, адзін толькі стрэл—і ўсё скончана: застыгнуць на месцы глыбокія вочы і шалёна раскінуцца доўгія жоўта-белыя валасы, асыпаныя чорнымі згусткамі крыві... А можа вяроўка?.. Атрута?..

У якое дзікае становішча паставіў мяне гэты ліст. Недзе нейкі чалавек развітваецца з жыцьцём, я пра гэта ведаю—і што рабіць? Яшчэ каб у адным горадзе, а то N-ск. Ехаць амаль што два дні трэба. І я пастанавіў чакаць, чым гэта ўсё скончыцца...

Тымчасам праходзілі дні. Я ўважна сачыў за N-скімі газэтамі, уважна лавіў кожную вестку з гэтага далёкага закінутага гарадка. Але лістоў больш адтуль не атрымліваў і ў газэтах нічога ня было, хаця хроніка самагубстваў вялася ў іх даволі акуратна. Прыежджыя з N-ску нічога таксама сказаць не маглі.

* * *

Праз год зусім выпадкова мне давялося папасьці ў N-ск. Прабыў два дні, агледзеў горад і ўсе яго цікавыя мясьціны, маючыя вялікае гістарычнае значэньне. Пад канец другога дня злажыў рэчы і павінен быў увечары выехаць. Але да цягніка заставалася яшчэ гадзін сем, і я надумаўся зайсьці яшчэ да аднаго з сваіх даўнейшых сяброў, які цяпер працаваў у N-ску. Я прасядзеў у яго хвілін дваццаць, дагаварыўся аб тым, што разам пойдзем на станцыю. Раптам нехта пастукаў у дзьверы.

— Уваходзьце,—кінуў мой сябра.

Дзьверы адчыніліся і ўвайшоў... Максім Шаўрук. Каб у той момант перада мною разарваўся знарад, дык выбух зрабіў-бы на мяне меншае ўражаньне, чымся спатканьне з гэтым чалавекам. Перада мною адразу ўсплыла і наша калішняя гутарка, і ліст, і мае настроі таго часу. Але гэта быў ён. Убачыўшы мяне, ён крыху пачырванеў, але, калі мой сябра пачаў нас знаёміць, дык ён перапыніў яго:

— Мы ўжо знаёмы...

І, зьвяртаючыся да мяне, вінаватым тонам дадаў:

— Праўда, вы памятаеце,—і знаёмым рухам адкінуў назад валасы.

Я прывітаўся, але ніяк ня мог апамятацца. Вось гэты самы чалавек, які год таму назад напісаў мне такі ліст; я лічыў, што і на мяне ў пэўнай долі падае віна за яго сьмерць... І вось гэты чалавек тут, перада мною, гаворыць, нешта, жартуючы, апавядае майму сябру.

Я ўстаў і адвітаўся. Але як толькі ўзяўся за клямку, Шаўрук мяне спыніў.

— Чакайце, я таксама іду. Я толькі на хвілінку заходзіў.

Мы ішлі па вуліцы і абодва маўчалі. Ня было як і з чаго пачаць, і кожнаму было не па сабе. Нарэшце, загаварыў Шаўрук.

— Вы даўно сюды прыехалі?..

— Заўчора. Сягоньня ад'яжджаю.

— Што-ж так хутка?

— А што болей я маю рабіць тут?

— Ну ўсе-ж такі... Горад паглядзелі-б, людзей.

Пытаньні такім чынам былі вычарпаны. Наступіла мая чарга.

— Вы працуеце тут дзе-небудзь?

— Настаўнікам, вядома. Але цяжкавата, ведаеце. Жонка, дзіцё, а пэнсія настаўніцкая, самі ведаеце якая...

Гэта ўжо было зусім нечакана. Шаўрук, жонка, дзіцё—гэта вязалася паміж сабой вельмі і вельмі слаба.

— Ды яшчэ, паміж намі кажучы, і атмосфэра тут цяжкая. Няма таго, каб усе за аднаго ішлі,—а кожны ў свой кацёл цягне. Сваякі, кумы, сябры ўсякія. Хто язык доўгі мае, той усяго даб'еццa, а ціхаму чалавеку ўсе дарогі зачынены...

Я дзівіўся ўсё болей і болей. Калі Шаўрук прапанаваў мне заглянуць да яго, я не адмовіўся. Дужа цікава было-б паглядзець на гэтага чалавека ў хатніх абставінах.

Быў ужо вечар, калі мы падышлі да яго хаты; акяніцы былі зачынены. Шаўрук пастукаўся ў дзьверы. Прайшло ня менш дзьвёх хвілін, пакуль бразнуў крук, як відаць, другіх дзьвярэй, і жаночы, крыху трывожны, голас запытаўся:

— Хто гэта?

— Свае, свае,—азваўся Шаўрук.

— Гэта ты, Максім?

— Так, адчыняй.

Адчыніліся і зачыніліся дзьверы. Я сьледам за Максімам прайшоў невялічкую прыхожую і ўвайшоў у сьветлы пакой. Там ля стала сядзела маладая жанчына і нешта шыла. Падняўшы вочы і ўбачыўшы мяне, яна ўскочыла.

— Ай, з табой госьць, а я няпрыбрана...

І шпарка выбегла ў суседні пакой.

Я беглым вокам акінуў пакой. Невялічкі і чысты, ён паказваў прысутнасьць жанчыны. На вокнах стаялі гаршчочкі з хатнімі кветкамі—па чатыры на кожным з вельмі малымі інтэрваламі паміж іх. На сьценах у строга сымэтрычным парадку былі зграмаджаны фотографіі ў тоненькіх старамодных чорных рамках за шклом; было такіх фотографій два ці тры комплекты, штук па дзесяць у кожным. Па-над імі былі прычэплены запыленыя каляровыя вахляры з паперы; такія вахляры ў свой час насілі па вуліцах кітайцы і прадавалі па залатоўцы за штуку. На абавязковым камодзе паміж двох букетаў штучных кветак, вельмі буйных і яркіх, стаяла надколатае люстэрка ў форме сэрца, а перад ім фотографія Шаўрука з жонкай; ён сядзіць, а яна стаіць, палажыўшы руку на плячо мужа, і ўся яе фігура—гэта жывы протэст супроць катаваньня фотографа, які гэтак доўга прымушае яе трымацца ў такой ненатуральнай, хоць і адзіна прыстойнай позе. Каля сьцяны—канапа чухонскага вырабу a la Loris Quinze, абабітая пярэстаю крамнінаю. Пара крэслаў у гэткім-жа стылі, адзін зэдлік і тры венскія крэслы розных форм—усё гэта давяршала

прыбранства пакою разам з масыўным сталом і параю рознакаліберных малюнкаў з старажытна-маскоўскімі сужэтамі. У самым кутку—некалькі абразоў.

Шаўрук замітусіўся па пакоі, шукаючы для мяне лепшага месца, але я ўжо сеў на першае крэсла, якое папалася.

— Вы не зважайце, таварыш, што ў мяне абразы: гэта жонка мая яшчэ ніяк ад забабонаў адмовіцца ня можа. А я нічога.

Я нешта буркнуў у адказ. Памаўчалі.

— А скажэце, NN вам даўны знаёмы?.. як вы на яго глядзіце?..— нечакана спытаўся Шаўрук пра майго сябра, у якога мы сустрэліся.

— Я то ведаю яго даўно, але ня вельмі блізка,—зманіў я.

— Няпрыемны чалавек. Пралаза, дзе што ні робіцца—усюды нос ткне. Ён у нас сакратар мясцкому, дык прыходзіцца ладзіць. А так няпрыемны чалавек... Дый многа ў нас такіх. Ад начальства далёка, дык яны і робяць, як хочуць. Вам там добра ў Менску...

У гэты час у пакой увайшла маладая сьветлаволасая нізенькая жанчына. Шаўрук зноў замітусіўся.

— А вось, пазнаёмцеся, мая жонка... Клавачка, ты-б гасьця гарбаткаю пачаставала.

Гэта была жанчына, якіх многа. Яна як-бы сарвалася з цукерачнага карабка для таго, каб папасьці ў гэту хатку, дзе ўсё так адпавядала яе сусальнай прыгожасьці.

„Ці ня гэта жанчына так зьмяніла Шаўрука?“ падумаў я.

Ад гарбаты адмовіўся.

— Але-ж чаму,—пачала ўгаварваць Клавачка,—з вішнямі.

— Баюся спазьніцца на цягнік. Яшчэ справы сякія-такія трэба зрабіць...

Абое пачалі ўгаварваць і, нарэшце, прышлі да компромісу: ад гарбаты мяне вызвалілі, але прымусілі застацца пасядзець на поўгадзінкі.

— А можа чарачку?—прапанаваў Шаўрук і асекся пад суровым поглядам Клавачкі.

Я гарэлкі ніколі ня ўжываю,—і дзеля таго падзякаваў і адмовіўся.

— Ну, як знаеце!.. А то часам ня шкодзіць адну, дзьве чаркі прапусьціць. Я, бязумоўна, ня так, як іншыя. П'янства ня люблю...

— О, Максімка ў мяне маладзец,—уступілася Клавачка.—Ён ня п'е, працуе сабе, актыўны ўдзел прымае. Толькі ходу яму тут не даюць.

— Эт, што казаць...

* * *

Засядзеўся я ў Шаўрука крыху больш гадзіны. Раней выпусьціць ніяк не хацелі і такі прымусілі і гарбаты выпіць, і вішні пакаштаваць. А я, ашаломлены гэткім рэзкім перараджэньнем надаўнага самагубцы, махінальна піў, еў і адказваў на запытаньні. За гэту гадзіну мяне пазнаёмілі з закулісным бокам жыцьця бадай што ўсіх мясцовых работнікаў.

Я быў дужа здаволены, калі, нарэшце, удалося разьвітацца. Шаўрук з жонкай правёў мяне аж да дзьвярэй, прасіў заяжджаць, нават начлег абяцаў. Ён старанна замкнуў за мною дзьверы. Я не адразу адыйшоў: чуў яшчэ, як за дзьвярыма Клавачка нецярпліва накінулася на мужа:

— Здурэў, ці што з гарэлкаю сваёю. Чалавек нямаведама што падумае.

Шаўрук нехаця апраўдваўся...

На вакзале мяне сустрэў мой сябра.

— Дзе гэта ты праваландаўся?—накінуўся ён на мяне.

— У Шаўрука засядзеўся.

— У Шаўрука?..

— А ты ня дзівіся, а лепей раскажы мне, што гэта за тып такі.

— Ат, звычайны сабе. Ні добры, ні дрэнны. Працуе, колькі трэба,— не стараецца і не лянуецца.

— Ён даўно тут?..

— Гады паўтара. Ужо з год, як ажаніўся, прыданае ўзяў. А жонку ты бачыў: прыгожая, але нейкая... ну, не такая, як трэба.

— І нічога асаблівага з ім тут не здаралася?

Мой сябра паглядзеў на мяне.

— А ты што, чуў нешта пра яго?..

І тады я расказаў яму пра маё першае спатканьне, пра ліст і пра мае трывогі.

Мой сябра зарагатаў.

— Дарэмна трывожыўся... Такі чалавек з сабой не пакончыць... Ты паслухай—гэта пацеха была. У нас нейкі сход быў. Раптам выклікаюць мяне. Выходжу—Шаўрукова гаспадыня. Уся ў сьлязах. „Шаўрук страляцца хацеў“. Што за ліха, думаю. Распытваюся. Аказваецца, замкнуўся ў пакоі, нешта там мудраваў, а потым як крыкне... Гаспадыня ўбегла. На падлозе рэвольвэр, на стале пісулька—формальнае самагубства. І Шаўрук на ложку ляжыць і ўздрыгвае. Ну, я зараз-жа пару хлапцоў узяў, ды туды... Глядзім—Шаўрук ужо і дрыгаць перастаў.

Мой сябра памаўчаў, ды пачаў апавядаць далей:

— Мы да яго—раны нідзе няма. Проста хлапец прытомнасьць страціў. Чытаю пісульку, піша, што паміраe, бо ня можа жыць так, як іншыя. Ну, паклікалі доктара—неяк гаспадыня яго адхадзіла. Паправіўся. Зайшоў раз я. Як убачыў мяне, пачырванеў. Я да яго: „што гэта ты—звар‘яцеў, ці што?“ І што-ж ты думаеш? Ён ужо з год зьбіраўся гэта зрабіць, усё адкладваў. Ну, а як надумаўся, ды напісаў пісульку, ды ўзяўся за рэвольвэр, дык такі яго жах апанаваў, што ён і рэвольвэр кінуў і прытомнасьць страціў, і пасьля таго нэрвамі з паўгода хварэў. Пасьля ачуняў, жаніўся на гаспадыні сваёй. Зусім зьмяніўся. Яна яго цяпер добра ў руках трымае.

Мой сябра зноў замаўчаў.

— Але-ж хапіла ў яго рашучасьці і пісульку напісаць і рэвальвэр у рукі ўзяць,—заўважыў я.

— Кінь ты, такія з сабой не канчаюць. Дармо, што пісульку напісаў, ён-жа і табе ліст паслаў. Ну, а выбрык гэты сваю справу зрабіў.

— А што?..

— Зьвярнулі на яго вялікую ўвагу. Цэлую кампанію тады разгарнулі... Гаспадыня дык на сьцяну проста лезла, пакуль не акруціла. А яго паслалі падлячыцца, пасьля гадзіны павялічылі. Пад усё гэта эканомічны базіс падвялі... Ну, а рэвальвэр... рэвальвэр я паглядзеў тады-ж адразу— ён быў паламаны.

Прабіў другі званок.

# „КЛЁЎН ШАКАЛЯД“

**Іжы Магэн**

*Ne faisons jamais ce que les specialistes peuvent faire mieux. Cherchons notre specialite.*

*Мадэрні аўтар.*

*Права сцэнічнае пастаноўкі ад г. 1932. Нетэлеолёгічны фільм—цэнтраля—Жэнэва, вул. Бэнэша, 76.*

## I. На раздарожжы

Кожны чалавек пераж ывае ў правільных інтэрвалах пэўныя душэўныя зьмены, якія часта акружаючым незразумелы, але з якіх нараджаецца нечаканасьць для іншых сяброў, а часам нават найцікавейшыя экстравагантнасьці. Не забывайма, што якраз гэтыя экстравагантнасьці вельмі важны для соцыолёга і філёзофа; у іх ёсьць рэволюцыйны элемэнт, зьвяртайце таму добрую ўвагу на нашую гісторыю!

Клёўна грае п. Сэбастыян Лянглэн-Жувэ, які ўваскрасіў для гэтага фільму калісьці незабытную постаць першага сапраўднага мастака ў галіне нетэлеолёгічнага фільму, творцы „Кіда“!

Увага—едзьма!

Пачакаць—некалькі праўд!

*„Маемасьць зьяўляецца цяпер перашкодай людзям, як была і ўлада. Маемасьць ня будзе зьнішчана, але, як і ўлада, будзе здэмакратызавана. Філёзофія прыватна-гаспадарчага зыску, як соцыяльнага пытаньня, была добрым жыцьцёвым і працоўным сынтэзам у часы, калі цывілізацыя пасоўвала свае граніцы на дваццаць міль у дзень найпоперак контынэнту, а кожны чалавек быў сам сабе найлепш магчымай соцыяльнай мобілізацыяй. Але сяг оньня гэта ўжо спазьніўшаяся страхацьцё, якое ня зьнікла, калі і певень закрычаў“...*

*Гэнры Дэмарэст Ллойд 1894.*

*„Прыглядаўся я да свайго вакольля. Бачыў абадраных дзяцей, якія зьбіралі гнілое зельле і прыносілі яго сваім бацьком, каб яны яго зварылі. Бачыў дзяцей, апранутых у ашметкі, якіх жандары адводзілі да іх хатняга месца побыту, бо, ня маючы дакумантаў ані бацькоў, небаракі жабравалі. Бачыў народжаньне дзяцей, для якіх бацькі ня*

*мелі ані пэні. Бачыў дзяўчынку, якая праглядала кош на сьмецьця ў надзеі, што мо' там знойдзе кавалачак хлеба, якога ўжо два дні ня мелі ў хаце"...*

*Анархіст Ніколэ 1898.*

*„Ах, абыйдзем, абыйдзем лепш маўчаньнем гэтыя жахлівыя гады, Людзі былі героямі на палёх боек. Забівалі сябе і найвышэйшыя ідэі, бо социяльная фантазія была яшчэ зусім неразьвінена. Былі тут парадоксальныя духі, якія, аднак, не маглі ўваскрасіць сапраўдную рачаіснасьць"...*

*Нашыя чытанкі, г. 1949.*

І яшчэ некалькі гістарычных дат:

*1. У 1928 г. амэрыканскі міліярдэр Форд перадаў свае заводы грамадзтву, каб яно само кіравала імі для сябе, а сам пайшоў працаваць, як звычайны работнік, на рэгуляцыю Місысыпі.*

*2. У 1929 г. страшная соцыяльная рэволюцыя зьмяла ўвесь Нью-Ёрк з паверхні зямлі; Амэрыка зрабілася ўрэшце вольнай.*

*3. У 1930 г. ў Чэхаславакіі перасталі ўрэшце сьмяяцца з арміі спасеньня, і ўзьнялася сапраўдная праца на соцыяльным грунце, пачаткам якой было выкіданьне Соцыяльнае Аховы адусюль, дзе яна мела месца.*

*4. У 1932 г. заснавана цэнтраля нетэлеолёгічных фільмаў. Падрыхтаваны найбольшы пераварот у сьвеце! Ніякіх романаў! Ніякіх дурных новэль у кінэматографічнай апрацоўцы!*

Едзьма!

Гісторыя нашага героя.

Марыус Дунан быў адным з тых дзяцей, аб якіх пісаў у 1898 г. анархісты Ніколэ.—*Абразок.*

Ніякіх радасьцяй у сутнасьці не зажыў на гэтым сьвеце—*абразок,*
цярпеў голад—*абразок,*
маці яго таўкла—*абразок,*
мусіў, каб наесьціся, красьці—*абразок,*
і быў рады, калі яго аднойчы ўкралі камэдыянты. *Абразок.*
Хадзіў па шнуру—*абразок,*
глытаў агонь—*абразок,*
рабіў усё, каб нешта зарабіць *(абакраў і прынцыпала),*
уцякаў ад камэдыянта да камэдыянта—*абразок,*
(бачыце, як гэта было дзіўна: чалавек нідзе ня быў дома!),
аж урэшце зрабіўся клёўнам—*абразок. Касьцюм троху падобны да касьцюму П'ерро Дэбуро—голая шыя!*

Спачатку гэта яму дужа падабалася—*абразок,*
меў таксама, дзякуючы свайму арыгінальнаму вонкаваму выгляду і сваёй гульні, посьпех—*абразок,*

яго першым вялікім каханьнем была зараз-жа графіня—*абразок,*
пераможна мінаў Ліён, Парыж, Страсбург, Бэрлін, Копэнгагэн, Рым, Прагу і Маскву *(усяго вам паказваць ня будзем),*
аж нарэшце асеў у Лёндоне—*абразок,*
дзе сьвяткаваў столькі трыумфаў—*абразок,*
аж гэта ўсім абрыдла—*абразок,*
і прышоў новы лепшы клёўн—*абразок.*
Марыус адчайна змагаўся, бо ўжо звыкся на дабрабыт—*абразок,*
і калі пабачыў, што процiў бэстыі-публікі нічога ня зможа—*абразок,*
пачаў піць, пачаў неяк блажэць—*абразок.*
Вандроўкі па Эўропе таксама ня прыдалі яму здароўя—*абразок,*
і так здарылася, што здарылася: бяз пэнні—*абразок,*
шпіталь і г. д.—*абразок за абразком.*
А тымчасам Марыусу было 40 гадоў—*абразок,*
а яго сэрцу гадоў 150—*абразок.*

Калі яго выкінулі з больніцы (былі такія часы ў Эўропе), і ён прадаў усё гандляру і ня меў, што-б укусіў—*абразок,*
было яму адчайна... Быў клёўнам і ўжо ня быў ім!—*Абразок.*

Таму што яго інтэлігенцыя, дзякуючы падарожам па сьвеце, надзвычайна паглыбілася, было яму хвілінамі так, быццам на яго наляглі марныя гады ўсіх выкінутых клёўнаў на сьвеце.—*Абразок.*

Быў сярэднявяковым італьянскім клёўнам, які дарэмна насіў абшарпаную кашулю па сцэне, быў францускім „дурнем", якога выкінуў кароль за дзьверы,
быў Гансвурстам, якому публіка надавала аплявух,
дарэмна крыўляўся, енчыўся і стукаў у брамы людзкога сьмеху—*поўна абразкоў,*
кончыў сваё жыцьцё і блудзіў па занядбанаму лесу над вялікім местам, якое ўжо не патрабавала яго—*абразок,*
у пераконаньні, што няма ані любові, ані бога на сьвеце.—*Ніякага абразку.*

## II. Няўдалы экспэрымэнт

Ад голаду і адчаю заснуў—*абразок,*
ня ведаючы, што сьпіць над каменаломняй—*абразок,*
дзе гуляюць дзеці—*абразок,*
злыя мары мучылі яго ўва сьне больш, чым цэлае жыцьцё—*абразок,*
але крык тых дзяцей унізе—*абразок,*
працаваў неяк процiў тых злых зданьняў у сэрцы клёўна, поўнага адчаю—*абразок,*
і клёўну прысьнілася наступнае, што адыгрывалася ў сапраўднасьці і на гэтым сьвеце:

Зьявіўся да клёўна Пан Хрыстос з двума рыбакамі—*абразок,*
і кажа яму: „Клёўн, сьпіш?“—*абразок.*

Клёўн адкрыў вочы...—*Абразок.*

Кажа: „Я думаў, што ты ніколі ня быў на сьвеце...“—*абразок.*

Кажа Пан Хрыстос: „Многія гэта думаюць яшчэ цяпер, але што тут робіш?“—*абразок.*

„Спаў“.

„Аднак, думаю, сьпіш яшчэ“...

„Я быў няшчасны“.

„Чаму?“—*абразок.*

„Таму, што я ні да чога на сьвеце няздатны, і чорт мяне не бярэ“.—*Абразок.*

Пан Хрыстос надоўга задумаўся... Потым кажа: „Клёўн, клёўн, дзіўна ты абмяжоўваеш сваё жыцьцё! Ці-ж ты ня бачыш і ня чуеш?“

„Бачу, але што я маю чуць?“—*абразок.*

„Дзеці ўнізе ў каменаломні...“—*абразок.*

„Дзеці—згартаюць кокс і шалупіньне ад бульбы—гэта я знаю...—*Абразок.*

„Ніколі ня бачылі нічога сьмешнага“—кажа Пан Хрыстос.

„А я маю іх забаўляць?“—кажа яму клёўн.—*Абразок.*

„І ты-ж, аднак, быў сярод іх“—кажа Хрыстос—*абразок.*

„Гэта праўда“—кажа клёўн, „але ня думаю, каб быў-бы, нямаведама як удзячны клёўну, які паказваў-бы мне свае выкрунтасы!“

„Спрабуй гэта“—кажа Хрыстос.—*Абразок.*

Няўдалы экспэрымэнт.—*Абразок.*

„Бачыш, не сьмяяліся—ня здольны ад гэтага сьмяяцца“.—*Абразок.*

„Кідалі ў мяне коксам!“

„Мусіў-бы быць на гэта касьцюм! Інакш гэта ўсё дарэмна!“

Хрыстос у роспачы.—*Абразок.*

Клёўн у роспачы.—*Абразок.*

Анёлы ў роспачы.—*Абразок.*

Але клёўн неяк намагава перадумваў...—*абразок.*

„Калі я быў малы, як там тыя ўнізе“, кажа потым, дык маім адзіным жаданьнем (апрача хлеба) была адна рэч...“—*абразок.*

„Скажы яе, клёўн!“

„Шакаляд, Пане!“—*Абразок.*

„А даволі ёсьць шакаляду на сьвеце?“

„Поўныя крамы“.

„Чаму-ж яго не дастаюць мільёны дзяцей?“

„Бо яго сажруць вялікія, якія маюць на гэта грошы“.—*Абразкі.*

„А тыя малыя?“

„Рэдка калі маюць пэнні ў руках“.—*Абразок.*

„А ці той шакаляд сапраўды рэдкая рэч для дзяцей?“.—*Абразок.*

„Дзе толькі мог я краў яго“.—*Абразок.*

„Вось-жа, клёўне?“—*Абразок.*

„Што думаеш? Каб я краў яго для дзяцей? Гэта кажаш ты? Але-ж ты маеш праўду: маё жыцьцё можа выключна ў гэтым мець сваю мэту! Божа, зладзейства—мэтай жыцьця! І Ісус Хрыстос гэта мне загадвае!“—*Абразок.*

„Але,—ідзі клёўн-Шакаляд,—і жагнай цябе божа!“—*Ніякага абразку.*

### III. Тайная рэспубліка

І клёўн Шакаляд ізноў быў нечым на сьвеце!—*Абразок.*
Краў удзень—*абразок,*
Краў уначы—*абразок.*
Краў у вялікіх магазынах—*абразок,*
краў і ў бакалейных крамках—*абразок.*
Аднойчы яго злавілі—*абразок,*
і размалявалі—*абразок*—
асабліва крамнікі былі на яго лютыя—*абразок...*
Але клёўн Шакаляд ведаў, на чый загад робіць і не баяўся—*абразок.*
Ня быў безаглядны, быў дужа асьцярожны—*абразок,*
карыстаўся ўсім досьледам з моладасьці—*абразок.*
Ня маеце пэняцьця, як хутка лёндонскія бакалейшчыкі з яго дзейнасьці адурэлі!—*Абразок.*
Абвінавачвалі сябе ўзаемна—*абразок!*
пабілі нават і двух бязьвінных хлапцоў—*абразок,*
хавалі шакаляд пад шкло—*абразок,*
але людзі ім толькі сьмяяліся і шакаляд—*абразок*—
зьнікаў, мусіў зноў быць вонку.—*Абразок.*
Людзі мелі хутка з гэтага ўсяго пацеху—*абразок,*
бо які бацька караў-бы дзіця—*абразок,*
За тое, калі есьць добрую рэч задарма?—*Абразок.*
А дзеці?—*Абразок.*
Усе аб ім ведалі, але ніхто яго не празрадзіў!—*Абразок.*
Выслухвалі іх вучыцялі,
паліцыянты,
судзьдзі,
старыя бабы, клапатлівыя маткі, перапалоханыя цёткі—*поўна абразкоў,*
бо і ў газэтах было пісана аб крадзежы шакаляду—*абразок,*
усё было дарэмна і клёўн меў сваіх прыяцеляў—*абразок,*
а дзеці з каменаломні нічагусенькі нікому не празрадзілі!—*Абразок.*
Утварылася тайная рэспубліка наўкол клёўна—*абразок,*
рабіла клёўну сьцяну—*абразок,*

выдумляла і ўва сьне новыя трыкі для яго—*абразок,*

дала яму ў распараджэньне сваіх сабак проці раззлаваных бакалейшчыкаў—*абразок,*

свой быстры слух проці небясьпечнага нагаварваньня бабаў—*абразок,*

свае ўкрыты (сховы) на схаваньне запасаў для малых і найменшых—*абразок,*

свае адрасы купцоў, якія яшчэ ня былі абкрадзены—*абразок,*

а галоўнае, сваю любоў, любоў, па якой плыў клёўн Шакаляд, як рыба плыве ў вадзе.—*Абразок.*

Аднойчы наведаў яго нават вялікі Прыяцель з Таго Сьвету і даў яму таксама адрас!—*Абразок.*

Было гэта проста нешта нячуванае і нябачанае—

і калі клёўна злавілі—*абразок.*

Чорт ведае, хто яго выказаў, але дзіцячая рэспубліка маўчала, а з суду над клёўнам—*абразок,*

вышаў толькі сьмех.

Кажа судзьдзя: „Паслухайце, чалавечыку, вы ня ведаеце, што маемасьць—рэч сьвяшчэнная?“—*Абразок.*

А чалавечак кажа: „Паслухайце, чалавеча, ня ведаеце, што я ёсьць клёўн Шакаляд?“—*Абразок.*

Кажа судзьдзя: „Чалавечыку, мо' думаеце, што таму можаце красьці шакаляд?“

Кажа чалавечак: „Ведаю, што раблю і маю на гэта прычыну“—*Абразок.*

Кажа судзьдзя: „Чалавечыку, якую прычыну?—*Абразок з аўдыторыі.*

Кажа клёўн: „Вось якую“—і лоўка стаў на галаву.—*Вельмі прыгожы абразок.*

Судзьдзя звычайна ня ведаў, што мае рабіць з пасланцом, які мае вышэйшыя заданьні, а таму прызвалі дактароў.—*Абразок.*

Прышоў доктар—*абразок,*

пaглядзеў—*абразок*

і сказаў—*абразок:*

„Хранічнае—функцыянальнае—пашкоджаньне — клептоманія — дэгэнэрацыйны стан — пэрыядычна-павяртаючы — пэрыядычная манія—вар'ят“.—*Абразок.*

Пусьцілі клёўна.—*Абразок.*

Усе шакаляднікі пільна сачылі за ім—*абразок,*

але ён краў далей—*абразок,*

дзіцячая рэспубліка дапамагала—*абразок;*

быў гэта чэсны чалавек

і меў свой усталены сьветапагляд на сьвет, які стаіць на галаве.—*Абразок.*

Пабачыце, як ён гэта выйграў!—*Ніякага абразка.*

## IV. З вастрогу ў вастрог

Тры заўважаньні да нашага нетэлеолёгічнага фільму:

*1. „Мець сьветапагляд ёсьць рэч вельмі патрэбная. Без сьветапагляду, уважаю, няможна дыхаць. І няхай ніхто ня думае, што асноваю нашага жыцьця ёсьць нешта іншае, чым якраз сьветапагляд. Я кажу, што чалавек, ня маючы сьветапагляду, ня ёсьць ані чалавекам ані жывёлай,—ня існуе, як чалавек, які ня прыдаўся да жаднае палітычнае партыі і ня выступіў з царквы!“*

*Ф. В. Шустэр. 1899.*

*2. „Чорта старога! Мець сьветапагляд нічога іншага ўрэшце не азначае, якісьці з нейкай „філёзофічнай модай“. Што гэтая мода ня мае нічога супольнага з пытаньнямі сапраўднага соцыяльнага жыцьця, а асабліва нічога з лепшай будучыняй чалавецтва, аб гэтым няма чаго казаць. Цяперашні „сьветапагляд“ цяперашніх свабодных духаў здаецца мне, рэляцыйна, куды большым глупствам, чым перакананьне за часоў Вольтэра, аббата Плуха, які казаў што мора таму рухаецца туды і сюды, каб караблі маглі ўяжджаць у гавань і выяжджаць адтуль. А быў гэта стары Вольтэр, які сьмяяўся з гэтага сьветапагляду, як з глупства, бо грамадзянін Плух нічога грунтоўна не перадумаў. Пакіньце мяне ў пакоі, павярхоўныя людзі!“*

*З дзеньніка мармытуна. 1905.*

*3. „Сьветапагляд быў, як страхацьцё, забіты, прыблізна, у г. 1926. На яго месца прышло пераконаньне аб пэўных соцыяльных канечнасьцях. Ад г. 1930 зьмяніла месца пераконаньня найпрасьцейшая сьвядомасьць пэўных „канечнасьцяй“. Рэч яшчэ знаходзіцца ў стадыі разьвіцьця...“*

*Нашыя чытанкі.*

Як гэта выйграў клёўн „Шакаляд“?
Ня спыніўся ў сваім пасланьні—*абразок*,
працаваў—*абразок*.
Ведаў, што мусіць працаваць—*абразок*,
а таму не супыняўся—*абразок*,
а таму не адступаў—*абразок*.
Зьмяняў звычайна бязупынна кватэру—*абразок*,
мусіў зьмяняць і вопратку—*абразок*,
але гэта не рабіла яму клопату: ведаў гэта і ўмеў гэта—*абразок*.
Хадзіў між людзей, як жабрак—*абразок*,
як журналісты—*абразок*,
як паліцыянт—*абразок*,
як паліцыянт, краў, і ішло гэта надзвычайна добра!
Краў шакаляд, як марак—*абразок*,
і як сьвяшчэньнік раздаваў дзецям—*абразок*,

дзеці ў каменаломні былі яго міністрантамі,
і ўвесь дзіцячы Лёндон маліўся за яго ўвечары—*абразок*.
Гаварылі, што часам краў, пераапрануты ў лёрда,—*абразок*,
бо знайшліся людзі, якія далі яму адзежу,—*абразок*,
а адзін мастак-маляр зрабіўся яго слугой—*абразок*!
Анархістыя яму сымпатызавалі—*абразок*,
соцыялістыя мелі з яго пацеху—*абразок*,
звычайным абывацялям было зрэшты ўсё роўна—*абразок*,
і толькі суды былі надзвычайна заклапочаны—*абразок*,
бо клёўн быў усё-ж за 5 гадоў, ня гледзячы на сваю асьцярожнасьць, злоўлены 86 разоў і ня ведалі, што з ім маюць рабіць—*абразок!*
Ужо перад імі не станавіўся на галаву—*абразок*,
сядзеў перад судзьдзямі і пасьмяхаўся—*абразок*,
між тым, як судзьдзі злаваліся на дактароў—*абразок*,
бо тыя ўвесь час клясыфікавалі клёўна Шакаляду, як звычайнага вар'ята—*абразок*.

І гэтак судзьдзі толькі трохі клёўна напужалі, але мусілі ізноў яго выпусьціць...—*абразок*.
Усьцяж чакалі, калі адмовяцца служыць яму мазгі—*абразок*,
але ўсё не маглі таго дачакацца.—*Абразок*.
Быў адзін пасол—*абразок*,
які, намоўлены адным судзьдзёй,—*абразок*,
Хацеў унесьці прапанову „Lex клёўн Шакаляд“, г. зн. каб можна было клёўна, пасьля першай-жа крадзежы, засудзіць на 5 гадоў—*абразок*,
але потым раздумаў—*абразок*,
пабачыў, што гэткай прапановай здэскрыдытаваў-бы цэлы соцыяльны лад, махнуў рукой і пакінуў судом рабіць усё так, як таго самі захочуць—*абразок*.

Клёўн Шакаляд пераходзіў далей
з вастрогу да вастрогу—*абразок*,
але гэта яму не перашкаджала—*абразок*.
Успамінаў усіх добрых людзей, якія калісь сядзелі ў вастрозе—*абразок*,
успамінаў і ўсіх зладзеяў, якія калісь сядзелі ў вастрозе—*абразок*,
успамінаў на сваё пасланьне—*абразок*,
успамінаў і тое, што, урэшце, дзецям будзе больш смакаваць шакаляд, калі яго выпусьцяць—*абразок*
і быў зусім спакойны—*абразок*:—
людзі пачалі паразумнаму аб ім гаварыць—*абразок*,
шакаляднікі пачалі набаўляць тое, што ім клёўн Шакаляд украў на шакалядзе, на іншых таварах—*абразок*,
і ўсё-б вырашылася неяк падурному—*абразок*,
каб ня сталася тое, што сталася і аб чым вы даведаецеся ў апошнім абразку!

## V. Пачатак сусьветнае рэволюцыі

Ужо, ужо пагражала клёўну найстрашнейшая небясьпека,
што ўдзячнае чалавецтва паставіць яму помнік—*абразок,*
з клясычным надпісам: „Няшчаснаму клёўну Шакалядзе ўдзячныя дзеткі з Лёндону“—*абразок,*
ужо, ужо амаль не называлі яго бацькам бедных—*абразок,*
амаль ужо ня ігралі пад яго вокнамі—*абразок*
і не адвезьлі яго, пераможца, да ратушы—*абразок,*
калі-б не перапуджаны маляр, які калісьці быў слугой у клёўна–*абразок,*
ня прышоў на „арыгінальную“ думку—*вялікая паўза—абразок*:
пачаў таксама красьці шакаляд—*Абразок.*

Была гэта трусьлівая душа, якая сказала сабе: „Калі нічога ня зробяць клёўну, дык мяне толькі хіба наб‘юць!“—*абразок.*
„Я, зрэшты, маю мякчэйшае сэрца, чым клёўн Шакаляд—*абразок,*
і я нават ня буду красьці!
Проста вазьму сабе!—*Абразок.*
А яго прыяцель, асілак у боксёрскіх бойках, кажа: „Пайду з табой, і хто толькі да цябе дакранецца, таго адразу змалачу на кашу!“—*абразок.*
Была з гэтага страшная завіруха—*абразок,*
вуліца была на нагах—*абразок,*
усе біліся—*абразок,*
і людзі лаяліся: „Пракляты шакаляд!“—*Абразок.*
Дзеці крычалі: „А мы яго хочам!“—*Абразок.*
Дзе ёсьць клёўн Шакаляд?“—*Абразок.*
„Аддайце клёўна дзецям!“ крычалі зноў вядомыя разумныя людзі—*абразок.*
„Дайце дзецям шакаляд—і ўсё будзе добра!“
„Задарма—не?“
„Нават задарма, вы—душагубцы!“
„Але-ж вы нам набавіце на іншых таварах!“—*Поўна абразкоў.*
„Людцы, не здавайцеся!“ крычаў маляр.—*Абразок.*
„Пранцішак, не здавайся!“ крычаў асілак.—*Абразок.*
На трох вуліцах біліся—*абразок,*
крамы з шакалядам былі разабраны—*абразок,*
маляр пачаў ставіць барыкады—*абразок,*
„Пранцішак, не здавайся!“—*абразок,*
зьявілася паліцыя,
конная паліцыя,
салдаты, якія весела сьмяяліся гэтай шакаляднай вайне–*поўна абразкоў.*
Дзеці крычалі, бабы галасілі, газэты выходзілі ў асобных выданьнях—*абразкі,*
пажарнікі былі на варце—*абразкі,*
лёрдмаёр конфэраваў з клёўнам Шакалядам—*абразок,*

які не зьмяніў свайго сьветапагляду—*абразок*,
паўстаў брат проці брата, сын проці бацькі—*абразкі*,
аж, урэшце, устаў нейкі чалавек і сказаў—*абразок*:
„Прапаную конфэрэнцыю разумных людзей"—*Абразок*.

На гэта адказалі прыхільнікі Платнае і Дарэмнае шакалядьі: „Аружжа ўніз!"—*абразкі*.

„Паб'емся аж потым!"—*Абразок*.

Зьехалася сусьветная „шакалядная" конфэрэнцыя ў Рэйк'явіку на Ісьляндзе—*абразок*,
зыйшліся на ёй разумныя людзі
і радзіліся—*абразок*...
І калі разабралі шакаляд з пункту гледжаньня
эстэтычнага—*абразок*,
этычнага—*абразок*,
моральнага—*абразок*,
праўна-філёзофічнага—*абразок*
і соцыолёгічнага—*абразок*,
пастанавілі, каб шакаляд быў прагалошаны за bonum commune,
за якую плаціць ня трэба і каб шакалядная вайна спынілася.—*Абразок*.

Прапанова прагаласіць клёўна Шакаляду сьвятым, была адкінута 51 проці 48 голасам, таму што клёўн Шакаляд не жадаў таго.—*Абразок*.
Ведаў добра, што яго Пасланьне толькі цяпер мае пачацца.
Быў няшчасны..!—*Абразок*.
Усе дзеці пераналядаліся шакалядам!—*Абразок*.
Чалавецтва думала, што выйграла нямаведама што! Не хацелі ўжо шакаляд бачыць.—*Абразок*.

А тымчасам—*вялікая паўза, пасьля толькі абразок*:
На гэты раз было гэта за садам—*абразок*.
Ізноў былі тут дзеці з каменаломні—*абразок*.
Ляжалі з клёўнам за сьцяной і хціва паглядалі на галінку з саду—*абразок*,
на якой вісела восем сьпелых яблык...—*абразок*.
„Я падобны Адаму пад дрэвам у раі", сказаў клёўн—*абразок*,
„маю іх зьбіць?"—*Абразок*.

„Ня хочам шакаляд", сказалі дзеці. „Хочамо ўсё, на што маем голад і права".

Езус, Мар'я—ускрыкнуў клёўн і зноў, пасьля доўгае пярэрвы, стаў на галаву...—*Абразок*.

А бачыце: якраз тады гэта было, калі старэчы, першы прэзыдэнт Злучаных Штатаў эўропэйскіх сказаў свае памятныя словы, як-бы натхнёны духам, які бачыць далёка: „Яшчэ раз пасьля тысячалецьця стаіць (сядзіць) чалавецтва пад дрэвам Пазнаньня добрага і злога і змушана разьвязаць пытаньне на жыцьцё і сьмерць..."

# АДЫГЕЙСКІ ПЯСЬНЯР

*Адрывак з поэмы*

**В. Палішчук**

Із аула ў аул
Вандраваў, слаўся ніц,
Слаўся горамі гул
Злосных бур-навальніц.
Быццам верным Іслам
Дый у сэрца ўнікаў
Яго голас абуджаным словам,
Між гарамі,
Тут і там,
Па вольніцы гордай Каўказу.
І ў саклях нізенькіх
Ён ніцма прылёг
Макавым зернем
Пад камень.
Дый ветрам гуляў ён
Бязьмежнай далінай
Ў краіне адыге харобрых.
І ў міжгор'ях высокіх
Крыляўся лістком
І ўсё рваўся на ўзвыш
Да бліскучых сьнягоў,
Дзе слава Каўкаскіх вяршын
Пэрлямутрамі зьзяе.
І ў правалы заходзіў,
Як цень ад гары.
Там, дзе Лаба бурліць
На каменным на дне,
Чарапахавым шумам
Над вухам шумеў
Паміж хвоямі, лесам, гарамі
Мутны Пшыш.

І Іскандзер ня знаў
Ці то лес, ці вада.
Дзесьці клічуць
Героя Каўказу,
Каб прыпомніць аб тым,
Як праходзілі тут
Пад гранітам старым,
Скіфы дзікія, пэрсы, каваны Рым.
І хазары, і готы, і гуны.
Толькі хвоя шуміць
Дый маўкліва ляжыць
Сіні вецер, як дым,
Што ў паветры сузорным
Заснуў паміж гор,
Крышталёвым стаўшы ў тумане.
Сумны коціцца гул;
Дзесь буруны гудуць
(то хазары і готы, і гуны...),
Ясны вецер у далях
Зьняў сіні свой шаль
І ў скалах ён зморany змоўк,
Застыў.

* * *

Як праходзіў аулам Іскандзер пясьняр,
На моладзь вясёлую глянуў,—
Дзяўчаты, як лані, чаркесы—арлы
Канефір карагодам вадзілі.
Адзін-жа дзяцюк перад мілаю стаў,
Кінуў вокам ён вострым, бліскучым,
І стрэльбу схапіў, і стрэльнуў увысь,
А яна закружылася п'яна,—
— Гэта сымболь каханьня.
Бо прызнаньня запал
Ей стрэл толькі выказаць здолее
І яе ставіць ён поруч з сілай агню;
А назаўтра яна прыдзе ў саклю яго
Маладою пакорнаю жонкай.

* * *

Вось ідзе наш пясьняр,
Наш Іскандзер, гарачы на слова!
Ўжо здалёку ўсе шчыра прасілі яго:
— Вазьмі нас, вазьмі нас

У казцы ў дуброву
Дзе растуць рададзендоры, ляўры і тыс,
Дзе блішчыць Мінгі-тау карона.
Хай раскажа пра бойкі ў аулах Дарго,
Што праклятыя рускія сьцерлі,
Жыватом зачапіўшы зьдзічэлы абвал.
Пра Шаміля і каня,
Пра Шыбле—бога сілы і грому,
Пра Заўтрае роду людзкога.

* * *

Ён багата, ён многа расказываў ім—
Яго слова напружна лавілі.
Старыя і моладзь—захоплены ўсе,
Зачарованым колам стаялі.
А з сакляй прынесьлі віна й шашлыку—
Гасьця частаваць дарагога.
Іскандзер, глынуўшы, ізноў пачаў...
Ён казаў, пахіліўшы да долу чало,
Ўспамінаючы мары старыя,
Што кволай ступнёю
Ўзыходзілі к межам развагі.
А часам пранізвалі памяці ймглу
Гаручым кап'ём,
І яскрава і востра,
Успаміны былой барацьбы.
І бывае, што ўстане дзяцюк малады
І поле стрыножвае крыкам:
„Наперад!
Слава! Слава!“

* * *

Было калісь, прайшло дзесяткаў сем
Гадоў шматкаляровых і далёкіх,
Як табуны прайшлі,
Адценьнямі гуляючы на горах,
Калі заходзіць сонца за туман.
І зараз ёсьць яшчэ між вамі
Дзяды з сівою галавой,
Як сьнежныя вяршыны,
Яны ўсё помняць гэта.
Цяпер ня мы гаспадары
Ў краіне гор і вольных горцаў!
Цяпер пануе той—ў лампасах,

Ў шынэлі з шабляю і ў гузіках бляшаных.
А нашы буркі ды кінджалы
За ўзгор'ямі хаваюцца ў лясох.
А як падкіне хто сухую помсту
Ў варожы сонны лягер-стан,
Дык доўга гоняцца за імі афіцэры,
Палохаючы стрэльбамі, агнём.
А вольныя аброкі
Ў тыя дні зьнішчаюцца зусім.

* * *

Тады пачаўся горкі час,
Калі упартых абадзехаў
З гор скінулі ў даліну
На стаптаную раўніну
І параскідвалі па стэпу,
Параскідвалі па тырсы.
І вось-жа ў тых, што прысягнулі
Мужнасьці й адвазе,
Рагамі ўпёрся дужы бык—
Сьляпога гневу.
А генэралы рускія—
Шаміля,
Як злоснага зубра,
Сагналі з гор, загналі ў сеці.
Як гадзіну з-пад каменя,
Ўзялі і выбілі дубінай гневу;
Цару пад ногі кінулі на Поўнач
І прыдушылі.
Эх, ня будзе ўжо другога Шаміля,
Як і слугі другога ў Магомэта!
Тады сам Варанцоў
Каўказу ў грудзі ўпіўся,
Атручваў, аб'ядаў,
Зьнішчаў агнём даліны.
Яго-ж падручныя зьніштожвалі лясы,
На скалах Лабы станіцы ўзьвялі,
Гарматы па-над Пшышам горлы надрывалі,—
Грымелі ў непакорныя аулы.
Дзядоў скідалі з круч,
Дзяцей аб камень разьбівалі,
Ў бяздоньне кідалі жанок,

І бралі на штыхі адважных адыгейцаў
За тое, што чужынцам
Скарыцца не хацелі,
Што не хацелі роднае зямлі
Аддаць чыноўнікам, аддаць паном праклятым.

Дый не хацелі ўзяць сабе ахвотна
Адно як быццам-бы сукатае ярмо,
Маскоўскае чыноўніцтва на шыю.

* * *

Яны прышлі апоўначы у горы
І атруцілі дзень, каб запалала ноч.
Агнём ахутаны галодныя аулы.
На сьнеданьне ўсе нашы бараны
Пайшлі грабежнікам праклятым.
А дзеці з голаду прымушаны ўміраць!
Год трыццаць панавала барацьба.
Лягло, лягло... і дзе там пералічыш...
Ня плачце зараз вы,
Браточкі родныя, ня плачце!
Скажэце вы, дзяды,
Скажэце маладым,
Вы белыя, як сьнег, ад долі тэй праклятай,
Хіба тады бацькі вас не насілі,
Хаваючы ад сьмерці,
Ў скалы Арарату?
Хіба-ж у зарасьлях Рыёну,
Якога вы ня помніце цяпер,
Дзе пальмы між ліян,
Дзе вінаград і фікус,
Хіба-ж ня там хавала маці
Вас маленькімі ад лютае напасьці?
„Так, так“... Схілілась сівізна
Асеньняю травою: „Праўда“...
І ўсё далей вёў сумны сказ пясьняр,
Той сказ-аповесьць болі і цярпеньня,
І словы біліся крыніцаю з грудзей.
„О, прыдзе час, ён прыдзе скора,
І загавораць горы,
Прачнуцца горы,
Ад выбухаў уздрыгнуць горы!
Але вы, родныя,

Паслухайце далей:—
Калі зьняволілі Каўказ,
Схіліліся вяршыні
І лес зялёны застагнаў:
Гудзелі сосны, плакалі яліцы,
Піхты заліваліся смалой,
І дуб зубамі скрыгітаў:
Аб тых, каго забрала барацьба,
Аб тых, хто ў моры згінуў,
Скаціўшыся з гарачым сэрцам
З халодных верхавін.
О, мора, мора,
Ты адно раскажаш,
Як тысячы загінулі ў цябе.
Як патапілі іх лаўцы нажывы,
І сьмерць знайшлі яны ў вадзе,
А не ў змаганьні...
Тады не пакарыліся шэпсугі
І ня схіліліся пакорна натухайцы:
Адны з асламі і лахмоцьцем пехатой
Пайшлі ў Турэччыну шукаць там лепшай
долі;
Другія йшлі на караблі,
Як птушкі ў вырай,
На выспу сярод мора.
Яны плылі ў Турэччыну па шчасьце,—
Жыцьцё ратуючы, плылі на караблі.
А гандляры, грабежнікі бяз сэрца,
Вывозілі й кідалі ў мора іх,
Як быццам кацянят за борт,
Спыніўшы карабель.
Ня чуў, ня чуў іх ляманту Каўказ,
І не насіла стогнаў дзікіх рэха,
Яны згіналі ў моры ўсе,
Як гукі у прасторах.

* *

Ня чуў Каўказ,
Як новыя ватагі прыбывалі,
І, быццам мухі, бераг аблягалі,
Чакаючы чаргі, каб пагрузіцца.
І гэтых-жа вывозілі у мора
І там тапілі, як шчанят.

Ратунку ня было.
А горы і ня ведалі,
Ў туман закутаўшыся,
Спалі,
Пакуль-жа мора ня прынесла
Да скал Каўказу
Сотні-тысячы
Нябожчыкаў, аб'едзеных, гнілых.
О, гэта суровае мора!—
Але яго суровасьць—
Людзкасьць абагнала
Сваёю здраднасьцю, агіднасьцю
І гневам.
Але мора, як яно да жальбы ні глухое,—
Усё-ж на бераг выкінула трупы.
О, тады горы
Ўжо не змаглі ўзварухнуцца,
Яшчэ больш пазарываліся ў сьнягі,
І сон схіліў іх цяжкія вяршыні.
Да гэтых пор ўсё сьпіць Каўказ!
— О, не, Каўказ ня сьпіць!
І шаблі забражджалі,
Кінджалы бліснулі, і водгульле з аулаў
Зноў адгукнулася ў гарах.

* * *

А раніцаю ў станіцы
Вырэзвалі чыноўнікаў,
Старшыняў і прадажных казакоў.
А потым за аброкамі ганялі эскадроны.
І дзесьці чуткі йшлі, як водгульле ад грому,
Што гэта нарабіў Іскандзер, наш пясьняр.

* * *

Да гор туман схіліўся,
Скруціўшыся ў клубкі,
Зачэпіць горы ён баязьліва бяз сьледу,
Плыве далей, сьпяшаецца,
На ласкуточкі рвецца,
Набягаючы на верхавіны скал—
І ўсё плыве і нікне.
Далей на ўзвышшы хмар табун
За межы за каменныя ўчапіўся,

Раскінуўся лагодна сярод ям
І вольна так паўзе,
Як сіла ці імгла.
А там, султаны з пер'я хмары
Вось-вось ускалыхнуцца,
Як быццам перад боем,
І з гулам рушацца з гарамі ў барацьбу.
Яно здаецца ўсё,
Яны ня рушацца, замоўклі,
Нібы адценьні на вадзе.
І гром не загрыміць—
Бо хмары разышліся.
Так сабіраў Каўказ
Паўстанцаў гордых сілу;
Але вось сонца, як Іскандзер,
Угледзеўшы паляну паміж хмар,
Вось супынілася, паданьне расказала.
А там, унізе, сярод дыму
Заснула мора.
А можа і ня сьпіць?
Прастор там згрэб рукою ўзоры
Валоў запененых,
Блакітам атуліў.
А ўнізе хай ракоча гнеў—
На скал маўклівасьць.
Унізе ён, а тут нячутна хваль.

* * *

О, сэрца просіцца,
Шырокае, як бязьмежнасьць, сэрца,
Ляцець над горамі ды з сілаю вятроў.
На неба клікаць-зваць,
Каб зарава раздуць
І цёмны люд падняць
За горцаў даўнія правы!
Хацелась вызваліць братоў,
Што ў саклях мохам зарасьлі,
І дзікім зельлем думак,
Здратаваных няволяй злосных катаў.
Іскандзер, о, ня спыніцца ніколі
Сьпяваць у горах, тут,
Калі адыге сьпяць!
Няхай праўьлецца песьня
І чары разарве.

О, песьня родная! О, песьня болі,
На скалы выкінь з нетраў змрок
І, сківіцы скрывіўшы,
Кінь аб камень—
На здабытак чарвяка.
О, песьня буйная,
Ня суджана пяяць табе
Пра хараство маўклівых кветак
І прадзедаў ўваскрошваць з дамавін
У справах слаўных для патомкаў.
О, не: крычаць нам трэба пра жывых,
Стварыць такую навіну,
Каб зьзяла ўсім вякамі,
Як ледаход на сонечным агні.
Я кінуць песьнямі хачу
Маім адыге, бешаным і нежным,
Слова роўнасьці, братэрства ўсіх у працы.

* * *

О, мая ты песьня, мой ты дыямэнт!
У словах хай тваіх
Ня толькі тоны променем ласкочуць,
Ня толькі розу і блакіт
На струнах фарбамі перабірае вецер,
Каб, як сьляза, зьвінела уваччу.
І хай ня толькі пышная шыпшына
У песьнях крыльлямі біецца,
Як сэрца мілае да пацалунку.
Хай уздыхае горны вецер,
Хай грымяць буруны і абвалы
І адгукнецца ў песьнях у мяне.
Хай зьняважаны народ мой
Ў аулах у сваіх пачуе гэты гул.

З украінскае мовы пераклаў

**А. Александровіч.**

# ПОЭЦЕ

**Е. Пфляумбаум**

Колькі смагі песеннай
нікне ў прыкрай шэрані,
шэрані, асьвечанай
блякласьцю жыцьця,
і ў зьвіваньні радасьці
ўздымнымі намерамі
нагадуеш блізка ты
малае дзіця...

Вочы заяскравілі...
смутак пераможаны,
ліраю пакорлівай
разаб'еш ты лёд:
песьня пераліўная
тузе варожая
абаўе у водзыўках
пунсавейны ўсход.

І усьмешкай ветлаю
азірнеш навокала:
сьветацені ніжуцца
ў пурпуры лістоў,
ты такі задумлівы,
зноў нэрвовым крокам
абуджаеш ў водзыўках
рэшту сьветлых слоў...

І такія кволыя,
бы заплачкі восені,
запалоніць смутак
твой парыўны зрок,
зноў ты ў звыклай шэрані
і адвечнай „просіні“-
ад таго жаданага
блізкі і далёкі...

І ужо ўсьцешаны...
ганарышся прыкрасьцю,
вочы завэлюмлены
срэбнаю расой...
Ты, поэт, і з горачы
можаш радасьць выкраіць
і у гучнай радасьці
празьвінець тугой!..

## ПАРТАВЫЯ ГАРАДЫ

*(Hafenstädte)*

**Іоганэс Бэхэр**

Гарады партавыя
ля салёнага мора!
З ім суседзтва
вам цяжка;
гэта моц
вас гняце:
ў час прыліву
так можа
павялічыцца скора—
мора пеніцца ўсюды,
мора хутка расьце.
Гарады разьвітаньня
і прыязьні нясталай!
Там, на вуліцах вашых,
часта можна пачуць:
— „Ах, ты гэта прыехаў!
дзесяць год ня відала...
Монтэвідэо помніш,
— дык у нас госьцем будзь".

---

Вось і сьпевам жалезным
там узбурана мора,
і віхор вые грозна,
і гудкі зараўлі,
і вада ўся бушуе
на бязьмежным прасторы.
Караблём ужо з докаў
і масткі падалі.

---

І вялізныя кранты
цягнуць збожжа і каву,
і па рэйках пайшлі там
гэтых крантаўпалкі,

ўздоўж па беразе ўсюды
працавалі на славу:
паднімалі, круцілі
скрынкі, бочкі, мяшкі.

Карабельнае бруха
праглынае жарліва
вугаль, перац і корак,
нафту і цынамон.
Гэта ўсё трэба будзе
і давезьці шчасьліва
— сотні, тысячы тонаў
— да далёкіх старон.

І з малюнкам блакітным
тут матросавы рукі
запраметнага лёху
паказаліся нам,
а пасьля зачынілі
ўсе на палубу люкі
і схаваліся ў труме
сярод вугальных ям.

Сапраўды, караблі,—
вы, як вандроўныя ямы,
афарбованы цьмяна
дзіўным зорным сьвятлом.
Птушкі цэлаю хмарай,
быццам чорныя плямы,
прылятаюць, садзяцца
на плывучы той дом.

А прыбыўшы у прыстань,
людзі цэлым патокам
тут на бераг выходзяць
ды імкнуцца хутчэй,
каб у норах ля порту
ўсім схавацца глыбока,
каб у брудных мярлогах
апынуцца скарэй.

З крыкам, з кваканьнем дзікім,
быццам жаб якіх куча,
к свайму багну імчацца,

дзе і гразь ёсьць і ймгла,
дзе з гарэлачнай пары
бачаць воблак лятучы,
дзе прыгожых танцорак
распрануць дагала.

---

Трэск джэз-бэнду мы чуем,
бачым: сонейка сьвеціць
залатое; на небе
папяровым яно...
Гэтых казак арабскіх:
хто-жа з нас ня прыкмеціць,
хоць у порце ўсё гэта
ўсім абрыдла даўно!

---

Раніцой, на сьвітаньні,
у блакітнай пустыні
зноў стаім мы за працай
на сваім караблі
з малатком і сякерай.
Хай жалеза ня стыне,
бо мы тлену багата
ў мех кавальскі далі!..

---

Так ідуць цераз мора
караблі сваім шляхам
сярод хмарак і хваляў,
і нябёс, і зямлі,
сярод морскіх бяздоньняў,
пад блакітным тым дахам,
што далёкі бязьмежна,
— так ідуць караблі!..

З нямецкае мовы пераклаў
**Л. Цьвяткоў.**

# НА АСЬНЕЖАНЫХ ДАЛЯХ...

**Аркадзь Куляшоў**

Пульхны сьнег над далінаю лёг,
Звонкім сьмехам, агнём заіскрыўся.
І жыцьця сакаліны узьлёт
Над палянамі ў радасьць разьліўся.

Пацалункамі сьнежнай красы
Дзень рассыпаўся ў словы-крышталі,
Буйным коласам творчая сыць
Узышла на асьнежаных далях...

Завілася у зрэбны вянок
Каласкамі кіпучых Саветаў.
Запляскалася ў радасьці ноў
У жаданьнях юнацкіх сагрэта.

Я, юнак, абніму гэту шыр,
Абніму гэту шыр маладую,
І пад рогат сталёвых машын
Да другога жыцьця павяслую...

Павяслую ў чароўны прастор,
Што ствarae жыцьцёвыя гоні,
Хай штодзенны юнацкі задор
У жаданьнях і радасьці звоніць!

Пацалункамі сьнежнай красы
Дзень рассыпаўся сёньня ў крышталі,
Буйным коласам творчая сыць
Узышла, завілася ў каралі.

м. Самацеевічы,
1927 г. 15-XII.

## У СЬВЕЦЕ ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНЫХ АДНОСІН

**І. Герчыкаў**

Ня толькі тыя, хто пільна сочыць за політычным жыцьцём і літаратурай Заходняй Эўропы, але і тыя, хто толькі датыкаецца з імі, не маглі не заўважыць, што за восем-дзевяць год з часу сканчэньня вайны да цяперашняга часу тры разы зьмяняліся політычныя настроі ў эўропэйскай буржуазнай політыцы і літаратуры.

У першыя гады пасьля вайны ўвесь буржуазны сьвет быў ахоплены бязьмерным пэсымізмам. Даволі было толькі глянуць за шыбы ў кнігарні, каб з рознакаляровых вокладак тоўстых і тонкіх кніг і брошур дыхнула гэтым бязвыходным пэсымізмам. Аб гэтым гаварылі самі назвы кніг. Аўтарамі большасьці гэтых кніг, якія гаварылі аб надзвычайна цяжкім, згубным стане буржуазнага грамадзтва, дзяржавы, культуры, цывілізацыі, былі ня тыя людзі, што даўно адмаўлялі ўстойлівасьць буржуазнага грамадзтва і якія яшчэ больш пераканаліся ў гэтым у выніку разбурэньняў і раскладу, прынесеных вайною, не выпадковыя людзі і не тэорэтыкі і філёзофы, нэрвы якіх ня вытрымалі напружанасьці вайны, не— гэта былі старыя практыкі буржуазнай політыкі, адказныя за істоту і характар яе ў апошнія дзесяцілецьці перад вайною 1914—18 г.г., за вайну, за Вэрсальскі мірны дагавор і тыя згубныя вынікі, якія ён у сабе таіў. Большасьць з іх толькі што падпісалі свае імёны пад статутам Лігі Нацый, статутам, які быў абвешчаны новым Эвангельлем, каб выратаваць сьвет. Тут быў і стары Італіінскі, політык, які ня раз займаў у мінулым самыя адказныя політычныя пасады, а ў 1919 г. зьмяніў Орландо на пасадзе старшыні савету міністраў Нітці, які пасьля Вэрсалю напісаў кнігу „Эўропа бяз міру“, а цераз два гады пасьля ў двухтомнай працы „Гібель Эўропы“ даводзіў бязвыхаднасьць таго тупіка, у які зайшла буржуазія. Быў тут Кайо, які ня раз займаў рознастайныя міністэрскія пасады і старшыні міністэрства Францускай рэспублікі, які недаўменна пытаўся „Куды ідзе Францыя? Куды ідзе Эўропа?“ і ня бачыў нічога, апрача таго-ж тупіка. З хваляваньнем і злосьцю аб бязвыходнасьці становішча, аб нямінучай катастрофе гаварыў Лёйд-Джорж на старонках усяго заходня-эўропэйскага друку ў цэлым шэрагу артыкулаў, сабраных потым у кнігу „Эўропэйскі хаос“. Удзельнік Парыскай мірнай конфэрэнцыі, якая нарадзіла Вэрсальскі дагавор, буйнейшы ангельскі экономісты, тэорэтык і практык Джон Мэйнард Кейнс, дасьледуючы

„Эканомічныя вынікі Вэрсальскага мірнага дагавору“ (назва кнігі), заканчваў гэту кнігу словамі: „Бязмэтна і бяз жаднага сэнсу гіне эканомічнае жыцьцё сучаснага сьвету“.

Мы ня будзем пералічаць пэсымістычнай літаратуры, якая пышным цьветам разраслася ў разьбітай у вайне Германіі. Досыць назваць толькі два імёны Шпэнглера і Лесінга,—з якіх першы надзвычайна хутка з стану школьнага настаўніка вырас ва ўсеэўропэйскую велічыню першага разраду, абвясьціўшы ў сваёй кнізе „Заход Эўропы“ гібель усёй заходняэўропэйскай культуры, а другі заняў месца побач з першым, абвясьціўшы гісторыю чалавецтва бяссэнсіцай у кнізе—„Гісторыя, як асэнсаваньне бяссэнснага“.

З канца 1924 да канца 1925 году надыходзіць кароткі пэрыод сякогатакога оптымізму. Гэта эпоха Эрыё і Макдональда, калі і ў Францыі, і ў Англіі гучаць радыкальныя прамовы, калі зьяўляюцца надзеі ў Германіі на тое, што ўдасца трохі паслабіць ціскі Вэрсальскага міру, калі Англія заключыла гандлёвую згоду з СССР, а Эрыё як быццам падрыхтоўваў да гэтага Францыю, калі, урэшце ўсяго, Амэрыка як быццам падышла бліжэй да Лігі Нацый і ў згодзе з Англіяй цераз плян Даўэса, на які пакладаліся такія вялікія надзеі, уносіла мірны струмень у жыцьцё хваляванай Эўропы, ліквідаваўшы окупацыю францускай арміяй Руру.

Гэтыя мірныя настроі знайшлі сваё выражэньне ў жэнэўскім протоколе Лігі Нацый (восень 1924 г.) і Лёкарнскай згодзе (16 кастрычніка 1925 г.).

З канца 1925 году зноў надыходзіць пэрыод пэсымізму. На зьмену міністэрства Макдональда ў Англіі прыходзіць урад цьвёрдакаменных консэрватараў Болдуіна—Чэмбэрлена, і ўсякія жэнэўскія і лёкарнскія размовы становяцца прахам; адначасова востра выяўляецца антагонізм інтарэсаў паміж Англіяй і Злучанымі Штатамі Паўночнай Амэрыкі, той антагонізм, які сягоньня пануе над усімі міжнароднымі адносінамі і зноў гоніць думкі, настроі буржуазных палітыкаў і публіцыстых у тупік пэсымізму.

Аглядаючы палітычную сытуацыю, Лёйд-Джордж, а разам з ім амаль увесь хор буржуазных палітыкаў, кажа аб тым, што „конфлікты, якія ня спыняюцца ў Эўропе, падрыхтоўкі да вайны і агульны дух нянавісьці ствараюць уражаньне, што калі розум не пераможа, то мае быць паўтарэньне катастрофы 1914 г.“ („Правда“ 26-Х—1927 г.).

Нас ня дзівіць гэта зьмена настрояў з перавагай пэсымізму над оптымізмам, бо для оптымізму сапраўды няма падстаў: ён мог-бы нарадзіцца з грамадзкіх адносін толькі пасьля больш радыкальнага іх перабудаваньня, калі-б была разьвязана асноўная проблема, якая выклікае ўсе ваенныя і рэволюцыйныя сутычкі ў сьвеце, кіраваным буржуазіяй, і якую на досьвітку прамысловага капіталізму Сызмондзі азначыў, як панаваньне вытворчасьці над чалавекам, замест таго, каб чалавек пана-

ваў над вытворчасьцю ў тым сэнсе, каб вялізарныя масы чалавецтва, рабочае клясы, ня былі выключна прадметам эксплёатацыі ў вытворчасьці, без таго, каб яны карысталіся тым дабрабытам, які выплывае з гэтага процэсу вытворчасьці.

Тую-ж думку супроць эксплёатацыі выказваў і Эмануіл Кант, калі пісаў: „Чалавек ня можа і не павінен служыць сродкам для чалавека“.

Зразумела, гэтыя сказы аб свабодзе чалавека, спароджаныя ў захапленьні рэволюцыйнай барацьбы прамысловай буржуазіі за канчатковае сваё прызнаньне, ляжалі ў баку ад тых шляхоў, па якіх ішло разьвіцьцё прамысловага капіталізму,—сучасныя публіцыстыя і тэорэтыкі, апалёгеты буржуазнага ладу, не варочаюцца больш да такіх палажэньняў: яны ставяць перад капіталістычным грамадзтвам больш вузкія задачы і зводзяць іх у канчатковым падрахунку да проблемы *пракорму насельніцтва*—тэй большай ці меншай *сытасьці*, якую дае насельніцтву буржуазны лад.

Так, буйнейшыя буржуазныя экономістыя сучаснасьці Вэрнэр Зомбард лічыць вельмі вялікаю заслугаю капіталізму тое, што, ня гледзячы на вялікі прырост насельніцтва Эўропы, а ў асаблівасьці Германіі на працягу XIX веку, капіталістычная сыстэма магла іх утоўпіць на абмежаванай тэрыторыі, усіх ня толькі пракарміць, але і адзець, і значна ўзьняць культурны ўзровень мас (пісьменнасьць і г. д.).

Зомбарт пісаў у пачатку XX веку ў момант гаспадарчага ўздыму, ня бачачы таго, што чакае капіталістычную сыстэму хоць-бы ў відзе вайны, якая выбухнула цераз некалькі год пасьля таго, як ён напісаў сваю кнігу аб нямецкай гаспадарцы ў XIX веку. Цяпер-бы ніхто ня пісаў такіх гордых слоў—проблема пракорму насельніцтва, пытаньне аб мінімальнай сытасьці вялізарных мас насельніцтва ўсіх частак сьвету, ахопленых сыстэмай капіталізму, якая ўяўляе з сябе цяпер сусьветную гаспадарку, стаіць з надзвычайнай вастратою; яна-то і палохае і ўздымае пэсымістычныя настроі, для якіх няма выхаду ў рамках капіталістычнае гаспадаркі, як няма магчымасьці ў рамках капіталістычнай сыстэмы вырашыць пытаньне аб тых галадаючых, што заўсёды існавалі, але колькасьць якіх непамерна ўзрасла ў сувязі з апошняй фазай капіталізму—імпэрыялізмам і вынікамі сусьветнай вайны 1914—18 г. г.

Нам вельмі мала прыдзецца гаварыць аб тым, як разьвязала буржуазія пытаньне аб пракорме насельніцтва ў пераважаючай частцы па-зазэўропэйскіх краін, якія яна даўно ўжо ўцягнула ў орбіту свайго ўплыву, зьмесьціла ў сыстэму свае гаспадаркі. Пакутныя масы Індыі, Кітаю, Інданэзіі кажуць аб гэтым досыць красамоўна. Неўраджаі, якія ахапляюць тэрыторыі з дзесяткамі мільёнаў насельніцтва і вядуць да мільённых сьмярцей ад голаду і эпідэмій, сталі ў гэтых краінах звычайным зьявішчам. У нямецкім афіцыёзе Лігі Нацый часопісі „Nord und Süd“, што выдаецца ў Бэрліне, у нумары за жнівень 1927 г. прэзыдэнт Лігі Нацый профэсар Джыльбэрт Мурэй у артыкуле „Die Probleme von Morgen“ рас-

казвае, што на адным з паседжаньняў Лігі, калі гаварылася аб голадзе ў Савецкім Саюзе ў 1921 г., прадстаўнік Кітаю заявіў: „Трыццаць мільёнаў маіх сваякоў вымерлі ў апошнім годзе ад голаду, і ніхто аб гэтым не сумаваў“.

Але выйдзем за межы гэтых краін, якія прадстаўляюць з сябе вялізарную галіну імпэрыялістычных катаваньняў і мільённых жахлівых сьмярцей. Паглядзім, што робіцца ў Эўропе, дзе капіталізм мае свае найвышэйшыя дасягненьні і дзе сыстэма гэта павінна была выявіць усе свае станоўчыя бакі ў максымальнай ступені, дзе пытаньне пракорму насельніцтва, як задача, якая яшчэ павінна быць вырашана, павінна было-б гучэць гіроніяй. А і тут гэта пытаньне стаіць надзвычайна востра, і пытаньне аб беспрацоўі сыгналізуе, што ў гэтай галіне надзвычайна небясьпечна. Спынімся на краінах найбольш разьвітога капіталізму—Англіі, Францыі і Германіі.

У Англіі беспрацоўе ў пасьляваенны час стабілізавалася і хістаецца каля лічбы ў 1.700 тыс.; калі выходзіць са звычайнага статыстычнага разьліку і прыняць пад увагу іх сем'і, то гэта складзе 8.500 тыс. чалавек на 44 млн. ўсяго насельніцтва Англіі. Без заработкаў, бяз сталых забясьпечаных і мінімальных сродкаў да існаваньня маецца 20 проц. насельніцтва.

У Германіі да апошняга часу колькасьць хісталася паміж 1.800 тыс.—2.300 тыс.; з сем'ямі гэта складала 9—15 млн. на агульны лік насельніта 59 млн. У апошні час карціна некалькі зьмянілася: на 15 ліпня 1926 году колькасьць беспрацоўных была 1.750 тыс. ці 18,1 проц. усяе колькасьці рабочых. На 15 ліпня 1927 году гэта лічба зьнізілася да 674 тыс., г. зн. зьнізілася да 6,3 проц., але к канцу году яна дайшла да 1 мільёна. Але ніхто не сумняваецца ў тым, што гэта чыста часовая зьява, якая, з аднаго боку, тлумачыцца ўсеагульнай і вугальнай забастоўкамі ў Англіі, дзякуючы чаму Германія часова заняла ангельскія рынкі і збыла вялізарныя запасы каменнага вугалю і жалеза, нажыўшы на гэтым на працягу 6—7 месяцаў дадаткова 800—1.000 млн. рублёў; з другога боку, гэта тлумачыцца прыцёкам грошай па пляну Даўэса, які цяпер патрабуе вывазу сродкаў, а таму Германію чакае вялікі крызіс, які ў першую чаргу выразіцца ў росьце беспрацоўных і які давядзе іх колькасьць да нормальнае для пасьляваенных гадоў, паказанае вышэй колькасьці.

Францыя да апошняга часу ня ведала беспрацоўя; нават больш таго—у Францыю пасьля вайны было ўвезена два мільёны рабочых. Але гэта тлумачыцца ня станам і запатрабаваньнямі прамысловасьці ды тых рынкаў, куды Францыя можа вывозіць сваю продукцыю, а часоваю акалічнасьцю. Вялізарная колькасьць рабочых патрэбна была для аднаўленьня Паўночнай Францыі, разбуранай у часе вайны. Цэлым радам унутраных і замежных пазык і сродкаў, атрыманых у рахунак рэпарацый ад Германіі,—для адбудаваньня разбуранай часткі Францыі была мобілізавана максымальна магчымая сума грошай—80 мільярдаў залатых

франкаў. Мы ведаем, чаго каштавала Францыі гэта апэрацыя, калі грашовая інфляцыя настолькі зьнізіла францускі франк, што ён і цяпер ня можа падняцца і стаіць, пасьля цэлага раду мерапрыемстваў, на ўзроўні 7,5 кап. замест 47 кап. 80 мільярдаў страчана, канечна патрэбныя работы скончаны—і беспрацоўе ўступіла ў свае правы. Калі некалькі месяцаў таму назад пытаньне аб гэтым было пастаўлена ў францускім парляманце, міністр працы заявіў, што першым выхадам зьяўляецца выселеньне двух мільёнаў чужаземных, эміграваўшых рабочых. Гэта былі жахліва жорсткія словы, а зараз гэта жахліва жорсткая справа ажыцьцяўляецца, і да вялізарных мас беспрацоўных у Польшчы, Чэха-Славаччыне, Румыніі далучаюцца новыя масы, выкіданыя з Францыі. Але, ня гледзячы на гэта, расьце беспрацоўе ўнутры самой Францыі сярод тубыльнага францускага насельніцтва.

Чым-жа тлумачыцца гэта стабілізаваная наяўнасьць галодных і напоўгалодных мас у Эўропе? Можа яна тлумачыцца дыспропорцыяй паміж ростам вытворчых сіл і ростам насельніцтва, прычым насельніцтва расьце хутчэй, чым вытворчыя сілы і жыцьцёвыя сродкі, дзякуючы чаму апошніх не хапае для лішняга прыросту насельніцтва?

Сапраўднасьць кажа іншае. За трынаццаць год перад сусьветнай вайною ў каменна-вугальнай прамысловасьці, якая зьяўляецца паказчыкам стану вытворчых сіл, здабываньне вугалю вырасла на 70 проц., лік-жа насельніцтва павялічыўся на 15 проц.—за час вайны насельніцтва зьменшылася, вытворчыя сілы ў цяперашні час перарасьлі ў сэнсе сваіх магчымасьцяй (не рэальнага дзеяньня) даваенныя нормы, і таму можна гаварыць аб дыспропорцыі, але толькі ў бок росту жыцьцёвых сродкаў. Калі такім чынам адхіляецца тлумачэньне прычыны беспрацоўя, паказанаю дыспропорцыяй, то яна карэніцца ў фактарах соцыяльнага парадку, выплывае з грамадзкай дэзорганізаванасьці і ў парадку грамадзкім павінна быць вырашана.

У першыя гады пасьля вайны буржуазныя тэорэтыкі сьцьвярджалі, што беспрацоўе зьнікне з аднаўленьнем разбуранай вайною прамысловасьці. З таго часу гэта мэта—аднаўленьне прамысловасьці—дасягнута, а пытаньне з беспрацоўем ня вырашана. І няма нічога дзіўнага—хіба мае якіянебудзь адносіны буржуазнае аднаўленьне прамысловасьці да скарачэньня беспрацоўя? Аднавіць прамысловасьць пабуржуазнаму—гэта значыць аднавіць яе рэнтабельнасьць, прыбытковасьць, гэта значыць усялякімі навуковымі і ненавуковымі шляхамі павялічыць норму эксплёатацыі рабочых, зьменшыўшы іх колькасьць. Да гэтага па істоце зводзіцца капіталістычная рацыяналізацыя прамысловасьці. Адмоўнае дзеяньне гэтай рацыяналізацыі на рабочых падваяецца яшчэ тым, што яна ажыцьцяўляецца ва ўмовах монополістычнага капіталізму, які звужае рамкі вытворчасьці для павялічэньня прыбыткаў. І пасьля вайны, ня гледзячы на ўсе прыгожыя размовы і буржуазных і соцыял-рэфоміцкіх экономістых аб

гаспадарчай дэмократыі і палюбоўным падзеле рынкаў сыравіны і збыту, капіталізм не саскочыў са сваёй монополістычнай восі і прытрымліваецца старога прынцыпу скарачэньня вытворчасьці, калі гэта адпавядае павялічэньню прыбыткаў, ня гледзячы на тое, што гэта політыка падаражае жыцьцё спажываючых мас, часта карэнным чынам дэзорганізуе зварот продуктаў і павялічвае беспрацоўе. Досыць толькі прыглядзецца да экономічнай проблемы, якая хвалюе цяпер увесь сьвет,—да „каўчукавай вайны“, каб пераканацца, што монополістычны імпэрыялізм непадзельна пануе ў буржуазных экономічных адносінах.

Каўчукавая вайна вядзецца з канца 1925 году. Выклікана яна была штучным падвышэньнем цаны на каўчук з боку Англіі па дзьвюх прычынах: 1. Англія, каб захаваць сталасьць сваёй валюты, урэгулявала свае даўговыя адносіны са Злучанымі Штатамі Паўн. Амэрыкі, абавязаўшыся выплачваць шэсьцьдзесят мільёнаў рублёў штогод на працягу 62 год. Яна знайшла магчымым пакрыць гэты выдатак за кошт Злуч. Штатаў, падняўшы цэны на каўчук, бо ангельскія трэсты контролююць 80 проц. сусьветнае вытворчасьці каўчука, тымчасам як Злуч. Штаты штогод выпускаюць 4 мільёны аўтомобіляў і пры надзвычайна разьвітай электрыфікацыі спажываюць 75 проц. сусьветнае вытворчасьці каўчука. З другога боку, каўчуку ў 1913 годзе выраблена 108.000 ангельскіх тон (ангельская тона—1.016 кг.), а ў 1924 г. было выраблена 420.000 анг. тон, што выклікала перавытворчасьць, і ў 1924—1925 г.г. надышоў крызіс. Тады была скарочана вытворчасьць згодна пляну Стывэнсона. За аснову ўзята была продукцыя 1920 г. і зьніжана на 40 проц. Цана на каўчук узьнялася з 36 цэнтаў за фунт у лютым 1925 г. да 109½ цэнтаў к лістападу таго-ж году.

Злучаныя Штаты палічылі штучнае падвышэньне цаны на каўчук як удар па іх інтарэсах, і іх міністр гандлю Гербэрт Гувэр выкрыў у гандлёвай палаце Паўн.-Ам. Злучаных Штатаў ангельскія махінацыі і заявіў, што „калі Эўропа хоча распачаць вайну з-за сыравіны, то ёй літасьці ня будзе“. І Злучаныя Штаты імкнуцца адказаць уздымам цаны на нафту, здабываньне якое яны рэгулююць на 90 проц. і, што яшчэ больш згубна для мас эўропэйскага насельніцтва, на вывозімыя сельскія продукты і бавоўну. „Каўчукавая вайна“, якая стварае вялікія няшчасьці ў шырокіх гаспадарчых і політычных адносінах, была прадметам гутаркі розных зьездаў і конфэрэнцый, не выключаючы і экономічнай конфэрэнцыі Лігі Нацый, і да цяперашняга часу гэта вайна ня спынілася. Монополія ва ўсёй сыстэме капіталістычнае гаспадаркі наганяе цэны, вытворчасьць зьніжае. Што-ж застаецца ад посьпехаў аднаўленьня капіталістычнае гаспадаркі і рацыяналізацыі?—Павялічэньне прыбыткаў капіталістых, абвастрэньне беспрацоўя і дарагоўлі.

Буржуазная думка спрабуе знайсьці выхад са становішча ў тэорыі народанасельніцтва і практыцы ў галіне рэгуляваньня насельніцтва.

Тут у першую чаргу трэба спыніцца на тэорыі і практыцы народанасельніцтва, якая зводзіцца да пашырэньня штучнага зьмяншэньня нараджэньняў, пачынаючы з пропаведзі позьніх шлюбаў, жыць халасьцякамі як мужчынам, так і жанчынам, канчаючы пашырэньнем ведаў, як папярэдзіць цяжарнасьць. Гэта ёсьць нэомальтузыянства, якое мае значную колькасьць прыхільнікаў, а на многіх рабочых зьездах, асабліва ў Англіі, выстаўляецца патрабаваньне пашырэньня за дзяржаўны кошт ведаў, як папярэдзіць цяжарнасьць. Але пакуль што вакол нэомальтузыянства больш шуму, як сапраўдных практычных вынікаў, калі ня лічыць таго, што яно дапамагае зацямняць сьвядомасьць рабочых і пераносіць цэнтр цяжару іх пакут з сапраўднай прычыны соцыяльнай няўладжанасьці капіталізму на зданьнёвую прычыну—лішак нараджэньняў.

Адначасна з нэомальтузыянствам вялікія надзеі пакладаюцца на *эміграцыю.* Буйнейшыя ангельскія экономістыя Кэйне і Гарольд Райт кажуць, што ў цяперашні час „кіраваць—значыць высяляць“. Праўда, гэты ня новы сродак—песьня надта старая, але пры новай абстаноўцы. Да вайны за 15 год з Эўропы выехала 17 мільёнаў чалавек, пераважна ў Паўн.-Амэр. Злучаныя Штаты.

Яшчэ да вайны Злучаныя Штаты сталі скарачаць колькасьць прымаемых у краіну эмігрантаў, а пасьля вайны з 1921 г. амаль зусім закрылі доступ на сваю тэрыторыю, каб ухіліцца росту беспрацоўя ў сваёй краіне і зьніжэньня ўзроўню жыцьця сваіх рабочых. Усё гэта зроблена пад націскам Амэрыканскай Фэдэрацыі Працы і проці яўна выказанай ганьбы з боку Лігі Нацый. Бадай што шмат каму вядома гісторыя аб тым, як у 1921, 1922 г.г. транспорты з дзесяткамі тысяч эмігрантаў ня былі дапушчаны да берагоў Злучаных Штатаў, а ўся маса іх высаджана на славутыя з таго часу ў Атлянтыцкім акіяне выспы, якія былі названы выспамі сьлёз, і дзе тысячы эмігрантаў загінулі ў жудасных умовах, а рэшта з непамернымі намаганьнямі і пакутамі прабіраліся ў тыя месцы, адкуль яны выехалі.

Ня ў лепшае становішча трапілі тыя эмігранты, думаўшыя абыйсьці суровыя законы, што закрываюць доступ у Злучаныя Штаты, шляхам праезду цераз Мэксыку ці Канаду, якія мяжуюцца са Злучанымі Штатамі. Яшчэ і да гэтага часу хваля ў некалькі соцень тысяч чалавек б'ецца з паўдня і поўначы аб межы Злучаных Штатаў, дарэмна спрабуючы прабрацца ў зямлю жаданую, дзе рабочы ў сярэднім атрымлівае рэальную заработную плату ў чатыры разы большую, як ангельскі рабочы.

Да апошняга часу Англія магла яшчэ вывозіць нязначную колькасьць сваёй рабочай сілы ў відзе кваліфікаваных рабочых; цяпер-жа прамысловая рацыяналізацыя і гэты вываз спыніла, бо яны не патрэбны для Злучаных Штатаў. На рацыяналізаваных прадпрыемствах попыт на кваліфікаваную рабочую сілу даведзен да мінімуму. На прадпрыемствах, напр., Форда да працы пасьля аднаго дня навучаньня прыступаюць

43 проц. ўсёй рабочай масы; 36 проц.—пасьля васьмі дзён навучаньня; 6 проц.—пасьля двух тыдняў; 14 проц.—пасьля аднаго месяца і толькі 1 проц. патрэбна вучыцца да шасьці год.

Сьледам за Злучанымі Штатамі доступ для эмігрантаў закрыты ва ўсе краіны, больш ці менш прыгодныя для гэтага, як, напр.: Паўднёвую Афрыку, Аўстралію, Новую Зэляндыю і дзяржавы Паўднёвай Амэрыкі. А разам з тым у сваіх перанаселеных граніцах затыхаюцца кітайцы, японцы, індусы. Надзвычайна характарна, што свабода перасяленьня ня існуе нават унутры Брытанскай імпэрыі. Індус, брытанскі падданы, які затыхаецца ў Індыі, ня можа пераехаць у другую частку Брытанскай імпэрыі—у Аўстралію. Калі на брытанскай імпэрскай конфэрэнцыі Англія зрабіла спробу выступіць супроць Аўстраліі і Паўднёвай Афрыкі на абарону індусаў, першыя дзьве дзяржавы ясна заявілі, што гэта можа служыць выстарчальнаю падставаю для пастаноўкі пытаньня аб выхадзе іх з Брытанскай імпэрыі.

Пытаньне аб тым, каб адкрыць абедзьве часткі (Паўднёвую і Паўночную) Амэрыкі для японскай эміграцыі, зьяўляецца асноўным ва ўзаемаадносінах паміж Злучанымі Штатамі і Японіяй і, па думцы шмат якіх вельмі аўторытэтных асоб, можа зьявіцца прычынаю ваеннае сутычкі паміж гэтымі дзьвюма краінамі.

У канчатковым падрахунку ні аднаўленьне прамысловасьці, ні разьвіцьцё яе, ні рацыяналізацыя, ні нэомальтузыянства, ні эміграцыя не вырашаюць элемэнтарнага пытаньня аб пракорме насельніцтва, без вырашэньня якое ўстойлівасьці ў грамадзкіх адносінах быць ня можа. Яшчэ такі хітры і спрактыкаваны эксплёататар мас, як Напалеон III, часта паўтараў буржуазіі, жадаючы скараціць некаторыя ўжо занадта прагавітыя апэтыты яе, што армія ў дзьвесьце тысяч галодных—самая страшная армія. Нават і тыя, хто надзвычайна баіцца рэволюцыі, баіцца нават выгаварваць гэта слова,—мяркуючы, што яе можна ўхіліцца, калі аб ёй не гаварыць,— і гэтыя вымушаны прызнацца, што пры такіх умовах магчыма рэволюцыя.

*Як-жа яе ўхіліцца?*

Адным з сродкаў для гэтага зьяўляецца імкненьне выйсьці з кола сусьветна-капіталістычных адносін, адгарадзіцца ад рэволюцыі, выскачыць з складанага пераплёту міжнародных адносін, замкнуцца ў сабе і ў сябе ўсё спросьціўшы, у сабе і для сябе вырашыць. Старое грэцкае слова *аўтаркія*, якое абазначае поўнае самазадаваленьне, замкнёнасьць, незалежнасьць пры задаваленьні ўсіх сваіх запатрабаваньняў ад навакольнае асярэдзіны, ніколі ня было ў палітычным сэнсе так популярна і так пашырана, як цяпер. Стварыць такую вялікую па прасторы дзяржаву, якая мела-б у сваёй тэрыторыі ўсё канечна патрэбнае для задаваленьня патрэб гаспадаркі, дасягнуўшай вышэйшай ступені капіталістычнага разьвіцьця,— вось здань нашых дзён, якая на сваю карысьць эксплёатуе імпэрыялізм усіх буйных дзяржаў—у першую чаргу Паўн.-Амэр. Злучаныя Штаты,

краіну, якая, здавалася-б, найбольш забясьпечана ад рэволюцыі і якая разам з тым найбольш баіцца тых вялізарных здрыгаў, якія для яе нясе з сабой рэволюцыя.

Вось чаму ідэя Пан-Амэрыкі—адзіная дзяржава, якая ахапляе ўсю Паўночную і Паўднёвую Амэрыку з усімі выспамі, што знаходзяцца каля яе на абодвух акіянах і некаторымі выспамі каля ўсходня-азыяцкіх берагоў.

Трэба, паміж іншым, адзначыць, што Пан-Амэрыка—ня новы лёзунг і вядзе свой пачатак з 1776 г., з таго часу, як былыя ангельскія колёніі на тэрыторыі Паўн. Амэрыкі аб'ядналіся і ў рэволюцыйным паўстаньні адлучыліся ад сваёй мэтрополіі. Тады яны прынялі назву „Злучаныя Штаты (дзяржавы) Амэрыкі". Гэтаю назваю яны хацелі сказаць, што кожная эўропэйская колёнія на тэрыторыі Паўднёвай або Паўночнай Амэрыкі, якая па іх прыкладу рэволюцыйна паўстане супроць сваёй мэтрополіі, знойдзе ў Злучаных Штатах падтрыманьне і пасьля адлучэньня будзе ўключана ў іх саюз, які ўрэшце ўсяго ахопіць усю тэрыторыю вызваленай ад эўропэйскага ўладарства Амэрыкі. Тады лёзунг Пан-Амэрыкі быў рэволюцыйным і надзвычай непакоіў эўропэйскую рэакцыю. З таго часу гэты лёзунг значна эволюцыянізаваў за ўсім процэсам; за гэтай эволюцыяй мы ня будзем сачыць, адзначым толькі, што ў цяперашні час гэты лёзунг—лёзунг самага чыстага амэрыканскага імпэрыялізму, які эксплёатуе яго для зьдзяйсьненьня сваіх захопаў. Калі пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі ў жніўні 1924 г. пры перамаўленьнях аб расійска-ангельскім дагаворы дыплёматы задалі савецкім прадстаўніком пытаньне аб тым, чым тлумачыцца гэта неазначанасьць назвы—„Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік", ці ня кажа гэта назва аб адсутнасьці пэўных граніц і яўным імкненьні да бязьмежнага ўцягваньня ўсё новых і новых тэрыторый у Саюз, савецкія прадстаўнікі не адмаўлялі, што яны маюць на ўвазе ў будучыні ахапіць адзіным саюзам соцыялістычных дзяржаў усю Эўропу і нават увесь сьвет. Але калі дыплёматы заявілі, што з дзяржаваю, якая ня мае пэўных граніц, немагчыма весьці і перамаўленьняў, як з неаформленай юрыдычна велічынёю, то савецкія прадстаўнікі паказалі, як на прэцэдэнт, на дагавор Англіі са „Злучанымі Штатамі Амэрыкі" ў канцы XVIII веку.

Праўда, да апошняга часу ня было і тэхнічных умоў для ажыцьцяўленьня лёзунгу Пан-Амэрыкі. Калі трынаццаць колёній утварылі Злучаныя Штаты паміж Атлянтыцкім акіянам і Алеганскімі горамі, то перамагчы тыя бясконцыя малакультурныя прасторы, якія ляжалі паміж імі ды іншымі колёніямі Амэрыкі, для таго, каб злучыцца з імі, было абсолютна немагчыма, і Англіі пры сіле яе флёты, як марской дзяржаве, значна лягчэй было мець зносіны з Канадай. Яшчэ горш было Злучаным Штатам у сэнсе пашырэньня свайго ўплыву на Поўдзень, дзе за граніцамі іх пачыналіся жахлівыя сваім дзікунствам у той час зваротнікавыя краіны. Цяпер карціна зьмянілася—неабсяжныя прасторы і з Поўдню

і з Поўначы культываваны. Чыгункі перарэзалі ўсе часткі абедзьвёх Амэрык удоўж і ўпоперак. Панамскі канал зьвязаў важнейшыя краіны Паўднёвай і Паўночнай Амэрыкі найкарацейшымі вадзянымі шляхамі. Заняпад сусьветнага значэньня ангельскае гаспадаркі, паколькі гэты заняпад пашырыўся і на Паўднёвую (Латынскую) Амэрыку, заахвоціў пасьпяшацца з захопам пазыцый, якія стала траціць Англія, а з заняпадам сусьветнай гаспадаркі пасьля вайны і з надзвычайным экономічным і політычным узмацненьнем Злучаных Штатаў у выніку вайны 1914—18 г.г., апошнія яшчэ больш энэргічна сталі разьвіваць сваю экспансію пад лёзунгам пан-амэрыканізму.

Першы імпэрыялістычнага характару пан-амэрыканскі конгрэс адбыўся ў Вашынгтоне ў 1890 годзе, і там ужо выразна выявілася, што фактычная падлегласьць амэрыканскіх краін Злучаным Штатам пад заслонаю роўнасьці ў пан-амэрыканскіх адносінах зусім ня вабіць дзяржаў, асабліва Паўднёвую Амэрыку, а на IV конгрэсе ў Буэнос-Айрэсе нават утварыўся славуты анты-пан-амэрыканскі саюз Аргентыны, Бразыліі, Чылі (Chili), вядомы пад назваю ABC саюзу.

Але разам з тым усё больш і больш напружна разгортваецца барацьба паміж ангельскім імпэрыялізмам і імпэрыялізмам Злучаных Штатаў Паўдн. Амэрыкі: Чылі, Бразылія, Пэру, Аргентына, Мэксыка—зьяўляюцца арэнаю іх барацьбы. Гэта яны субсыдуюць грашыма і зброяй сплываючыя крывёю ў грамадзянскай вайне варожыя групы, прыводзяць да галечы багатыя сваімі прыроднымі рэсурсамі краіны. Як толькі якаянебудзь група возьме ўладу, зараз-жа організаванае агентамі і падтрыманае сродкамі Англіі ці Злучаных Штатаў паўстаньне праз пэўны час скідае гэтую групу. Гэтыя імпэрыялістычныя інтрыгі зьяўляюцца віною тэй урадовай чэхарды, якую мы назіраем у гэтых краінах.

А што прадстаўляюць сабою гэтыя краіны?

Чылі—краіна нябачанай нявольніцкай эксплёатацыі рабочых у салетравых і іншых капальнях, парабкоў на плянтанцыях. Усё чыста эксплёатаванае насельніцтва няпісьменнае і знаходзіцца пад уладаю каталіцкіх папоў і алькоголю. Для пролетара ня існуе іншае назвы, як рото (абадранец). Сухоты сталі бытавою хваробаю, і сьмяротнасьць непамерна вялікая. Стыхійныя бунты рабочых у такіх умовах вельмі частыя і бязьлітасна расстрэльваюцца. Усе рухі абвешчаны рухам за „саветы", і ўсякі актыўны рабочы здымаецца з вытворчасьці, ссылаецца, разглядаецца, як комуністы. У адным з апошніх паўстаньняў было, паводле афіцыяльных даных, расстраляна 3.000, вельмі многа паранена, арыштавана 600 і саслана 1.000 чалавек.

Бразылія—краіна самага дзікага фэўдалізму. Нявольніцтва зьнішчана толькі 50 год таму назад. Становішча сялян штурхае іх на жахлівыя бунты, якія прымаюць пераважна рэлігійную афарбоўку са сьвятымі, хрыстамі і багародзіцамі і нагадваюць бунты сялян у Францыі і Германіі

ў XV і XVI ст. ст. А іншы раз паўстаньні гэтых нявольнікаў, што прыносяць вялізарныя дывідэнты, працуючы на каўчукавых і цукровых плянтацыях, нагадваюць паўстаньні Сьцёпкі Разіна і Амелькі Пугачова. А прэзыдэнт рэспублікі Артур Бэрнардэс заклікае ратаваць Бразылію ад бальшавіцкай небясьпекі. А разам з тым Англія і Злучаныя Штаты ўсё больш распальваюць барацьбу за ўладу ў вышэйшых эксплёатуючых клясах, прычым Англія падтрымлівае зямляўласьнікаў, а Злучаныя Штаты—прамыслоўцаў.

Зусім іншы і больш культурны характар мае барацьба паміж гэтымі двума імпэрыялізмамі ў Канадзе, прычым Злучаныя Штаты ўсё больш і больш выцясьняюць Англію. Гэта пытаньне ўжо ў выстарчальнай ступені высьветлена ў нашым друку і, паміж іншым, намі ў „Полымі“[1]).

А тымчасам самі-то Злучаныя Штаты ня так ужо забясьпечаны ад рэволюцыі, як тое здаецца. Гэта толькі ў сягонешні дзень яны адбіваюць такім бляскам; у гістарычным ахапленьні гэты бляск вельмі хутка робіцца цьмяным.

Сваімі прасторавымі абшарамі Злучаныя Штаты нагадваюць Брытанскую імпэрыю, але апошняя складалася і зьбівалася на працягу стагодзьдзяў пад уплывам надзвычайна важкіх і грунтоўных экономічных і політычных фактараў, Амэрыканская-ж імпэрыя[2])—у працягу 3—4 дзесяцілецьцяў сілаю самага бяссорамнага прыгнечаньня і ўціску. Вайна адразу высунула Амэрыку вельмі далёка ўперад, прычым і вытворчасьць, і экспорт, і накапленьне багацьцяў у ёй адбывалася не на нормальнай базе эксплёатацыі росту вытворчых сіл і патрэб у навакольнай асярэдзіне, а на базе абслугоўваньня разбуральных патрэб вайны. Яна ня столькі расла стварэньнем новых каштоўнасьцяй, колькі перамяшчэньнем старых з краін, уцягнутых у вайну, і гэтым самым скарачала рынак для збыту продукцыі сваёй, якая разьвівалася, прамысловасьці. Усе гэтыя ненормальныя факты яе разьвіцьця адбіваюцца на экономічным і політычным становішчы амэрыканскай буржуазіі, і яна вымушана заігрываць, і шляхам гэтага заігрываньня і ўступак стрымліваць вялізарныя, пакуль што потэнцыянальныя, рэволюцыйныя сілы амэрыканскага пролетарыяту. Але затое рэволюцыйныя выбухі ўсё больш і больш пачынаюць трэсьці пэўную эксплёатаваную масу ў колёніях, і рэволюцыйныя рухі ў Порто-Рыко, Сан-Домінго, Кубе, на Філіпінскіх выспах становяцца ўсё больш і больш частымі, абарачаючыся ў непарыўны рэволюцыйны рух.

[1]) „Полымя“ № 5 і № 7 за 1925 г. „Занапад Брытанскае імпэрыі“; „Занапад ангельскай гаспадарчай гегемоніі“; № 8 за 1926 г.—„Таямніца Брытанскай імпэрыі“.

[2]) Пад няіснуючым офіцыяльна, але фактычна прынятым цяпер у літаратуры тэрмінам „Амэрыканская імпэрыя“ разумеюцца Злучаныя Штаты плюс усе краіны, якія знаходзяцца ў яе фактычнай падлегласьці або пад яе ўплывам (гл. кнігу Скотта Нірынга „Американская империя“, Госиздат 1926 г.).

Калі складалася Брытанская імпэрыя, афрыканскія і азыяцкія народы спалі глыбокім сном і прадстаўлялі сабою бязмоўную масу,—цяпер-жа ва ўсіх краінах коцяцца хвалі нацыянальна-вызваленчых рухаў, таксама як коцяцца яны па Латынскай Амэрыцы, і падпарадкаваць іх, на колькі-небудзь доўгі час, падначаліць іх сабе немагчыма. Англія мела заўсёды вялізарную стратэгічную лінію, якая патрабавала павялічанай ахраны, але да апошняга часу ня мела досыць дужых супраціўнікаў, якія маглі-б яе разарваць. Стратэгічная лінія Злучаных Штатаў перакрыжоўваецца стратэгічнымі лініямі найдужэйшых яе супраціўнікаў—Англіі і Японіі, ня кажучы ўжо аб Францыі, і ўсе конфэрэнцыі накшталт Вашынгтонскай (1921 г.), якія пад страхам экономічнае і ваеннае магутнасьці Злучаных Штатаў павінны прывесьці да скарачэньня ўзброеньня яе супраціўнікаў, не далі і не дадуць ніякіх станоўчых вынікаў. Большая ці меншая запінка ў гаспадарцы выявіць усе супярэчнасьці капіталістычнай сыстэмы на пашыранай базе і будзе справодзіцца вялізарнымі грамадзкімі здрыгамі.

Амэрыканская буржуазія прышла занадта позна для таго, каб стварыць сваю імпэрыю. Ангельская буржуазія стварыла Брытанскую імпэрыю ў пэрыод усходзячага, а амэрыканская—у пэрыод нісходзячага капіталізму, і гэтага найважнейшага факту ніякімі сіламі ня ўхіліш.

Як мараць пан-амэрыканістыя, прастору іх будучай імпэрыі можна азначыць наступным чынам. *На захадзе*—ламанай лініяй ад Аляскі да Філіпінскіх выспаў і ад Філіпінскіх выспаў да Магелянавае пратокі. *На ўсходзе*—простай лініяй усьцяж берагоў Паўднёвай і Паўночнай Амэрыкі па Атлянтыцкаму акіяну і ад Паўднёвага да Паўночнага канцавосьсяў. Бескарысна пералічаць тую колькасьць краін і народаў, якіх трэба перамагчы для таго, каб ажыцьцявіць гэту мару. Без заўладаньня гэтымі граніцамі аўтаркія, сьцьвярджаюць пан-амэрыканісты, не ажыцьцявіма.

Дарма гаварыць аб тым, што і мара гэта ніколі ня будзе ажыцьцёўлена. Але затое яна пакуль што як найлепш эксплёатуецца для апраўданьня імпэрыялістычнай экспансіі.

Больш маладою зьяўляецца мара аб пан-Азіі, аб якой марыць Японія. Першую сваю вылазку на азыяцкія берагі Японія зрабіла ў японакітайскай вайне 1894 г. Гэта вылазка ў ваенных адносінах была вельмі ўдалая, і, разьбіўшы кітайскія ваенныя сілы, Японія разьлічала ўмацавацца ў цэлым радзе краін Кітаю. Але гэтая спроба сустрэла самы жорсткі адпор з боку дужэйшых эўропэйскіх дзяржаў. Прышлося згадзіцца на перагляд заключанага з Кітаем надзвычайна выгаднага для Японіі міру ў Сімоносэку на міжнароднай конфэрэнцыі. На гэтай конфэрэнцыі амаль усе дасягненьні Японіі былі зьведзены на нішто. Праўда, у падзяку за такую абарону Кітай вымушаны быў уступіць эўропэйскім дзяржавам рад партоў і краін. Так, Расія ўмацавалася ў Порт-Артуры і Манчжурыі,

Германія падначаліла свайму ўплыву Кіо-Чао, Англія—Гонконг і г. д. Тады-то ў процівагу гэтаму яшчэ больш умацавалася пан-азыяцкая ідэя і вырас цэлы рад організацый для дасягненьня гэтай мэты, а генэральны штаб выдаў офіцыяльную карту „Найвялікай Японіі“. Гэта карта ўключае:

*На ўсход*—усю Полінэзію. Паміж іншымі дзяржавамі трэба выпхнуць Злучаныя Штаты.

*На поўдзень*—Філіпінскія выспы, Зондскі архіпэляг, Аўстралію Трэба, паміж іншым, выпхнуць Злучаныя Штаты і Англію.

*На захад*—Сіам, узьбярэжжа Кітаю, Монголію, Манчжурыю, Корэю, Амурскую і Прыамурскую краіны. Трэба выпхнуць Злучаныя Штаты, Англію, Францыю.

*На поўнач*—Сахалін, Камчатку, Бэрынгавы выспы, Якуцкую краіну. Перамога ў руска-японскай вайне павялічыла надзеі пан-азыятаў. Перавага жоўтай расы над белай стала ўлюбёнаю тэмаю іх публіцыстыкі і навукі. Хакабатцу (белая небясьпека) зрабілася тэй сілаю, з якою трэба змагацца. Пан-азыяцкае таварыства надзвычайна пашырылася. Быў высунуты цэлы шэраг гістарычных прэтэнзій супроць белых. Так, напр., сьцьвярджалі, што выпадковае „заваяваньне“ 300 год таму назад Сібіры дзікім казаком Ермаком не дае Расіі ніякага моральнага права, каб валодаць ёю, а тое, што яна як быццам і экономічна вельмі мала выкарыстана і выкарыстоўваецца, не дае Расіі і фактычнага права. Таксама адмаўлялася права Англіі на Індыю. Зазначалася на „шкодны“ ўплыў Паўн.-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў у Азіі. Вайна 1914 г. прынесла пан-азыятам вялікія посьпехі, а Кастрычнікавая рэволюцыя, думалі яны, прывядзе да падзеньня ўплыву Расіі ў расійскіх азыяцкіх краінах і ў Кітаі. Цэлы рад краін сапраўды з-пад нямецкага ўплыву трапілі ў сфэру японскага ўплыву, але інтэрвэнцыя ў СССР праваліласа. Ня вельмі добра вышла і ў Кітаі. Зараз-жа пасьля вайны ў 1915 г. Японія прадыктавала Кітаю 21 ўмову, якія абярнулі Кітай у японскую колёнію. Але Японіі потым прышлося скараціць свае апэтыты пад націскам Злучаных Штатаў і Англіі, а кітайскі рэволюцыйна-вызваленчы рух зусім разьбівае ўсе надзеі на аўладаньне Азіяй. На пан-азыяцкім конгрэсе ў Нагасакі 1-га жніўня 1926 году, які адбываўся пад старшынствам японца і дзе Японія намацвала свае пан-азыяцкія пэрспэктывы, прадстаўнік Кітаю выступіў рэзка і супроць Англіі, і супроць Японіі.

Распад Брытанскай імпэрыі і неажыцьцявімасьць стварэньня найвялікай аўтаркіі ў відзе „Найвялікшай Брытаніі“ выстарчальна асьветлены ў нашым друку і, паміж іншым, намі ў часопісах „Полымя“ і „Красная Новь“ [1]).

І так, няма магчымасьці замкнуцца, выскачыць з сусьветных гаспадарчых і політычных адносін, ствараючых політычную сытуацыю.

---

[1]) „Полымя“ паказана вышэй. „Красная Новь“, Масква, ліпень 1927 г.

Але тады, можа быць, магчымы іншы выхад? Можа быць, ён знойдзены ў Лізе Нацый? Увесь сэнс яе існаваньня месьціцца ў перамаганьні вайны і рэволюцыі. Але статут Лігі Нацый сам сьцьвярджае, што гэтыя мэты могуць быць дасягнуты толькі пры скарачэньні ўзброеньняў і палюбоўным, справядлівым разьмеркаваньні сыравіны. Пакуль што ні конфэрэнцыі па разброеньні, ні экономічныя конфэрэнцыі не далі ніякіх радасных вынікаў, і надзея на іх усё больш і больш падае нават у тых, хто яшчэ нядаўна быў прыхільнікам Лігі. Выхад з яе француза дэ-Жювэнэля і ангельца Робэрта Сэсыля, які сам зьяўляецца аўтарам статуту Лігі Нацый, кажа аб гэтым досыць яскрава. Мы спадзяемся, што нам ўдасца яшчэ вярнуцца да гэтай тэмы для больш грунтоўнага яе асьвятленьня.

Поруч з Лігай Нацый для падмацаваньня яе бясьсільля ўтварылася Ліга Нацыянальных Меншасьцяй. Ліга адкрасавала, не пасьпеўшы зацьвісьці. Два яе конгрэсы вынесьлі чыста дэкляратыйныя пастановы. Украінцы, літоўцы, беларусы вышлі з першай-жа конфэрэнцыі, паказаўшы на тое, што Ліга не абараняе, а прадае іх інтарэсы, і на другой засталіся толькі назіральнікамі.

Зусім новым, які стараецца перамагчы вайну і рэволюцыю, зьяўляецца пан-эўропэйскі „рух", узьнікшы з 1923 г. Кволая кветка чыста пацыфіцкай продукцыі, ён накіраваны супроць усіх імпэрыялістычных экспансій: Пан-Амэрыкі, Пан-Азіі, Брытанскай імпэрыі, але асабліва і галоўным чынам супроць пашырэньня сыстэмы саветаў, і бярэцца разбурыць сыстэму саветаў. Цэнтрам гэты „рух" мае політычна і экономічна бясьсільную і несамастойную Аўстрыю, праўдзівей, яе сталіцу Вену. Мы гаварылі аб „руху" ў двукосьсі, таму, што ён выражаецца пакуль што ў аднэй толькі часопісі, якая выдаецца абломкам старога аўстрыйскага фэўдалізму фон-Кудэнхофэнам-Калергі, які ў свой час выдаў кнігу аб Пан-Эўропе. Гэты-ж самы Калергі, ды яшчэ скрыпак Губэрман і запаўняюць амаль цалкам старонкі невялічкае часопісі. Яны пагражалі стварыць пан-эўропэйскі конгрэс, але так і не знайшлі ідэолёгічнай базы ці практычнай прапановы, вакол якіх можна было-б гэты конгрэс склікаць. Апрача артыкулаў Губэрмана і Калергі, у часопісі зьмяшчаюцца лісты розных высокапастаўленых асоб. У гэтым сэнсе часопісь прадстаўляе сабой парлямант надзвычайна рознагалосых выказваньняў. Адны сьцьвярджаюць, што Ліга Нацый павінна зьявіцца апораю для ажыцьцяўленьня пан-эўропэйскага ідэалу, другія сьцьвярджаюць, што другі павінен панаваць над першай. Адны патрабуюць цеснага контакту са Злучанымі Штатамі, другія кажуць аб неперапаможнай ваеннай коррупцыі Злучаных Штатаў. Ангельцы баяцца, што ўся ідэя накіравана супроць іх радзімы, і патрабуюць абавязковага ўдзелу Англіі; немцы-ж кажуць, што ўключэньнем Англіі будзе забіта роўнасьць у Пан-Эўропе, а таму пан-Эўропа павінна ўтварыцца абавязкова без ангельцаў, і нават італьлянец Лямброзо піша аб тым, што Пан-Эўропа—гэта „канец гістарычнаму піра-

мідападобнаму эгоізму Англіі". Буйнейшы ангельскі экономісты Гобсон рабіў спробу падвесьці якую-небудзь экономічную базу пад гэту ідэю і вымушан быў прызнацца, што гэта яму не ўдалося. Так ні да чога і ня могуць дагаварыцца пан-эўропэйцы.

Такія супярэчнасьці імпэрыялістычных, нацыянальных і клясавых інтарэсаў разьбіваюць усе спробы тэорэтычнага і практычнага вырашэньня проблемы наладжанасьці політычных і экономічных адносін у рамках буржуазнага грамадзтва для таго, каб можна было вырашыць проблему пракорму насельніцтва, перамагчы вайну і рэволюцыю. Буржуазная думка блудзіць у цемры, сее пэсымізм і, бачачы бязвыходнасьць свайго становішча, прадракае гібель эўропэйскай цывілізацыі і ўсёй культуры чалавецтва.

Усё паказанае кажа аб тым, што проблема пракорму, як і проблема канчатковага зьнішчэньня войнаў і рэволюцый, вырашаецца стварэньнем соцыялістычных штатаў Эўропы або ўсяго сьвету, шлях да якіх ляжыць цераз разбурэньне капіталістычнага грамадзтва пасьля цэлага раду міжнародных і грамадзянскіх войнаў.

# ПРОБЛЕМА МЯСТЭЧАК*)

## М. Карклін

### I

Агульнае разьвіцьцё народнае гаспадаркі Беларусі, а прыватна— разьвіцьцё сельскае гаспадаркі і прамысловасьці—даюць магчымасьць узяцца за вырашэньне таго пытаньня, якое называецца „Проблемай мястэчак“.

Політычна да гэтага пытаньня мы падышлі з кастрычнікавых дзён, а практычна, пагаспадарчаму, пачынаем вырашаць яго толькі зараз у апошнія месяцы.

Праўда, дзесяць год пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі далі магчымасьць вызначыць некаторыя практычныя шляхі ўпарадкаваньня мястэчак. Мы ўжо маем некаторыя вынікі, але гэтага мала, бо гаспадарчае ўпарадкаваньне мястэчак трэба разумець ня толькі як мерапрыемствы па надзелу насельніцтва зямлёю, але як агульны гаспадарчы росквіт іх на ўзроўні з агульным гаспадарчым разьвіцьцём усяе Беларусі.

Мы зараз маем пастанову Саўнаркому БССР аб далейшых мерапрыемствах па гаспадарчым упарадкаваньні мястэчак, дзе ў адным з пунктаў адзначана, што к 10-й гадавіне Кастрычнікавай рэволюцыі ў выніку ёсьць моманты дасягненьняў нязвычайнага характару. Праведзена вялікая работа па організацыі местачковае беднаты, яе культурнага разьвіцьця; надзелена зямлёю 7.950 сем'яў плошчаю ў 54 тысячы гэктараў.

З мерапрыемстваў, якія праводзіліся савецкаю ўладаю апошнія годы, вось гэтыя мерапрыемствы асабліва станоўкія і даюць гаспадарчабытавыя эфэкты.

Цяпер паўстае пытаньне: ці зьяўляецца мэтазгодным існаваньне мястэчак у нас на Беларусі, ці патрэбна ў організацыйнай сыстэме народнае гаспадаркі захаваць мястэчкі, разумеючы пад гэтым ня толькі самую назву, але і ўсё тое, што зьяўляецца тыповым для мястэчак: быт, экономіку і гэтак далей.

Мястэчка не павінна мець месца ў нашай сыстэме народнае гаспадаркі, яно зьяўляецца лішняю адзінкаю, якая стаіць паміж горадам і вёскай.

Зразумела, што нельга разумець ліквідацыю мястэчка, як ліквідацыю адміністрацыйнай адзінкі, толькі як зьнішчэньне „шыльды“, самой назвы, і замены гэтае назвы іншай, як „сяло“ або „горад“. Гэта было-б занадта проста.

---

*) Даклад на пленуме яўработнікаў КП(б)Б 28 студзеня 1928 г. (скарочаны).

Перад намі задача ліквідацыі старых капіталістычных местачковых традыцый, усіх старых і шкодных праяў, якімі характарызуецца мястэчка. Вядома, што ўсё карыснае, мэтазгоднае павінна быць захована незалежна ад таго, будзе мястэчка прадстаўляць сельскае ці гарадзкое насельніцтва. Такім чынам, у паняцьце „ліквідацыі мястэчак“ прыходзіцца ўкладаць шырокую і складаную політычную, гаспадарчую і культурную задачу, вырашэньне якое патрабуе значнага часу і павінна ажыцьцяўляцца паступовым і плянавым шляхам.

Зараз канечна патрэбна рабіць і далей тую работу, што вядзецца цяпер, г. зн. надзел местачковага насельніцтва зямлёю шляхам утварэньня спэцыяльных зямельных фондаў, аграрызацыі часьці местачковага насельніцтва, пашырэньне шэрагу сельска-гаспадарчых мерапрыемстваў і напружнае ажыцьцяўленьне мэліорацыйных і зямлябудаўнічых работ вакол мястэчак.

Далей пойдзе работа па ўзмацненьні саматужна-рамесьніцкіх і прамысловых мерапрыемстваў і пры гэтым організацыя прамысловых прадпрыемстваў ня толькі мясцовага значэньня, але ў асобных выпадках і дзяржаўнага.

Такім чынам, у мястэчках, дзе ёсьць належныя ўмовы, як, скажам, сыравіна, транспортная сувязь ды інш., канечна трэба будзе пабудаваць і некаторыя буйныя прамысловыя прадпрыемствы, што дасьць магчымасьць замацаваць ня толькі аграрныя, але і прамысловыя мерапрыемствы, і ператварыць мястэчкі ў паселішчы гарадзкога тыпу.

Усё гэта, вядома, патрабуе сродкаў, крэдытаў, будаўнічых матэрыялаў і г. д., а таксама вялікае ўвагі з боку акруговых устаноў і організацый; усё гэта патрэбна ў большай меры, чым было дагэтуль.

Вядома, што ў гэтай рабоце мы спаткаем шэраг перашкод, затрымак, памылак, але канечна трэба будзе іх перамагчы.

Дзяржплянам праведзена падрыхтоўчая работа (ёсьць матэрыял 9 мястэчак). Вызначана ўпарадкаваць дзевяць лепшых мястэчак, якія ў працягу двух гадоў дадуць наглядны эфэкт, і пасьля з большаю сьмеласьцю рабіць гэта далей.

Усяго ў БССР ёсьць 56 мястэчак.

Спачатку вызначана па адным мястэчку на кожную акругу, каб усіх іх уцягнуць у гэту работу і распачаць яе ў гэтым годзе.

Адносна ўпарадкаваньня рэшты 48 мястэчак трэба выпрацаваць плян, які ахапіў-бы пяцігадовы пэрыод. Вядома, што ў нас няма такіх экономічных пэрспэктыў, каб у пяцігадовы пэрыод упарадкаваць усе 56 мястэчак. Вось чаму ўзята лінія, каб у 5-леткі нашага гаспадарчага разьвіцьця была відаць работа па ўпарадкаваньні мястэчак, каб у некаторых мястэчках гэта работа набліжалася да канца; у гэты-ж час у некаторых мястэчках работа будзе толькі пачынацца.

Матэрыялы, якія ёсьць у Дзяржпляне адносна гэтых 9 мястэчак зьяўляюцца прыблізнымі орыентавальнымі, шкілетам тых мерапрыемстваў, якія трэба ажыцьцявіць. Нашай задачай зьяўляецца: дадаткова сабраць матэрыялы ў пэўны тэрмін, каб лепей увязаць нашы пляны з экономічнымі магчымасьцямі і культурнымі задачамі. Каб матэрыялы былі больш поўнымі і пэўнымі, трэба будзе паслаць спэцыяльных людзей у гэтыя мястэчкі, каб там, на месцы, усё высьветліць, прамерыць, вылічыць, паставіць, такім чынам, справу не габінэтным спосабам, а жывою работаю, жывым абменам думак з жыхарамі.

Падыход павінен быць асьцярожны, бо справа гэта новая, надзвычайна складаная і жартаваць з такімі мерапрыемствамі нельга. Пачаць гаспадарчае ўпарадкаваньне мястэчак, гэта тое самае, што залажыць фундамант фабрыкі: раз пачаў, дык трэба скончыць, ды так скончыць, каб у выніку гэтае работы меў і палітычны, і экономічны, і культурны эфэкт.

У БССР, апрача 56 мястэчак, ёсьць яшчэ шэраг другіх паселішчаў местачковага тыпу, якія, аднак, маюць назвы сёл, тут работа па ўпарадкаваньні іх павінна праводзіцца так, як і ў іншых сельскіх пунктах. Такім чынам, гутарка ідзе толькі пра 56 мястэчак (устаноўленых спэцыяльнымі законамі) і ня шырэй.

I

Калі паглядзім на тыя статыстычныя матэрыялы, якімі даводзіцца карыстацца, то па насельніцтву мы маем наступны малюнак:

*Табліца № 1.*

Насельніцтва 56 мястэчак БССР.

| | 0–7 | 8–16 | 17–49 | 50 і звыш. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| Усё насельніцтва | 31.470 | 32.821 | 74.193 | 26.494 | 164.978 |
| „ у %% да агульнае лічбы | 19,08 | 19,90 | 44,97 | 18,05 | 100 |
| Не яўрэяў | 18.070 | 16.812 | 43.745 | 12.210 | 90.837 |
| „ у %% да агульнае лічбы | 19,89 | 18,51 | 48,16 | 13,44 | 100 |
| Яўрэяў | 13.400 | 16.009 | 30.448 | 14.284 | 74.141 |
| „ у %% да агульнае лічбы | 18,07 | 21,59 | 41,07 | 19,27 | 100 |

Такім чынам, у гэтых 56 мястэчках насельніцтва складае каля 165 тысяч (з гэтага ліку 90 тысяч прыпадае на яўрэйскае насельніцтва) Цікавыя лічбы мы заўважаем паводле ўзросту:

Лік дзяцей не яўрэйскае нацыянальнасьці ў веку да 7 год складае каля 20 проц. (яўрэйскіх дзяцей да 7 год да 18 проц.); жыхароў звыш 50 год налічваецца—не яўрэяў каля 13,5 проц., яўрэяў—19 проц.

Калі ўзяць частку насельніцтва, якая паводле ўзросту лічыцца найбольш працаздольнай, г. зн. ад 17—40 год, дык мы ўбачым, што гэты ўзрост у мястэчках складае крыху болей 48 проц. (яўрэйскае насельніцтва ў гэтым узросьце дае толькі 41 проц.).

З гэтых лічбаў мы бачым нязначнае нараджэньне, меншы процант працаздольнага насельніцтва, ды вялікі лік старых у яўрэйскай групе насельніцтва.

Надзвычайна цікава адзначыць яшчэ адзін момант—гэта граматнасьць асобных груп насельніцтва мястэчак паводле нацыянальнасьцяй і параўнаць іх з сярэдня-беларускімі лічбамі:

*Табліца № 2.*

Граматнасьць насельніцтва 56 мястэчак БССР.

| | 0—7 | 8—16 | 17—49 | 50 і звыш. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| Усё насельніцтва | 31.470 | 32.821 | 74.193 | 26.494 | 164.978 |
| % граматных | 3,03 | 82,98 | 78,41 | 45,09 | 59,59 |
| Не яўрэі | 18.070 | 16.812 | 43.745 | 12.210 | 90.837 |
| і % няграматных | 2,12 | 75,79 | 72,64 | 32,10 | 53,77 |
| Яўрэі | 13.400 | 16.009 | 30.448 | 14.284 | 74.141 |
| % граматных | 4,18 | 90,52 | 86,71 | 56,20 | 66,75 |
| % граматных па БССР па гэтых групах насельніцтва | 0,2 | 52 | 55 | 30 | 40,7 |

На падставе гэтых лічбаў прыходзіцца констатаваць, што граматнасьць местачковага насельніцтва ў сярэднім значна вышэй, чым сярэдняя граматнасьць на Беларусі для іншых усіх груп.

Так, граматных дзяцей да 7-гадовага веку ў сярэднім па Беларусі маем 0,2 проц., а ў мястэчках—каля 3 проц; ва ўзросьце ад 8 да 16 гадоў граматных па Беларусі налічваецца каля 52 проц. а ў мястэчках у сярэднім—82 проц.; граматных ва ўзросьце 17—49 у мястэчках звыш 78 проц., ва узросьце звыш 50 год сярэдні процант граматных у мястэчках 45 проц., а сярэдні беларускі—30 проц.

Сярэдні процант граматных для ўсяго насельніцтва Беларусі—40,7%, а для местачковага—60 проц. Гэта зьяўляецца станоўкім фактам для работы ў мястэчках.

Калі паглядзім на граматнасьць асобных нацыянальных груп у самых мястэчках, то ўбачым такі малюнак: процант граматнага дарослага яўрэйскага насельніцтва на 13—14 проц. перавышае сярэдні процант граматнасьці ўсяго местачковага насельніцтва. Прычына гэтага параўнальна высокага проценту граматнасьці тлумачыцца ня школьнай граматнасьцю, але граматнасьцю рэлігійнага характару.

Дакладных вестак аб граматнасьці яўрэйскага насельніцтва мы ня маем, таму нельга па гэтаму проценту рабіць вывадаў аб больш высокай граматнасьці яўрэйскага насельніцтва ў параўнаньні з іншымі нацыянальнасьцямі.

Цікавымі зьяўляюцца лічбы насельніцтва мястэчак па полу.

Калі ўзяць галоўную працаздольную частку насельніцтва—ад 17 да 49 год, то мы ўбачым, што ў сярэднім на 100 мужчын у мястэчках прыпадае 108 жанчын, тымчасам як сярэдняя беларуская лічба: на 100—106,2. (У яўрэйскай часьці на 100 мужчын—112 жанчын).

Пры далейшым падзеле яўрэйскага насельніцтва паводле ўзросту мы ўбачым: ва ўзросьце 25—29 год (а гэты ўзрост дае гаспадарцы найбольшую карысьць) на 100 мужчын яўрэяў прыпадае 140 жанчын яўрэяк; у той-жа час на 100 мужчын не яўрэяў прыпадае 103 жанчыны не яўрэйкі. З гэтага мы бачым, якая вялізная розьніца, і якія ў сувязі з гэтым паўстаюць сур'ёзныя задачы. Гэты лішак жанчын павінен будзе ўзяцца за працу, а інакш тут могуць быць такія процэсы, як, скажам, упадніцтва ды інш., непажаданыя для савецкае грамадзкасьці.

Адносна жаночае працы адкрываецца шырокае поле чыннасьці, патрэбна організацыя майстэрань, сябрынь і г. д., і г. д.

Паўстае пытаньне, чым тлумачыцца гэта зьява? Трэба лічыць, што яўрэі-мужчыны ва ўзросьце ад 25 да 29 год выяжджаюць з мястэчка, шукаюць сабе рознае працы, прыстрайваюцца ў гарадох. А ў мястэчках застаецца даволі вялікі процант больш слабае, менш здольнай прыставацца да жыцьця, часткі насельніцтва—дзеці, старыя і жанчыны.

Некалькі заўваг адносна характарыстыкі социяльнага складу насельніцтва. Гэтае пытаньне нельга абаснаваць поўнымі статыстычнымі данымі, прыходзіцца карыстацца выбранымі данымі, па якіх можна мець уяўленьне аба ўсіх мястэчках.

Вось, напрыклад, мястэчка Уваравічы, Гомельскай акругі: сельскаю гаспадаркаю займаецца 321 сям'я або 63 проц., саматужнікаў 71 сям'я—14 проц., гандляроў—каля 4 проц., розныя заняткі (тут няма падзелу, сюды, мусіць, уваходзяць рабочыя і прыватныя профэсіі)—6 проц. і служачых—каля 13 проц.

У мястэчку Бешанковічы, Віцебскае акругі: усяго 690 сем'яў, з іх саматужнікаў—37 проц. (257 сем'яў), гандляроў—9,2 проц. (66 сем'яў),

бяз пэўных заняткаў — 30 процантаў (сюды павінна ўвайсьці насельніцтва, якое займаецца сельскаю гаспадаркаю), служачых—каля 13 проц., рабочых каля 3 проц., розныя заняткі (дактары ды інш.)— каля 7,5 проц.

Малюнак соцыяльнага складу гэтых двух мястэчак дае нам некаторае прыблізнае прадстаўленьне і аб другіх мястэчках, і гэтыя даныя можна лічыць за аснову пры практычным абгаварэньні мерапрыемстваў, хоць-бы ў стасунку да тых 9 мястэчак, якія маюць быць упарадкаваны ў першую чаргу.

Больш поўны падлік мы маем местачковага насельніцтва, занятага зямляробствам.

*Табліца № 3.*

Забесьпячэньне зямлёю насельніцтва 49 мястэчак БССР.

| Усяго двароў, | Лік двароў забясьпечаных зямлёю | Яўрэйскіх | Іншага насельніцтва | Усяго зямлі | У яўрэйскага насельніцтва | У сярэднім на двор | Іншага насельніцтва | У сярэднім на двор | Дворы, якія маюць толькі сядзібы | Лік зямлі пад сядзібамі | Лік двароў, якія ня маюць зямлі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 27.860 | 12.588<br>100% | 2.331<br>22,7% | 10.257<br>77,3% | 42.858,88<br>100% | 2.439,68<br>5,7% | 1,05 | 40.419,2<br>94,3% | 3,94 | 11.836 | 2.124,09 | 3.436 |

З гэтае табліцы мы бачым, што ў 49 мястэчках—27.860 двароў, і забясьпечана ворнаю зямлёю 12.588; пры гэтым, калі разьбіць апошнюю лічбу па нацыянальных групах, то мы ўбачым, што на яўрэйскае насельніцтва прыпадае 22,7 проц. двароў, 5,7 проц. палявое зямлі. У гэтых-жа 49 мястэчках 3.436 двароў зусім ня маюць зямлі.

Адносна ўхілу ў вытворчы бок трэба сказаць, што кожнае мястэчка мае свае асаблівасьці, напр., у Бешанковічах насельніцтва мае вялікі сельска-гаспадарчы ўхіл. У Краснапольлі—саматужна-прамысловы, гандлёвы.

Малазямельле асабліва наглядаецца ў яўрэйскай частцы насельніцтва, і гэта выклікае жаданьне займацца інтэнсыўнымі формамі гаспадаркі, скарыстоўваецца кожны кавалачак зямлі, разводзяцца такія рэчы, як капусная расада, для задаволеньня патрэб сялянства (Асьвеі), або займаюцца малочнаю гаспадаркаю (Уварава), дзе ў 1917 годзе ў сав. гаспадарку здана 12 тысяч літраў малака для перааапрацоўкі, або разводзяць і здаюць у перааапрацоўку бульбу і нават выраблюць віно з садавіны.

Усё гэта трэба прыняць пад увагу, каб у нашай рабоце ня было агульнага шаблённага падыходу.

Цяпер адносна прамысловых прадпрыемстваў.

*Табліца № 4.*

Дзяржаўныя і коопэрацыйныя прамысловыя прадпрыемствы (дробнага тыпу ў 56 мястэчках БССР).

| Віды прадпрыемстваў | Лік установ: Усяго | Лік установ: У т. л. наёмных рабочых | Усяго з іх занята асоб | У гэтым ліку: Адзінак | Іншых улас. установ. | Членаў сям'і. | Членаў сябрынь | наёмных рабочых | Вучняў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| а. Дзярж. прац.-колект. | 45 | 45 | 235 | — | — | — | — | 211 | 24 |
| адносн. грамадзк. вага | 0.6 | 7,3 | 2,1 | — | — | — | — | 17,2 | 1,9 |
| б. Коопэрац. . . . . | 26 | 26 | 113 | — | — | — | — | 103 | 10 |
| адносн. вага . . . | 0,4 | 4,2 | 1,0 | — | — | — | — | 8,4 | 0.8 |
| в. Прыватн. і сябрын. . | 6.853 | 543 | 11.078 | 4.117 | 2.768 | — | 255 | 912 | 1.241 |
| адносн. вага . . . | 99,0 | 88.5 | 96,9 | 100,0 | 100,0 | — | 100,0 | 74,4 | 97,3 |
| Усяго . . | 6.924 | 614 | 11.426 | 4.117 | 2.768 | — | 255 | 1.226 | 1.275 |

Такім чынам, мы бачым, што перад гаспадарчымі організацыямі, асабліва саматужнай коопэрацыяй, адкрываецца шырокае поле чыннасьці: весткі ЦСУ паказваюць, што мы маем слабыя дасягненьні па ўзмацненьні ды пашырэньні соцыялістычных элемэнтаў. Так, у 56 мястэчках ёсьць каля 6.924 розных прадпрыемстваў, з якіх толькі 45 знаходзяцца ў руках дзяржавы, а ў коопэрацыйных організацыях—толькі 26; гэта значыць, што 99 проц. усіх местачковых прадпрыемстваў належыць прыватным асобам. У большасьці гэта дробныя прадпрыемствы, але ў шмат якіх выпадках яны дыктуюць экономіку мястэчак, бо ў іх працуе звыш 11.000 чалавек, у тым ліку каля 1.200 вучняў.

Табліца нам дае такі малюнак:

*Табліца № 5.*

Саматужнікі, рамесьнікі і прам. прадпрыемствы (у галоўных галінах) у 56 мястэчках БССР у проц. да агульнае лічбы.

| Назва вытворчасьці | Лік прадпрыемств.: абсолют. | адн. вага | Усяго ў іх занята асоб: абсолют. | адн. вага | Лік прадпрыемств., уласьнікі якіх займаюцца сел. гаспад.: абсолют. | адн. вага |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Ганчарная . . . . . | 200 | 2,9 | 279 | 2,5 | 146 | 13,6 |
| 2. Кавальская . . . . | 529 | 7,7 | 939 | 8,5 | 76 | 7,1 |
| 3. Сталярская . . . . | 302 | 4,4 | 436 | 3,9 | 460 | 5,6 |
| 4. Хлебапякарная . . . | 318 | 4,6 | 578 | 5,2 | 15 | 1,4 |
| 5. Скураная . . . . . | 318 | 4,6 | 685 | 6,2 | 70 | 6,5 |

| Назва вытворчасьці | Лік прадпрыемств. | | Усяго ў іх занята асоб | | Лік прадпрыемств., уласьнікі якіх займаюцца сель. гас. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | абсолют. | адн. вага | абсолют. | адн. вага | абсолют. | адн. вага |
| 6. Штэпарная . . . | 187 | 2,7 | 335 | 3,0 | 1 | 0,1 |
| 7. Кравецкая мужч. . . | 840 | 12,3 | 1.290 | 11,7 | 48 | 4,4 |
| 8. Кравецкая жаноч. . | 523 | 7,6 | 737 | 6,6 | 33 | 2,1 |
| 9. Шапачная . . . . | 175 | 2,5 | 278 | 2,5 | — | — |
| 10. Шавецкая . . . . | 1.971 | 28,8 | 2.831 | 25,3 | 398 | 36,9 |
| 11. Іншыя . . . . | 1.490 | 21,9 | 2.690 | 24,6 | 230 | 21,3 |
| Усяго . . . . | 6.853 | 100,0 | 11.078 | 100,0 | 1.077 | 100,0 |

Паводле даных 1926 году, з усіх гэтых прадпрыемстваў цесна зьвязаны з сельскаю гаспадаркаю 772. Асабліва гэта сувязь вызначаецца: у ганчарнай вытворчасьці—135 прадпрыемстваў, кавальскай—53, сталярнай—46, скуранай—30, аўчыннай—45, кравецкай—58, шавецкай—298. З гэтае-ж табліцы № 5 відаць, што 1.077 уласьнікаў прадпрыемстваў займаюцца сельскаю гаспадаркаю.

Мы бачым, што тая ці іншая галіна вытворчасьці зьяўляецца ў мястэчку пераважаючай; напрыклад, у Крычаве ганчарнай справай займаюцца 27 проц. усіх саматужнікаў, у Коханаве кавальскай—21 проц., у Глуску сталярнай—32 проц., у Сьмілавічах скуранай—31 проц. Што-ж да пэрспэктыў разьвіцьця, дык трэба адзначыць, што, напрыклад, скурнікі ў Сьмілавічах ды іншых мясцох ніякіх пэрспэктыў ня маюць, бо тут разьвіцьцё прыватных скураных прадпрыемстваў пачынае шкодзіць дзяржаўнай прамысловасьці ў галіне атрыманьня сыравіны. Гэтак сама ніякіх пэрспэктыў ня маюць ільняныя сябрыні, маслабойкі—іх прыдзецца зачыняць, бо сыравіна пойдзе выключна для дзяржаўных прадпрыемстваў.

У такім-жа стане знаходзяцца і лясныя сябрыні і саматужныя лесапілкі; ім нават цяпер прыходзіцца зачыняцца з-за адсутнасьці сыравіны.

І цэлы шэраг саматужных прадпрыемстваў маюць вельмі слабыя пэрспэктывы разьвіцьця, і што пры ўпарадкаваньні мястэчак трэба мець на ўвазе.

Трэба яшчэ адзначыць, што 69,5 проц. саматужнікаў зьяўляюцца шаўцамі і краўцамі.

У іх яшчэ пэрспэктыва можа быць па сувязі з сялянствам, бо прамысловыя пэрспэктывы для гэтых саматужнікаў вельмі цяжкія, паколькі яны ня могуць конкураваць з дзяржаўнымі прадпрыемствамі.

Паглядзім на заработак саматужнікаў. Тут малюнак сумны. Саматужнік у Асьвеі, паводле даных за лістапад 1926 году, у сярэднім у месяц зарабляе ад 5 да 35 руб. У Сьмілавічах, паводле вестак фінансавае

інспэктуры, сярэдні месячны заработак складае 25—40 руб. У Бешанковічах, напрыклад, шавец у сярэднім зарабляе ў дзень 1 р. 10 кап., ганчар—2 р. 50 кап.; у Уваравічах кравец зарабляе ў дзень 1 р.—1 р. 20 к. і г. д. Калі параўняць гэты заработак з сярэднім заработкам шырэйшых прадпрыемстваў, то заработкі гэтых саматужнікаў на многа меншыя і гэта пры няроўных гадзінах працы, г. зн. не за 8 гадзін, а больш: ён працуе часам з усёй сям'ёй па 18 гадзін.

Што-ж да гандлю, то мы бачым, што год-ад-году звароты спажывецкай коопэрацыі павялічваюцца, звароты-ж прыватнага гандлю, паводле даных НКФ, нясупынна памяншаюцца. Напрыклад, у Уваравічах звароты коопэрацыі складаюць 396 тысяч, а прыватнага гандлю—141 тысячу. У Асьвеі: коопэрацыя—278 тысяч, прыватнік—200 тысяч. Вырысоўваецца ясны малюнак: прыватнік у мястэчках з кожным годам слабее, і коопэрацыя з посьпехам замяняе прыватны гандаль.

Цяжка сказаць, ці мае зараз прыватнік гатоўку; у нас наконт гэтага пэўных вестак няма, але трэба лічыць (ня кажучы пра некаторых асоб), што агулам прыватнік у мястэчку ня мае гатоўкі. Выключэньнем з гэтага зьяўляюцца тыя мястэчкі, дзе ў апошні час працавалі скурнікі і саматужнікі па пераапрацоўцы ільнянога семя.

Паглядзім на местачковы быт, на некаторыя моманты ў вытворчасьці. Мы маем выпадкі (даволі частыя), калі местачковы рымар адначасна зьяўляецца і цырульнікам, г. зн., што адзін чалавек мае некалькі профэсій. Такое распыленьне прыводзіць да таго, што шмат саматужнікаў ня ведаюць грунтоўна сваіх профэсій, а гэта адбіваецца і на павялічэньні продукцыйнасьці працы, і на якасьці вырабу.

Агульнае ўражаньне ад мястэчак такое, што ў кожным мястэчку ў яго экономіцы мы бачым рознае, тут няма пэўнага шаблёну, за выключэньнем агульнае галечы. Бачым жаданьне паправіцца, але самі мястэчкі ня змогуць выйсьці з гэтага становішча без дапамогі; гэта залежыць ад нашых гаспадарчых плянаў і мобілізацыі вакол іх местачковай ініцыятывы, актыўнасьці яго пролетарскае часткі.

## III

У першачарговым пляне вызначана ўпарадкаваньне такіх мястэчак: У Віцебскай акрузе—м. Бешанковічы, у Гомельскай—Уваравічы, у Менскай—Сьмілавічы і Капыль, у Мазырскай—Капаткевічы, у Магілеўскай—Краснапольле, у Аршанскай—Чарэй, у Полацкай—Асьвея і ў Бабруйскай—Глуск.

Прыблізныя варыянты ў сучасны момант прадстаўляюцца ў наступным выглядзе:

*У Краснапольлі Магілеўскае акругі* намячаецца поўнае перапляноўваньне мястэчка з выдзяленьнем каля 60 дзесяцін для цэнтральнае часьці з прырэзкаю да таго, што застанецца, каля 400 дзесяцін

130 дзесяцін ад сав. гаспадаркі „Аліжбеціна“. На гэтых 530 дзесяцінах маецца на ўвазе заснаваць 300 гародных гаспадарак, пры гэтым магчыма будзе выдзеліць выган каля 80 дзесяцін. Паўтараю, што ўсе гэтыя варыянты яшчэ не зацьверджаны, яны патрабуюць уважнага вывучэньня. Для прыкладу падамо другі варыянт па сельскай гаспадарцы, хоць гэтыя варыянты ў аснове набліжаюцца адзін да аднаго, г. зн. да 200 дзесяцін старога зямлякарыстаньня прырэзаць 350 дзесяцін сав. гасп. „Аліжбеціна“ і на вучастку 550 дзесяцін упарадкаваць 165 сем'яў. Прамысловыя мерапрыемствы, якія намячаюцца ў гэтым мястэчку, а праўдзівей, якія выяўляюцца на месцы, кажуць: пабудаваць 3 скураныя саматужныя заводы дзяржаўнага тыпу, 2 саматужныя цагельні (звыш мільёну штук у год), коопэрацыйную маслабойку на пераапрацоўку насеньня, з якіх утварыць комбінат для пераапрацоўкі тэхнічных культур да 100 тыс. пудоў. У мястэчку Уваравічы маецца на ўвазе зрабіць наступнае: да 15 сем'яў увесьці ў бліжэйшы сельска-гаспадарчы колектыў „Веккер“ на зямлі быўшае сав. гасп. „Тэклеўка“; організацыя высёлка на 20 сем'яў з зернавым ухілам, закласьці да 100 сядзіб з плошчаю каля 0,5 гэктара на кожную. Другі варыянт па сельск. гаспадарцы такі: на фондзе каля 500 гэктараў зямлі, да якога яшчэ прырэзаць 80 дзесяцін зямлі, упарадкаваць 100 дапаможных гародных гаспадарак па 2 гэктары на гаспадарку. Па лініі саматужна-рамесьніцкай прамысловасьці намячаецца, паводле розных варыянтаў, ад 25 да 40 гаспадарак з саматужнай вытворчасьцю.

*Па мястэчку Бешанковічы* намячаецца садова-гародны ўхіл: разьвіць разьвядзеньне трускавак, капусты, гуркоў ды інш., павялічыць лік сем'яў у сябрынях, для чаго дадаткова прырэзаць зямлі, што дасьць магчымасьць упарадкаваць звыш 200 сем'яў. Па лініі прамысловасьці намячаецца організацыя комбінату: воўначоска, сукнавальня, ткацкае і фарбавальнае аддзяленьні, рамесьніцкія майстэрні. Потым намячаецца пабудова крухмальна-патачнага заводу і заводу для вырабу агнятрывалае цэглы; маецца яшчэ на ўвазе аб'яднаць 100—160 саматужнікаў у сябрыню.

*У мястэчку Асьвеі* ёсьць таксама два варыянты: першы—прырэзаць зямлі на 73 гаспадаркі ці другі—прырэзаць на 150 гаспадарак, 35 гаспадаркам даць зернавы ўхіл з большым садова-гародным характарам і для 45 гаспадарак даць выключна чысты сельска-гаспадарчы кірунак. Можна яшчэ ў гэтым раёне асушыць каля 225 гэктараў балота, на якіх упарадкаваць 100 гаспадарак, па 4 гэктары на кожную. Далей організаваць 8 новых саматужных сябрынь сельска-гаспадарчага характару, якімі можна было-б ахапіць 50 проц. усіх саматужнікаў мястэчка.

*У мястэчку Сьмілавічах* вызначаюцца такія, прыблізна, мерапрыемствы: організацыя садова-гародніцкае сябрыні з 22 гаспадарак. У працягу 3-х год на зямлі басэйну Валмы упарадкаваць каля 150 гаспадарак Па лініі дзяржаўнай і рэспубліканскай прамысловасьці пабудаваць адзін

консэрвавы завод на 40 рабочых, па лініі саматужніцкай організаваць сябрыню на 50 сем'яў, аўчынна-кажушную—на 50 сем'яў, шавецкую—на 50 чалавек, а таксама разьвіваць бэтонныя работы.

*У мястэчку Капаткевічы*, з прычыны перанаселенасьці, малюнак па лініі сельскае гаспадаркі крыху іншы. Тут намячаюцца такія мерапрыемствы: перасяліць у Крым ці за межы акругі 15 сем'яў, потым у межах акругі ўліць у сельска-гаспадарчыя колектывы каля 13 сем'яў; організаваць тут-жа на 15 сем'яў гародныя гаспадаркі, 30 гаспадарак малочна-сыраварнага характару.

Па лініі саматужна-прамысловай—пабудаваць смалярныя прадпрыемствы для 10 гаспадарак (дадаткова), пашыраць колектыў па вырабу бэтонных рэчаў і даць работу 15 гаспадаркам. У існуючыя працколектывы ўліць больш рабочых, паставіўшы справу больш грунтоўна.

*У мястэчку Чарэй* магчыма: 1) мэліораваць да 500 дзесяцін балота з упарадкаваньнем у першы год на гэтай зямлі 33 гаспадарак, а ў працягу трох год—яшчэ 100 гаспадарак, потым намячаецца організацыя некалькіх сябрынь рыбаловаў; 2) намячаецца асушыць 1.000 гэктараў балота. Па саматужнай прамысловасьці маецца на ўвазе організаваць тры сябрыні з 30 членаў.

*У мястэчку Капыль* намячаецца ўпарадкаваньне каля 250 сем'яў, зямляўпарадкаваць каля 25 сем'яў; разьвінуць садова-гародніцкую гаспадарку для 25 сем'яў, каля 40 сем'яў перасяліць у Крым, організаваць прадпрыемства па пераапрацоўцы садовіны на 20 сем'яў, організаваць сыраварна-масларобны завод, пабудаваць цагельню, млын і чарапічна-бэтонную майстэрню, на ўсіх іх упарадкаваць 25 сем'яў. Організаваць і разьвінуць работу шэрагу сябрынь для 90 сем'яў.

*У мястэчку Глуск*, па думцы акруговых таварышоў, магчыма організаваць сябрыні: масларобныя, сыраварныя, гаспадарчыя таварыствы для 150 сем'яў; садова-гародныя таварыствы да 10 сем'яў. Далей, пабудаваць цагельню на 50 чалавек, організаваць смалакурную, калёсна-брычачную і мэблевую сябрыні на 20 сем'яў, а таксама дапамагчы перасяленьню ў Крым ды іншыя месцы (15 сем'ям).

Вось што, прыблізна, намячаецца для ўпарадкаваньня гэтых мястэчак; работа вельмі цяжкая, але зьдзейсьніць гэта канечна трэба.

Ва ўсіх гэтых варыянтах не адбіты тыя мерапрыемствы, якія намечаны ў матэрыялах пяцігадовага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі БССР.

Магчыма, што некаторыя мерапрыемствы прыдзецца дадаткова ўвязаць з плянам упарадкаваньня мястэчак.

## IV

Зразумела, што перад намі паўстае надзвычайна складаная работа ў галіне перакваліфікацыі рабочае сілы саматужных прадпрыемстваў, бо інакш гэтыя гаспадарчыя мерапрыемствы ня будуць мець шырокіх, на-

лежных вынікаў. Асобна стаіць пытаньне аб падрыхтоўцы работнікаў па торфу, якіх у нас зусім няма, далей—муляраў, работнікаў па лесу, будаўніцтву, адным словам, дрэваапрацовачнікаў розных відаў. Якраз ва ўсіх гэтых галінах у будаўнічы сэзон ёсьць недахват рабочае сілы, і мы прымушаны браць масавую рабочую сілу з-за межаў Беларусі.

Мы, прыкладам, ведаем, што ў нас па пяцігодцы вызначана разьвіцьцё тарфяной прамысловасьці ды торфараспрацовак і ў апошні год маецца на ўвазе паставіць на гэту работу 12 тысяч рабочых, але-ж у нас няма нават сярэдне кваліфікаваных работнікаў.

Перад намі стаіць задача прыстроіць на работу нашу местачковую моладзь. Яна лягчэй паддаецца перакваліфікацыі, яна павінна быць пачынальнікам у галіне перабудовы мястэчак. Патрэбна шырокае ўцягненьне ў гэту працу жанчын, асабліва тэй часткі, якая можа даць найбольшы эфэкт.

Прыходзіцца праводзіць і такія мерапрыемствы, як перасяленьне, бо гэта ёсьць частка агульнай работы па зьмяншэньню беспрацоўя і ліквідацыі перанасельнасьці.

Таму местачковым жыхаром, якія жадаюць перасяліцца, мы павінны дапамагчы так, як і сельскаму насельніцтву.

Яшчэ адна задача—гэта агітацыйна-пропагандыцкая работа, якую павінны праводзіць саматужна-прамысловая коопэрацыя, выканкомы, профэсыянальныя і партыйныя організацыі. Усімі мерапрыемствамі па ўпарадкаваньні мястэчак павінна быць зацікаўлена шырокая грамадзкая думка, бо бяз гэтага мы сустрэнем вялікія перашкоды. Нам прыдзецца ламаць стары консэрвацыйны быт мястэчак, местачковае кулацтва будзе ўпірацца.

Наступная задача—адказнасьць мясцовых органаў за ўсю работу. Выкананьні плянаў і практычнае кіраўніцтва праводзяць акрвыканкомы і райвыканкомы.

З цэнтру магчыма пасылаць інструктароў, заўвагі, некаторая работа ў галіне фінансаваньня, але посьпех практычнае работы залежыць ад мясцовае ініцыятывы і энэргіі. Адсюль установка: акрвыканком поўнасьцю адказвае за гэту работу, райвыканком непасрэдна адказвае за конкрэтную работу.

Нам трэба праводзіць работу не габінэтным парадкам, але як найсур'ёзнейшую політычную і экономічную кампанію, адкрыта, на вачох усіх. Нельга думаць, што ўсе гэтыя мерапрыемствы будуць ажыцьцёўлены выключна на дзяржаўныя сродкі. Тут абавязкова патрэбна колектыўная сіла, сродкі і колектыўная энэргія. Упарадкаваць мястэчка—гэта ня значыць ліквідаваць яго, гэта значыць перабудаваць мястэчка зьверху да нізу—у экономіцы, у быце, у жыцьці, каб усюды адчулася організуючая рука. А гэта магчыма, у першую чаргу, толькі тады, калі работа набудзе шырокі экономічна-грамадзка-політычны характар, а ня толькі вузка гаспадарчы. Толькі тады сапраўды мястэчка перародзіцца:

або яно зробіцца пролетарскім цэнтрам, або перабудуецца ва ўпарадкаваную сельскую мясцовасьць. Гэта залежыць ад таго, у якім кірунку пойдзе яго гаспадарчае ўпарадкаваньне, якія ёсьць для гэтага гаспадарчыя асаблівасьці.

Усё гэта зьяўляецца дадатковым, больш энэргічным, больш выверaным крокам на шляху перабудовы нашае гаспадаркі.

Гэта ёсьць рашучая барацьба са старымі мэтодамі, традыцыямі быту і жыцьця мястэчак, гэта ёсьць змаганьне за павялічэньне вытворчых сіл у нашай народнай гаспадарцы, за ўзмацненьне тэхнічнай граматнасьці, культурных мерапрыемстваў, за ўтварэньне экономічнай базы, за ўцягненьне мястэчак у агульную лінію соцыялістычнага разьвіцьця.

Соцыяльныя групоўкі, якія ёсьць у мястэчках, гістарычнае мінулае з глыбокай царскай спадчынай, не павінны стрымліваць і зьмяншаць тэмпу пачатае работы.

Стогадовыя экономічныя і моральныя крыўды, падарваныя і часткаю зьнішчаныя кастрычнікавай навальніцай, цяпер павінны быць канчаткова з коранем вырваны. Гэта—найважнейшая задача комуністычнае партыі і савецкае ўлады ў справе соцыялістычнага будаўніцтва.

# „ЗАПАДНО-РУССКАЯ“ ШКОЛА І ЯЕ ПРАДСТАЎНІКІ [1])

Аляксандар Цьвікевіч

## III. Гаворскі і „Вестник Зап. России“ ў Вільні

Асаблівай энэргіяй і асаблівай агіднасьцю адзначыўся Гаворскі сваёй абаронай насланага ў Вільню „истинно-русскаго“ чынавенства, калі ў другой палове 60-х гадоў пачалася павольная рэакцыя супроць мураўёўскага рэжыму і калі ў Пецярбурзе зьявілася прэса, пачаўшая адкрытую кампанію супроць „людоеда“ [2]). На чале гэтае прэсы стала газэта „Весть“ Скорятіна. Група „Вести“, блізка зьвязаная з клясаю буйных польскіх зямляўласьнікаў, што хутка адракліся ад паўстаньня і заявілі аб сваіх лояльнейшых адносінах да царскага прастолу, камандыравала рэдактара газэты Скорятіна на Беларусь, у Вільню, і, карыстаючыся яго ўражаньнямі, а таксама далейшымі корэспондэнцыямі з краю, узяла пад сваю абарону польскія інтарэсы і пачала кампанію супроць расійскага чынавенства.

Скорятін не шкадаваў фарбаў для апісаньня тае распусты і тае бяспрынцыповасьці, якія панавалі ў Вільні ў выніку ўрадаваньня новае

---

[1]) Гл. „Полымя“ № 1 за 1928 г.

[2]) Мянюшкай „людоеда“ ахрысьціў Муравьева самы злосны яго вораг, тагачасны пецярбурскі ген. губ. кн. Суворов. Калі яму запрапанавалі ў дзень імянін Муравьева падпісаць колектыўны адрас-павіншаваньне, ён адказаў: „Я людоедов не чествую“. З гэтай прычыны Тютчев напісаў на кн. Суворова чарговы верш з усхваленьнем Муравьева:

Кн. Италийскому, графу А. А. Суворову-Рымникскому.

Гуманный внук воинственного деда,
Простите нам, наш симпатичный князь,
Что русского честим мы людоеда,
Мы, русские, Европы не спросясь...

Как извинить пред вами эту смелость?
Как оправдать сочувствие к тому,
Кто отстоял и спас России целость,
Всем жертвуя народу своему,

Кто всю ответственность, весь труд и бремя
Взял на себя в отчаяной борьбе—
*И бледное, замученное племя,*
*Воздвигнув к жизни, вынес на себе...* etc. (курсыў наш—*А. Ц.*).

(М. Лэмке. „Эпоха цензурных реформ“, 1859—1865, стар. 287).

адміністрацыі. Разам з тым, ён з выключнай рэзкасьцю наваліўся на Гаворскага і на „Вестник Западной России“. Да кампаніі „Вести“ хутка далучыліся „СПБ Ведомости“ і „Новое Время“, дзе супрацоўнічаў А. Кіркор.

„Басота, сволочь, пустая ноздревщина, непроходимая семинарщина, отребье местной жизни“—вось эпітэты, якія пасыпаліся з пецярбурскае прэсы на Гаворскага, калі Муравьева зьмяніў Кауфман, стварыўшы, па сьведчаньні сучасьнікаў, надзвычайную распусту сярод расійскіх чыноўнікаў, і калі за Кауфманам прышоў А. Потапов.

„Галоўны тормаз, які затрымлівае ў Заходнім Краі расійскую справу,—пісаў Скорятін,—зьяўляецца пролетарыят, які складаецца з чыноўнікаў, прыбыўшых сюды на службу на заклік улады“, „тыя шкодныя басаногія патрыёты, якія прынесьлі на алтар бацькаўшчыны ў ахвяру сваё жабрацтва дзеля таго, каб здолець прызваіта апрануцца, а будзе магчымасьць—і разбагацець“.

Ад імя ўсіх „деятелей русского дела в Западном Крае“—скорятінскай „Вести“ адказваў Гаворскі.

„Чым вінаваты мы,—патэтычна пытаецца ён у чытача,—што большасьць служачых тут чыноўнікаў не капіталістыя і ня буйныя зямляўласьнікі? Чаму багатыры ня былі ласкавы прыехаць сюды на агульны заклік Муравьева? Можа быць паны (барины) не зьявіліся сюды дзеля пачуцьця самазахаваньня? Яны заняты турботамі аб сваёй гаспадарцы, прамысловасьцю, мануфактурай, і можа палічылі за лепшае застацца і забясьпечыць свой матэрыяльны інтарэс перад моральным. Аўтар галаслоўна і гарэзна дазволіў сабе публічна называць тутэйшых дзеячоў расійскае справы „жабракамі і басотай“: большасьць з іх усё-ж такі мае зямельную ўласнасьць і паходзіць са старых фамілій. А калі-б нават чэсны і карысны для бацькаўшчыны чыноўнік жыў аднэй атрыманай па службе пэнсіяй, ці-ж будзе лёгічным называць яго абарванцам?“

„Дайце сабе адчот у тым, што вы пішаце,—пытаецца Гаворскі ў Скорятіна, пераходзячы ад абароны да наступленьня,—калі праводзіце сынонім паміж расійскім чыноўнікам у Паўночна-Заходнім Краі і афэрыстым галадранцам!.. Ці разумееце вы, што гэта значыць чыноўнік? Чыноўнік, гэта ёсьць чалавек, які прысьвячае ўсю сваю моральную дзейнасьць рознастайным карысьцям свайго отечества, чалавек, які належыць да аднаго з 14 рангаў, які мае чын, ад якога ён і атрымлівае сваё званьне. Гэткім чынам у поўным сэнсе гэтага слова пад ідэю чыноўніка падыходзяць усе, хто служыць прастолу і бацькаўшчыне, пачынаючы ад канцылярскага чыноўніка да старшыні камітэту міністраў. Толькі галава, гаспадзін нацыі выдзяляецца з групы чыноўнікаў, як слуг,—служачых. Вялікая большасьць гэтых паважаных дзеячоў паходзіць, як і павінна быць, з тае асярэдзіны, якая больш за другіх мае сродкаў да моральнага служэньня прастолу,—„из дворянскаго, то есть, сословия“. Як-бы там ні было, але Скорятін

гэтак абражае ўсю корпорацыю моральных дзеячоў Расіі ў гэтым краі, што пакінуць так справу нельга... Мы пераконаны, што начальства і грамада нашых чыноўнікаў патрэбуюць адпаведнага разрахунку з ім". „Ён аказвае,—протэстуе „Вестник" у другім месцы,—дрэнную паслугу дваранскай корпорацыі і беспасрэдна парушае найвышэйшы рэскрыпт, які загадвае „спыніць безьлічныя спробы да ўзбуджэньня варожасьці паміж рознымі станамі. Мы лічым, што корпорацыя чыноўнікаў, як найбольш карысны і заслугоўваючы ўсеагульнае пашаны і прызнаньня стан, ня выключаны з гэтых богам натхнёных слоў рэскрыпту" [1]).

Толькі ў рэдкіх выпадках Гаворскі згаджаецца з тым, што прыехаўшыя на Беларусь чыноўнікі не стаяць на вышыні свайго палажэньня. Дый то ў гэтых выпадках ён ня столькі абвінавачвае блізкі сабе лягер, колькі спрабуе тлумачыць прычыны адмоўнага зьявішча. Аднэй з такіх прычын зьяўляецца, паводле яго пераконаньня, тое, што наяжджаюць сюды людзі большай часткай нежанатыя. „Трэба вабіць сюды, калі ня выключна, дык пераважна, жанатых, абставіўшы іх перавод сюды большымі прывілеямі, бо сярод бесьсямейных пануе звычайна большая ступень распусты, газартовай гульні, п'янства ды іншых вадаў, якія прыносяць хваробы і сьмерць". Пры гэтым „Вестник" падае цікавую статыстыку, з якой відаць, што „ў 1864 г., дзякуючы прыліву вялікаросаў з цэнтральных губэрань, мужчын па ўсім Паўночна-Заходнім Краі было амаль у два разы больш, чым жанчын (на кожныя 7.526 мужч.—4.769 жанчын, а ў Вільні яшчэ горш: на кожныя 4.643 мужч.—усяго толькі 2.283 жанчыны). Пры гэтым было вылічана, што прырост насельніцтва каталіцкага веравызнаньня, г. зн. нормальна жанатага, быў роўны 1,32 проц., а ў праваслаўнага, якое зьяўлялася пераважна халастым, толькі—0,4 проц. Наадварот, сьмяротнасьць сярод апошняга была значна большая [2]).

Другая бяда,—што прыяжджаючыя ў край „истинно-русския" людзі могуць жаніцца толькі на мясцовых дзяўчынах,—а гэта, з пункту гледжаньня Гаворскага і яго „западно-русской" програмы,—рэч зусім непажаданая. І каб захаваць русыфікацыйны элемэнт ад гэткай страты, „Вестник" друкуе цэльную філёзофію нейкага Авдия Востокова—„Наставление русскаго своему сыну перед отправлением его на службу в западные русские области", у якім той піша [3]): „ты яшчэ малады, сын мой, і напэўна надумаеш калі жаніцца. Трымайся моцна за сэрца і сьцеражыся звабы якой-небудзь полькай. У рамястве вабіць у свае сеці амаль на ўсёй зямлі ня знойдзецца нікога больш дасьціпней і ваблівей палячак. Ня вер, рускі, іхнім фокусам-покусам,—з жонкай палячкай ты паселіш

[1]) „В. З. Р."—1865-66 г. кн. 11, отд. III, стар. 13 і інш.

[2]) Ibid., 1868, т. 6, отд. IV, стар. 265: „О важном значении усиления и развития в Сев.-Зап. крае русскаго семейнаго элемента".

[3]) „В. З. Р.", 1865-66 г., т. 3, отд. IV, стар. 241.

у сваім доме пекла. Перш за ўсё, дагаджаючы тваім густам, тваім нахілам і слабасьцям, жонка палячка заўладае табой да таго, што ты прызвычаішся да яе да шаленства, затым яна саб'е цябе са шляху чыстае веры праваслаўнай, зробіць з цябе чалавека індэфэрэнтнага і паволі ўсімі сваімі жаночымі хітрыкамі давядзе цябе ня толькі да злых учынкаў і няправільнасьцяй па службе, але да ліхаімства і зрады дзяржаўным інтарэсам“.

Аднак, ня гледзячы на ўсе апраўданьні Гаворскага і меры забясьпекі з боку „Вестника Западной России“, „высока-моральная корпарацыя“ насланых на Беларусь чыноўнікаў рабіліся штогод, то больш разьюшанай. Скаргі на яе пачалі раздавацца ня толькі з полёнофільскай пецярбурскай прэсы,—супроць яе пачалі ставіцца тыя віленцы, якія, у параўнаньні з Гаворскім, захавалі такую-сякую долю незалежнага погляду на рэчы.

Больш таго,—протэсты супроць яго заявілі асобы, якіх мы ніяк ня можам палічыць за прынцыповых ворагаў Гаворскага, або абаронцаў мясцовых не-расійскіх інтарэсаў. Гэткімі асобамі былі М. дэ-Пуле,—рэдактар „Виленскаго Вестника“ пасьля А. Кіркора, і... Іосіф Семашка.

„У Вільні ў тыя часы зьявілася партыя крайніх русыфікатараў (!),—апавядае М. дэ-Пуле,—якую называлі чамусьці „віленскімі клерыкаламі“, хоць сярод іх ня было ніводнага чалавека з духавенства (заўвага на „праваслаўны“ клерыкалізм Гаворскага). Гэтая партыя патрабавала заўсёды жорсткіх мер і ўпікала ў слабасьці і патураньні гэткіх асоб, як сам М. Муравьев (!). З боку гэтых русыфікатараў найбольш даставалася мясцовым рускім людзям і тым, што даўно тут ужо абжыліся, якім яны не маглі даравацъ іх мінулага, іх ужыўчасьці да палякоў, іх сымпатый, прывычак і густаў. Ад іх, ад мясцовых людзей, замест спакою і міру, патрабавалі варожасьці і злобы,—і калі не знаходзілі ні таго, ні другога, дык абзывалі іх мянюшкамі палякуючых і апалячаных“ [1]).

Гэтак-жа нэгатыўна пачаў адзывацца аб „крайніх русыфікатарах“ і І. Семашка,—„своя своіх не познаша“. Семашка скардзіўся ў лістох сваіх у сынод, што некаторыя з прыбыўшых у Заходні Край чыноўнікаў з пагардай ставіліся да мясцовага праваслаўнага духавенства, дакаралі яго ў няведаньні праваслаўных статутаў і нават дазвалялі сабе ўмешвацца ў царкоўныя справы. У гэтых скаргах расказваецца, што нейкі гвардыі паручнік Шчэрбов закрываў па сваёй волі без тлумачэньня прыходы і хадзіў па алтары ў кажуху, з палкай; штабс-капітан Крамеров і лейб-маёр Савіцкі самі служылі пад п'яную руку набажэнства, адзеўшыся ў рызы і носячы алтарнае судзьдзё; міравы пасрэднік Логінов лаяў мясцовага папа званаром і т. пад. [2]).

---

[1]) „Древняя и Новая Россия“, 1876 г., II т., стар. 333.

[2]) Гл. у Г. Киприановича: „Жизнь Иосифа Семашко—митрополита литовского“, стар. 449—450.

„Зразумела,—пісаў Семашка,—патрэбна зьмяніць шмат чаго ў тутэйшым краі, каб зрабіць яго аднолькавым з рэштай дзяржавы. Але трэба памятаць, што прывычкі і звычаі, якія ўкараніліся ў масе народнай праз вякі, патрабуюць гэтак сама стагодняга разумнага дзеяньня. Між тым, гэтыя розсасьці, дзякуючы надоечы прыбыўшым сюды расійскім дзеячом, былі апошнім часам прычынай сумных зьяў у нашым краі, якія зрабіліся гласнымі і зрабілі шмат на каго вельмі нявыгоднае ўражаньне". „Аднак,—дыплёматычна дадае І. Семашка,—гэтыя здарэньні няхай не непакояць сьвяты сынод—яны ня могуць мець залішне шкоднага ўплыву на пасьпяховы ход тутэйшых спраў у расійскім духу" [1]).

Гаворскі занадта добра ведаў, што ў справе русыфікацыі Беларусі лепш перасаліць, чым недасаліць,—і таму таксама ня надта непакоіўся „дробнымі непаразуменьнямі" паміж мясцовымі жыхарамі і наехаўшымі вялікаросамі. Ласка апошніх, іхняя дружба былі для яго даражэй за ўсё.

Больш датдліва абражаным адчуў ён сябе ў тэй полеміцы, якая ўзьнікла пры канцы 60 гадоў паміж „Вестником Западной России" і тым-жа Скорятіным у справе расійскае зямляўласнасьці на Беларусі.

Як ведама, аднэй з самых галоўных мер барацьбы Муравьева з польскім уплывам на Беларусі была конфіскацыя і продаж з публічнага торгу польскіх зямель, у першую чаргу тых памешчыкаў, якія беспасрэдна прымалі ўдзел у паўстаньні. Разам з конфіскатамі да тэй-жа мэты былі скіраваны і іншыя мерапрыемствы, якія, паводле выразу Муравьева, „білі палякаў па кішэні" і пазбаўлялі іх першараднага экономічнага значэньня ў краі. Гэткімі мерапрыемствамі быў славуты 5-проц. збор з польскіх маёнткаў (ён даходзіў пасьля да 23 проц.) „дзеля здавольненьня неабходных выдаткаў па палітычнаму становішчу краю" [2]), абавязаньне даваць лес і дровы на школы і цэрквы, сталыя рэквізыцыі, вайсковыя пастоі і г. д. Разам з гэтым, была высунута грандыёзная програма „насаждения" вялікарускае зямляўласнасьці на Беларусі, замест зямляўласнасьці польскай. У сваіх запісках на імя Аляксандра II, паданых 14 мая 1864 году і 5 красавіка 1865 году, Муравьев выказваецца аб гэтых экономічных мерапрыемствах з самай вострай рашучасьцю,—аднолькава, а часам яшчэ вастрэй, чым аб мерах адміністрацыйных і рэлігійных: „засяляць край расійцамі колькі магчыма сыстэматычней, не выдзяляючы стараабрадцаў, бо яны больш ад іншых захоўваюць расійскую народнасьць; ствараць колёніі з звольненых солдат; біць палякаў па кішэні, каб усё было спакойна; засяляць край вялікарускімі сялянамі, прадаваць усім расійцам, незалежна ад стану, конфіскаваныя, сэквэстраваныя і пратэрмінаваныя ў крэдытных установах землі; вырашыць пытаньне аб правядзеньні мытнай лініі паміж Царствам Польскім і Паўночна-Заходнім

[1]) Киприанович, op. cit., стар. 451.

[2]) „Сборник статей, раз'ясняющих польское дело", С. Шолковича, т. II, стар. 319: „Три политические записки гр. М. Н. Муравьева".

Краем, каб прыпыніць самую думку жыхароў гэтага краю, што яны могуць ствараць калі-небудзь адно цэлае з Царствам Польскім і г. д. [1]).

Са ўсіх гэтых экономічных мерапрыемстваў „Вестник Западной России" найбольш папулярызаваў лёзунг аб абавязковай продажы польскіх маёнткаў расійцам. У абароне гэтага пункту русыфікатарскай політыкі Муравьева Гаворскі выказаў і глыбокую гістарычную эрудыцыю і найвышэйшы „западно-русский" запал.

Верны свайму самаўхваленьню, Гаворскі пры гэтым заяўляе, што самая думка аб экспропрыяцыі польскіх земель у Заходняй Расіі з мэтамі барацьбы з полёнізмам належыць нікому іншаму, як яму. „Пры ўсёй нашай скромнасьці мы павінны зазначыць,—кажа ён,—што ініцыятыва проекту гэтае экспропрыяцыі належыць таму выданьню („Вестник Зап. России"), якое зрабіла выключнай мэтай свайго існаваньня моральныя і матэрыяльныя інтарэсы заходняй Расіі і якое мае для гэтага спэцыяльныя веды, а таксама сродкі і прыёмы, не заўсёды прыгодныя і даступныя для іншых выданьняў"(?!).

Трэба прызнаць, што сапраўды выступленьні „Вестника" па пытаньні аб барацьбе з польскай зямляўласнасьцю і аб патрэбе перадачы зямель з польскіх рук у рукі вялікарускія, былі па ўсіх даных *першымі* ў сваім родзе. „Западно-русская" школа магла дзеля гэтага справядліва ставіць сабе ў заслугу, што яна падняла гэтую думку адначасна, а можа і раней М. Муравьева.

У запісках, якія апрацоўваў і падаваў расійскаму ўраду М. Муравьев пасьля першага паўстаньня, нічога не гаворыцца на гэтую тэму. У іх Муравьев найбольш спыняўся на патрэбе „обуздания развратнаго и буйнаго сословия шляхты", „сословия тунеядцев, привыкших к праздношатанию", на патрэбе выкрэсьліць з мясцовага жыцьця нормы літоўскага статуту, на адпаведнай рэформе народнае, у першую чаргу вышэйшае, асьветы ў краі („решительно уничтожить гнездилище литовскаго вольнодумства—Виленский университет"), увядзеньні расійскае мовы ва ўсе ўстановы, на рэформе царкоўнага кіраўніцтва і г. д. Але што датычыць зямельнае проблемы, дык Муравьев толькі ў стасунку да тых „опасных и вольнодумных религиозных конгрегаций, якія вызначыліся асаблівай упартасьцю ў змаганьні", асьцярожна прапанаваў спачатку *быццам часова*, а потым і назаўсёды пазбавіць іх нярухомай і зямельнай маемасьці [2]). Крутых і ўсеагульных мер Муравьеў пачаў дамагацца толькі ў 1864 годзе, пасьля зламаньня першых этапаў другога паўстаньня.

---

[1]) Сборник, II, стар. 317. Гэтая мера,—утварэньне мытнае мяжы паміж Царствам Польскім і Беларусьсю,—у якасьці рэпрысыўнай меры супроць палякаў, была ўжыта пасьля першага паўстаньня 1831 году і мела дадатнае значэньне для разьвіцьця гродненскай прамысловасьці на Беларусі (М. Довнар-Запольский: „Народнае хозяйство Белоруссии", 1926 г.).

[2]) Сборник Шолковича, т. II, стар. 304—5.

Гаворскі таксама выступіў з праграмай агульнага зьнішчэньня польскай зямляўласнасьці ва Беларусі з першых дзён паўстаньня. Дасьледваўшы гэтае пытаньне гістарычна, ён адзін з першых давёў, што спрадведку палякі ня мелі ў беларускіх межах зямлі і што пачалі яны набываць яе толькі пасьля фэдэрацыйнай вуніі Беларуска-Літоўскага княства з Польшчай, калі польская шляхта, супроць пунктаў унітарнае ўмовы, самавольна, шляхам зрады і гвалту, накінулася на княства". „Мы павінны цяпер зруйнаваць той пункт апоры, які палякі знаходзяць у захопленай імі зямлі, прапаведваў ён у пачатку 1863 г., зьнішчыць тыя цэнтры рэволюцыі, тыя гнёзды пропаганды, якія ствараюць навокал нас нявідныя петлі, усьцяж разрываныя намі і ўсьцяж нанова сплятаныя"[1]). Польскае зямляўладаньне на Беларусі павінна быць заменена расійскім, вялікарускім,—толькі пры гэтай умове можа быць дасягнута мэта „обрусения" краю. „Пакуль у заходняй Расіі зямля будзе польскай, там будзе ў тэрыторыяльным сэнсе не Расія, а Польшча, там расійцы будуць тэорэтычнымі, вандроўнымі ўласьнікамі, сёньня „обрусяющими" край, а заўтра ўцякаючымі ў Маскву, Твер, Ташкент"[2]).

Але як, у якой форме гэта зрабіць? Якая вялікаруская зямляўласнасьць павінна быць насаджана ў Беларусі,—буйная ці дробная?

Па гэтым пытаньні погляды падзяліліся: адны, у тым ліку міністэрства дзярж. маемасьці і Муравьев, не рабілі розьніцы паміж формамі зямляўласнасьці і ахвотна дапускалі і тую і другую. Наадварот, вышэйшае дваранства ў Пецярбурзе, якое стаяла ў опозыцыі да Муравьева, лічыла патрэбным перадаваць польскія маёнткі толькі буйнаму расійскаму капіталу.

Гаворскі заняў у гэтай спрэчцы акрэсьленую клясавую позыцыю, зусім згодную з тэй, на якой ён стаяў пры абароне чынавенства. Як там ён бараніў дробных і сярэдніх чыноўнікаў і іронічна ставіўся да „буйных паноў, больш зацікаўленых сваімі капіталамі і мануфактурай, чым русыфікацыяй Беларусі", так і тут ён рашуча выступае за дробную зямляўласнасьць.

„У мэтах фактычнага абрусеньня заходняга краю Расіі,—пісаў „Вестник",—урад выдаў цэлы шэраг пастаноў, накіраваных на тое, каб узмацніць тут расійскую зямляўласнасьць. Нашая прэса агулам спагадна паставілася да гэтага мерапрыемства,—але апініі разышліся па пытаньні: якая зямляўласнасьць будзе карысьней для краю—буйная ці дробная? Процілежны нам бок кажа, што ўрад мае на мэце стварыць тут гэткую зямляўласнасьць, якая магла-б проціставіць сябе польскім магнатам, трымаўшых да гэтае пары край у сваіх руках, што быццам, каб даць перавагу расійскаму элемэнту, трэба стварыць тут буйную зямельную

---

[1]) „В.З.Р.", 1863 г., кн. III, отд. IV, стар. 65. Другі раз гл. 1865—66 г., кн. 6, стар. 69: „Газетные толки о землевладении в Западном Крае".

[2]) „В.З.Р.", 1867, кн. III, „Странная выходка".

ўласнасьць, трэба падтрымліваць ня дробных капіталістых, а буйных“.

„Гэта глыбокая памылка,—кажа „Вестник“.—Аргумантацыя падобнага роду забываецца на адну маленькую акалічнасьць—на вызваленьне сялянства. Калісьці магнаты сапраўды маглі трымаць край у сваіх руках, калі была іхняя сіла, права і суд, калі рэшта жыхарства было толькі механічным засабам, калі народ ня меў права ні думаць, ні жадаць, быў хлопам, рабочым панскім быдлам. Але цяпер усё зьмянілася... Паглядзеце, што значыць цяпер сярод народу ўчарайшы магнат—ён зьнізіўся амаль да стану ранейшага хлопа-нявольніка, а хлоп амаль падняўся на ўзровень учарайшага магната... Мы ведаем некаторых магнатаў, якія сабралі сёньня свой хлеб з поля і сена з сенажаці толькі з міласьці кватараваўшага па іх маёнтках войска; яшчэ мы ведаем гэткіх магнатаў, у якіх хлеб на агромністых абшарах так і застаўся не сабраным, а калі сабраны, дык за такую плату, якая прымушае ўспомніць прыслоўе—гульня сьвечак ня варта. „Праўда,—папераджае „Вестник“,—магнат праваслаўна-рускі, магчыма, ня сустрэне ў заходняй Расіі гэткай опозыцыі з боку народу, якую сустракае магнат лаціна-польскі. Але гэта *рашуча* не таму, што ён магнат ці пан, буйны зямляўласьнік, але таму, што ён праваслаўны, расіец, што ў селяніна з магнатам адны прыхільнікі і адны ворагі. Аднак мы сьцьвярджаем, што народ далёка ня так сымпатычна будзе ставіцца да магната, як да дробнага зямляўласьніка-расійца і што першы будзе мець куды меншы ўплыў на яго, чым апошні. Гэта зусім натуральна. Чым вышэй стан, у якім пастаўлены чалавек, тым меншае спачуваньне ён можа сустрэнуць да сябе з боку чалавека, які стаіць на ніжэйшай ступені грамадзкага значэньня. У іх так мала супольнага, сьветапагляд іхні нагэтулькі розны, сымпатыі, звычаі, прывычкі так разыходзяцца, што суседзтва іх, супольнасьць інтарэсаў мысьлімы адзіна пад умовай звыш-натуральнага прыніжэньня, з боку аднэй стараны, і перараджэньня—з другой. Для беларускага мужычка чым буйнейшы пан, тым ён будзе ставіцца да яго з большым недавер‘ем, лукаўствам, тым цяжэй паверыць ён яму, тым далей будзе ад яго трымацца. Што-б ні гаварыў, што-б ні рабіў буйны зямляўласьнік, гэты мужычок будзе глядзець на яго спадылба, будзе лічыць яго паслугі за пастку. Яго паняцьці аб пану склаліся так грунтоўна, пад ўражаньнем такіх гістарычных зьяў, што ён ня здолее адрозьніць у сваёй галаве ідэю буйнога зямляўласьніка-расійца ад ідэі польскага пана,— асабліва, калі які-небудзь буйны зямляўласьнік, соцыяльныя ідэі якога разьвілася пад уражаньнем геральдычных традыцый XVII веку, з пагардай паставіцца да суседзяў, будзе думаць, што для мужычка занадта шмат гонару працаваць на панскай ніве за адно дзякуй ды за чарку гарэлкі, што тутэйшы мужычок толькі на тое, быццам, і здатны, каб поркацца ў гноі ды працаваць на пана“ *).

*) „В. З. Р.“ 1865—66 г., кн. 8, отд. III; Крупные и мелкие землевладельцы в западной России“, стар. 31. По поводу газетных толков об этом предмете.

„Эпоха панскай вялікасьці мінула,—і буйны расійскі зямляўласьнік хутка пачуе рэакцыю з боку грамады (мужыцкай). Польская інтэлігенцыя вельмі хутка павядзе з ім знаёмства, хутчэй, чым ён з якім-небудзь мужыччом, і зраўняе яго расійскі ўплыў на край з нулём. Зірнеце ў гісторыю заходняй Расіі і вы ўбачыце, каго хутчэй брала на аркан лаціна-польская пропаганда,—ці звычайнага сьмяротнага, ці магната?“—пытаецца Гаворскі.

„Дарма таксама гаварыць аб буйным капітале і абагульняць яго з ідэяй буйнае зямляўласнасьці. Капіталы цяпер наогул ня ў буйных зямляўласьнікаў, а ў сярэдняй клясы. А калі-б нават буйны зямляўласьнік і прывёз з сабой з Расіі гэтыя капіталы, дык дарма думаць, што яны пайшлі-б на павялічэньне фабрычнасьці краю, яго гандлю і г. д. Ня гэткія прывычкі і замашкі буйных зямляўласьнікаў,—грошы хутка пойдуць у трубу, да таго яшчэ нерасійскую. Самі паны рэдка бываюць у сваіх маёнтках, праводзяць жыцьцё ў сталіцах, заграніцай, гувэрнэры псуюць каля іх розум маладога пакаленьне,—коратка кажучы, буйны зямляўласьнік ніколі ня будзе спрыяць „обрусению западной России“ ні сваёй асобай, ні сваімі ўплывамі, ні сваёй інтэлігентнасьцю, ні сваімі капіталамі“ [1]).

Гэтае палажэньне Гаворскі падкрэсьлівае некалькі разоў. „Нам здаецца дзіўнай,—піша ён у другім месцы,—палеміка аб тым, якія зямляўласьнікі патрэбны ў Паўночна-Заходнім Краі. Пытаньне ня ў тым, якія *патрэбны* зямляўласьнікі,—патрэбны аднолькава і буйныя і дробныя зямляўласьнікі,—але пытаньне ў тым, якія з іх будуць *карысьней* для абрусеньня краю, якія хутчэй і больш русыфікуюць заходнюю Расію,—буйныя ці дробныя. Ці шмат абрусіць, прыкладам, край зямляўласьнік, які набудзе тут 10—20.000 дзесяцін, сам будзе жыць у Вэнэцыі або Мадрыдзе, а маёнтак і расійскую справу даручыць мясцовым ягамосьцям“ [2]).

„Нам сумна і прыкра ўвесь час даводзіць аб патрэбе ў заходнім краі Расіі расійскае зямляўласнасьці. Дарма гавораць, што пры нашай агульнай беднасьці мы ня можам вылучыць патрэбных капіталаў на ўзмацненьне расійскае зямляўласнасьці на захадзе, не паслабіўшы гэтым зямляўласнасьці і дабрабыту цэнтральных губэрань... Наша беднасьць далёка ня так безварунковая, як шмат каму здаецца сярод расійскіх зямляўласьнікаў. Ёсьць даволі асоб, якія могуць вылучыць частку сваіх вольных капіталаў на вялікую і сьвятую справу тэрыторыяльнага (?) абрусеньня напоўпольскай Заходняй Расіі. Але, апрача гэтых вялікарускіх зямляўласьнікаў, ёсьць яшчэ шмат людзей, якія маюць тыя або іншыя сродкі. Гэтыя людзі—амаль не палова купцоў і некаторая частка чыноўнікаў, якія сабралі пра чорны дзень невялікі капітальчык. Гэтыя апошнія, у большасьці забясьпечаныя пэнсіяй за выслугу гадоў, могуць укласьці

[1]) Ibid., „Крупные и мелкие землевладельцы“, стар. 33—34.

[2]) „В. З. Р.“, 1856-66 кн., 11 отд. III, стар. 19.

ўвесь свой капітал без астатку ў зямельную ўласнасьць. Большасьць *тутэйшых* чыноўнікаў вельмі добра разумее гэты разрахунак, але да пэўнага часу цісьнецца, як кажуць, „пяе Лазара“, думаючы атрымаць такі-сякі кавалачак зямлі на больш льготных умовах. Урад ідзе ім цалкам насустрач у форме усялякіх пазык і палёгак у выплаце падаткаў, а польскія памешчыкі прымушаны прадаваць свае маёнткі па цане, часта меншай за ацэначную... Гэткім чынам,—задаволена расказвае Гаворскі,—адзін мой знаёмы ўчора купіў адзін з гэтых маёнткаў за 6000 руб. на выплат, тымчасам, як у гэтым маёнтку 870 дзесяцін зямлі (у тым ліку 440 дзес. лесу), 12 новых на каменным фундаманце будынкаў, сад, рыбная сажалка ды інш.“.

Дробна-буржуазная пропаганда „западно-русса“ Гаворскага сустрэла рашучы адпор з боку абаронца буйной зямляўласнасьці на Беларусі, — рэдактара пецярбургскай газэты „Вести“ Скорятіна. Ён формальна *злавіў* Гаворскага на „мужычку, які глядзіць на пана спадылба“ і выступленьні супроць магнацтва абвесьціў ні чым іншым, як пропагандай супроць права ўласнасьці наогул, нацкоўваньнем сялянства на зямляўласьнікаў і непашанай да буйной зямляўласнасьці, як апірышча царскага прастолу. Для сваёй контр-атакі Скорятін выбраў вельмі трапны момант: акурат у той час—13 мая 1866 г., пасьля выстралу Каракозава, быў выданы Аляксандрам II знаменіты рэскрыпт аб „решительном прекращении повторяющихся попыток к возбуждению вражды между разными сословиями“ і аб стаўцы царызму на вышэйшы стан дваранства, як на клясу найбольш „здаровую, охранительную и благонадежную“.

„Найвышэйшы рэскрыпт,—пісаў Скорятін,—паказвае, што гэтыя „здоровые охранительные силы“ заключаюцца ў зямляўласнасьці, а ў Вільні нейкія журналістыя прапаведуюць, што ў міравыя ўстановы нельга пушчаць зямляўласьнікаў *)... Цэлыя старонкі іхняга часопісу перапоўнены злоснымі выбрыкамі і сэмінарскім гумарам супроць вышэйшых клясаў. Яны пропагандуюць, што буйному зямляўласьніку, які прыносіць з сабой гэральдычныя традыцыі 17 генэрацый, ня варта зьяўляцца ў Заходні Край, што яго ўплывы тут будуць роўны нулю, калі ня горш“. „У Расіі,—дадае Скорятін,—усе здравомыслящие людзі даўно прышлі да пераконаньня, што русыфікаваць Заходні Край магчыма толькі пры дапамозе расійскае зямляўласнасьці,—але толькі буйное, бо вядома, што гэты край апалячыўся з тае прычыны, што ласьне буйная зямляўласнасьць трапіла ў рукі палякаў. Грамадзкая апінія хоча верыць, што мясцовая адміністрацыя рада прыбываючай буйной расійскай зямляўласнасьці, а якіясь журналістыя ў Вільні пад казённай пячаткай цьвердзяць: мы маем усе правы лічыць, што народ далёка ня так сымпатычна паставіцца да магната, як да дробнага зямляўласьніка. Вось якая сустрэча чакае ў краі

*) „Весть“, 1866 г., № 45.

буйнога расійскага зямляўласьніка пасьля яго прыезду сюды, дзякуючы падобнай агітацыі! Калі прыняць пад увагу выказаныя думкі гэтых сэмінарскіх журналістых, дык выйдзе, што паляк, што расійскі магнат—усё адно. Пры гэтым рэдакцыя іхняга часопісу друкуе ў Вільні гэткія радкі, што магнат зьнізіўся сёньня да ступені амаль хлопа, нявольніка, а хлоп падняўся амаль да ўзроўню магната... Няўжо сапраўды ў Вільні і ў краі прароблена ўжо гэткая нівэліроўка? Няўжо дазволена гэтым афэрыстым і галадранцам парушаць павагу да праў уласнасьці, няўжо, урэшце, яны могуць выключаць заходнюю Расію з-пад забавязаньняў найвышэйшага рэскрыпту?"—злосна пытаецца Скорятін у „западно-русской" партыі.

Выступленьне Скорятіна было падтрымана „СПБ Ведомостями" і „Новым Временем". „У краі шмат войск,—пісала „Новое Время",—яшчэ большае мноства розных людзей з патрыотычным пачуцьцём, якія старанна „водворяют русские начала" ў краі, якія нішчаць усё польскае, але там няма людзей, якія-б баранілі правы ўласнасьці. Поўнага забесьпячэньня гэтага права ў краі няма,—і члены нязьлічаных камісій і тыя-ж самыя патрыоты не бягуць на абарону яго,—наадварот, яны выступаюць часта нявыразна... Палітычна і нацыянальна цяпер у краі поўны спакой,—і цяпер гутарка можа ісьці не аб бунтарскіх бандах, але аб сялянскім пытаньні, аб тым, што адміністрацыя патурае ніжэйшым клясам... Раней строгасьці ў стасунку да памешчыкаў мелі сваю падставу ў прычынах палітычных,—сёньня прычыны гэтыя ліквідаваны... Аднак, ня гледзячы на гэта, у дзейнасьці паверачных камісій можна заўсёды ўгледзець вядомую соцыяльную пропаганду (ідэй сэн-сымонізму), якая можа ў самай бліжэйшай будучыне прывесьці да надзвычайна дрэнных вынікаў".

„Вестник Западной России" на чале з Гаворскім адразу пачуў небясьпечнасьць становішча, створанага для яго гэткім зваротам справы. Выходзіла,—дый яно сапраўды да пэўнай меры так было,—што паднятая ім пропаганда за дробную расійскую гаспадарку на Беларусі абяртаецца супроць інтарэсаў буйнога капіталу, што на фоне барацьбы з польскай зямляўласнасьцю яго „западно-русская" програма, абапертая на падтрыманьне беларускага мужыка супроць польскага пана, на проціленжнасьці іх нацыянальных, рэлігійных і *соцыяльных* інтарэсаў, зьяўляецца парушэньнем асноў соцыяльнага ладу. Мы кажам,—сапраўды так было, дзеля таго, што, як будзе відаць з далейшага разгляду „западно-руссизма", ён безнадзейна заблытваўся ў соцыяльнай проблеме на Беларусі. У проблеме зямельных адносін паміж беларускім сялянствам і польскім памешчыцкім станам ён ня мог выйсьці з зачараванага кола клясавых супярэчнасьцяй, таксама як не магла выйсьці з гэтага кола наогул расійская ўлада на Беларусі, пачынаючы ад Кацярыны II і да Мікалая II. Усе „западноруссы", пачынаючы ад Гаворскага і канчаючы апошнімі прадстаўнікамі гэтае школы перад рэволюцыяй, добра разумелі, што пазбыцца польскага ўплыву на Беларусі магчыма адзіна шляхам скасаваньня тут польскае

зямляўласнасьці і польскае магнацка-шляхецкае клясы; але разам з тым, зьвязаныя социяльна-клясавай сутнасьцю з царскай Расіяй і з яе клясавай уладай, яны не маглі адкрыта за гэта агітаваць. Калі гэткія прызнаньні былі,—нават ня прызнаньні, а толькі разважаньні на гэтую тэму,—дык звычайна справа канчалася маларэальнымі гутаркамі аб прывабленьні сюды расійскага зямляўласьніка, або туманнымі і расплывістымі намёкамі. Зразумеўшы небясьпеку, Гаворскі накінуўся на варожы лягер са ўсім „сэмінарскім задорам“ і разам з максымальным падхалімствам.

„Скорятінду мае нанесьці нам канчатковае паражэньне,—адrак яго жаданьне застаецца толькі жаданьнем“, казаў ён. „Мы не хварэем на забабоны стану, але і ня ставімся да якой-небудзь клясы „злостно“ або варожа. Мы заўсёды былі далёкі ад думкі, ад жаданьня абражаць гэткі паважаны стан, як расійскае дваранства. Ад ак, як-бы ні было глыбака нашае паважаньне да буйных зямляўласьнікаў, мы ўсё-ж такі застаемся пры нашым пераконаньні, што край больш і хутчэй русыфікуецца дробнымі, чым буйнымі зямляўласьнікамі. Безварункова асабістыя ўплывы на народ буйнога зямляўласьніка, маёнткі якога сягаюць на дзесяткі вёрст і які ніколі ня будзе жыць у гэтых маёнтках, заўсёды будуць роўны нулю“ [1]).

„Скорятіну здалося не даволі паставіць нас у адказнасьць перад адміністрацыяй і перад дваранствам, ён хоча нас прадставіць, як парушыцеляў найвышэйшага рэскрыпту аб спыненьні варожасьці паміж рознымі станамі дзяржавы. Ці ўзважылі вы фальшывасьць вашага даносу, ці разумееце вы сур'ёзнасьць адказнасьці, да якой мы вас паклічам, калі вы яго не давядзеце?!. Мы з малаком мацеры ўсасалі ў сябе тыя асновы, якімі прасякнуты натхнённы рэскрыпт 13 мая. З таго часу, калі мы пачалі лапатаць словы: бог, цар, Расія,—і дагэтуль мы ўсёй істотай нашай служылі і служым гэтым асновам. „У нас нет сил высказать тот восторг, те слезы, то блаженство, с каким мы читали и лобызали этот незабвенный рескрипт,—а вы, Скорятин, позволили себе глумиться над ним, извращать его богомудрые глаголы, делать из его святых слов кощунственное применение к вашим грешным помыслам, клеветать на одних из благоговейнейших его почитателей и провозвестников, глумиться над нашими слезами, нашим восторгом, нашей молитвой...“ Мы вас пытаемся,—дзе вы знайшлі хоць-бы цень непашаны нашае да права ўласнасьці нагогул і да зямляўласнасьці ў прыватнасьці?“ [2])

„Скорятін хапаецца некалькі разоў за слова „магнат“, але гэтая зброя яго выходзіць больш тупой і картоннай, чым іншая, яна паказала, што Скорятіну таксама далася філёзофія, як гісторыя, лёгіка і гэрмэнэўтыка. Слова „магнат“ ёсьць слова ня польскае, але агульнаэўропэйскае. Яно абазначае разам і буйнога зямляўласьніка і славутага баярына, асабліва

[1]) „В. З. Р.“ 1865—66, кн. 11, отд III: „Ответ Скорятину“, стар. 11.

[2]) Ibid., стар. 15.

ўплывовую, важную асобу. Гэткая ўсёроўная і, зразумела, пазбаўленая абразы назва адрозьніваецца ў нацыянальным сэнсе эпітэтамі: магнат польскі, магнат расійскі ды інш. У стасунку да расійцаў мы вельмі рэдка ўжывалі слова „магнат“, далучаючы да яго акрэсьленьне,—„русский, православно-русский“. Заўсёды-ж мы ўжываем звароты: „буйны зямляўласьнік“, „вялікі буйны памешчык“, і толькі адзін раз мы ўжылі слова „барин“, калі яно выйшла ў тэксьце больш спадручным. Трэба-ж было Скорятіну прычапіцца хоць да чаго-небудзь, выпутацца з сеці дыялектыкі свайго праціўніка“.

„Скорятін хацеў чым-небудзь давесьці, што наш пагляд на міравых пасрэднікаў парушае найвышэйшы рэскрыпт. Спроба няўдалая, данос бяз доказаў! Ня гледзячы на вашую пагрозу, мы зноў гаворым, што зямляўласьніку не выпадае быць разглядчыкам спрэчных спраў паміж сабой і сялянствам і зусім упэўнены, што гэта ня толькі не супярэчыць рэскрыпту 13 мая, але і наогул зьяўляецца сьвятой ісьцінай. Дзеля таго і называецца міравы пасрэднік—пасрэднікам, што ён стаіць пасярод зямляўласьніка і селяніна. Іншая справа — міравы судзьдзя. Ён можа быць зямляўласьнікам, знаёмым у тэорыі ці на практыцы з законамі і судаводзтвам. А міравы пасрэднік павінен быць „homo nullius“, аднолькава адлеглы як ад памешчыка, так і селяніна. Паводле нашага пераконаньня, гэткім пасрэднікам або яго памоцнікам можа быць заслужоны сьвяшчэньнік, як чалавек зусім боганадзейны і знаёмы з бытам сваіх вясковых суседзяў“.

„Вашая інсітуацыя аб нівэліроўцы ёсьць чысты продукт вашае ўласнае фантазіі,—і мы як цьвердзілі, так і цьвердзім, што не нівэліроўка, а мэтаморфоза адбылася ў гэтым краі, і адбылася яна ні ад чаго іншага, як ад няўнікнёнага бегу падзей. Свабода сялян, абавязковы надзел іх зямлёй, уласная ўправа—паставілі хлопа па-за залежнасьцю ад пана, па-за ўсялякім уплывам пана на быт і дзейнасьць хлопа. Мінулае паўстаньне, пад час якога хлопы зьявіліся героямі, патрыотамі і мучальнікамі, а паны зраднікамі і забойцамі, канчаткова разарвала тую слабую соцыяльна-экономічную сувязь, якая магла ўтрымацца паміж імі пры іншым складзе політычных адносін“.

„Калі цяпер пан дарма выдаткуе ўсю сваю езуістыку, каб задобрыць хлопа, а гэты апошні адпіхае ад сябе і ўмізгіваньні і залёты старога свайго мучыцеля; калі цяпер іншы хлоп хутчэй згодзіцца цярпець нэндзу, чым пайсьці на багаты заработак у пана, калі грошы, урэшце, у гэткай пропорцыі адліваюць ад пана, як прыліваюць да хлопаў,—дык што значыць цяпер для хлопа пан у якіх хочаце адносінах? Мы ня кажам, каб гэтае зьявішча было для нас вельмі прыемным, каб мы не жадалі польскім паном выхаду са створанага становішча, але факт застаецца фактам: зьмена на лепшае для паноў залежыць ад іх самых, ад зьліцьця іх з намі душой і целам, ад пакуты за зраду продкаў“.

„Калі мы лічым, што дробная і сярэдняя зямляўласнасьць зьяўляецца лепшым сродкам русыфікацыі Заходняй Расіі, чым буйная, дык ці-ж праз гэта мы не змагаемся за правы ўласнасьці? Гуляйце сабе, шаноўны пане Скорятін, для каго хочаце,—гіронізуе Гаворскі,—але не накідайце п'есе таго сэнсу, якога яна ня мае, і калі вы зьбярэцеся пісаць зноў свае лісты з Вільні, падпісвайце іх—Л. Міраслаўскі, гэтак будзе больш прызваіта“.

Як відаць з гэтае характарнае палемікі, Гаворскі і яго група ў Вільні ня надта сумеліся ад таго, што пецярбурскія опонэнты падлавілі іх на „сэнсымонізьме“. Прызываючы ў сьведкі ўсіх сьвятых у доказ сваёй бясконцай пашаны да буйнай зямляўласнасьці, яны, аднак, ня здалі сваёй асноўнай позыцыі—абароны дробнай зямляўласнасьці.

* * *

Знаёмячыся з паданай вышэй спрэчкай, мы спатыкаемся з вельмі цікавым пытаньнем аб тэй *эканамічнай аснове*, на якую абапіралася „западно-русская“ ідэолёгія і аб тым *клясавым інтарэсе*, які стварыў гэтую грамадзкую плынь.

Разгляд пытаньня даводзіць, што „Вестник Западной России“ далёка не выпадкова заняў позыцыю дробнай зямляўласнасьці. Бо хоць Муравьев і яго партыя цьвёрда праводзілі сваю лінію, аднак, дзякуючы опозыцыі Пецярбургу, яна часта скрыўлялася. Муравьев, а за ім Кауфман і гр. Баранов ламалі на зямельнай справе сваю кар'еру, і патрэбна была вялікая ўпэўненасьць, каб такой малой пэрсоне як Гаворскі, утрымацца пры сваім пераконаньні бяз хістаньняў.

„Паўстаньне ў тутэйшым краі можна лічыць амаль ліквідаваным“, пісаў Муравьев 31 жніўня 1863 г. міністру ўнутраных спраў П. Валуеву, „і трэба прыступіць да таго, каб зьнішчыць самы яго корань. Галоўная апора наша ў тутэйшым краі ёсьць вясковае насельніцтва; трэба яго як мага хутчэй уладаваць. Трэба адным ударам пакончыць з памешчыкамі польскага пахаджэньня, зацьвярджаючы на трывалай аснове незалежнасьць сельскага жыхарства“ [1]). Крыху пазьней, 17 лістапада таго-ж году ён пісаў з падобным-жа зьместам прыватнае пісьмо Аляксандру II: „Галоўнае,—уладаваць быт сельскага насельніцтва і рашуча спыніць шкодны для яго ўплыў тутэйшых паноў. Трэба даць расійцам магчымасьць замацавацца тут“ [2]). На гэтую-ж тэму пісаў Муравьев шэфу жандармаў, князю Долгорукову [3]).

Адпаведна выказанаму прынцыпу была апрацована запіска па зямельным пытаньні і проект закону аб конфіскацыях і публічных продажах маёнткаў польскіх памешчыкаў, у якім было цьвёрда зазначана, што „права на льготную пакупку ліквідаваных маёнткаў, на усялякія прывілеі

[1]) „Русская старина“, 1883, январь, стар.147—8.
[2]) А. П. Владимиров: „О русском землевладении в Западном крае“, стар., 1.
[3]) Гл. „Rok 1863 na Mińszczyźnie“, выд. Інбелкульту, стар. 151—155.

і падтрыманьні з боку ўраду“ маюць наогул усе расійскія грамадзяне „ня польскага паходжаньня“ *).

Хоць гэты проект атрымаў 5 сакавіка 1864 году санкцыю Аляксандра II, аднак прызнана было „нязручным“ апублікаваньне яго поўнасьцю, з паказаньнем на выключэньне асоб польскай нацыянальнасьці. Дзеля гэтага ва ўказе сэнату 3 красавіка 1864 г. жаданьне ўраду, каб конфіскаваныя маёнткі набываліся расійцамі, было вытлумачана не нацыянальна-політычнымі мэтамі, а мэтамі экономічнымі, недахопам на месцы патрэбных для разьвіцьця краю капіталаў: „Дзеля падняцьця заняпалай экономічнай дзейнасьці ў Заходнім Краі, прызнаць патрэбным прыцягнуць сюды з іншых губэрняў дзеячоў з *„достаточными средствами“*.

У стасунку да расійскага элемэнту стаўка, як відаць, была зроблена на буйны капітал, на русыфікатараў са значнымі сродкамі. Аднак жаданьне Муравьева ня было праведзена ў належным маштабе ў жыцьцё, і, дзякуючы інтрыгам у Пецярбургу, ён сам мусіў хутка выехаць з Вільні.

Ня лепшы лёс спаткаў і яго наступніка—К. Кауфмана. Новы генэрал-губарнатар з нямецкай упартасьцю наважыўся правесьці русыфікатарскі плян Муравьева ў зямельным пытаньні. 23 лютага 1865 году ён дабіўся ад Аляксандра II зацьверджаньня „правіл ацэнкі ліквідаваных польскіх маёнткаў“, у якіх правілах прынцып буйнай зямляўласнасьці быў, аднак, захаваны: прымусовай ацэнцы падлягалі толькі маёнткі ад 300 да 1.000 дзесяцін,—большыя маёнткі падпадалі пад гэтую ацэнку толькі па асобным кожны раз меркаваньні. Для народных настаўнікаў і для валасных пісароў вялікарускага паходжаньня былі пры гэтым прадугледжаны вучасткі ад 30 да 50 дзесяцін. Мера гэтая таксама не дала значных вынікаў,—куплялі зямлю звычайна чыноўнікі, якія не сядзелі на зямлі, пераяжджалі з месца на месца і абярталі набытую зямляўласнасьць на мэты спэкуляцыі.

Наступнай мерай была вядомая запіска К. Кауфмана, якую ён апрацаваў для Аляксандра II разам з кіеўскім ген.-губарнатарам Безакам: „о мерах преобразования землевладения в 9 губерниях Западнаго Края на народно-русских началах“. Запіска гэтая па загаду Аляксандра II абмяркоўвалася на асобнай нарадзе ў Пецярбургу пад старшынствам князя П. Голіцына і тут зноў разыгралася рашучая барацьба паміж прыхільнікамі програмы Муравьева і яго опозыцыяй, сярод якой былі ня толькі асобы, блізка зьвязаныя з польскай зямляўласнасьцю на Беларусі, але і значная частка расійскай арыстократыі. У выніку запіска была ўсё-ж прынята, і 10 сьнежня 1865 г. быў прыняты закон аб тым, каб высланыя з Заходняй Расіі ўдзельнікі паўстаньня прымусова ці прадалі ці абмянялі свае маёнткі асобам расійскага паходжаньня на працягу двух год.

*) Пералік законаў ураду па зямельнай політыцы на Беларусі ў той час гл.: „Сборник правительственных распоряжений по водворению русских землевладельцев в Сев.-Зап. Крае“, Вільня, 1870 г., стар. 344.

Аднак у зьвязку са сваёй напорыстасьцю зьляцеў і К. Кауфман,— правядзеньне гэтага закону каштавала яму генэрал-губарнатарскага месца ў Вільні. Інтарэсы буйнога польскага зямляўласьніцтва на Беларусі мелі ў Пецярбургу ня менш моцную руку, чым партыя мураўеўская, і справа набыцьця „истинно-русским“ элемэнтам зямель ня надта пасоўвалася наперад. Вось офіцыяльныя даныя аб руху расійскай зямляўласнасьці за $5^1/_2$ год—ад 5 сакавіка 1864 г. да 1 ліпеня 1870 г.*).

| ГАДЫ | У няпольскіх руках | | | У польскіх руках | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Уласьн. | Маёнткаў | Зямлі ў дзес. | Уласьн. | Маёнткаў | Зямлі ў дзес. |
| 1864 . . . | 987 | 1.046 | 1.516.338 | 14.505 | 14.908 | 7.017.055 |
| 1870 . . . | 2.129 | 2.099 | 2.371.140 | 13.771 | 14.184 | 6.292.048 |

Як відаць з гэтае табліцы, ня гледзячы на ўвесь уціск з боку расійскага ўраду, польская зямляўласнасьць страціла за гэты крытычны пэрыод мала чым больш 10 проц. свайго зямельнага багацьця. Пры гэтым трэба прыняць пад увагу, што гэтыя шэсьць год былі наогул часам крытычным для памешчыцкае зямляўласнасьці,—незалежным ад палітычных рэпрэсій і зьвязаным з вызваленьнем сялян. Аб слабым разьвіцьці расійскай колёнізацыі Беларусі ў тыя часы і аб моцнай апорнасьці польскіх памешчыкаў, падтрыманых пэўнай часткай пецярбурскай арыстократыі, аднадушна гавораць усе сучасныя і пазьнейшыя дасьледчыкі. На гэтае-ж самае скардзіўся ня раз і „Вестник Западной России“.

Пры гэткіх умовах бараніць расійскую зямляўласнасьць на Беларусі і бараніць *дробную* зямляўласнасьць у тых рашучых, а часам і рызыкоўных тонах, як рабіў гэта Гаворскі, можна было толькі пры поўным пераконаньні і пры сьвядомым разуменьні свайго клясавага інтарэсу. Мы кажам ласьне аб клясавым інтарэсе „западно-русской“ школы, бо бязумоўна ён быў і ён, а ні што іншае, у канчатковым выглядзе акрэсьліваў усю палітычную і, калі можна гэтак сказаць, і нацыянальную ідэолёгію гэтае школы.

Хто быў у тыя часы ў складзе „западно-русской“ школы?

Яе складалі дробныя чыноўнікі, настаўнікі сельскіх і гарадзкіх школ ды гімназій, дробная мясцовая адміністрацыя, пачынаючы ад валаснога пісара і канчаючы пасрэднікам і спраўнікам, праваслаўнае духавенства, прыгародныя мяшчане, наогул тая сярэдняя краёвая праваслаўная беларуская інтэлігенцыя, якая па ліку была вельмі нязначнай, а па свайму грамадзкаму значэньню была значна слабейшай ад мясцовай беларускай

*) „В. З. Р.“, 1870, кн. 12, разьдз. IV, стар. 105.

інтэлігенцыі польскай культуры. Да яе, зразумела, належала і наплыўшая з цэнтральных губэрань вялікаруская „інтэлігенцыя“, якая верхаводзіла справай русыфікацыі, але якая ідэолёгічнага афармленьня для „западнорусской“ школы не давала і даць не магла. Экономічна ўся гэта мешчанска-буржуазная кляса была за рэдкімі выключэньнямі незаможнай; значнай зямельнай уласнасьцю і капіталамі, якія адыгрывалі-б якую-небудзь ролю ў гаспадарчым жыцьці краю, яна не ўладала. Яшчэ і да паўстаньня, пры барацьбе на Беларусі польскіх і расійскіх культурных і экономічных уплываў, гэтая дробна-буржуазная кляса расійскай культуры цягнула за Расію, бо з боку ўсясільнай польскай зямляўласнасьці і польскай прамысловасьці яна не магла сустрэць спагадных да сябе адносін, солідарнасьці і падтрыманьня.

Паўстаньне і распачаты пасьля яго разгром польскай экономічнай сілы ў краі раскрылі прад гэтай клясай самыя спакусныя пэрспэктывы. Высокія пэнсіі, наградныя, ордэны, магчымасьць лёгка зарабіць і выбіцца па службе, рэквізыцыі па польскіх маёнтках і па гарадох, бесконтрольны разгул усясільнай адміністрацыі, якая абвесьціла вайну ўсяму польскаму, цёплыя месцы адміністратараў, судзьдзяў, пасрэднікаў, паліцэйскіх, настаўнікаў, урэшце, вакханалія, якая пачалася ў краі з прымусовай ліквідацыяй польскіх маёнткаў, што прадаваліся з малатка па казённай ацэнцы і якія можна было набыць пры казённых пазыках за чужыя грошы на выплат у некалькі год і без усялякіх падаткаў,—усё гэта разам узятае не магло не захапіць чыноўнай і папоўскай праваслаўнай інтэлігенцыі і не аформіць яе політычнага сьветапагляду. Муравьев ведаў, што рабіў, калі ласьне на грунце экономічнай зацікаўленасьці наважыў стварыць у краі сваю спэцыяльную партыю. У гэтым сэнсе ён абапіраўся ня столькі на сялянства, як клясавую сілу, а ласьне на гэтую дробна-буржуазную армію чыноўнікаў і валасных пісароў, якую ён вабіў аднолькава і ідэяй расійскай народнасьці і расійскім рублём.

Усе міласьці, усе грашовыя і службовыя выгоды ішлі для іх ад тае ўлады, якая рэпрэзэнтавала Маскву, ішлі ад „великой матушки России“ з яе неабмежаванымі матэрыяльнымі магчымасьцямі, ішлі ад Пецярбургу, ад дэпартамантаў, міністэрстваў, прыдворных сфэр аж да самага „обожаемого монарха“. Ішлі яны, урэшце, ад праваслаўнага сьвяцейшага сыноду, ад славутага маскоўскага мітрополіта Філарэта, які ня толькі са сваіх конфэсыянальных, але і з агульна-політычных мэт падтрымліваў сыстэму Муравьева.

Усе паказаныя міласьці маглі быць набыты пры аднэй умове—пры служэньні расійскай уладзе, служэньні вялікай імпэрыі і ўзмацненьні яе вялізарнай сілы. Вось гэтыя экономічныя і матэрыяльныя выгоды ласьне і ляжалі ў аснове „западно-русской“ школы, якая тым больш ненавідзела ўсё польскае, чым больш перад ёй вырысоўвалася магчымасьць заняць домінуючае, першараднае значэньне на Беларусі.

Вясковы сьвяшчэньнік і гарадзкі настаўнік, палацкі архіварыус і супрацоўнік губэрскіх ведамасьцяй—усе гэтыя служылыя людзі кіраваліся загадам губарнатарскай і архірэйскай улады і ў першую чаргу высоўваліся гэтай уладай на вышэйшыя ступені соцыяльнай драбіны; яны-то і павінны былі ў першую чаргу займаць месца тае шляхты і таго польскага памешчыка, якія выбіваліся са свайго прывілееванага становішча. Прынамсі „Западно-русские люди“ са ўсіх сіл імкнуліся тае месца заняць. Паляк-пан мусіў, паводле выразу Гаворскага, пакланіцца „западно-русскому босоногому патриоту“. На гэтым грунце і стварылася ў Вільні і наогул ва ўсёй Беларусі 60-х і 70-х гадоў тая атрутная, агідная атмосфэра, на якой пышнай кветкай закрасаваў палітычны „западно-руссизм“ тыпа Гаворскага, тая „западно-русская“ скрайня русыфікатарская палітычная партыя, прад якой пасавала і якой унікала больш прынцыповая і культурная група Кояловіча.

Па ступені сваёй экономічнай зацікаўленасьці ў русыфікацыі Беларусі, па шкурніцтву, прадажнасьці, беспрынцыповасьці, „западно-руссы“ Гаворскага мала чым адрозьніваліся ад вялікарускіх колёнізатараў, для якіх нічога, апрача голага грашовага інтарэсу, не існавала. Пастаўленая на грунт фафорытызму, расійская культурная зямляўласнасьць у „северо-западном“ краі зусім лёгічна разьвілася ў афэру, спэкуляцыю, кулацтва. Аб дзяржаўных і нацыянальных інтарэсах ня было і ўспаміну. Кожны з прышэльцаў жадаў толькі што-небудзь сарваць у краі і хутчэй пакінуць яго. Палякі часта мелі рацыю, калі казалі аб узорах маскальскага барбарства, якое прыносілі з сабой гэтыя культуртрэгеры *).

Паўтараем, Гаворскі сьвядома бараніў дробную расійскую зямляўласнасьць, а ня буйную, бо гэтым самым ён бараніў і формуляваў клясавыя інтарэсы тае соцыяльнае групы, да якой ён сам і яго партыя належалі. У парадку „абрусеньня“ зямляўласнасьці, яго „западно-руссы“ маглі разьлічваць заняць толькі сярэдняе месца—месца магнатаў заняць ім ніяк не выпадала. Гэтаму перашкаджала і адсутнасьць у іх солiднага капіталу і прыналежнасьць іх да сярэдняга соцыяльнага стану. У нагароду за свае пераконаньні яны маглі захапіць толькі сярэднюю гаспадарку, параўнальна дробны кавалак зямлі.

У сваю чаргу і ўлада была зацікаўлена ў тым, каб чыноўнік і настаўнік набывалі сабе невялічкія маёнткі. У гэткі спосаб вырашалася складаная для расійскага скарбу задача компэнсаваць вялізарную армаду новых служкаў „вялікай Расіі“ пэнсіяй за выслугу гадоў, якая пэнсія займала досыць вялікую стацьцю ў дзяржаўным бюджэце. Кожны ген-губарнатар дасканала ведаў, што 50-процантная надбаўка для ўсёй гэтай армады не магла быць вечнай—трэ‘ было страхавацца на будучыя гады. Падобнай страхоўкай-компэнсацыяй і павінны былі зьяўляцца дробныя, у 30—50 дзесяцін зямельныя вучасткі. Аб гэтай абапольнай зацікаўленасьці ў „Вестнику“ знаходзім ня мала красамоўных і малюнкавых доказаў.

*) А. Владимиров, op. cit., стар. 17.

„Для абрусеньня заходня-рускага краю няма іншага спосабу, як ачысьціць гэты край ад польшчызны. Ачысьціць, зразумела, не *запароскім спосабам* (sic), але шляхам надзелу зямлёй расійскіх чыноўнікаў. Мы схіляемся перад гэтай мерай і выказваем вось якое пажаданьне. Дзеля таго, што ў апошнія часы зьявіліся ў нашай прэсе чуткі, быццам сума штогодніх дапамог, пэнсій, якія атрымліваюць адстаўныя чыноўнікі ўсіх службаў, зрабілася занадта цяжкой для дзяржаўных фінансаў, дык напэўна знайшлося-б шмат такіх расійцаў, якія заместа пэнсіі ахвотна замацавалі-б за сабой у вечнае ўладаньне конфіскаваныя або сэквэстраваныя маёнткі ў Заходнім Краі. Бязумоўна—пэнсіі трэба замяніць вучасткамі зямлі*).

„Уявім сабе,—марыць „Вестник“,—што ўсе перашкоды асілены—і вось са ўсіх канцоў Расіі едуць у Заходні Край чыноўнікі-пэнсіянэры са сваімі сем'ямі, устрайваюцца тут на жыцьцё на вызначаных ім вучастках, заводзяць гаспадарку і мала-па-малу ствараюць сваю ўласную інтэлігенцыю, рускую ў рускім краі, прад якой ранейшая польская павінна нямінуча ступавацца. Гэткім чынам расійская зямляўласнасьць у гэтым краі замацавалася-б ня толькі de skripto, але і de fakto, і край набыў-бы рускую фізыономію. Па ліку тутэйшага простага народу гэты край і цяпер рускі, і быў, і будзе рускім; але справа ідзе не аб простым народзе, але аб замене яго тутэйшай крамольнай інтэлігенцыі—чыстай расійскай інтэлігенцыяй. Цяпер шмат якія рускія ня хочуць заставацца на сталае жыхарства ў Заходнім Краі між іншым таму, што няма тут расійскага грамадзтва, няма дзе адпачыць душой. Гэтая няпрыемнасьць сама сабой зьнікла-б, калі край засяліўся-б расійскімі зямляўласьнікамі, і, як-бы па знаку чароўнае рукі, хутка адбылося-б жаданае абрусеньне“.

„Апрача абрусеньня краю, праз гэтае сапраўднае асталяваньне тут расійскіх сямействаў, мы дасягнулі-б другога жаданага на карысьць людзкасьці рэзультату,—асабліва для нашае бацькаўшчыны,—зьнішчылі-б, а то прынамсі паменшылі-б лік чыноўнага пролетарыяту. Ёсьць шмат адстаўных чыноўнікаў, якія ня маюць, што называецца, ні кала, ні двара, і якіх, у выпадку сьмерці, хаваюць суседзі звычайна ў складчыну... А дзе-ж пасьля маёй сьмерці будзе жыць мая ўдава і мае дзеці?—горка пытаецца гэткі чыноўнік. Зусім інакш адчуваў-бы ён сябе, калі-б у яго быў невялічкі, гэтак прыблізна дзесяцін у 500, маёнтачак, з выплатай на 20 год, а ў гэтым маёнтачку ён знайшоў-бы гатовы дамочак і атрымліваў-бы ён з гэтае зямлі сталы, хоць-бы невялічкі, прыбытак... Калі-б у будучыні сямействы гэтых працаўнікоў пажадалі-б разьдзяліцца,—тым лепш. Тады яшчэ больш было-б у краі самастойных расійскіх зямляўласьнікаў, і мэта абрусеньня краю зрабілася-б яшчэ бліжэй“.

„А каб гэтую мэту наблізіць яшчэ больш,—можна было-б даваць невялічкія вучастачкі ў 100, 50, 30 і нават у 20 дзесяцін у замену пэнсіі гэткім пэнсіянэрам, якія атрымліваюць маленькія пэнсіі ў 300 руб.,

*) „В. З. Р.“, 1869, кн. 12, разьдз. III, стар 15: „Обрусение Западно-Русского Края“.

200 руб. і менш. У гэткі спосаб дрэўні Рым заводзіў свае колёніі са сваіх заслужоных людзей, якія, замацаваўшыся на вызначаных ім мясцох, з удзячнасьцю казалі: „Deus nobis hoc otium fecit“.

„Гэткім чынам, у Заходнім Краі Расіі супроць польскай інтэлігенцыі вырасла-б твар да твару расійская інтэлігенцыя, складзеная з адстаўных расійскіх чыноўнікаў з іх сямействамі. А дробныя пэнсіянэры, у тым ліку адстаўныя жанатыя унтэр-афіцэры і салдаты, паселеныя на казённых вучастках, грудзьмі сталі-б супроць дробнай шляхты і, бязумоўна, зацерлі-б яе“.

„Наперад, браты, наперад!—упэўнена канчае „Вестник“ свае разважаньні на гэтую прыемную тэму.—Прызваныя лёсам божымда заснаваньня расійскага жыцьця ўдрэўнім расійскім краі, будзем варты гэтага вялікага прызваньня. Агульнай нашай працай давядзем гісторыю да таго, каб нашы патомныя назвалі нас сваймі дабрадзеямі“ [1]).

* * *

Цэлых чатыры гады—ад канца 1864 да 1868 г.—К. Гаворскі і ўся група „Вестника Западной Россіи“ адчувалі сябе ў Вільні дасканала і не маглі скардзіцца на адносіны да сябе з боку мясцовае ўлады. Як спачатку М. Муравьев, так пасьля К. Кауфман і гр. Баранов, ня кажучы ўжо аб І. Корнілаве, лічылі Гаворскага „сваім чалавекам“, „сваёй“ партыяй, хоць асабіста ня пускалі яго да сябе блізка; у асабістых адносінах ён быў асобай не таго кругу. Падтрыманьне „Вестника“ як у форме прымусовай падпіскі, нягласных дотацый і карыстаньня з сакрэтнага фонду, было яму забясьпечана—усе мясцовыя опонэнты яго былі заціснуты у кулак. У гэты час ён мог з гордасьцю крычаць на ўсю Расію, што толькі яму аднаму належыць гонар барацьбы за Заходні Край, за яго абрусеньне і зьнішчэньне палякаў.

„Раз і назаўсёды павінны мы цяпер заўважыць,—кажа Гаворскі ў момант найбольшай сваёй „славы“,—што ініцыятыва па вырашэньні так зв. польскага пытаньня належыць не Катковым, не Аксаковым і Кояловічам, як шмат хто дарма думае, а ласьне нам, дакумантальным сьведчаньнем чаго служыць выдаваная намі ў 1857—58 г. неофіцыяльная частка Віцебскіх Губ. Ведамасьцяй, розныя брошуры да 1860 г. галоўней за ўсё выдаваны з 1862 г. „Вестник Западной Россіи“.

Але вось ужо ў 1867—68 годзе зьявіліся першыя праявы заходу яго зоркі. Першай праявай зьявілася гісторыя з запытаньнямі віленскай і пецябурскай прэсы наконт шасьцітысячнага фонду, на які павінен быў выдавацца народна-беларускі часопіс „Друг Народа“[2]). Першая запыталася аб гэтым „Современная Летопись“ (1867 г., № 28), у якой карэспондэнт з Вільні, падпісаны „Белорусс“, даводзіў, што адзін нумар гэтага часопісу быў нават выданы, але што цяпер ва ўсім краі яго нельга дастаць на вагу золата. Затым аб гэтым запыталіся „Московские Ведомости“,

[1]) Ibid. „Обрусеніе Зап.-Руского Края“, стар. 27.

[2]) Гл. „Полымя“, 1928 г. № 1, стар. 121—3.

якія ў лісьце да чытачоў казалі, што пытаньне аб выданьні ў Вільні таннай газэты для народу было зьнята, па запэўненьнях адных—дзякуючы дамаганьнем пецярбурскіх полёнофілаў, а па запэўненьнях другіх—дзякуючы „клерыкальнай партыі“, якая засела ў Вільні і знайшла выданьне „Друга Народа“ лішнім, хоць ня лішнім лічыць атрымліваць з дзяржаўнага скарбу шэсьць тысяч штогод. Урэшце і ў „Виленском Вестнике“ (1867 г., № 133) была надрукавана перадавіца, у якой таксама паведамлялася, што карыснай справе выданьня народнага часопісу перашкаджала ўвесь час так зв. „клерыкальная партыя“.

Хоць са ўсёй гэтай перапіскі нічога ня вышла, і Гаворскі здолеў ліквідаваць няпрыемную гісторыю, аднак, дзякуючы таму, што справа была агалошана, існаваньне „Вестника“ было пастаўлена пад знак запытаньня.

Другой адзнакай зьявілася палеміка яго са Скорятіным і наогул з тэй пецярбурскай прэсай, якая ішла вайной супроць рэжыму Муравьева. Хоць хістаньні ў гэтым пытаньні былі ў Вільні хутка спынены пад уражаньнем заявы гр. Баранова, які на прыёме віленскага дваранства заявіў, каб яно „оставило пустые мечтания“ і спыніла распаўсюджваць няправільныя чуткі аб зьмене рэжыму, і хоць Гаворскі, як паказана вышэй, мог трыумфаваць сваю перамогу, аднак, яго трыумф і перамога былі часовымі. З пачаткам 1868 г., г. зн. з прыездам у Вільню чацьвертага па чарзе начальніка краю, ген. Потапова, „Вестник“ пачынае ўсё больш траціць ранейшы ўпэўнены тон, і на яго старонках усё часьцей пачынаюць зычэць ноткі расчараваньня і пэсымізму. Пад уплывам гэтага настрою Гаворскі пачынае з большай уважлівасьцю ставіцца да „тутэйшага“ народу, незадаволены адносінамі цэнтральнай улады да мясцовага духавенства, урэшце, адважваецца заявіць, што паміж наплыўшымі з Расіі расійскімі чыноўнікамі і „тутэйшымі рускімі“ ня ўсё добра.

„Пры адносна слабым колькасным элемэнце расійскай інтэлігенцыі ў Заходняй Расіі, галоўную ў ёй сілу складае просты народ. На гэтую сілу варта зьвярнуць увагу з боку маральнага, экономічнага і політычнага. Маральны бок заходня-рускага простага люду ў параўнаньні з іншымі ня можа ня радаваць нагледача. Большасьць распаўсюджаных у іншых народаў учынкаў—у заходня-русаў разьвіты слаба; гэты народ амаль не знаёмы з раскошай, гвалтам, разгулам. Сямейныя адносіны тутэйшага простага народу не такія дзікія і свавольныя... Зладзействы, разбоі і падпалы тут значна радзей, чым у іншых мясцох. Нават п'янства ня гэтак агідна і ня так шырака разьвіта, як у большасьці вялікарускіх губэрань. Ня гледзячы на малаўрадлівасьць тутэйшых грунтоў і на неўраджаі апошніх год,—тутэйшы селянін амаль не цярпеў ад голаду; пры пашырэньні сельскае гаспадаркі і пры высокіх цэнах на рабочыя рукі пролетарыят на вёсцы—зьява амаль нябывалая. Аднак,—застаецца Гаворскі верным сабе,—політычна важнай зьяўляецца толькі праваслаўная

частка простага народу,—каталіцкая больш цягне да польскага пана, чым да расійскага прастолу“ [1]).

Незадаволены Гаворскі і новым курсам да праваслаўнага духавенства, „політычная місія якога ня цэніцца нават сваімі“, якога абражаюць у недахопах ведаў, добрых намераў і нават „политической благонадежности“, гамоняць аб яго адсталасьці, обскурантызьме. „Падслуханае ў сям'і тутэйшага духавенства польскае слова, заўважаны ў яго хаце польскі абраз з лацінскай назвай, нічога ня вартае адступленьне ад маскоўскае абраднасьці, нават фасон вопраткі і ўмовы жыцьця жаночага полу,—усё гэта ставяць у дакор тутэйшаму духавенству. У зьвязку з гэтым нашае духавенства адсоўваюць ад удзелу ў кіраваньні жыцьцём народу. Пашто гэтак рабіць, пашто капацца ў тым *гістарычным пыле*, які прыляпіўся да тутэйшага духавенства, і ад якога ён ня здолеў пазбавіцца канчаткова. *Што нарастала праз вякі, ад гэтага нельга вызваліцца адразу* [2]),—паўтарае „Вестник“ словы І. Семашко.

Заўважае Гаворскі, што і расійскія чыноўнікі ня столькі служаць Расіі, як сабе, што яны „асабліва любяць прыбытковыя месцы“, і выражае пажаданьне, каб сярод іх ня было ўглаватасьцяй, інтрыгі, зайздрасьці і *„каб расійскія ў краі госьці мелі больш пашаны да расійскіх гаспадароў краю“*.

Відаць, „расійскія госьці“ пачалі дапякаць і „гаспадару“ Гаворскаму, пачалі і яму вытыкаць „гістарычны пыл“.

Праз год зрабілася яшчэ горш, і „Вестник“ усё больш, усё настойлівей пачынае скардзіцца на „происки недоброжелателей“, на грамадзкую антыпатыю, на тое, што яго перастаюць чытаць. Прызнавацца ў гэтым яму асабліва цяжка таму, што ён лічыць за сабой не адну вялікую заслугу: ён „першы з грознай зброяй гістарычнай ісьціны (гл. вокладку часопісу) пачаў граміць лацінска-польскую пропаганду, выкрыў падземную агітацыю рэволюцыйных партый, раскідаў у гэтых мэтах, таксама як ў мэтах абрусеньня краю, дзесяткі тысяч „Бесед к простому народу, живущему на западе России“; зьнішчыў украінафільскую партыю з яе органам „Основой“, быў душой і штурхачом народных адрасоў, што „образумили Европу и об'единили Россию“; ён першы абвесьціў Герцэна „от'явленным мерзавцем“, першы заявіў, што польская сіла ў польскай зямляўласнасьці і што трэба зямлю польскую абярнуць у зямлю рускую, першы зазначыў верны пагляд на ролю расійскае асьветы на захадзе Расіі“ [3]) і г. д., і г. д.

„І ўсё-ж такі“, прызнаецца „Вестник“, „сумна ўспамінаць, што большасьць нашай прэсы ніводным словам ня выказала спачуцьця нам, не

[1]) „В.З.Р.“. 1869, кн. 5, разьдз. III: „Несколько соображений, вызываемых современным положением Западной России“, стар. 9.

[2]) Ibid., стар. 17.

[3]) „В.З.Р.“, 1870 г., кн. 1, разьдз. III: „Враждебное чувство“, стар. 12.

падтрымала „Вестник“... Найбольш шкодна і сумна тое, што „Вестника“, які прышоў да сваіх, нават і свае ня прынялі. У яго шмат ворагаў сярод сваіх, сапраўдных рускіх, якія, здавалася-б, павінны былі-б любіць яго і спагадаць яму, а ня выказваць яму нейкую незразумелую антыпатыю“ *).

У чым прычына?—пытаецца „Вестник“, і зазначае цэлы шэраг прычын: для адных ён няпрыемны, як моцны антыпод полёнізму, для другіх—сваім праваслаўным напрамкам; лібэралы і нігілістыя ня любяць яго за „печатные дерзости“, уплывовыя людзі—за грубы тон.

Скаргі і жальбы Гаворскага былі сьведчаньнем канчатковага яго занядаду. У 1870 годзе гэты „адважны прожэкцёр“ моцна захварэў псыхічна і 20 мая 1871 году памёр. Апошнія кніжкі „Вестника Западной России“ вышлі пад рэдакцыяй рэдактара-супрацоўніка І. Ярэміча,—у чэрвені 1871 г.

„Виленский Вестник“ прысьвяціў сьмерці Гаворскага 10 радкоў хронікі, а „Літоўскія Епархіяльныя Ведамасьці“—роўна тры радкі.

„Вось нагарода стойкаму барацьбіту за праваслаўе і рускую народнасьць у Заходнім Краі!“—горка зазначае з гэтай прычыны А. Сапунов.

* *
*

Трынаццаць радкоў віленскай прэсы аб Гаворскім у дзень яго сьмерці былі зьявай вельмі сымболічнай. Бо за ўсе пяцьдзесят год, што мінулі з таго часу, аб Гаворскім і яго „Вестнике Западной России“ было напісана пропорцыянальна яшчэ менш.

У чым крыецца прычына гэтае зьявы?—спытаемся мы ў сваю чаргу. Чым вытлумачыць, што аб часопісу, які выдаваўся на працягу амаль дзесяці год у самую бурную эпоху жыцьця Заходняга Краю, аб часопісу, які як-ніяк складае каля сотні кніг і які гэтак нэгатыўна адбіўся на грамадзкім і культурным жыцьці 9 губэрань („сев.-западных“ і „юго-западных“), з-за якога пацярпеў не адзін часопіс і не адзін аўтар,—што аб гэтым часопісе так мала напісана. Сапраўды, ня кажучы ўжо аб прогрэсыўнай расійскай прэсе і літаратуры, якая мела ўсе даныя, каб не заўважаць яго, не ўспамінаць аб ім, але нават і ў так зв. „патрыотычнай“ расійскай літаратуры аб К. Гаворскім і „Вестнику“ напісана да сьмешнага мала. Мы перагарнулі даволі літаратуры з 60—70 гадоў, даволі досьледаў і ўспамінаў аб гэтай эпосе і аб тагачаснай Вільні,—і толькі ў самых рэдкіх выпадках (гл. літаратуру аб Гаворскім у першым разьдзеле нашае працы, „Полымя“ № 8, стар. 106—108) сустрэліся з весткамі аб ім і з крытыкай на яго. Дзіўна, што нават гэткія асобы, як І. Корнілов у сваіх працах аб муравьёўскім часе, Міловідов у сваіх досьледах аб тым-жа, Жыркевіч у біографічным нарысе акад. Чагіна, аднаго з бліжэйшых супрацоўнікаў М. Муравьёва і Кауфмана, Спрогіс у сваіх успа-

*) „В. З. Р.“, 1870 г., кн. 1, разьдз. III: „Враждебное чувство“, стар. 14—15.

мінах аб Вільні 60 гадоў, Мосолов, дэ-Пуле, М. Кояловіч, урэшце Іосіф Семашка ў сваіх вялізарных трохтомных запісках і г. д.—ніхто не ўспамінае імя Гаворскага, ніхто ня спыняецца над яго дзейнасьцю. Няма яго імя ў пратаколах „Северо-зап. русского географического О-ва“, заснаванага ў Вільні ў 1867 г., не ўспамінаецца яго асоба і ў перапісу самога Муравьева з рознымі асобамі ды ўстановамі. І што асабліва дзіўна,—нават бліжэйшая „западно-русская“ брація, якой у той час далёка не бракавала ў Вільні і наогул на Беларусі, што яна таксама як-бы цураецца і абыходзіць моўчкі дзесяцігодны пэрыод выданьня „Вестника“. Толькі ў пазьнейшых зборніках С. Шолковіча (1887 г.) зроблена невялікае выключэньне: дадзена тры-чатыры артыкулы з „Вестника“, і то пераважна даведачнага, а не прынцыповага значэньня.

Недарма А. Пыпін, робячы ў 80 гадох агляд дзейнасьці газэт і наогул літаратуры ў Вільні пэрыоду Гаворскага, гаворыць аб „Вестнику“, як аб ужо забытым выданьні. Недарма яшчэ раней, пры выданьні апошніх нумароў „Вестника“, газэта Каткова „Московские Ведомости“, спачуваючы, казала аб ім, як аб часопісу, які мала чытаюць.

Што да агульнай расійскай літаратуры і крытыкі, якая ў пераважнай сваёй частцы заўсёды кіравалася опозыцыйнымі настроямі ў стасунку да ўраду і яго політыкі, дык тут, як сказана, рэзка адмоўныя адносіны да „Вестника“ Гаворскага былі зразумелыя. Якой популярнасьцю мог карыстацца ў 60-я гады „Вестник“, калі на яго старонках ішла часам пропаведзь шкоднасьці асьветы для „низших сословий“, калі ён прапаведваў царкоўна-славяншчыну, калі ён мяшаў Шэўчэнку з гразёй, Костомарова абзываў „врагом отечества“, а вядомага Н. Страхова—бліжэйшага супрацоўніка Достоевскага—лаяў „недоучившимся публицистом“ і раўняў яго адначасна з Іудай, з Хамам і Геростратам. Грубы і злосны тон „Вестника“, блізкасьць да Муравьева і яго паліцыі, прывычка канчаць дыскусію ў сваім часопісу даносам на опонэнта ў адпаведны дэпартамант,—усё гэта рабіла „Вестник“ такім органам, з якім мець справу было ня толькі мала карысна, але проста небясьпечна. У вачох усёй расійскай грамадзкасьці таго часу, партыя „Вестника Западной России“ зьяўлялася якімсьці „мрачным сонмищем“, партыяй цёмных пралазаў, якія гатовы былі зьесьці ня толькі Польшчу, палякоў і каталікоў разам з рымскім папай, але якія гатовы былі зьесьці і ўсё расійскае не казённа-праваслаўнае. Недарма па яго адрасу казалі, што „Вестник Западной России“ быў віленскім портрэтам славутага „Маяка“ з дадаткам новых „політычных ідэй“, што Гаворскі быў беларускім адбіткам Магніцкага і Руніча.

Была і другая прычына, на гэты раз выкліканая ўмовамі мясцовага характару. Калі ў стасунку да агульна-расійскае прэсы і грамадзкага жыцьця „Вестник“ Гаворскага захоўваў груба-рэакцыйны, паліцэйскі тон, дык *у стасунку да „западно-русской“ справы ім быў узяты тон фальшывы.*

Непапулярнасьць „Вестника" ў тагачасным мясцовым жыцьці на Беларусі, адмоўныя адносіны да яго з боку тых людзей і тых соцыяльных груп, клясавыя інтарэсы якіх ён бараніў,—тлумачыцца тым, што ён у сваёй абароне, ці лепш сказаць, *у сваім разуменьні „западно-русских" інтарэсаў пайшоў ня тэй дарогай, якой належала,* і перайшоў тыя граніцы магчымага і патрэбнага, якія гэтымі інтарэсамі зазначаліся.

Памылка Гаворскага і яго аднадумцаў была ў тым, што яны надалі заданьню русыфікацыі Беларусі залішне чыноўніцкі характар. Падобны кірунак дзейнасьці Гаворскага кідаўся ў вочы ня толькі мясцовым „западно-русским людям", але нават шмат каму з прыехаўшых расійцаў. Так, прыкладам, аб гэтым вельмі рашуча пісаў П. Безсонов, адзін з тых, каго Корнілов выклікаў з Масквы для „обрусения" Беларусі, каму была даручана муравьёўская „рэформа" Віленскага музэю і кіраваньне работай віленскай археографічнай камісіі. Безсонов блізка зышоўся з некаторымі віленскімі працаўнікамі з расійскага лягеру, між іншым, з рэдактарам „Віленского Вестника" М. дэ-Пуле, А. Казановічам, нават з дырэктарам маладэчанскай сэмінарыі Забеліным,—але вельмі далёка быў ад „мрачнага сонмища" Гаворскага. Не рызыкуючы заявіць свае погляды на месцы ў Вільні, ён па звароце ў Маскву пісаў аб іх наступнае:

„Западно-русскіх" людзей не жадалі мы вітаць у гэткім мундыры і з форменымі гузікамі. Не корэспондавалі ім у Пецярбург і ня кланяліся ім на месцы. Мы іх шукалі сярод мясцовых ураджэнцаў і сталых жыхароў, якія-б дасьледвалі сваю гісторыю і не пакідалі-б асаблівых адзнак сваёй мясцовай гутаркі. Мы разумелі „русение" і „обрусение" ня ў грубым, гэтак хутка з'агідзеўшым сэнсе, але ва ўздыме мясцовых сіл, прызваных пасоўваць наперад лёсы краю, і пабрацку прынесеных моральных і інтэлектуальных сіл расійскіх. Перамога фразы не прадстаўлялася нам перамогай расійскае справы: „ксяндзоўства, шляхецтва, польскія інтрыгі і пропаганда, злосныя подступы ворагаў, фанатызм і рускі чалавек як герой краю",—усе гэтыя выразы ня ліліся з нашых вуснаў... Політычнае, панашаму, было ня тое самае, што паліцэйскае, а дзяржаўнае—ня тое самае, што чыноўніцкае. Арэндаў, знакаў удзячнасьці, выгодных камандыровак і ўвагі начальства,—мы не дамагаліся... Займаючыся гісторыяй краю, мы не ўглядалі яе ў апісаньнях патрыотычных сьвяткаваньняў, у клопатах аб асьвеце, мы лічылі, што гэта не адно і тое, што рэгулярна адседжваць „пэдагогічныя вечары". Дасьледуючы на месцы беларускую песьню, мы не дабачалі перамогі расійскае народнасьці, калі хто-небудзь у ап'яненьні садзіўся на берагох Вяльлі ў шырокі круг і пачынаў пяяць „Вниз по матушке по Волге" *).

---

*) П. Безсонов: „Белорусские песни", прадмова, стар. XVII—XVIII. „Аб адносінах П. Безсонова да Беларусі гл. нашу працу: „Погляд П. Безсонова на беларускую справу", 1922 год.

Характарыстыка Гаворскага і яго партыі дана тут надзвычайна трапна: ласьне гэта ён, Гаворскі, прадстаўляў сабой „западно-русса“ ў форменых гузіках, гэта ён блытаў палітычнае з паліцэйскім і дзяржаўнае з чыноўніцтвам, гэта ласьне ён сачыў за патрыотычнымі сьвяткаваньнямі і за „пэдагогічнымі вечарамі“ Корнілова, гэта ён разам са сваёй партыяй пяяў у Вільні замест беларускай народнай песьні—„Коль славен“ і „Вниз по матушке по Волге“. Разам з тым ён старанна ўнікаў назовы „Белоруссия“ і вытыкаў сваім корэспондэнтам, калі яны нават слова „Западная“ Расія пісалі з вялікай літары.

Мясцовыя работнікі, тыя „западно-руссы“, якія не сароміліся свайго беларускага паходжаньня, усе тыя чыноўнікі, бацюшкі, настаўнікі і інш., якіх іхняя мясцовасьць абыходзіла, не маглі быць задаволены гэткім напрамкам дзейнасьці Гаворскага: мімаволі выходзіла, што ня толькі польскае, але і наогул усё мясцовае ня мае ніякае цаны і павінна быць зьнішчана. Выходзіла, што, вызначаючы тут на Беларусі выключна толькі „истинно-русский“ элемэнт, „Вестник“ Гаворскага адпіхаў на другі і трэці плян мясцовых „западно-руссов“, якія хоць і ня лічылі сябе сапраўднымі вялікаросамі, аднак ня лічылі сябе і горшымі за іх як у справе русыфікацыі Беларусі, так асабліва ў справе барацьбы з полёнізмам. Яны справядліва лічылі, што падобны напрамак дзейнасьці Гаворскага яўна ім шкодны, што ён пазбаўляе іх усялякай ролі ў краі, і што пры гэтай умове яны ня будуць мець ніякае карысьці ад новага ўрадовага курсу.

Падобнае пераконаньне акрэсьлена падмацоўвалася об'ектыўнымі лічбамі пераходу ў рукі мясцовых чыноўнікаў польскай памешчыцкай зямлі. Чым далей, тым больш рабілася ясным, што русыфікацыйная кампанія Гаворскага падмацоўвае выключна наехаўшае расійскае чынавенства, вялікарускіх русыфікатараў, і што чым далей, тым больш з рук мясцовых „западно-руссов“ высьлізгаюць тыя экономічныя выгоды, якія павінна была-б ім прынесьці вайна з польскім памешчыцкім станам*).

Рэдакцыя „Вестника“ пры канцы сваёй дзейнасьці як-бы агледзелася і, як заўважана вышэй, пачала шукаць новы грунт, пачала абіраць іншы шлях сваёй „западно-русской“ пропаганды. У ёй самой як-бы зазначаецца рэакцыя супроць наплыўшых пагардлівых вялікаросаў, супроць іх бясспрэчнага прыорытэту і заціраньня мясцовых работнікаў. Калі ў Маскве пачалі гаварыць, што переваварачэньне вуніятаў на праваслаўе ня мела і найменшага ўплыву на русыфікацыю краю дзеля таго, што ўсе мясцовыя папы засталіся пастарому ўжываць сваю мову, свае звычаі, выхаваныя ў польскім духу, што яны толькі па загаду стараюцца быць расій-

*) Гл. лічбы чыноўнікаў, набыўшых зямлю на Беларусі, у П. Жуковіча: „О русском землевладении в Северо-Западном крае со времени присоединения его к России“, СПБ, 1895, стар. 45. З гэтай статыстыкі відаць, што большасьць польскіх маёнткаў перайшла ў рукі старэйшых чыноўнікаў, якімі зьяўляліся амаль выключна вялікаросы.

цамі, і што гэткія ня могуць быць карыснымі ў справе абрусеньня Беларусі і павінны быць заменены духавенствам з цэнтральных губэрань,—рэдакцыя „Вестника“ (праўда, ужо без Гаворскага, які сядзеў у той час у псыхіатрычнай больніцы) адважылася цьвёрда стаць на бок „ополяченных батюшек“. Яна адважылася растлумачыць, што калі гэтыя „батюшки“ гавораць са сваімі старушкамі папольску, дык у гэтым няма нічога проці-дзяржаўнага. „Мова польская ў вуснах не-паляка мае значэньне не палітычнае, а бытавое“,—казаў „Вестник“.—„Калі ў пэўнай мясцовасьці, дзе насельніцтва гаворыць сваім асобным дыялектам, лічаць абавязковым выўчаць гэты дыялект і калі выкладаньне польскае мовы лічылася абавязковым у кіеўскай акадэміі і ва ўсіх сэмінарыях да 40-х год, дык што тут дзіўнага і злачыннага, што некаторыя сьвяшчэньнікі не забыліся яшчэ польскае мовы і ўжываюць яе часам у прыватным жыцьці. Трэба быць занадта прычэплівым і падазрэнным, каб угледаць у гэтым здраду“ *).

Аднак, як расчараваньне агульнымі ўмовамі жыцьця на Беларусі было з яго боку спозьненым, таксама спозьненым быў вызначаны ў канцы існаваньня „Вестника“ паварот яго да іншага разуменьня форм і задач „западно-руссизма“. Фізіономія Гаворскага і яго групы была залішне выразнай і одзіознай, каб ёй можна было набыць новую форму і новы зьмест. Да ўсяго, група гэтая была ў значнай ступені выпадковай, сабранай ня столькі для служэньня програме, колькі для служэньня сваёй кішэні. Пры ўсіх выпадках апошняя перамагала над прынцыповымі разважаньнямі.

У зьвязку з гэтым дзейнасьць Гаворскага не пакінула пасьля сябе сьлядоў. Як толькі ў Вільні павеяў новы вецер, больш спакойны ў стасунку да палякаў і больш об'ектыўны ў стасунку да мясцовага жыцьця, як толькі спынілася матэрыяльнае падтрыманьне „Вестника“ з боку генэрал-губарнатарскай канцыляры і з боку літоўскага епархіяльнага кіраўніцтва, асірацелага пасьля сьмерці І. Семашкі,—„Вестник Западной России“ сам сабой закрыўся, а грамада яго супрацоўнікаў, усялякіх Сімашковічаў, Казлоўскіх, Кулжынскіх, Зубатычкіных, Маврыцкіх, Вольпэраў, Пахманаў ды іншых, ня менш вядомых літаратараў, рассыпалася бяз сьледу.

Сьцяг „западно-русской“ школы і разьвіцьцё яе ідэолёгіі перайшло ў другія рукі—больш выпрацаваныя і больш адказваючыя вымогам чарговага грамадзкага пэрыоду.

*(Канец будзе)*

---

*) „В. З. Р.“, 1871, кн. 2, разьдз. III: „Напрасные обвинения“ (по поводу брошюры о бывшем униатском духовенстве), стар. 1—15.

# ОРГАНІЗАВАНАЕ ВЫЎЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСІ Ў XIX І ПАЧАТКУ XX СТАЛЕЦЬЦЯ [1])

**М. Касьпяровіч**

III

Мясцовых рускіх краязнаўчых організацый, якія-б выўчалі краі Беларусі або паасобныя бакі іх, было таксама не асабліва шмат. Называліся яны камітэтамі, камісіямі і таварыствамі, але асаблівай розьніцы ў структуры сваёй ня мелі. Вырасьлі яны амаль усе ў другой палове першага і ў першай палове другога дзесяцілецьця XX веку. Бясспрэчна, пэўны ўплыў на гэта мела праца беларусазнаўчых таварыстваў, але галоўнай спрыяючай умовай для заснаваньня мясцовых організацый быў ужо здавальняючы для гэтага лік рускай па мове і мэтаімкненьнях інтэлігенцыі, якая складалася з духавенства, чынавенства і панства. З другога боку, заснаваньне якой-небудзь краязнаўчай організацыі ў тым ці іншым горадзе падштурхвала зрабіць гэта ў другім. Першымі па часе заснаваньня і па ліку былі камітэты; на другім месцы стаялі камісіі і таварыствы.

Камітэты мелі пераважна, так кажучы, клерыкальны характар. Першым быў *Горадзенскі* Царкоўна-Гістарычны, а пасьля *Гістарычны Царкоўна-Археолёгічны Камітэт*. Заснаваны ён быў у лістападзе 1904 г. і меў мэтаю выўчэньне вусных і пісьмовых помнікаў царкоўнай старасьветчыны ў Горадзенскай епархіі, па магчымасьці, ахову іх ад псаваньня і зьнішчэньня ды апавяшчэньне праз апісаньне, а таксама выўчэньне мясцовых царкоўных абрадаў і рэлігійных звычаяў і наогул стан мясцовай епархіі, для чаго першаю справаю павінна было быць апісаньне цэркваў, парафій і кляштораў ды ўмоў іх быту [2]). Камітэт, адпаведна сваім мэтам, заснаваў музэй, аб паляпшэньні ды папаўненьні якога ўвесь час і клапаціўся. Значна большая дзейнасьць выявілася ў Менску.

*Менскі Царкоўны Гістарычна-Археолёгічны Камітэт* заснаваўся ў 1907 г. і скончыў сваё існаваньне ў 1917 г., г. зн. дзейнічаў каля

---

[1]) Гл. „Полымя" № 1.

[2]) „Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", кн. 1, Вільня, 1910, стар. 229 і наст.

10 год. Заснаваўчы сход Камітэту складаўся з 15 асоб, але ўжо на першым годзе працы яго лік членаў павялічыўся да 40 чал. Мэтаю Камітэту зьяўлялася: „гістарычнае дасьледваньне вонкавага і ўнутранага разьвіцьця мясцовага царкоўна-рэлігійнага і грамадзкага жыцьця; дасьледваньне і выўчэньне вусных помнікаў жывой старасьветчыны ў відзе мясцовых народных звычаяў, паданьняў і песень; прывядзеньне ў ведама і апісаньне ўсякага роду помнікаў старасьветчыны і архіваў цэркваў, кляштораў, епархіяльных ды інш. установў; нагляд за захаваньнем храмаў і іншых царкоўных будынкаў, могілкаў, надмагільных і інш.— як рэчаўных, так і пісьмовых помнікаў, зьбіраньне і захоўваньне ў сваім музэі царкоўна-рэлігійных ды інш. помнікаў старасьветчыны і, урэшце, распаўсюджваньне ў грамадзтве царкоўна-гістарычных і археолёгічных вестак“ [1]).

Гэтыя задачы, паводле думкі дзеячоў Таварыства, мелі ня толькі навуковае, але і вялікае практычнае значэньне: „яны стаяць у неразрыўнай сувязі з жыцьцём мясцовай насельнасьці, маючы сваёю аддаленаю мэтаю паказаць яму, чым было яно ў асобе сваіх продкаў у старадаўныя часы, якія гістарычныя і рэлігійныя фазы перажывала яно на працягу свае шматвяковае гісторыі і адсюль—чым павінна яно быць у сучасны момант, калі запамятаньне мінулага робіць для яго часамі неразьвязнымі пытаньні жыцьця“ [2]). Камітэт хацеў уладаць самаю моцнаю зброяю для змаганьня з палякамі, а ўласна: „помнікамі археолёгіі, якія відавочна паказваюць усім, хто сумняваецца, што Менская губ.—рускі край, а ня польскі“ [3]). Больш таго: „дакладнае і бесстароньняе азнаямленьне са старасьветчынай пакажа рускаму і польскаму грамадзтву, як трэба адносіцца да гэтай ускраіны, дасьць кіраўнічыя даныя для ўрадовай політыкі“ [4]).

Дасягнуць усяго гэтага Камітэт меўся пэўным асьвятленьнем гістарычных ды інш. фактаў, што і рабіў на ўсім працягу свайго існаваньня.

Адпаведна сваім задачам Камітэт зьбіраў бібліотэку і музэй, якія былі даволі багатымі. Для непасрэднага дасьледваньня помнікаў старасьветчыны Камітэт організоўваў экспэдыцыі, з якіх найбольш каштоўная была ў Тураў, калі быў адкапаны тамака вядомы саркофаг.

Свае працы Камітэт выдаваў пад назваю „Минская старина“ пасобнымі выпускамі, якіх за ўвесь час вышла чатыры, прычым трэці ў дзьвёх частках. На 2.027 старонках гэтых чатырох выпускаў зьмешчаны: а) чатыры прамовы аб адчыненьні Камітэту і яго задачах; б) бела-

1) „Минская старина“, вып. 1, Менск, 1909 г., стар. 3—4.

2) Тамсама, стар. 149.

3) Тамсама, стар. 151.

4) „Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества“, кн. 1, Вільня, 1910, стар. 232.

русы, іх вусная і кніжная мова пры сьвятле гісторыі; в) Менск у XVII стагодзьдзі; г) помнікі старасьветчыны; д) Пінскі Лешчынскі кляштар у 1588 г.; е) да ўспамінаў аб сьвяшчэньніку Канапасевічу; ж) прабываньне Пятра Вялікага ў Менску; з) жыцьцяпіс каноніка Сянчыкоўскага; і) архіў Трайчанскі ды інш. архіўныя дакуманты; к) казкі, легэнды, песьні; л) некаторыя статыстычныя даныя аб насельнасьці Заходняга Краю; м) чаго яны дабіваюцца: аўтаноміі ці незалежнай дзяржавы (паводле польскіх проклямацый); н) са Слуцкай старасьветчыны; о) апісаньне рукапісаў і старадрукаў Камітэту і Слуцкага Трайчанскага кляштару; п) справаздачы аб экспэдыцыях і дзеньнік раскопак ды інш., а таксама часамі зьмяшчалася хроніка Камітэту. Апрача таго, Камітэтамі выдана было „Описание рукописей и старопечатных книг в Слуцком (Мин. губ.) Тройчанском монастыре“ на 22 ст. і. 8°. Да фактычнага матэрыялу, зьмешчанага ў „Минской старине“, не гаворачы ўжо пра яго ідэолёгічнае асьвятленьне, трэба адносіцца вельмі крытычна і асьцярожна, бо даваўся ён выключна з пункту гледжаньня праваслаўя, вялікадзяржаўнасьці і вялікарускай народнасьці.

Апрача пашырэньня свае працы і поглядаў у друкаваным відзе, Камітэт папулярызаваў свае ідэі і вусна, організуючы сходы, на якіх разам з дакладчыкамі выступаў і архірэйскі хор. Так, на адным з такіх публічных сходаў дзеяч Камітэту даводзіў, што „ва ўсіх нас, рускіх, ёсьць адна, па словах І. С. Тургенева, „магутная руская мова“, і няма ніякай патрэбы ўтвараць пашахонскія або беларускія валяпюкі. І тыя, хто гэтым займаецца, або ажыцьцяўляюць мэты полёнізму, якія ня маюць нічога супольнага з патрэбамі заходня-рускага народу, або па непаразуменьні зьяўляюцца шкоднікамі роднай рускай нацыі і яе мовы, а зусім ня творцамі яе“ [1]). На прыхільнікаў беларускага адраджэньня і патаемных школ для польскай нацыянальнай меншасьці дакладчык проста нацкоўваў мясцовую ўладу, кажучы, што „нікчэмная індыфэрэнтнасьць да гэтага пытаньня нашых бюрократаў дальш ня можа цярпецца...“ [2]).

На такую карысную для царату працу, якую вёў Камітэт, хапала сродкаў. Памяшканьне для музэю, архіву і бібліотэкі даў архірэй. Грошы Камітэт меў у якасьці субсыдый ад мясцовых органаў улады, а таксама цэнтральных. Нават Расійская Акадэмія Навук дала 500 руб. на друкаваньне прац Камітэту і разьезды ў першым годзе яго існаваньня.

Бібліотэка Камітэту значна павялічвалася шляхам абмену з роднымі Камітэту ды іншымі навуковымі ўстановамі і організацыямі.

Пэўнаю відазьменаю гэтага тыпу камітэтаў зьяўлялася *Віцебскае Царкоўна-Археолёгічнае Таварыства,* заснаванае ў 1913 г. Яно мела мэтаю выўчэньне і дасьледваньне гістарычнага мінулага праваслаўнай

[1]) „Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества“ кн. 1. Вільня, 1910.

[2]) Тамсама.

царквы на Віцебшчыне. Таварыства ўпарадкавала царкоўны музэй [1]), падрыхтавала да друку зборнік і мела некалькі пасяджэньняў, але пасьля замерла і конкрэтных вынікаў працы па сабе не пакінула.

Краязнаўчыя організацыі ў відзе камісій мелі выключна гістарычны характар. Першаю такою была *Смаленская Вучоная Архіўная Камісія*, якая заснавалася ў красавіку 1908 г. Падтрымліваная ўрадовымі органамі, яна пакінула значныя вынікі сваёй дзейнасьці, але нас больш цікавіць Віцебская Вучоная Архіўная Камісія, для якой існаваньне Смаленскай Камісіі было лішнім штурхачом для заснаваньня.

Віцебская Вучоная Архіўная Камісія заснавалася ў траўні 1909 году і сама сябе ліквідавала ў 1922 годзе, так што дзейнасьць яе цягнулася каля 11 год. Замест яе спачатку мелася на мэце заснаваць аддзел Таварыства па вывучэньні Беларусі, што меўся зрабіць у Магілеве вядомы Раманаў, пасьля—Беларускі Аддзел Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства, але ўрэшце перамагла група прыхільнікаў організаваньня Архіўнай Камісіі. Ідэя заснаваньня Камісіі была падтрымана губарнатарам, які і дабіўся дазволу на заснаваньне яе, што і адбылося ў памянёны вышэй тэрмін пры ўдзеле 28 заснавальнікаў. Дзеля таго, што апошнія ня бачылі асаблівай розьніцы паміж Віцебшчынай і іншым якім-небудзь краем былой Расіі, у аснову працы Камісіі быў узяты статут Тамбоўскай Вучонай Архіўнай Камісіі [2]).

Галоўнаю мэтаю заснаванай Камісіі лічылася выўчэньне гісторыі і старажытнасьцяй Віцебшчыны, а таксама ўкараненьне рускіх патрыётычных і вернападданьніцкіх пачуцьцяў у Віцебскай насельнасьці. Апошняе відаць з усёй працы Камісіі і нават з тэлеграмы першага чарговага сходу камісіі, якая, з прычыны адсутнасьці адпаведнай тэрмінолёгіі для перакладу, даецца намі ў орыгінале: „Ливадия, Министру Императорского Двора, Витебская Ученая Архивная Комиссия, учрежденная 31 мая сего года, открывая свои занятия, просит ваше высокопревосходительство повергнуть к стопам Его Императорского Величества верноподданнические чувства беспредельной любви и преданности ее членов. Члены Комиссии, одушевленные желанием верно служить государю и отечеству, твердо надеются, что в изучении местной истории витебляне будут почерпать горячие чувства патриотической беспредельной любви к своему венценосному монарху“ [3]). З дазволу цара Мікалая ў склад ганаровых членаў Камісіі было абрана некалькі вялікіх князёў, членаў царскай фаміліі.

Ня гледзячы на ўсё гэта, царскі ўрад зусім справядліва ня верыў, што мясцовая гісторыя можа выклікаць закаханьне ў цара і што мясцовыя людзі ўсе з гарачымі вернападданьніцкімі пачуцьцямі да яго. Таму

[1]) „Наш Край“, Менск, 1922, № 2—3, ст. 12.

[2]) „Полоцко-Витебская старина“, кн. 1, Віцебск, 1911 г., ст. 3 дадаткаў.

[3]) „Труды Витебской Ученой Архивной Комиссіи“, кн. 1, Віцебск, 1910 г., ст. 1.

неадменным папячыцелем Камісіі, згодна яе статуту, зьяўляўся віцебскі губарнатар. Ня маючы на месцы вялікага ліку ідэолёгічна прыдатных людзей, Камісія падбірала такіх па ўсёй былой Расіі, абіраючы ў свой склад членаў, якія жылі далёка па-за межамі Віцебскае губ. Дзякуючы гэтаму, асабовы склад Камісіі быў даволі вялікі: на першым годзе існаваньня—99 ганаровых членаў, 325 сапраўдных і 15 супрацоўнікаў; на другім—102 ганаровых, 356 сапраўдных, 13 супрацоўнікаў і г. д. Пасьля гэта штучнае павялічэньне асабовага складу Камісіі пайшло на ўбытак. Праўда, у гэтым была і адна практычная мэта—павялічэньне бібліотэкі Камісіі, бо кожны член якой-небудзь організацыі раней лічыў сваім абавязкам пасылаць выданьні сваіх прац гэтай організацыі. На жаль, зараз цяжка дакладна вызначыць процант мясцовых людзей сярод членаў Камісіі, але можна з упэўненасьцю сказаць, што ён быў не такі ўжо малы.

Для дапамогі Савету Камісіі і ажыцьцяўленьня паасобных прац яе ў Камісіі былі асобныя камітэты: рэдакцыйны, па падрыхтоўцы сьвяткаваньня юбілею 1812 г. ды інш. Галоўныя вынікі навуковай і іншай працы Камісіі заслухоўваліся на агульных сходах, якія адбываліся даволі часта. Так, за першыя два гады існаваньня Камісіі адбылося 4 надзвычайных сходы, 21 чарговы і 1 урачысты. Часта, побач з навуковай працай, сходы выпрацоўвалі і пасылалі новыя вернападданьніцкія тэлеграмы [1]) ў паглыбленьні сваіх пачуцьцяў, выказаных у вышэйпаданай першай. Характарыстыка і зьмест працы сходаў відаць хоць-бы з наступнага пераліку дакладаў і прац за першыя два гады існаваньня Камісіі [2]): а) да надыходзячага сталецьця вайны 1812 г.; б) 4-ы краёвы археолёгічны зьезд у Кастраме, яго працы і значэньне; в) аб прабываньні Лажэчнікава ў Віцебску; г) нарысы з гісторыі беларускіх гарадоў; д) матэрыялы аб працах камісіі, аб дараваньні асабовай волі сялянам Дзьвінскага пав.; е) галіцкія і літоўскія мітрополіты XIV—XV в. в. і адносіны да іх епіскопаў Тураўскай і Полацкай епархіі; ж) новыя даныя аб перанясеньні машчэй прападобнай Еўфрасіньні Полацкай і аб яе іконаграфіі; з) Францішак Скарына; і) аб польскім флёце; к) аб Беларусі і беларусах; л) аб Грунвальдзкай бойцы; м) помнікі царкоўнай старасьветчыны Полацкага і Віцебскага краю і ахова іх ды інш.

Надзвычайныя сходы прысьвячаліся: а) успамінам трохсотлецьця абароны ад палякаў Тройца-Сяргеева кляштару; б) выказу прывітаньня і падзякі прадстаўніку Камісіі, які праводзіў „сьвятыя“ мошчы Еўфрасіньні з Кіеву ў Полацак ды інш.

Урачысты сход адбыўся з прычыны 50-гадовага юбілею вызваленьня сялян ад прыгону. У адказ на чарговую тэлеграму сходу на імя цара,

[1]) „Полоцко-Витебская старина“, кн. 1, Віцебск, 1911 г., стар. 77 дадатку.

[2]) Тамсама. ст. 7, 8 і 7, 8 першага і другога дадатку.

апошні адказаў: „усіх шчыра дзякую“ *). І было за што. Камісія з запалам ажыцьцяўляла ў сваёй працы абяцаньні першай тэлеграмы.

Апрача працы на сходах, Камісія разглядала сьпісы архіўных спраў, каб выявіць, ці трэба іх захоўваць, разглядала і выўчала пэўныя дакуманты, зьбірала і выўчала рэчы мясцовай старасьветчыны; клапацілася аб ахове помнікаў старасьветчыны, апісаньні іх і г. д., што зьяўлялася адным з карысных відаў працы Камісіі. Будучы організацыяй з рэзка выяўленым політычным тварам, Камісія жыва адгукалася на здарэньні сучаснасьці, юбілеі ды інш. У выніку гэтага яе стараньнямі пабудаваны помнік вайне 1812 г. ў Віцебску насупроць сучаснага будынку Выканаўчага Камітэту, выдана некалькі брошур на юбілеі ды інш. Для папулярызацыі сваіх ідэй Камісія організоўвала навукова-асьветныя экскурсіі і лекцыі, а таксама значна дапамагала заснаваньню ў Віцебску Аддзяленьня Маскоўскага Археолёгічнага Інстытуту.

Адпаведна мэтам дзейнасьці Камісіі ёю зьбіраліся багатыя матэрыялы, якія концэнтраваліся ў архіве, музэі і бібліотэцы Камісіі. Гэтых матэрыялаў было так многа, што Камісія выдала каталёгі архіву, музэю і бібліотэкі. Апрача іх, а таксама вялікага ліку іншых брошур, выданых Камісіяй, яна выдавала „Труды Витебской Ученой Архивной Комиссии“, якіх вышла адна кніга, і „Полоцко-Витебскую старину“, якой вышла тры кнігі. Як на сходах, у архіве, музэі ды інш., так і ў выданьнях, Камісія цьвёрда стаяла на вялікадзяржаўна-монархічным грунце. Пералічэньне прац, зьмешчаных у гэтых выданьнях, апрача вышэйпералічаных сярод дакладаў, ня зойме шмат месца, але дасьць дакладнае ўяўленьне аб іх: а) да пытаньня аб задворных і палонных людзях; б) чарцёж г. Віцебску 1664 г.; в) запіскі палкоўніка Карпава; г) памятка аб Муравьёве Віленскім д) Спаса-Прэабражэнскі кляштар у Віцебску; е) ода на адведзіны Полацкага вучылішча беларускім генэрал-губарнатарам; ж) езуіты ва Ўсходняй Беларусі з 1579 да 1772 г.; з) Полацкі князь Усяслаў і яго час; і) м. Бешанковічы; к) рысунак крэпасьцяй Грознага на Віцебшчыне; л) аб праху Грабніцкага ў нішы Полацкай Сафіі; м) паданьні ісьляндзкіх або скандынаўскіх саг аб Полацку, яго князёх і Дзьвіне; н) старадаўны помнік „Воўчага хваста“ ў краі радзімічаў; о) эротычны валун, знойдзены ля Смаленску; п) прабываньне Кацярыны II у Полацку; р) з літаратурнай дзейнасьці сьвяшчэньніка; с) спосаб араньня і сяўбы на Беларусі ў XVI і XVII в. в. і інш. Давалася таксама шмат архіўных матэрыялаў і хроніка. Агулам 4 кніжкі Камісіі займаюць каля 1.418 старонак in. 8°. У іх, бясспрэчна, ёсьць і шмат вельмі каштоўных фактычных матэрыялаў, але імі трэба карыстацца вельмі асьцярожна з вялікім крытычным падыходам.

Камісія асаблівай патрэбы ў сродках не адчувала. Апрача членскіх складак, Камісія мела даволі значныя сумы ў відзе субсыдый ад ураду,

*) „Полоцко-Витебская старина“, кн. 1, Віцебск, 1911 г., ст. 8 другога дадатку.

віцебскага дваранства, паасобных памешчыкаў і г. д. Так, на першым годзе існаваньня Камісіі яна мела 1.821 руб., на другім—200 р. ад ураду, 300 р. ад дваранства, ды чарговая кніжка была выдана коштам аднаго памешчыка і г. д. Урад і паны падтрымлівалі сваю навуку, няма чаго казаць.

Пасьля Кастрычніка Камісія зусім спанталычылася і, урэшце, самаліквідавалася. Трэба дзівіцца цярплівасьці мясцовай савецкай улады, якая ў Віцебску, дзе Кастрычнікавая рэволюцыя была ня менш бурнай, чым у іншых мясцох, гуманна адносілася да політычна варожай навуковай організацыі і не зачыняла яе.

Музэй, бібліотэка і архіў Камісіі захаваліся, але некаторыя рэчы, як хустачка, змочаная крывёй Сталыпіна ў Кіеве, і падобныя экспонаты, бясьсьледна згінулі. А былі! І на гэта забывацца няможна.

Рускія краязнаўчыя організацыі комплекснага характару ў відзе таварыстваў, як інстытуцыі, у меншай меры абслугоўваючыя політыку царату, заснаваліся пазьней і трымаліся значна менш. Гэта тлумачылася тым, што пануючы ўрад баяўся нават сваіх організацый, у якіх, дзякуючы присутнасьці хоць і зрусыфікаваных мясцовых людзей, магло вынікнуць імкненьне да сапраўднага абслугоўваньня мясцовае насельнасьці, г. зн. да нацыянальнага адраджэньня. Такіх таварыстваў нам вядома два.

*Менскае Таварыства Аматараў Прыродазнаўства, Этнографіі і Археолёгіі* заснавалася 21 траўня 1912 году ў ліку 48 заснавальнікаў. У пачатку 1913 году ў Таварыстве было ўжо 81 чал., а ў канцы 1914 г.— 139, з якіх 87 членаў пражывала ў Менску, 27—у розных мясцовасьцях губэрні і 24—па-замежамі яе. У той час, як у Паўночна-Заходнім Аддзеле Імпэратарскага Рускага Географічнага Таварыства членам лічыўся вядома чорнасотнік Саланевіч, рэдактар „Белорусской Жизни“, у Менскім Таварыстве Аматараў Прыродазнаўства, Этнографіі і Археолёгіі сярод членаў яго ў 1914 годзе знаходзіўся выдатны рускі вучаны Іван Іванавіч Луцкевіч, супрацоўнік газэты „Наша Ніва“ *). Наогул, склад членаў гэтага Таварыства ў гушчы сваёй быў не такі чорны, як асабовы склад Аддзелу. Праўда, у Менскім Таварыстве членамі яго былі амаль выключна вышэйшыя чыноўнікі сялянскага банку і губэрскіх установ, буйныя зямляўласьнікі і дамаўласьнікі, уласьнікі сярэдніх школ і выкладчыкі ў іх, вучаныя агрономы, лесаводы, інжынэры і г. д., і толькі нейкім чынам адзін дзелавод тамака лічыўся членам. Так што і Менскае Таварыства ня было ўжо надта дэмократычным. На жаль, дакладна невядома, калі спыніла сваю дзейнасьць гэта Таварыства, але пасьля сьнежня 1914 году аб ім успамінаў нідзе ўжо не спатыкаецца.

На працягу першага году чыннасьці Таварыства, г. зн. у 1912 г., на яго агульных сходах былі заслуханы наступныя даклады: а) сучасныя

*) Цэнтраархіў. „Дело Минскаго Губернскаго по делам об обществах присутствия. Об исключении из состава частных обществ неприятельских подданных“.

даныя аб пахаджэньні і разьвіцьці балотаў; б) аб межах распаўсюджаньня грабу і елкі ў межах Менскай губ.; в) аб організацыі існуючых мясцовых музэяў і г) ахова помнікаў прыроды—лясы на беразе возера Сьвітазь, а пасьля—д) аб намётках і сьвітках; е) аб беларускіх народных песьнях; ж) аб Палесьсі ды інш.; разглядаўся таксама шэраг організацыйных пытаньняў, прычым выявілася вельмі вялікая актыўнасьць членаў у справе абмеркаваньня пытаньняў.

Таварыства разаслала анкету аб распаўсюджаньні грабу і елкі ў Менскай губ. і атрымала адказы на яе. Была ўкладзена інструкцыя для выўчэньня колькасьці і якасьці балотаў у Менскай губ.

Адпаведна сваім задачам, а ўласна выўчэньню Менскае губ. у прыродазнаўчым, этнографічным і археолёгічным стасунку і пашырэньню прыродазнаўчых ды географічных ведаў сярод насельніцтва, Таварыства зьбірала бібліотэчку і заснавала музэй. У апошні прымаліся і прыватныя колекцыі для выстаўкі ў музэі без пераходу, аднак, ва ўласнасьць яго. У мэтах популярызацыйных Таварыства прабавала організаваць дэманстраваньне навукова-прыродазнаўчых фільмаў з дакладамі.

У сьнежні 1912 году заснавалася была этнографічная сэкцыя Таварыства, але асабліва сябе не змагла выявіць. За час свайго існаваньня Таварыства організавала некалькі этнографічных і гістарычных экспэдыцый.

Усімі справамі Таварыства кіраваў Савет, які ў 1912 г. меў 9 паседжаньняў.

Вынікі сваёй працы Таварыства мела зьмяшчаць у сваіх „Вестках“, якіх пасьпеў выйсьці з друку толькі выпуск першы ў Менску ў 1914 г. У гэтым выпуску на 58 старонках in. 8° зьмешчаны: а) протоколы сходаў Таварыства і справаздача за 1912 год; б) аб межах распаўсюджаньня елкі і грабу ў Менскай губ.; в) ахова помнікаў прыроды—лясы па берагох возера Сьвітазь ды інш. Апрача таго, дана карта з межамі распаўсюджаньня грабу ды елкі і сем надзвычайна добрых фотографій да артыкулу аб лясох на Сьвітазі*).

Сродкі Таварыства ў 1912 годзе складаліся з 235 рублёў. Аб атрыманьні субсыдый Таварыствам аналёгічна Менскаму Царкоўнаму Гістарычна-Археолёгічнаму Камітэту вестак не спаткалася. Выданьнямі Таварыства ў 1912 годзе абменьвалася з 11 установамі ды організацыямі.

Больш падрабязныя даныя аб гэтым Таварыстве, як і аб іншых, можна будзе мець толькі пасьля таго, як будзе адшуканы архіў яго.

Другой мясцовай краязнаўчай організацыяй з комплекснымі задачамі было Таварыства выўчэньня Магілеўскай губ., вырасшае ў Магілеве ў 1913 годзе на месцы былога Таварыства выўчэньня беларускага краю пры ўдзеле тых-жа дзеячоў, што організоўвалі і апошняе Таварыства.

*) „Известия Минскаго Общества Любителей Естествознания, Этнографии и Археологии“, Менск, 1914.

*Таварыства выўчэньня Магілеўскай губ.* амаль што нічым ня розьнілася ад Таварыства выўчэньня беларускага краю, апрача таго, што звузіла раён свае дзейнасьці да межаў былой Магілеўскай губ. Мэты гэтага Таварыства, вызначаныя ў яго статуце, толькі рэдакцыйна адрозьніваліся ад мэт Таварыства выўчэньня беларускага краю. Яны былі наступныя: а) сочачы за посьпехам прыродазнаўчых і гістарычных навук, дапамагаць пашырэньню прыродазнаўчых і гістарычных ведаў сярод насельніцтва Магілеўскай губ.; б) адшукваць помнікі старасьветчыны, выўчаць іх, апісваць і прымаць меры да падтрыманьня і аховы іх; в) займацца выўчэньнем прыродных асаблівасьцяй Магілеўскае губ., яе флёры, фауны, мінэральных багацьцяў, глебы, мэтэоролёгічных зьяў; яе мінулага лёсу ў гістарычных, археолёгічных, археографічных, нумізматычных і генэолёгічных адносінах, а таксама дасьледваць антрополёгічныя і этнографічныя даныя яе насельніцтва [1]). Гэта Таварыства выўчэньня Магілеўскай губ. пасылала экспэдыцыі і вяло сякую-такую працу, але вынікі нават гэтай невялікай працы да нас не дайшлі. Калі яно зачынілася, таксама пакуль што невядома, як і пра зачыненьне Таварыства выўчэньня беларускага краю. Мабыць яны аўтоматычна спынілі сваю дзейнасьць, і пра іх забыліся. Політычна гэтыя Таварыствы нічым не адрозьніваліся ад усіх іншых таварыстваў, камісій і камітэтаў, што выўчалі былы Заходня-Рускі Край. Словы „беларускі край" у назьве першага Магілеўскага Таварыства ўжыты з тымі-ж мэтамі, што і ў вядомай чорнасотніцкай газэтцы „Белорусская Жизнь".

Васілеўскі ў сваім названым вышэй артыкуле „Сталецьце краязнаўчнай працы на Беларусі" [2]) ўспамінае яшчэ адну краязнаўчую організацыю, уласна, *„Таварыства па організацыі ў Менску Музэю"*. З прычыны некаторай няяснасьці яго даных аб гэтым Таварыстве, якія ідуць непасрэдна за весткамі пра Менскае Таварыства Аматараў Прыродазнаўства, Этнографіі і Археолёгіі, падаем рэдакцыю яго вестак бяз зьмен: „Краязнаўчыя Таварыствы ўзьнікалі ў розных кутках Беларусі. З 1912 году ў Менску распачало сваю працу „Общество любителей природоведения, этнографии и археологии" з мэтай дасьледваньня Менскай губэрні і пашырэньня прыродазнаўчых і географічных ведаў сярод насельніцтва. *У 1913 г. ў Менску організавалася „Общество по организации в Минске Музея". Гэта таварыства ставіла сабе мэтай усебаковае выўчэньне Менску і яго губэрнії.*

*Сваю дзейнасьць Таварыства сконцэнтравала каля заснаванага ім у 1914 годзе гарадзкога музэю, але імпэрыялістычная вайна дрэнна адбілася на працы. Ад Таварыства засталося некалькі кніжак— „Запісак Таварыства"—ды адозва да насельніцтва г. Менску, у якой*

---

[1]) „Наш Край", Менск, 1926, № 2—3, стар. 11.

[2]) Тамсама, ст. 3.

*яно заклікаецца дапамагаць новаму музэю ахвяраваньнем рэчаў. Больш шырокай дасьледчай працы Таварыства не змагло выявіць*"[1]) (курсіў наш.—*М. К.*).

Нідзе ў літаратуры нам ня прышлося спаткаць якія-небудзь весткі пра „Таварыства па арганізацыі ў Менску Музэю", не гаворячы ўжо пра архіўныя дакуманты. „Запісак" Таварыства таксама мы нідзе ня бачылі, і ў Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэцы іх няма. Адносна Музэю, заснаванага гэтым Таварыствам, таксама ніякіх вестак мы ня маем. Ні Харламповіч у сваім артыкуле „Пяцігодзьдзе Беларускага Дзяржаўнага Музэю"[2]), ні Ластоўскі ў сваім—„Беларускі Дзяржаўны Музэй"[3]) аб Таварыстве па арганізацыі ў Менску Музэю і аб гэтым Музэі не ўспамінаюць. Наадварот, з працы Ластоўскага відаць, што ў аснову Менскага Гарадзкога Музэю лёг музэй Таварыства Аматараў Прыродазнаўства, Этнографіі і Археолёгіі; гэта вестка сьцьвярджаецца §§ 6 і 7 проекту статуту Менскага Гарадзкога Музэю[4]). Паноў, навуковы супрацоўнік Беларускага Дзяржаўнага Музэю, які блізка стаяў да музэйнага будаўніцтва ў Менску на ўсім працягу апошняга часу, паведаміў нас[5]), што ён таксама ня мае ніякіх вестак пра Таварыства па арганізацыі ў Менску музэю і самы музэй гэтага Таварыства. Такім чынам, пры сьвятле ўсіх гэтых даных прыходзіцца пераканацца, што такога Таварыства ў Менску ня было.

Ці існавалі на Беларусі яшчэ якія-небудзь мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі, невядома, бо аб гэтым няма ніякіх вестак.

## IV

Пералічаныя вышэй рускія краязнаўчыя арганізацыі на Беларусі былі крайняга правага палітычнага кірунку. Апрача звычайнага для такіх арганізацый у самой Вялікарусі падтрыманьня пануючага ладу, а значыць, і соцыяльнага ўціску, на Беларусі яны былі магутнымі замкамі ўціску рэлігійнага і, асабліва, нацыянальнага. Таму ўсе яны так бясслаўна зьніклі ў часе Кастрычнікавае рэволюцыі або перад ёю[6]). Апрача гэтых правых арганізацый, у пачатку другога дзесяцілецьця XX веку прабавалі заснавацца для вывучэньня Беларусі рускія арганізацыі з левых элемэнтаў, пераважна студэнцкай моладзі. Будучы па мове арганізацыямі рускімі,

[1]) „Наш Край", Менск, 1926, № 2—3, стар. 11.

[2]) Тамсама, Менск, 1927, № 1, ст. 10.

[3]) Тамсама, Менск, 1927, № 10, ст. 47.

[4]) „Известия Минскаго Общества Любителей Естествознания, Этнографии и Археологии", Менск, 1914, стар. 13.

[5]) Карыстаемся выпадкам, каб выказаць шчырую ўдзячнасьць т. Панову за прадстаўленьне нам яго вусных вестак.

[6]) Пар. „Беларуская навука да Кастрычніка і пасьля яго", „Маладняк", Менск 1927 г. № 10.

яны і па мэце былі такімі, толькі больш-менш адыходзілі або набліжаліся да мэт правых палітычна рускіх краязнаўчых арганізацый на Беларусі. Да таго яны знаходзіліся не на Беларусі, а ў старых унівэрсытэцкіх гарадох б. Расіі. Такіх арганізацый нам вядома дзьве. Абедзьве яны былі пры былым С.-Пецярбурскім Унівэрсытэце. Адна з іх, а ўласна, студэнцкі *гурток для навуковага выўчэньня Горадзенскай губ. пры С.-Пецярбурскім Унівэрсытэце* ў сэнсе ўдзелу ў беларускім культурна-нацыянальным адраджэньні нічым ня розьніўся ад правых краязнаўчых арганізацый на Беларусі. Гэты гурток меў мэтаю: а) выўчэньне этнографічных межаў і пляменнага складу насельнасьці Горадзенскай губ. ў сувязі з іх побытам, моваю і правамі; б) дасьледваньне геолёгічнага складу глебаў у сувязі з палеонтолёгічнымі адшуканьнямі; в) выўчэньне гісторыі краю па нявыданых архіўных даных і археолёгічных адшуканьнях; г) асаблівасьці флёры і фауны Горадзенскай губ. (Белавеская пушча); д) эканомічныя і статыстычныя досьледы. Ён выдаў толькі адно невялічкае выданьне і асабліва сваёй дзейнасьці ня выявіў [1]). Другі гурток быў больш радыкальны і выявіў сябе ў значна большай меры, а таму з ім трэба азнаёміцца больш падрабязна.

*Беларускі Навукова-Літаратурны Гурток студэнтаў С.-Пецярбурскага Унівэрсытэту* заснаваўся ў 1912 годзе і скончыў сваё існаваньне, здаецца, раней 1917 году. Ініцыятарам заснаваньня гуртка быў адзін з вучняў рускіх эсэраў, які і сабраў 16 заснавальнікаў Гуртка. Дзякуючы панаваўшай тады рэакцыі, статут Гуртка быў значна зьменены супроць яго першай рэдакцыі. Згодна зацьверджанай радаю профэсароў Унівэрсытэту апошняй рэдакцыі статуту, мэтаю яго зьяўлялася „навуковае азнаямленьне з духоўным (мова, літаратура, народная творчасьць) і грамадзкім (этнографія, статыстыка, народная гаспадарка) жыцьцём беларускага народу“ [2]). Для ажыцьцяўленьня гэтае мэты „Гурток меў права: а) зьбірацца ў сьценах Унівэрсытэту для сумеснага чытаньня і абмяркоўваньня прац па адпаведных галінах ведаў, для слуханьня прадстаўленых рэфэратаў або для гутарак аб прапанаваных на абмяркоўваньне пытаньнях; б) зьбіраць членскія складкі і ахвяраваньні; в) арганізаваць бібліотэчку з кніг і пэрыодычных выданьняў, маючых адносіны да задач Гуртка“ [3]). Але членскіх складак зьбіраць ня прыходзілася, бо на першым-жа годзе існаваньня Гуртка яны былі скасаваны, каб не перашкаджаць уваходу ў склад Гуртка новых незаможных членаў-студэнтаў і вольнаслухачоў Унівэрсытэту. Для таго, каб быць прынятым у члены, трэ' было мець рэкамэндацыю двох членаў Гуртка і абсолютную большасьць галасоў пры абраньні.

---

[1]) Не магу ня выказаць шчырай падзякі т. т. Эпімаху-Шыпілу і Ластоўскаму за вусныя весткі аб былых С.-Пецярбурскіх краязнаўчых гуртках.

[2]) „Белорусский научно-литературный кружок студентов С.-Петербургскаго Университета“, СПБ, 1913 г., стар. 9.

[3]) Тамсама.

Для выкананьня бягучай працы абіралася бюро ў складзе старшыні, сакратара і скарбніка. Кіраваньне Гуртком у пачатку кожнага году ўскладалася гістарычна-філёлёгічным факультэтам на аднаго з выкладчыкаў факультэту пры яго жаданьні на гэта і па хадайніцтву Гуртка. Кіраўнік Гуртка старшынаваў на агульных сходах яго, і пры яго ўдзеле вырашаліся ўсе пытаньні дзейнасьці Гуртка. Госьці дапушчаліся на агульныя сходы Гуртка толькі з дазволу рэктара Унівэрсытэту. Усімі гэтымі патрабаваньнямі статуту Унівэрсытэт хацеў забясьпечыць Гурток ад непажаданага ўхілу яго дзейнасьці і ўплываў на Гурток каго-колечы з боку.

Проф. Пагодзін, адзначаючы цяжкія ўмовы працы Гуртка, пісаў аб тым, што хоць хто-колечы з гуркоўцаў, быць можа, і не дажыве да таго часу, калі гвалт над нацыянальнасьцю будзе лічыцца брыдотаю і злым учынкам, але, як-бы ні было цяжка ў змаганьні, ня трэба кідаць барацьбы: „воля асобы, воля і роўнасьць мужчыны і жанчыны, воля ўсякай нацыянальнасьці складаецца так, яна можа і, урэшце, пераможа ўсякія перашкоды“ *). Вялікі вучаны быццам прадбачыў здарэньні: Хлябцэвіч, член Гуртка, быў забіты на вуліцах Ленінграду ў часе Лютаўскае рэволюцыі, але перамога была дасягнута працоўнымі Беларусі.

Вядомы Раманаў раіў не абмяжоўвацца акадэмічнаю працаю, а, будучы летам у Беларусі, організоўваць асьветныя таварыствы, музэі, копэратывы, крэдытныя таварыствы і да т. п., якія-б на мясцох непасрэдна працавалі на карысьць насельніцтву.

Гэтыя погляды рабіліся, так кажучы, програмай дзейнасьці Гуртка. Асабліва гэта было ў галіне навуковай. Гурток з удзячнасьцю прымаў да выкананьня такія думкі тагачасных дзеячоў навукі.

Карскі вызначаў, паміж іншым, такую работу для Гуртка: а) укладаньне бібліографіі Беларусі; б) зьбіраньне матэрыялаў для слоўніка беларускай мовы; в) клясыфікацыя народнай творчасьці па сужэтах; г) зьбіраньне матэрыялаў па культурных старажытнасьцях Беларусі; д) зьбіраньне фольклёру; е) дыялектолёгічнае дасьледваньне беларускае мовы; ж) этнографічнае выўчэньне і г. д. Вальтэр тэорэтычна, а Раманаў конкрэтна вызначылі задачы рускага радзімазнаўства, інакш кажучы, краязнаўства на Беларусі. Вальтэр лічыў, што задачаю краязнаўства зьяўляецца ўсебаковае пазнаньне свайго краю ў фізыографічным (зямля, глеба, геолёгія ды інш.), гідрографічным (вазёры, рэкі), біогеографічным (зоолёгія, ботаніка, лясы ды іншае), антропогеографічным (антрополёгія, прырода, этнографія); культурна-географічным (друкарні, мясцовы друк ды інш.) і інш. стасунках. Сынтэтычнае пазнаньне краю на думку Вальтэра павінна быць падрабязным і выконвацца пераважна тубыльцамі краю. У такім выпадку краязнаўства магло-б даць магчымасьць перабудовы мясцовага жыцьця на карысьць яго насельнікаў. Сродкамі, дапамагаючымі краязнаўству, зьяў-

*) „Бел. научно-лит. кружок студентов С.-П. Университета“, СПБ. 1913 г., стар. 12.

ляюцца: экспэдыцыі, колекцыянаваньне і бібліографія. Раманаў, апрача конкрэтных задач, вызначаных ім, якія супадалі з такімі-ж у Карскага, лічыў канечным: а) зьбіраньне народных мэлёдый; б) зьбіраньне матэрыялаў для беларускага топографічнага слоўніка; в) выўчэньне орнамэнту; г) дасьледваньне звычаёвага права і да т. п. Такім чынам, Гурток, апрача статуту, меў і даволі падрабязную програму для працы ў розных адменьніках. Абагульніў іх ужо сам Гурток, улічыўшы яшчэ і програму „Нашае Нівы“ ды інш. У аснову гэтага абагульненьня ім пакладзены былі: усебаковае пазнаньне Беларусі і практычная дзейнасьць для паляпшэньня жыцьця яе насельнікаў. У галіне апошняй ён лічыў канечным: а) засноўваць школы, бібліотэкі, чытальні; чытаць лекцыі, організоўваць курсы для народу і да т. п. і ўсюды праводзіць у жыцьцё ідэю аб радзімазнаўстве і асьвеце,—як школьнай, так і па-зашкольнай; б) распаўсюджваць друкаванае слова: кнігі, газэты на роднай і на іншых мовах; в) засноўваць усякія гурткі і таварыствы, дзе можна было-б распасюджваць грамадзкую і народную ідэю; г) працаваць для разьвіцьця беларускае літаратуры, народнага мастацтва, народнага тэатру і музыкі (песьні); д) знаёміць шырокія колы з беларускай гісторыяй, цяперашнім станам народу і яго заданьнямі ў будычыні; е) організоўваць выстаўкі і музэі этнографічныя, гістарычныя, саматужныя і да т. п. [1]).

У галіне экономічнага ўздыму беларускага народу Гурток лічыў канечным: а) разьвіваць у народзе прывычку задаваляць свае патрэбы сваімі сіламі—супольнай саюзнай коопэрацыйнай працай; б) дапамагаць умацаваньню і разьвіцьцю сельскай гаспадаркі, пашырэньню плошчы сялянскай зямлі; в) засноўваць усякія коопэрацыйныя таварыствы: крэдытовыя, гандлёвыя, для агуловай куплі тавараў і г. д.; г) організоўваць сельска-гаспадарчыя таварыствы, школы, выстаўкі і да т. п.; д) засноўваць організацыі для дапамогі коопэрацыі, разьвіцьця гаспадаркі, саматужным рамествам; е) клапаціцца аб паляпшэньні ўмоў працы; ж) дапамагчы ўрэгуляваньню спраў эміграцыі; старацца, замест эміграцыі ў Амэрыку, організаваць эміграцыю на сэзонныя работы ў бліжэйшыя старонкі і краіны (на лета), каб сяляне варочаліся дадому з грашмі і з запасам сельска-гаспадарчых ведаў, апрача практыкі ў чужых краёх [2]).

Гэтыя практычныя задачы выцякалі для членаў Гуртка з іх навукова-самаадукацыйнай працы. Іх краязнаўства было дзейным і жывым і не замыкалася ўжо ў вузкія муры унівэрсытэцкага будынку, а рвалася на просторы жыцьця. Прычым гэта жаданьне рабіць уплыў на мясцовае жыцьцё было зусім другога колеру, чым усіх іншых вышэйахарактарызаваных таварыстваў. Тамака было чорнае жаданьне зрусыфікаваць, заняволіць край і нацыянальна і соцыяльна, а тутака—паэсэраўску рас-

---

[1]) „Бел. научно-лит. кружок студентов С.-П. Университета“, СПБ, 1914, ст. 17.

[2]) Тамсама, ст. 18.

прыгоніць яго соцыяльна, падняць на вышэйшую ступень культуры і жыцьця наогул у эсэраўскім разуменьні.

У навуковай і самаадукацыйнай працы Гуртка яму дапамагалі вядомыя вучаныя: Шахматаў чытаў лекцыі, рэдагаваў працы па мове ды інш.; Бодуэн-дэ-Куртанэ чытаў лекцыі па вывучэньні беларускае мовы, Воўкаў — па этнографіі і мэтодолёгіі этнографічнага дасьледваньня, Айналаў даваў рады па вывучэньні мастацтва і г. д. Пры гэтым, праўда, не абышлося без рознагалосьсяў. У той час, як усе памянёныя, а таксама Аўсяніка-Куліковскі ды інш., прызнавалі орыгінальнасьць за рознымі праявамі беларускай культуры і жыцьця і жадалі яе роскветy, Карскі даводзіў, што беларускі дабрабыт магчымы толькі „пры цесным ядналіні з рускай культурай і навукай" *). Але пры такой інтэнсыўнай працы, якую вёў Гурток з дапамогаю лепшых сіл, лепшыя члены Гуртка ўжо тады добра ведалі, куды гне Карскі ў палітычным стасунку.

За першыя два гады дзейнасьці члены Гуртка самі зрабілі шмат дакладаў: а) нарыс беларускай народнай думкі; б) разьвіцьцё нацыянальнай беларускай ідэі; в) фонэтычная транскрыпцыя беларускіх твораў ды інш.; г) вывучэньне старажытных гістарычных помнікаў і ахова старасьветчыны; д) рукапісны альбом Вярыгі-Дарэўскага і беларускіх пісьменьнікаў; е) новае ў беларускіх песьнях; ж) беларускія народныя песьні Меншчыны; з) беларуская народная музыка; і) „Маладая Беларусь"; к) беларуская бібліографія (старадрукі); канечнасьць вывучэньня беларускага народнага мастацтва наогул і орнамэнтыкі ды архітэктуры прыватна; л) беларуская літаратура ды інш. Летам вывучалася народнае сцэнічнае мастацтва, асаблівасьці беларускіх гаворак і г. д.

Сродкаў Гурток ня меў і выдаваць што-небудзь навуковае ня мог. Зьмест некаторых дакладаў ды інш. зьмешчаны ў справаздачах Гуртка за 1912 і 1913 г. г. на 68 ст. in 8° на расійскай мове, бо і гэтыя справаздачы зьяўляліся адбіткамі з агульных справаздач Унівэрсытэту.

Дзейнасьць Гуртка мела, галоўным чынам, выхаваўчае значэньне для яго членаў. Але разам з тым трэба падкрэсьліць яго вялізарнае гістарычнае значэньне, бо ім упяршыню вызначаны і характар беларускага краязнаўства, і практычныя задачы, з яго выцякаючыя.

Такім чынам, на першы погляд можа здацца, што гэты Гурток можа быць названы першай беларускай краязнаўчай або беларусазнаўчай організацыяй. Але шэраг даных гэтаму перашкаджаюць. Папершае, Гурток па мове быў рускім. Пры жаданьні і пры дапамозе з боку беларускіх організацый у былым С.-Пецярбургу ён мог-бы выявіць сваю дзейнасьць і на беларускай мове. Падругое, вялікая частка асабовага складу яго, асабліва кіраўнічая, была левай толькі ў соцыяльным сэнсе; у справе-ж беларускага нацыянальнага адраджэньня і абслугоўваньня беларускіх пра-

*) „Бел. научно-лит. кружок студентов С.-П. Университета" СПБ. 1913, ст. 11.

цоўных мас на беларускай мове гэта частка Гуртка нічым ня розьнілася ад памянёных правых рускіх краязнаўчых організацый на Беларусі. Выразнаму офіцыяльнаму выяўленьню гэтага пагляду перашкаджаў страх страціць левымі фразамі здабытае месца ў беларускім адраджэнчым руху і, з другога боку, наяўнасьць меншай часткі членаў Гуртка, якія стаялі якраз і за нацыянальнае, а ня толькі соцыяльнае вызваленьне беларускага народу. Вось гэтай меншай частцы членаў Гуртка і належыць уся сапраўды шчыра накіраваная на соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне беларускага народу праца. Апрача таго, яна заклікана была паралізаваць дзейнасьць іншых членаў Гуртка, якія хацелі, заняўшы моцнае месца сярод адраджэнцаў, скіраваць іх працу ў „агульнарускую" раўчаіну. Такім чынам, у самым Гуртку адбывалася ўпартае змаганьне: беларусы заваёўвалі сабе месца ў краязнаўчай організацыі, каб выўчыць самых сябе. Але тады яны яго не заваявалі і ва ўмовах царату не маглі заваяваць. Таму Беларускі Навукова-Літаратурны Гурток Студэнтаў С.-Пецярбурскага Унівэрсытэту ў крайнім выпадку можна назваць толькі рускай організацыяй пераходнага тыпу да беларускай, але ні ў якім разе не апошняй.

## V

Усе памянёныя рускія краязнаўчыя організацыі зачыніліся незадоўга да Кастрычнікавае рэволюцыі або ў часе яе. Але з гэтым ня зьніклі на Беларусі рускія краязнаўчыя організацыі наогул. З рэштак лепшых старых сіл і з маладых працаўнікоў закладаліся рускія краязнаўчыя організацыі на Беларусі і пасьля пачатку Кастрычнікавае рэволюцыі. Зразумела, яны ня былі такімі консэрвацыйнымі, як папярэднія. Падобна да Беларускага Навукова-Літаратурнага Гуртка студэнтаў С.-Пецярбурскага Унівэрсытэту, яны мелі пераходны характар да сталых беларускіх краязнаўчых організацый, выяўляючы яго ў меншай або ў большай меры. Да такіх організацый належалі: Менскае Таварыства Гісторыі і Старасьветчыны, Беларускае Вольна-Экономічнае Таварыства выўчэньня прыроды, сельскай гаспадаркі і лесаводзтва, Этнографічная Камісія, Гомельскае Бюро Краязнаўства ды інш. Былі спробы організаваньня новых рускіх беларусазнаўчых організацый і па-замежамі Беларусі—у Маскве і Ленінградзе, але яны значных вынікаў не далі.

Першая з памянёных організацый, а ўласна—*Менскае Таварыства Гісторыі і Старасьветчыны*, заснавалася ў 1919 г. пры Менскім Пэдагогічным Інстытуце. Дзякуючы розным перашкодам польскай окупацыйнай улады, дзейнасьць сваю яно змагло пачаць толькі ў сьнежні 1920 г., калі савецкаю ўладаю быў зацьверджаны статут яго. Дзейнасьць Таварыства была спачатку даволі жывой, галоўным чынам у галіне гісторыі і археолёгіі, хоць Таварыства мела на ўвазе выўчэньне і этнографіі. Дзякуючы прысутнасьці ў складзе членаў Таварыства шмат якіх беларускіх

культурных працаўнікоў, яно і па мове пакрысе набліжалася да агульнага пераходу на беларускую мову ў сваёй працы, ня кажучы ўжо пра ўплыў гэтай часткі членаў на беларусазнаўчы характар Таварыства цалкам.

Галоўная праца Таварыства выявілася ў організаваньні сходаў з навуковымі дакладамі. Такіх сходаў адбылося каля 40 і на іх былі заслуханы даклады: а) аб мэтах Таварыства; б) асноўныя моманты ў гісторыі беларускай гісторыяграфіі; в) стан беларускае археолёгіі і яе бліжэйшыя задачы; г) Заслаўль у гістарычнай пэрспэктыве; д) Мацьвей Стрыйкоўскі і яго хроніка; е) Заслаўль і яго гісторыя; ж) вынікі раскопак у Заслаўлі, з) рэлігійнае пытаньне на соймах 1596—1632 г. ў Беларуска-Літоўскім Гаспадарстве; і) Слуцкая старасьветчына; к) праца польскіх вучаных па гісторыі Беларусі; л) вуніяцкія школы на Беларусі ў XVII в.; м) Слуцкія старажытнасьці ў помніках мастацтва; н) да пытаньня аб шлюбе Жыгімонта Аўгуста з Барбарай Радзівіл; о) аб найшоўшых археолёгічных адшуканьнях у ваколіцах Гнёздава і Смаленску ды інш.[1]).

Нязначная частка гэтых дакладаў надрукавана ў „Вестнике Народного Комиссариата Просвещения“, „Вольным Сьцягу“ і інш., а інформацыі аб сходах часта зьмяшчаліся ў газэце „Савецкая Беларусь“, тым-жа „Вестнике“ ды інш. Апрача працы на сходах, Таварыства разаслала анкету аб старажытнасьцях[2]), організавала раскопкі ў Заслаўлі пры матэрыяльнай дапамозе Камісарыяту Асьветы, рабіла спробы ўпарадкаваць музэй, які быў пад загадам Менскага Пэдагогічнага Інстытуту, азнаёміцца са станам мясцовых архіваў[3]) і г. д. Рэчы, здабытыя ў часе раскопак, паступілі пазьней у Беларускі Дзяржаўны Музэй.

Самаю цікаваю зьяваю Таварыства ёсьць заснаваньне пры Таварыстве *Часовага Бюро Краязнаўства* ў пачатку 1922 г. У мэтах завязаньня сувязі з мясцовымі краязнаўцамі яно мела склікаць першы ўсебеларускі краязнаўчы зьезд, але зьезд не адбыўся з прычыны браку сродкаў, а Бюро неўзабаве зачынілася[4]), з тым, аднак, каб цераз два гады адчыніцца ўжо пры Інстытуце Беларускай Культуры.

Паколькі Таварыства насіла беларусазнаўчы характар, на адным з сходаў яго ў 1923 г. ставілася пытаньне аб перамене назвы яго з Менскага на Беларускае, але набліжаўся ўжо час заняпаду самога Таварыства. Большасьць лепшых сіл яго перайшла ў навуковыя організацыі і ўстановы, і к 1925 г. дзейнасьць Таварыства зусім прыпынілася.

Пры другой вышэйшай школе ў Менску, а ўласна пры Беларускім Дзяржаўным Політэхнічным Інстытуце, зноў-жа пасьля Кастрычнікавай

---

[1]) „Вестник Народного Комиссариата Просвещения“. Менск, 1921 г., № 2. ст. 40; „Савецкая Беларусь“, Менск, 1923 г., № 283, 289 і інш.

[2]) „Краеведение“, Пгр. 1923 г., № 1., стар. 63.

[3]) Пасьведчаньне Таварыства ад 24-6—21, № 23.

[4]) „Краеведение“, М.-Л., 1924. № 3. стар. 303.

рэволюцыі, у 1921 г., заснавалася *Беларускае Вольна-Экономічнае Таварыства.* Членамі яго маглі быць выкладчыкі і студэнты Інстытуту, а таксама зацікаўленыя асобы наогул. Таварыства мела мэтаю: а) распрацоўку навуковых проблем; б) разьвязваньне навукова-тэхнічных пытаньняў, выкліканых мясцовымі патрэбамі і в) выўчэньне Беларусі ў прамыслова-экономічным, сельска-гаспадарчым і прыродазнаўчым стасунку [1]. Для ажыцьцяўленьня ўсяго гэтага Таварыства мела выдаваць свае працы, засноўваць музэі, склікаць сходы, організаваць экспэдыцыі і г. д. Былі заснованы тры сэкцыі адпаведна паказаным галінам выўчэньня Беларусі і адбываліся агульныя і сэкцыйныя сходы. Некаторыя з дакладаў на гэтых сходах, як, напрыклад, аб глебах Беларусі, экономічны агляд Беларусі ды інш., надрукаваны былі ў часопісі „Народное Хозяйство“, што выходзіла ў Менску. Таварыства не змагло шырака разгарнуць працу, бо амаль праз год зачынілася разам з Інстытутам, які быў рэорганізаваны ў Беларускі Дзяржаўны Інстытут Сельскай Гаспадаркі. Так як з Політэхнічнага Інстытуту вырас апошні, так з Вольна-Экономічнага Таварыства вырасла новае, а ўласна—*Таварыства выўчэньня прыроды сельскай гаспадаркі і лесаводзтва.* Яно заснавана ў канцы 1923 г. пры Інстытуце Сельскай Гаспадаркі і мела мэтаю выўчэньне прыроды, сельскай гаспадаркі і лесаводзтва, г. зн. амаль тыя самыя задачы, што і ранейшае Вольна-Экономічнае Таварыства, толькі ў новай рэдакцыі. На сходах новага Таварыства заслухоўваліся новыя даклады [2], якія таксама часамі зьмяшчаліся ў часопісі „Народное Хозяйство“ [3], „Запісках“ Інстытуту ды інш. Гэта Таварыства існавала нядоўга, як і першае, і зачынілася разам з зачыненьнем Інстытуту, які быў аб'яднаны з Горацкім Сельска-Гаспадарчым Інстытутам у Беларускую Дзяржаўную Сельска-Гаспадарчую Акадэмію. Пры Горацкім Сельска-Гаспадарчым Інстытуце таксама існавала *Навуковае Таварыства* [4]. Усе гэтыя тры апошнія організацыі былі ўсё-ж амаль цалкам рускімі краязнаўчымі організацыямі на Беларусі.

Затое такою-ж пераходнага тыпу рускай організацыяй, як і Менскае Таварыства Гісторыі і Старасьветчыны, была *Этнографічная Камісія пры Этнографічным Габінэце Віцебскага Аддзяленьня Маскоўскага Археолёгічнага Інстытуту*, г. зн. пры вышэйшай рускай школе на Беларусі. Адзін-два члены Камісіі, беларускія навуковыя працаўнікі сучаснай формацыі, не маглі зьмяніць яе характару. Яна была заснавана 9 студзеня 1921 г. ў відзе Студэнцкага Этнографічнага Гуртка, але ўжо 9 лютага 1922 г. была пашырана ў камісію пад памянёнай назвай. Згодна зацьверджанаму Радай Аддзяленьня Інстытуту статуту Камісія мела

[1] „Вестник Народного Комиссариата Просвещения“, Менск, 1921 г., № 1., ст. 47.

[2] Архіў ЦБК. Справа № 6. I Усебел. Краязн. Конф., ст. 15.

[3] „Краеведение“, М.-Л. 1924, № 3, ст. 303.

[4] Архіў ЦБК. Справа № 6, I Усебел. Краязн. Конф., ст. 94.

мэтай: а) выўчэньне этнографіі пераважна беларускай, б) зьбіраньне матэрыялаў па духоўнай і матэрыяльнай культуры, в) пашырэньне этнографічнай працы ў краі пераважна шляхам заснаваньня адпаведных гурткоў, пададдзелаў і аддзелаў Камісіі [1]). У члены Камісіі Праўленьнем яе мог залічацца кожны грамадзянін, які падаў заяву аб гэтым, цікавіцца этнографіяй і мог быць карысным Камісіі ў справе вырашэньня пастаўленых ёю сабе задач. За ўвесь час у данай Камісіі адбылося каля 15 пасяджэньняў, на якіх, паміж іншым, былі заслуханы наступныя даклады; а) беларускія бытавыя малюнкі; б) аб шчэцях; в) этнографічна-географічны нарыс галічан; г) аб запісаных дакладчыкам песьнях і іх мэлёдыях; д) бяседы і пасядзелкі Сураскага пав. Віцебскай губ.; е) народныя танцы гэтага павету; ж) чараўнік Віцебскага пав.; з) аб зьбіраньні народнай творчасьці; і) мэтоды зьбіраньня штукарэчаў матэрыяльнай культуры; к) што такое этнографія ды інш. [2]). Апрача таго, Гуртком было запісана звыш 300 народных песьняў і сабрана каля 120 этнографічных штукарэчаў. Членаў у Гуртку налічалася каля 35 чал. Гурток выдаваў сваю часопісь „Белорусский Этнограф“ на рускай мове. З прычыны адсутнасьці сродкаў, часопісь выдавалася на пішучай машынцы ў ліку 50 паасобнікаў. Усяго пасьпела выйсьці два нумары [3]). Гэта этнографічная Камісія скончыла сваё існаваньне разам з зачыненьнем Віцебскага Аддзяленьня Маскоўскага Археолёгічнага Інстытуту, г. зн. у 1922 годзе.

Зусім сваясасабісты характар мела Гомельскае Губэрскае Бюро Краязнаўства. Яно было заснавана ў сьнежні 1923 г. пры Губэрскім Аддзеле Народнае Асьветы, як урадовая ўстанова для дапамогі разьвіцьцю школьнай справы, галоўным чынам, у галіне набліжэньня школы да мясцовага жыцьця, запаўненьня схэмы школьных програм краязнаўчым матэрыялам, а значыць, і досьледаў краю, і г. д. У той час, як папярэднія пасьлякастрычнікавыя рускія навуковыя організацыі раёнам свае дзейнасьці мелі Беларусь, гэта бюро абслугоўвала толькі былую Гомельскую губ. У Рэчыцы, Клінцох і інш. мясцох яно заснавала пры павятовых аддзелах народнае асьветы павятовыя краязнаўчыя сэкцыі. Праца Бюро не магла шырака разгарнуцца ўжо таму, што яно было вузкай ведамсьцьвенай установай, а ня шырокай грамадзкай навуковай організацыяй. Праўда, на працягу сваёй дзейнасьці Бюро змагло прыцягнуць да краязнаўчае працы значны лік настаўнікаў і іншых работнікаў, якія зьяўляліся ў большай меры агентамі Бюро, чым роўнапраўнымі членамі яго. Улічваючы гэта, Бюро прызнавала канечна патрэбным утварэньне навуковага краязнаўчага таварыства [4]). Найбольш зацікаўленай у справе пашырэньня

---

[1]) „Вестник Народного Комиссариата Просвещения ССРБ“, Менск, 1922 г., вып. 7—8, стар. 22 беларускага аддзелу.

[2]) Тамсама.

[3]) М. І. Касьпяровіч. „Выўчэньне культурнага стану краю“, Менск, 1927 г., стар. 8.

[4]) „Краеведение“. М.-Л. 1925, № 3—4, ст. 314.

краязнаўчай працы была Беларуская Сэкцыя Губэрскага Аддзелу Народнае Асьветы, якая ў тыя часы існавала ў Гомлі. Пры дапамозе яе інструктара на мясцох было заснована некалькі краязнаўчых гурткоў *).

Самая большая праца праароблена Бюро ў галіне школьнага краязнаўства. Вынікі яе зьмяшчаліся ў мясцовых зборніках „Народное Просвещение“. У галіне навукова-дасьледчай Бюро заслухала больш 10 навуковых дакладаў і паведамленьняў па мясцоваму краю, сабрала шмат краязнаўчых матэрыялаў з месц і, паміж іншым, картак-слоў мясцовай мовы, клапацілася, каб арганізаваць краёвы музэй і падрыхтаваць да друку мясцовы краязнаўчы зборнік. Пасьля ўваходу Гомельшчыны ў склад БССР, Бюро ў студзені 1927 г. рэорганізавалася ў Гомельскае Акруговае Таварыства Краязнаўства.

Такім чынам, на сучаснай тэрыторыі БССР у даны момант няма рускіх навуковых беларусазнаўчых ці краязнаўчых організацый, месца якіх занялі беларускія, што сіламі самых беларускіх працоўных усебакова выўчаюць свой край. У гэтых беларускіх навуковых організацыях ёсьць шэраг сэкцый нацыянальных меншасьцяй, якія цалкам і абслугоўваюць апошнія на тэрыторыі Беларусі.

*) „Наш Край“, Менск, 1926, № 8—9, ст. 82

# РЭВОЛЮЦЫЙНЫМ ШЛЯХАМ

*(Да дзесяцілецьця творчасьці М. Чарота)*

**З. Жылуновіч**

„Завіруха“

1919 год расхінуў новую старонку ў гісторыі Беларусі. Маніфэст часовага ўраду Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Незалежнай Рэспублікі прынёс з сабою беларускаму працоўнаму народу палітычныя свабоды, нацыянальнае і соцыяльнае вызваленьне. Перад ім адкрыўся шырокі шлях гаспадарчага, культурнага і дзяржаўнага будаўніцтва.

Часовае рэволюцыйнае Правіцельства Беларускай Савецкай Рэспублікі рашуча ўзялося за організацыю новага жыцьця. Вочавідкі вынікалі ва ўсіх яго галінах багатыя пляны творчай чыннасьці. Шпарчэй усяго наладжвалася культурна-асьветная справа. У Менск к гэтаму часу зьехаліся значныя кадры беларускіх працаўнікоў.

На працягу кароткага часу пры Камісарыяце Асьветы з‘організавалася выдавецкая колегія. Пайшла падрыхтоўчая праца па адчыненьні кнігавыдавецтва, па організацыі тэатру. Адна за другой сталі пераводзіцца на беларускую мову народныя школы. Агульны настрой выразна сьведчыў аб магутным уздыме дагэтуль прыбітых творчых сіл беларускіх працоўных гушчаў. Яны з натхненьнем адгукнуліся на позыў маніфэсту і зьяднанымі радамі паўставалі да вялікай працы—пабудовы соцыялістычнай бацькаўшчыны.

Але ў самы разгар гэтае работы гісторыя раптам павярнула ў іншы бок. Яе разьвіцьцё прымусіла адняць увагу ад мірнае працы і накіраваць яе ў бок абароны заваёў рэволюцыі. Па іх сьпяшыла разбазыраная, контр-рэволюцыйная панская Польшча. Ап‘янелая клясавай зьненавісьцю да беларускіх рабочых і сялян, яна намерылася зьнішчыць Савецкую Беларусь, прылучыўшы яе да сваіх абшараў. У скутку шматмесячнага змаганьня Беларусь засталася окупаванай белапалякамі. На яе абшарах зноў запанавала няволя. Цяжкі абсац легіянэра прыдушыў развой грамадзкай думкі.

Заняпала ўсялякая творчая праца. Крыклівы і хлусьлівы лёзунг Пілсудзкага „вольны з вольным і роўны з роўным“ ня выклікаў да сябе давер‘я... Было ясна ўсім і кожнаму, якімі думкамі кіруецца правадыр польскіх паноў. Толькі няпрытомны мог зацікавіцца дзьмутаю абяцанкаю окупантаў.



Міхась Чарот.

Агульны настрой беларускіх працоўных гушчаў зразу прыняў адзіны акрэсьлены выраз—выраз рэволюцыйнай варожасьці да белапалякаў. Шырокаю хваляю разьлілася яна па беларускіх абшарах, захопліваючы вёскі, мястэчкі, гарады. У кароткі тэрмін перадавая работніцка-сялянская Беларусь складала магутны рэволюцыйны лягер. Окупанцкае войска ўзяло на сябе ролю карных атрадаў, на долю якіх выпала нялёгкае заданьне.

І вось, каб згладзіць крывавую вострасьць окупацыйнае ўправы, польскія ўрадавыя колы на чале з Пілсудзкім заняліся дыплёматыяй. Апошняя заключалася ў тым, каб новымі абяцанкамі ды дарункамі завабіць на свой бок тыя ці іншыя беларускія колы. Частка з іх была напагатове—і засталося пачаць гульню. Адно за адным пайшлі: беларуская рада, беларускае войска, розныя камісіі... беларускі друк. Усё гэта мела служыць узмацненьню давер'я з боку беларускага жыхарства да окупантаў, тым самым зацягваючы окупацыю.

Аднак, ня поўнасьцю Пілсудзкі выручаў інтарэс за ўкладзеныя грошы. Калі рада, вайсковая камісія і паасобныя адзінкі за межамі гэтых устаноў плацілі шчыраю службаю пану, то друк ня цалкам спаганяў карысьць окупантаў. Пасьля першага абманнага ўражаньня ад панскіх пасулаў—час за часам наглядаецца на старонках газэт і часопісяй усё большая адмоўнасьць і варожасьць да окупантаў. Політычныя артыкулы ўхіляюцца ў бок разважаньняў аб незалежнасьці. У літаратурнай творчасьці—вочавідкі растуць прызыўныя ноткі, бадзёрыя мотывы...

Выразьней падобныя мотывы справодзяць творы маладога, у гэты час вышаўшага на літаратурную ніву поэты М. Чарота. Малады, натхненны барацьбіт (яму ў той час было 25 гадоў), М. Чарот у адной руцэ трымаў стрэльбу паўстанца, другою—пісаў свае бадзёрыя прызыўныя вершы. Пад пераважна сумны настрой сваіх колег-песьняроў М. Чарот зьмяшчае ў часопісі „Звон“ свой верш пад аналёгічнай назвай. У гэтым вершы поэта зьвяртаецца да звону, заклікаючы яго званіць так, каб прачнуўся той, хто сьпіць, а хто ўстаў, каб ішоў да працы.

Зазвані моцна, звон, загудзі,
Каб пачулі цябе на ўвесь край,
Беларуса хутчэй разбудзі,
Хоць цяпер яму спаць ты ня дай!
Прышоў час, калі сорамна спаць;
Усе так шчыра за працу ўзяліс,
Усе жыцьцё пачалі будаваць,
А ты сьпіш... Хоць ад звону прасьніс!
Паглядзі, як сусед пачаў жыць,
Што нядаўна нявольнікам быў.
Ён ня спаў,—і цяпер ён ня сьпіць,
Усім кажа, што ён яшчэ жыў.
А чаго, беларус, ты маўчыш?!
І табе годзе, братку, драмаць:

Калі можна гукаць, ты маўчыш,
Каб пасьля ня прышлось шкадаваць.
Дык звані моцна, звон, і гудзі,
Сваім гукам глушы увесь край!
Хто 'шчэ сьпіць—ты таго разбудзі
Хто ня сьпіць—тых да працы зьбірай [1]).

Гэты верш, напісаны песьняром у 1919 г., як найлепш характарызуе настрой і сьветаадчуваньне М. Чарота. Паэта ў ім выглядае барацьбітом. Яму вочавідна і зразумела дыялектыка падзей. Сусед „пачаў жыць", а „нядаўна нявольнікам быў". „Прышоў час, калі сорамна спаць—ўсе жыцьцё пачалі будаваць". М. Чароту прыкра робіцца, што бурлівы процэс соцыяльна-нацыянальнага будаўніцтва Беларусь абмінае. Закляты лёс цягне зьдзекавацца над яе працоўнымі гушчамі, якія ў сваю чаргу ў шмат чым вінаваты самі. Векавы прыгон налажыў на іх цяжкую пячатку пакоры—разварушыць ад якое можа моцны званові гуд... Хто ж павінен той звон ускалыхнуць?

Цікавым стае той факт, што М. Чарот упяршыню зьявіўся перад намі са званобым гудам. Болей таго—гэта сымптоматычна для яго далейшай творчасьці. Творчасьць песьняра неадхільна і неадродна ад долінядолі беларускіх працоўных гушчаў. Яны справодзяць яго з часу першага абуджэньня праз агульны ўздым, праз змаганьне за волю наўсьцяж будаўніцтва соцыялізму. Праўда, у Чаротавым „Звоне" маецца доля алегорычнасьці, але М. Чарот якраз захапіў сваёю творчасьцю той пэрыод, у які нельга было абыйсьціся бяз гэтага. І яго „Звон" у значнай меры адбівае рэволюцыйны адраджанізм. Гэта—Чаротава даніна героічнай наша-ніўскай плыні ў беларускай літаратуры. Але ў гэтай даніне пераважае соцыяльны элемэнт. Яго мы сустракаем і ў іншых вершах пачынальнага пэрыоду поэтавай творчасьці.

Вось верш, прысьвечаны „Беларускаму хору Тэраўскага". М. Чарот у ім у гэткай форме выпукляе прызыўныя воклічы:

Няхай песьня далёка нясецца,
Хай разбудзіць таго, хто 'шчэ сьпіць,
Ува ўсіх тады сэрца заб'ецца,—
Не захочуць далей гэтак жыць... [2])

У гэтым вершы пясьняр бачыць карэньні цяжкага жыцьця беларуса ў нацыянальнай няволі, у нацыянальнай несьвядомасьці. Бо „Краю мой родны, усімі забыты"[3]), бо з беларуса „кпяць някчэмна ў яго роднай хаце".

Аднак, гэтым нотам М. Чарот рашучай ад іншых поэтаў процістаўляе колектыўны момант, няпрыменны для змаганьня за лепшае жыцьцё.

---

[1]) „Завіруха", стар. 75.
[2]) „Ibidem", стар. 87.
[3]) „Ibidem", стар. 106.

Жыцьцё палепшыцца, зазначае ён, выключна ад соцыяльна-нацыянальнага вызваленьня. А апошняе правядуць грамады:

Зьнікнуць хмары, сонца ўзыйдзе
І над нашым краем,
*Грамадою* тады выйдзем,
Песьню засьпяваем [1]).

Характарна, што М. Чарот не дае жадных намёкаў на голыя нацыянальныя ідэалы, ня ставіць іх асобна ад соцыяльных. Невялікая колькасьць яго вершаў, памечаных 1919 г. і надрукаваных у зборніку „Завіруха" (Менск, 1922 г. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі), як найлепш выяўляюць яго пераходную ступень да чыста рэволюцыйнай творчасьці 1920 году.

Адарваны ад роднай Беларусі, жывучы ва ўмовах, няспрыяючых грамадзкай працы, М. Чарот песьціць думку аб вызваленьні роднае краіны. Пакідаючы яе ў 1916 годзе, цёмнай і запрыгоненай, ён выпявае пакуль балючыя свае пачуцьці як вернага сына. Але ў гэтай балючасьці няма бязвыходнасьці. Перад поэтаю выразна бачыцца простае выйсьце:

Хутка прыдзе час-гадзіна,—
Вораг кіне кпіці.
Яму будзе дамавіна,
А мы будзем жыці [2]).

Гэта цьвёрдая вера ў тое, што „мы будзем жыці", абымае ўсё нутро поэты. Вера яго выбаўляе ад суму і паступова штурхае да рэволюцыйнай чыннасьці.

Умовы польскае окупацыі выгодна спрыяюць М. Чароту ў гэтым напрамку. Праўда, поэта на нейкі час пакідае леру і бярэ стрэльбу. Але гэта патрэбна яму на тое, каб паўней перажыць пачуцьці ваякі, ачуць іх у сапраўднасьці, а ня толькі ведаць адцягнена. М. Чарот ясна разумее каштоўнасьць гэтага і становіцца ў шэрагі змаганьнікаў; ён уваходзіць у беларускую комуністычную організацыю. Апошняя занята групаваньнем збройных сіл для нізрынуцьця паноў-окупантаў, і пясьняр поплеч з іншымі праводзіць гэту работу. Зрэдку, лічаныя разы ён садзіцца за пяро і насьпех накідае староньнія ад непасрэдных настрояў вершаваныя радкі...

Ды куды-ж пісаць іншае, калі пільнае вока окупанцкае цэнзуры дбайна сачыць за кожнай бадзёрай ноткаю, не дазваляючы ёй паказацца на старонцы газэты ці часопісі. І мы бачым, што з пачатку 1920 году да вызваленьня Менску ад палякаў М. Чарот зьмяшчае ў друку ўсяго тры-чатыры выпадковыя, ня зьвязаныя з яго агульнаю творчасьцю вершы, як: „На могілках", „Вечарам" і інш. Між імі пападаецца і верш „Памяці А. Гаруна". М. Чарот сконцэнтраваў у радкох гэтага вершу моцную

[1]) „Завіруха", стар. 108.
[2]) Ibidem, стар. 108.

сілу процэсу народнага адраджэньня. Недарма гэты верш мае падзагаловак—„Жывыя акорды". У іх многа кіпучага, агністага жыцьця, прапушчанага нутром мяцежнага поэты.

Трэба сказаць, што і тэму для гэтага М. Чарот выбраў удзячную. А. Гарун, сапраўды, згарэў у змаганьні за „родны край і працоўны народ". Мы ня кажам аб яго дзейнасьці і творчасьці ў часы польскае окупацыі. Тады А. Гарун не прадстаўляў ранейшага поэты-барацьбіта. Запутаны ў сеткі рэакцыйнай незалежнасьці, ён збочыў з роўнага шляху і далёка адышоў ад ідэалаў беларускіх працаўнікоў, якія сам песьціў да таго і за якія цярпеў. Але М. Чарот не А. Гаруну астатніх дзён прысьвяціў свой натхненны верш. Ён, пішучы яго, бачыў перад сабою А. Гаруна—рэволюцыянэра і барацьбіта, якога:

Акорды будуць жыць—твой дар, поэт, на волі,
А за імі будзе жыць „хто плакаў і стагнаў". [1])

Праз гэты верш творчасьць М. Чарота цьвёрда перакупае к часу вызваленьня Беларусі ад палякаў. Героічнасьць змаганьня Чырвонае арміі, адвага паўстанскай барацьбы, у якой і сам поэта прымаў удзел, надалі яму багатага натхненьня. Які час мог быць паўнейшы прыгожасьцю?

І ня быў-бы М. Чарот песьняром—ваякам за волю, каб гэткія падзеі не ўскалыхнулі яго нутро! У яго творчасьці, як у творчасьці рэдкіх пісьменьнікаў, яскрава акрэсьлены сынтэз поэтыцкага настрою і чыннасьці барацьбіта. Сугучнасьць з эпохаю—поўная.

Родны наш край вечнай пакуты,
Зноў ты ў праменьнях свабоды,
З громам упалі жалезныя путы,—
К сонцу ідзіце, народы...
Вось прычакалі лепшай мы долі,
Слава героям Усходу!
Сонца ня згасьне... Хутка на сьвеце
Згніўшае ляжа ў труны... [1])

Гэткімі радкамі прывітаў М. Чарот першы свабодны подух вызваленай Беларусі. Урачыстасьць яго настрою сьведчыць аб шчырай песьняровай радасьці, як аб пачуцьці барацьбіта. Гэта пачуцьцё, глыбокае і палкае, надало М. Чароту багатае музыкі і фарбаў.

Вялікасьць рытму пераможнасьці, дапамінаючы рытм Марсэльезы, справодзіць ня толькі гэты твор поэты. Поступ свабоды, жывы і ачулы яму, чуцён у шэрагу натхненных вершаў-гімнаў М. Чарота гэтага пэрыоду. Песьнярова лера не маўчыць, яна настроена на нясупыннае пяяньне. Яе струны вібруюць ад кожнага поступу свабоды. Для беларускіх працоўных гушчаў свабода была жаданым госьцем. Занадта цяжка адбівалася на іх дэспотычная, прыгонная окупацыя.

---

[1]) „Завіруха", стар. 110.
[2]) Ibidem, стар. 27.

Прыход свабоды на беларускія абшары М. Чарот малюе ў наступных мулях, у рытму, ад якога чуцён гук тысячаў ног:

Загрымеў моцна гром,
Ажно здрогнуўся сьвет,
Ажно іскры сыпнуліся з неба,
І няволі цяжкой
Агнём зьнішчаны сьлед,
Аб якім ўспамінаць ўжо ня трэба.
Гэты гром разбудзіў
Ўсіх нявольных людзей,
Асьвяціў бліскавіцай ім шлях...
Ад сахі, варстакоў
Мкнуцца ўсе к грамадзе,
Каб на век утрымаць вольны сьцяг [1]).

У гэтым паходзе, аднак, ня толькі зьнішчэньне няволі. Гучлівасьць і агнённасьць прышоўшай на Беларусь свабоды ня толькі „паліць, нішчыць усё з края да края“. Не! Яе руйненьню падлягае ўсяго толькі прыгонная спадчына. А там—на яе руінах—свабода, „сонца волі над усімі запалае“. І сьледам за Сьцяпанам, які ў вершы „Разьвітаньне“ [2]) на матчыну параду

Ты ня біся з бедным братам,
Што, як ты, працуе,
А заві яго на помач...
Прыдзе, як пачуе,—

сьвядома адказвае:

Споўню ўсё, аб чым прасіла,—
За народ, за яго волю
Буду сьмела біцца...

М. Чарот бачыць, як ідзе кіпучая сьвядомая праца па ахове свабоды. Абуджаныя да волі грамады мусяць раней забясьпечыць для сябе волю, а пасьля пераходзіць да будаўніцтва новага жыцьця.

Найболей прыгожы момант, момант абароны свабоды, асабліва багата адбіты нашым песьняром у яго творах.

Сьцяпан ідзе ў бойку, помнячы мацярыны словы „ня біцца з бедным братам“. Рацьза рацьцю

Уперад мкнецца грамадой;
Ідзе, заве: на бой! на бой!
Агонь ня тухне. Кожны дзень
Расьце іх лік, як ў рань прамень...[3])

[1]) „Завіруха“, стар 17.

[2]) Ibidem, стар. 34.

[3]) Ibidem, стар. 55.

Поэта зьвяртаецца да каваля (верш „Кавалю“) і кажа:

Куй, каваль! Зялеза гнецца...
Іскры хай лятуць далёка,
Хай стук молата нясецца,
Сэрцы ранячы глыбока.
Хай твой стук народ пачуе
І прачнецца, як адзін... [1])

Змаганьне за свабоду і яе абарона—справа агульная, грамадзкая, колектыўная. Зарука посьпехаў гэтай чыннасьці—у клясавай сьвядомасьці і ў загартаванасьці сэрца...

Але ва ўмовах Беларусі ёсьць і яшчэ адзін фактар. Гэты фактар—нацыянальная сьвядомасьць. На гэтай струне вораг беларускага працаўніка ўвесь час не пакідае надыгрываць. Забіраючы Беларусь, ён нёс абманныя лёзунгі гэтага характару. Уцякаючы пад напорам Чырвонае арміі, ён кідае словы і думкі аб Беларусі, як аб частцы панскае Польшчы, аб крэсах усходніх. Поэта пераймае ворагаву думку:

Родная зямелька
У бой апошні кліча...
Йдзі, хто хоча волі,
Дык сынам заліча! [2])

„Йдзі, хто хоча волі“, хто хоча будаваць край, як вольны край свабоднага народу. М. Чарот не разумее вызваленьня напалову. У рэволюцыйнай завірусе мусіць зьнішчыцца і соцыяльная і нацыянальная няволя. Бяз гэтага нельга залажыць моцныя падставы для будаўніцтва *новага* жыцьця.

Правёўшы ў сваёй творчасьці пэрыод змаганьня за вольную савецкую Беларусь, М. Чарот з тым-жа натхненьнем сустракае і наступны пэрыод—пэрыод будаўніцтва.

Пясьняр дужа шчыльна зросься з працоўнымі гушчамі радзімы, блізка прыняў да сэрца яе лёс, каб хоць на момант ухіліцца ў бок. Яму леру даручыла грамада, з якою ён бяз зрады ня можа разлучыцца. І поэта настарожана сачыць за далейшым процэсам гісторыі свае краіны. Уносячы ў агульную скарбніцу будаўніцтва сваю часьціну працы, ён адначасна апявае яе прыгожасьці, яе вялікасьць і сілу.

Творчы пэрыод—другі пасьля заваёвы свабоды, пэрыод ня меней адказны ад першага. Болей будзённы, але і болей вымагальны, М. Чарот, аднак, ня бачыць у яго будзёншчыне сумных фарбаў. Яго нутро не дапускае няверы, чужая ўтоме. Наадварот! Поэта знаходзіць у ім досыць матэрыялу для сваіх бадзёрых, уздымных песень. Якраз к гэтаму часу ён заметна падрастае ў справе аўладаньня формаю і тэхнікаю вершу. Яго кругавід заметна пашырыўся. І новыя верш за вершам станавіліся

[1]) „Завіруха“, стар. 56.
[2]) Ibidem, стар. 57.

музычнейшымі, сачнейшымі, дасканалейшымі. Іх дыапазон шырэў, фарбістасьць багацела... Але зрэдку поэта, якназнарок, прапускае ў іх тыя ці іншыя шурпатасьці, тую ці іншую неахайнасьць.

Для беларускіх эстэтаў, якія навучылі свой нос нюхаць парфуму замест пораху і прымаць за росквіт гаспадарства пашырэньне прыватнага гандлю—гэта рэзала вуха. Іх музыка—у суладзьдзі міжклясавага жыцьця. Не для іх напісаны вершы М. Чарота пэрыоду вызваленьня Беларусі і першых гадоў яе будаўніцтва. Яны занадта калючыя, каб дазволіць дакрануцца да іх выпешчаным рукам. Не пасуседзтву яны і тым, хто абманна залічае сябе да эстэтаў, седзячы на суку з антырэволюцыйнага дрэва.. Да-рэчы тут месца дапомніць аб тых адносінах, якія ў свой час падобныя „эстэты“ мелі да грамадзкай творчасьці А. Некрасава...

М. Чарот, перакazваем, на працягу свае творчасьці неадлучны ад рэволюцыі. Ён ішоў з ёю поплеч, няўхільна. Яе рост, яе паглыбленьне—расьцілі і паглыблялі пясьнярскія здольнасьці. Адначасна з гэтым процэсам ішоў другі процэс—процэс усё большага прасякненьня поэты клясавым імпульсам. Калі надышоў час мірнага будаўніцтва БССР, поэта выразна схіліў сваю леру ў бок пролетарскіх напеваў. У вершы „Сьвята“ ён кажа:

Народ спазнаў, кім мусіць звацца...
Нявольнай працы край,
*У знак пабеды вольнай працы,*
Сьвяткуе першы май [1]).

Вольная праца—і да яе зусім іншыя адносіны з боку працоўных. Яна ўжо ня мука, а здавальненьне. Вольная праца ды яшчэ на карысьць вольнае краіны—ці-ж яна можа цягнуць за сабою цяжар, дрэннае пачуцьцё? Вольная праца выклікае бадзёры, захопны настрой, яна мяжуе з урачыстасьцю. М. Чарот нутром зьвязаны з ёю, і яго лера адбівае цеганіну вольнае працы ў прыгожых, жыцьцярадых, празрыстых фарбах. Вось „Касавіца“:

Загарэўся усход... Бляск зарніцы патух...
На траве сьлёзы буйнай расы...
Грае ў вёсцы труба,—выганяе пастух...
Між кустоў чутна песьня касы.
Забялелі шнуры ад кашуль мужыкоў,
І калышацца хваляй рады...
Сьвіст касы, звон мянташак, брускоў,
Ды ад ног на балоце сьляды...
За пракосам пракос выплывае уміг
З мора вечна зялёнай травы...
Касцоў песьціць рукой сонцавей залаты,—
Чэша праменем сноп галавы...[2])

---

[1]) „Завіруха“, стар. 81.
[2]) Ibidem, стар. 79.

Тут ужо ня сустрэць сумных тонаў. Усё зьзяе ў бліскучых фарбах радасных настрояў. „Касцоў песьціць сонцавей залаты“. Труба ня трубіць, а „грае“. Каса „пяе“. Чаму? Ды таму, што касец працуе на сябе, а не аддае плён свае працы другому. Час, калі праца ішла з-пад бізуна, мінуў.

Час той загінуў, ня трэба хавацца,
Кожны працуе на волі...
Выйдзема, хлопцы, ўсе, выйдзема, братцы,
К працы вялікай на поле!
Нашу краіну, што звалі ўсе дзікай,
Зробім квяцістай, прыгожай!.. [1])

Побач з радасьцю ад вольнае працы, у М. Чарота бурліць жаданьне бачыць сваю краіну „квяцістай, прыгожай“. Гэта пачуцьцё займае адно з важных месц у комплексе Чаротавых ідэй. Ён не растаецца з гэтым пачуцьцём і ў розных варыяцыях высувае яго перад чытачом. Праз гэта М. Чарот трымае цесную сувязь з нацыянальным момантам у гісторыі вызваленчай барацьбы. Ды іначай нельга. Шчыльна зьвязаны з беларускімі працоўнымі гушчамі ад пачатку сьвядомага жыцьця, ён ня можа ад іх адарвацца ў адказныя часы соцыялістычнага будаўніцтва. Будзь-бы гэта, поэтавы воклічы заставаліся-б пустазвонамі. Кідаць найгарачэйшыя словы міма гушчаў—роўна пусканьню мыльных бурбалак.

М. Чарот, узьняты рэволюцыйнай завірухаю наповерх жыцьцёвых падзей, ня бачыў мэтазгоднасьці ў апяяньні косьмічных прастораў. Ён мусіў мець пад сабою апору, стоячы на якой можаш адчуваць сябе зьвязаным з зямлёю. Гэта апора—Беларусь. Яна навучыла песьняра змагацца, яна ў праве вымагаць ад яго ахвяр для свае адбудовы. І М. Чарот ад Беларусі неадлучны. Ён жыве і творыць для яе і праз яе для сусьвету. Гэта асноўная рыса, якою М. Чарот выдзяляе сябе з шэрагу іншых песьняроў, як поэта-рэволюцыянэр ва ўмовах свае краіны. Ён таксама добра разумее яшчэ адну асаблівасьць, якая ўласьціва БССР і яе песьняром. Гэта—становішча БССР, як аванпосту рэволюцыі. Помнячы гэта, трэба з узмоцненай настарожанасьцю, з падвойнай увагай глядзець на Захад і быць на варце.

Чуць-чуць заціх гарматаў гук:
Сякер, лапатаў чутны стук...
Але сын вольнай беднаты,
Ваяк чырвоны, ведай ты,—
Яшчэ ня кідай стрэльбу з рук! [2])

Гэты падвойны абавязак павінен прасачыць сьвядомасьць кожнага, хто даражыць здабытай свабодай. Пясьняр выразна падказвае на гэта. Але ён лічыць, што аснова абароны—у пільнай стараннай працы над

---

[1]) „Завіруха“, стар. 78.
[2]) Ibidem, стар. 63.

будаўніцтвам новага жыцьця. І М. Чарот раз-ад-разу зварачваецца з усё настойнейшымі воклічамі—працаваць! Ён заве да працы моладзь:

Ты, моладзь, сьмела і магутна,
Ты волі лепшай будаўнік;
Далёка песьня твая чутна,
Бо стан бясьсьмертны твой вялік.
Нібы прамень ты посьле ночы,
Надзея сьвету й цеплаты,
Дзіця сялянаў і рабочых,
Ідзеш да працы, моладзь, ты! [1]

Нарэшце, пясьняр да працы кліча ўсіх, хто „чуе сілу Чырвонага Вольнага сьцягу“. І вось, каб гучней пранёсься яго вокліч, ён зноў вяртаецца да звону, якім год таму назад абуджаў да паўстаньня. На гэты раз чаротавы званы ўжо б'юць ня трывогу, а трызвоняць урачыстасьць, якою зьяўляецца і вольная праца.

На кліч званоў грамадамі
Да працы йдуць,
Усе, як адзін, з прыладамі—
Жыцьцё куюць.
На кліч іх заклікаючы
Ідзе народ,
Дзе сонцам незгасаючым
Гарыць усход!.. [2]

Але падаваць падобны заклік яму аднаму замала. Гэта павінны рабіць і тыя з маладых песьняроў, якія закліканы да літаратурнае працы. Ахоплены настроем перамогі, М. Чарот стараецца перадаць ім свой гарт, кажучы: „Гэй, пясьняр малады, ня вучыся сьпяваць новай песьні на сумны той лад“.

Таксама ён дзеліцца радасьцю перамогі і з сваім папярэднікам— Ц. Гартным. Успамінаючы нядаўнае мінулае, калі „яшчэ шугаў агонь... і кулі песьні пелі“, калі „першы быў наш кліч: на ворага!—у бой!“, пясьняр дапамінае свайму таварышу па пяру, што цяпер „сьвет новы будзем мы, сьвет новы будаваць“.

Маючы на воку гэта жывое выяўленьне рэволюцыйнай урачыстасьці ў расхвалёваным пачуцьці поэты, можна зразумець той зрыў, той раптоўны заняпад, з якім ён сустракае вестку аб сьмерці аднаго з тых барацьбітоў, з якім яму даводзілася поплеч весьці змаганьне за вызваленьне краіны і на каго гэта краіна пакладала столькі яскравых надзей! Сьмерць Сьцяпана Булата кідае М. Чарота ў часовую роспач, у жах. Ён ня можа пагадзіцца з бесспагаднасьцю лёсу, які так недачасна вырваў з жыцьця гэткага каштоўнага ваяку і будаўніка, якім быў Сьцяпан Бу-

[1] „Завіруха“, стар. 58.
[2] Ibidem, стар. 30.

лат. Поўны суму, растрывожаны да болю, ён зьбірае ўсю злосьць, што сьціснула яго сэрца, і ў гэткіх словах вылівае скаргу на супольную долю.

Хоць сонца і сьвеціць, а дзень сумны... хмуры...
Спакою душа не знаходзіць...
Стаю я маўчліва і чую, як бура
Жалобную песьню заводзіць...
Ты бурай жыцьцёвай ад нас адарваны...
І сэрца баліць так ад страты...
Мы скаргу на долю навек захаваем,
Хоць ў сэрцы і зробіцца ціша,
І помсту на лёс мы тады пахаваем,
Як хваля і нас закалыша...*)

У гэтым чаротавым вершы адбілася пачуцьцё грамадзкае страты. Праўда, у ім, апрача агульнага суму, многа таксама яшчэ і непасрэднага адчаю маладога сэрца. У гэтым адчаі якраз затанула сіла колектыўных надзей, якая ўсё-ж не павінна слабнуць ад згубы адзінак колектыву.

Вось чаму Янка Купала ў сваім вершы, прысьвечаным сьмерці Сьцяпана Булата, аказаўся мацнейшым ад М. Чарота і багацей перадаў агульны настрой з пункту гледжаньня імкненьняў грамады. Але Янкам Купалаю кіравалі больш об'ектыўныя пачуцьці. Міхась-жа Чарот у агульную жальбу ўлажыў багата асабістага пачуцьця. Сьцяпан Булат, пераказваем, быў ня толькі таварышам песьняра па ідэі, а і сябрам яго на працягу доўгіх гадоў жыцьця... Да гэтага, і моладасьць тут мела свае месца,—яна заўсёды больш імпэтная і непасрэдная ў сваіх пачуцьцях.

Аднак, трэба сказаць, што Міхась Чарот у гэты пэрыод свае творчае працы неаднойчы мае справу з уплывам сумніўных настрояў. Разьвіцьцё рэволюцыі ў беларускіх умовах ня ішло папісанаму, без перашкод, заўсёды пераможна. Яе сустракаў шэраг пагрозных, апасьлівых момантаў. Заваёвам рабочых і сялян ня раз паграavailable вялікая небясьпека. Адыход чырвонага войска ад Варшавы і паўторнае забраньне беларускаму палякамі Менску; рыскае замірэньне, пацягнуўшае за сабою парэз адзінае Беларусі надвае; Краштадзкае паўстаньне; і нарэшце, голад на Паваложжы,—усё гэта не магло ня мець уплыву на песьняра, цесна зьвязанага з грамадою. І кожны з памянёных момантаў дае сябе адчуць на струнах чаротавай леры. Зрэдку нават да яго падкрадаецца і лёгкае разувер'е. Пясьняр прызнаецца:

Шалёны вецер сьвішча ў полі...
Маланка зьзяе... гром грукоча...
А я іду... Слабею з болі...
Мо' не дайду туды ніколі.
Але ў няволі жыць ня хочу.
Ў зімову сьцюжу сьнег заносіць...
Ня бачу сьвету ў завірухах...

*) „Завіруха", стар. 70.

Але наш край свабоды просіць.
І сын яго хай гора зносіць.
Хай моцны будзе целам, духам.
Я сын яго. Дзіця я працы.
Такіх, як я,—нас шмат—мільёны:
Мы зможам ворага ў палацы...[1])

Маладым сілам, яскравым надзеям балючы паўторныя перабоі і частыя перашкоды. Але наперакор налётам суму, М. Чарот станавіў абавязак перад краінаю і сьвядомасьць сілы ў мільёнах. Гэтага яму выстарчала, каб адбіць спакусу няверы і не зыйсьці з роўнага шляху.

Вось мы і бачым, што хвілінныя сумненьні компэнсуюцца рашучымі заявамі песьняра ў неаслабнасьці яго сілы, яго веры, яго натхненьня да барацьбы. Бунтарскае пачуцьцё ўздымаецца ў ім з новаю энэргіяй, разганяе сум, і поэта засьвядчае:

Я шумлівы Чарот, я мяцежны бунтар...
Я балота буджу гучным шумам,
У вадзе я жыву і абмыт дажджом хмар,
Але змоўкнуць ня дам сваім струнам.
Уздыму дух людзей, прабуджу іх ад сну...
Як ня ўчуюць мяне, я мацней загуду,
Дам гучнейшы акорд песьні новай...
Дык шумі, як шумеў, вялікан-ясакар,
Шапаці сьпелы колас у полі...
А я песьню сваю буду пець—я бунтар!
Буду клікаць народ свой да волі [2]).

І далей—

Мы засыпаны сьнежнымі іскрамі,
Ломім ногі ў гальлі буралому...
Крычым сонцу: „Блізка мы, блізка мы!
К сьвету Вялікаму! Новаму!“ [3])

Тут ужо М. Чарота непакоіць болей усяго тое, што ня ўся Беларусь да гэтага „сьвету Вялікага, новага“ набліжаецца. Рыскае замірэньне правяло крывавую мяжу па жывым целе краіны. За мяжою засталіся мільённыя гушчы беларускіх працаўнікоў і сялян. Польскае панства надзела на іх ярмо прыгону. Абураны гэтым, пясьняр кідае баявы вокліч заходнім сваім братом:

Змагайцеся, браты...
Хай вораг цешыцца,—мы верым ў вашу сілу...
І верце вы, браты, мяжа нас не рэзлучыць...
Хто пабудуе мур, які-б дзяліў наш кут?
Зруйнуем мы яго дашчэнту там і тут... [4])

---

[1]) „Завіруха“ стар. 14.
[2]) Ibidem, стар. 11.
[3]) Ibidem, стар. 3.
[4]) Ibidem, стар. 48.

Побач з гэтым, перад намі пясьняр разгортае карты свайго разуменьня ў часта ўжываных ім тэрмінах „грамада“ і „мы“. Грамада і мы— гэта той асноўны фундамант чалавецтва, які трымае на сабе сьвет і стварае багацьці, гэта—рабочы і селянін. Яны ўдваіх

Стары сьвет агнём паляць-руйнуюць
І на вогнішчы новы будуюць,
Панаваць ў якім будзе: молат і плуг [1]).

Гэтым вершам М. Чарот як-бы засуцэльвае свой першы творчы кругабег. Пачаты для сябе ў 1917 годзе (гэтай датай памечаны верш у зборніку „Завіруха“ „Чужына“, напісаны аўтарам у Кузьнецку, Саратаўскай губэрні), і для публічнасьці ў 1920 годзе—ён працягваецца да 1922 году.

Зборнік „Завіруха“ ўмяшчае ў сябе працу поэты за гэты тэрмін. Якава, аднак, яна суцэльна і вытрымана! Адна асноўная ідэя пануе ў зьмесьце „Завірухі“. Гэта—ідэя рэволюцыйнага змаганьня. Толькі рэдкія, адзінкавыя вершы, на першы погляд, уносяць у зборнік некаторую як-бы нясугучнасьць. Але гэтых вершаў, лірычнага характару, ня болей дзесяці. Усе яны прыпадаюць на 1919 год, калі поэта яшчэ не ўвайшоў у вадакрут рэволюцыйнага жыцьця. Некалькі з гэтых вершаў прысьвечаны любоўным мотывам, як „Сьветлая ноч“, „На могілках“, некалькі з іх—пантэістычных („Стаіць маўчліва сонны гай“, „Вечарам“, „Схавалась сонца“ ды інш.). Пры гэтым, аднак, у вершах пантэістычнага характару думка песьняра часта ад прыродных вобразаў пераступае да грамадзкіх настрояў.

Амаль ня ўсе з аднесеных намі да рубрыкі лірычных вершаў зборніку ў большай ці меншай меры зачапляюць грамадзкае пачуцьцё. У адных яно прыкрыта тулем алегорычнасьці, у другіх адкрыта зьліваецца з гэткімі радкамі, як, да прыкладу:

Змаўкае сьпеў... Вось ночы ціша
Нясе ўсяму сьвяты спакой...
А сэрца доўга мне калыша
Твой сумны сьпеў, край родны мой!
(„Вечарам“) [2]).

Ад іх натуральны ўвераны пераход поэты да грамадзкай мэлёдыкі. Апошняю прасычана ўся рэштка зьместу зборніку „Завіруха“. Пачынаючы ад напеваў пра нядолю і цяжкі лёс роднае краіны (верш „Чужына“), М. Чарот хутка пераходзіць да бадзёрых нот. Паступова бадзёрасьць пераліваецца ў баявы, рэволюцыйны энтузыязм. Нарэшце перад намі пачуцьцё ўрачыстасьці перамогі.

Водлуг гэтага выразна чытач выяўляе сабе правамерную ходу разьвіцьця пясьнярскіх настрояў. Нават гэтага ня можа затуліць і праблытанасьць парадку ў хронолёгіі разьмяшчэньня вершаў у зборніку. Ад збор-

[1]) „Завіруха“, стар. 64.
[2]) Ibidem, стар. 118.

ніку ўцалку атрымліваецца ўражаньне посьвісту завірухі, яе разбураючай сілы. Ад рытмікі нясе стукам мільёнаў крокаў, выбухамі грому, выбліскам маланак, воклічам званоў.

Меней, зразумела, у гэтых першых спробах нашага поэты вы знойдзеце мастацкасьці і ўдасканаленасьці з боку тэхнікі. Пакуль у М. Чарота зрэдку прабіваецца і слабасьць фарбаў, ды скупасьць лексыкону. Але гэта зрэдку, у выключэньнях. Увогуле-ж трэба заўважыць, што М. Чарот адразу зьявіўся нам сфармаваным, індывідуальна акрэсьленым песьняром. Ужо першыя па напісаньні яго вершы яскрава сьведчаць аб аўладаньні ім законамі музычнасьці вершаскладаньня і, асабліва, сілаю рытмікі. У іх удалая сугучнасьць рыфмы, лёгкасьць пабудовы складу. А спусьціўшы некаторы час, майстэрства поэты шыбка сягае наперад, выпукляецца, выгодна зьліваючыся ў адно з размахам і глыбінёю пачуцьцяў.

Хочучы застацца скромным, М. Чарот папераджае чытача ў прадмове да „Завірухі“, каб у зборніку ня шукалі „якой-небудзь вызначанай мастацкай ці політычнай програмы. Яе пакуль што няма“. Бязумоўна—зборнік суб'ектыўны, без програмы. Але ён без тае програмы, аб якой разумеюць тэхнічна і ў імя якое цёнгля аўтары ахвяруюць і сэнсам, і формаю, і зьместам сваіх твораў. Зборнік „Завіруха“ об'ектыўна програмны. Гэту програму пісала яму жыцьцё, яго развой, жыцьцёвыя пэртурбацыі ў галіне людзкога дабрабыту. Тут-жа М. Чарот мімавольна на ёй спыняецца, кажучы: „Час накладае свой адбітак“. Вось гэты адбітак часу ў яго творчасьці і зьяўляецца програмаю. Зьмест яе ў „рэволюцыйнай дынаміцы, якая вядзе думку поэты ад бурлівага сягоньня ў заўтра, у „Вялікую будучыню“. У самай хадзе захована і форма, якая заўжды ёсьць дадаткам зьместу...

„Завіруха“ служыла ўвераным доказам праўдзівае здольнасьці М. Чарота, ідучы ад якое і можна было прыйсьці да новых этапаў, да новага посьпеху, які спаткаў яго пазьней.

*(Далей будзе)*

# ПІСЬМЕНЬНІК—КНІГА—ЧЫТАЧ

## В. Сташэўскі

Нам думаецца, што кожнага пісьменьніка павінна цікавіць пытаньне: ці чытаецца яго кніжка? а калі чытаецца, то якое яна робіць уражаньне на чытача. Аб аднэй і тэй-жа кнізе могуць быць у розных чытачоў розныя ўражаньні, розныя складаюцца погляды на той ці іншы твор. Робіцца ацэнка яго і ацэнка, такім чынам, пісьменьніка. Але ці даходзіць яна да пісьменьніка? Ці можна быць заспакоеным хоць-бы нават добраю, пахвальнай рэцэнзіяй?

На жаль, шмат каго, асабліва маладых пісьменьнікаў, гэта заспакайвае. З чытачом яны мала лічацца. І ня дзіва, калі чытач плаціць за гэту няўвагу тым, што ня чытае іх кніжак.

Ня страшна, калі нашага сучаснага пісьменьніка ня чытае нэпманскі, мяшчанскі чытач, але сумнае зьявішча, калі ня чытае яго рабочы, селянін, працоўны інтэлігент. Адным можа хіба часам пацешыць сябе некаторы пісьменьнік—гэта „несьвядомасьцю“ чытача, яго „культурнай недарослаcьцю“. Вырасьце—зразумее.

Кажучы пра беларускага чытача беларускае кнігі, трэба адзначыць, што ёсьць дарослая, солідная меншая частка, якая разумее: і мармуры, і пурпуры, і пунсавейныя сіні, але большая частка чытача часам ня ўспрыймае гэтага „высокага“ мастацтва, гэтыя пурпуры застаюцца для яго пусьценькімі слоўцамі і таму, наткнуўшыся на адзін такі „пэрл“, ён адмахваецца рукамі і нагамі ад падобных яму. Ніжэй мы падамо даныя, якія пакажуць, што чытае чытач хоць-бы ў нашых менскіх бібліотэках. Справа ў тым, што беларускіх чытачоў, выгадаваных дарэволюцыйнай эпохай, вельмі мала, як мала і пісьменьнікаў. І чытачы, і пісьменьнікі расьлі ў сучасную рэволюцыйную эпоху.

Калі лік пісьменьнікаў можа сёньня задаволіць нас, дык лік беларускіх чытачоў пакідае жадаць большага.

Тут ёсьць і об‘ектыўныя ўмовы, як, скажам, зрусыфікаванасьць рабочае часткі, малапісьменнасьць сялянства, ды іншыя, але ёсьць грэх і на душы пісьменьнікаў, якія, як мы зазначалі, часам ня лічацца з гэтай групай чытачоў.

Бязумоўна, да пэўнай ступені грае ролю форма творчасьці—проза, поэзія.

Першая з іх мае больш прыхільнікаў, чым другая, і гэта ня значыць, што высока мастацкі лірык Купала павінен сесьці за апавяданьні. (Хоць у ваднэй бібліотэцы настойна прасілі даць яго апавяданьні).

Што любіць чытач-масавік?

Яму патрэбна цікавая тэма, блізкая да яго жыцьця, простая мастацкая форма, іменна простая і па слоўнаму матэрыялу і па тэхнічным разьмеркаваньні слоў.

Мудрагельства ў разьмеркаваньні радкоў, літар са шматкроп'ямі выклікае сьмех у чытача, а часам і заўвагі такога парадку:

— Ня думаюць людзі над тым, што яны пішуць, а думаюць аб тым, як мудрэй разьмеркаваць словы і радкі.

Здараецца, што поэта да паўсьмерці забівае чытача сваёю славатворчасьцю, і гэта робіцца ў імя культуры мовы.

Культура мовы патрэбна, але справа ў тым, што „закультаваўшы“ якое-небудзь слоўца штампуюць яго так, што яно выходзіць зусім замурзаным.

Усім памятна—сінь. Папалі—і засінілі.

Пасьля запунсавілі. А адзін дык стварыў: пунсовую сінь.

Ня трэба падаваць прыкладаў; кожнаму, хто чытае творы нашых маладзейшых поэтаў і асабліва поэтэс, вядома, што гэтыя слоўцы трапляюцца амаль у кожным вершы (асабліва рачей).

Прыгожыя слоўцы, а праўдзівей, назвы прыгожых прадметаў,—але чаму прысутнасьць іх паказвае на мастацкасьць твору?

А такая думка існуе ў некаторых поэтаў слова. Званы, напрыклад, лічыцца прыгажэйшым, чым гудкі, скажам меч—прыгажэй, чым тапор ці сякера. Адсюль яны прыходзяць да вываду: твор, у якім многа слоў, што азначаюць атрыбуты бруднае працы, ня зусім мастацкі. Рабочы, праца і жыцьцё якога знаходзіць адбітак у творчасьці поэты, прыме гэту творчасьць. Гудок яго заводу больш яму гаворыць, чым усялякія каралевыя пацеркі і халодныя мармуры, сьв. Марыі ці Вэнэры.

Мы ў даным выпадку не адхіляем здольнасьці нашых маладых поэтаў. Мы нават не крытыкуем іх, а выказваем уражаньне пэўнай часткі чытачоў. А паколькі ёсьць чытачы, якія разумеюць мастацтва ня горш, чым пісьменьнік, пастолькі пісьменьніку карысна паслухаць ня толькі профэсыянальнага крытыка, але і чытача наогул.

Ёсьць група чытачоў, якія ўважна сочаць за крытыкай. Хто-ж зьяўляецца крытыкам беларускай творчасьці? Чые гэта рэцэнзіі раскіданы на старонках газэт, часопісаў?

Пад якім-бы псэўдонімам ні хаваўся крытык, аўтар рэцэнзаванае кніжкі ведае, што гэта добрая (у сэнсе—пахвальная) рэцэнзія якога-небудзь пісьменьніка — значыць блізкага таварыша, дрэнная — значыць ворага.

Чытач таксама налаўчыўся ўгадваць.

Пісьменьнік у крытыку пісьменьніка ня верыць.

Тут, кажуць, магчымы спаборніцтвы з падстаўленьнем ножкі.

Прыкладам гэтага можа быць крытыка творчасьці П. Труса.

„Ветры буйныя“—гэта збор вершаў, раскіданых па розных часопісах, галоўным чынам у „Маладняку“, „Полымі“.

Рэдагавалі людзі, друкавалі іх.

П. Трус малады паэта. Кожны з маладых захапляецца творчасьцю таго ці іншага поэты, скарыстоўвае форму, часам вобразы, запазычае сюжэт.

Гэта зусім нормальная зьява. Справа толькі ў тым, як і якою меркаю карыстацца.

Тут ёсьць небясьпека: вынікам вялікага захапленьня можа быць частковы захоп чужога. Зьява не пахвальная, і калі-б мы ўбачылі гэта ў якога-небудзь старога пісьменьніка, дык мы сказалі-б: „ты сбился, брат, верно нарочно с пути“.

Восемнаццацігадовага П. Труса палічылі за дарослага чалавека і немаладога пісьменьніка, адсюль страшны, суровы суд.

Экспэртыза „заработала во всю“:

Адзін падлічае словы ў зборніку, другі грызе творы Шэўчэнкі, трэці сьлібізуе Сосюру, чацьверты калупаецца ў творах Есеніна.

І вось старонкі крытыкі:—Глядзеце, глядзеце, што з сябе прадстаўляе П. Трус, бачыце, да чаго дайшоў хвалёны поэта.

— Глядзім, бачым!—адказвае чытач, і тут-жа зазначае:

— Вы, таварыш крытык, здаецца, таксама поэта, ды яшчэ таварыш П. Труса, ці не па зьлосьці?

Другому крытыку кажуць:—А вы, таварыш, чаго глядзелі, калі, седзячы ў рэдактарскім крэсьле, зьмяшчалі першатвор? Ці не для таго толькі, каб падставіць ножку?

І сапраўды ў чытача (аб гэтым нам казалі многія настаўнікі і студэнты) склалася такое ўражаньне, што сваёю крытыкаю трусовы таварышы робяць мядзьведжую паслугу яму.

Да маладога паэты, якім зьяўляецца П. Трус, творчасьць якога сваёю блізкасьцю да народнае цікавіць чытача, трэба адносіцца больш уважна.

Як мы бачым, бываюць разыходжаньні крытыкі з поглядамі чытача.

На вялікі жаль, мы ня ставім сваіх твораў на абгаварэньне чытача.

Кожны чытач, прачытаўшы кніжку, можа зрабіць свае заўвагі, вядома, не на старонках друку, а ў інтымнай гутарцы, на літаратурнай вечарыне і г. д.

Адным словам, шмат можна знайсьці шляхоў да зблізэньня з масавым чытачом, і гэта канечна патрэбна.

Цяпер паглядзімо, як чытаецца наша мастацкая літаратура.

Для вывучэньня гэтага пытаньня мы ў працягу сьнежня мясяца 1927 г. наведваліся ў бібліотэкі. Пры дапамозе бібліотэкараў, бібліотэчных запісаў, гутарак з чытачамі нам удалося сабраць некаторы матэрыял.

Рабіць вывады на падставе матэрыялу аднае бібліотэкі было-б вельмі рызыкоўна. Мы знаёміліся з чатырмя бібліотэкамі:

1. Дому Асьветы, дзе чытачом зьяўляецца пераважна настаўнік. 2. Клюбу саўгандслужачых, дзе чытач—служачы розных савецкіх устаноў. 3. Клюбу саюзу будаўнікоў, дзе чытач—рабочы, і 4. Клюбу К. Маркса з рабоча-партыйным чытачом.

Пры гэтым больш поўны матэрыял мы атрымалі ў Доме Асьветы. Тут захаваліся карткі, якія далі магчымасьць падлічыць, колькі разоў бралі з бібліотэкі кніжку за год.

Падаем даныя за 1927 г.

| | | |
|---|---|---|
| *Я. Купалы.* | Безназоўнае (у 1925-26 г. бралі 22 разы) | 29 |
| | Поўны зб. тв., т. I | 8 |
| | Адвечная песьня | 7 |
| | Магіла Льва | 9 |
| | Жалейка | 10 |
| | Шляхам жыцьця (у 1925-26 г. бралі 55 раз) | 20 |
| | Спадчына | 15 |
| | Поўны зб. тв. т. II | 21 |
| *М. Чарот.* | Завіруха | 7 |
| | Выбраныя вершы | 14 |
| | Веснаход (у 1926 г. бралі 62 р.) | 31 |
| *Ул. Дубоўка.* | Трысьцё (у 1926 г. бралі 5 раз) | 4 |
| *А. Дудар.* | Беларусь бунтарская | 4 |
| | І залацісьцей і сталёвей | 3 |
| | Шанхайскі шоўк | 6 |
| *Александровіч.* | Па беларускім бруку | 7 |
| *Яз. Пушча.* | Дні вясны | 2 |
| *Крапіва.* | Біблія | 8 |
| | Крапіва (у 1926 г. бралі 44 разы) | 12 |
| *М. Зарэцкі.* | Голы зьвер | 21 |
| | Пад сонцам | 29 |
| | У віры жыцьця | 57 |
| *Ніканові.* | Радасьць | 2 |
| | Золак | 11 |
| *К. Чорны.* | Хвоі гавораць | 7 |
| | Пачуцьці | 10 |
| *Я. Нёманскі.* | На зломе (у 1926 г.—41 р.) | 26 |
| | Апавяданьні | 17 |
| *Ю. Гаўрук.* | Вясковыя рыскі | 7 |
| *М. Гарэцкі.* | Досьвіткі | 6 |
| | На імпэрыялістычнай вайне | 12 |

| | | |
|---|---|---|
| *Александровіч* *Дудар* *Вольны* | Вучаняты | 5 |
| *А. Вольны.* | Два—чытаецца вельмі добра. | |
| *Зьм. Бядуля* | Буралом | 7 |
| | Пад родным небам | 7 |
| | Выбр. апавяданьні | 10 |
| | На зачарованых гонях | 15 |
| | Апавяданьні (у 1926 г.—44 р.) | 19 |
| *Я. Колас.* | На прасторах жыцьця | 11 |
| | Казкі жыцьця | 27 |
| | У Палескай глушы (1926 г.—41 р.) | 46 |
| | Сымон музыка | 48 |
| | Водгульле | 58 |
| | Новая зямля (у 1926 г.—83 р.) | 67 |
| | У ціхай вадзе—чытаецца добра | |
| *Ц. Гартны.* | Урачыстасьць | 11 |
| | Песьні працы і змаганьня | 13 |
| | Трэскі на хвалях | 34 |
| | Сокі цаліны, ч І | 64 |
| | Сокі цаліны, ІІ | 83 |
| | Прысады (вышла ў канцы году). | |

Ёсьць у бібліотэцы яшчэ некалькі кніжак з маладзейшых пісьменьнікаў, якія ня чытаюцца, а шмат якіх кніжак у бібліотэцы няма.

Як мы бачым з гэтых лічбаў, на прозаічныя творы большае запатрабаваньне у некалькі разоў.

У другіх бібліотэках наглядаецца тое самае з невялікімі зьменамі. Зразумела, што гэтыя лічбы ня могуць характарызаваць якасьці твору. Што-ж да твораў Я. Купалы, дык у другіх бібліотэках яны чытаюцца вельмі добра.

У Доме Асьветы бяруць яго творы пераважна студэнты; настаўнікі не бяруць, бо, папершае, кожны чытаў, а падругое, у кожнай школе ёсьць гэтыя кніжкі ды амаль кожны настаўнік мае ў сваёй уласнай бібліотэцы.

Адначасна мы цікавіліся пытаньнем, як трапляе да чытача беларуская кніжка, і што робіцца ў гэтым кірунку бібліотэкамі. Толькі ў бібліотэцы клюбу К. Маркса мы знайшлі на выстаўцы і беларускія навінкі. Дошка знаходзіцца на відным месцы, на якой пэўны час, 2-3 тыдні, трымаюць купленыя новыя кніжкі. Бібліотэка Дому Асьветы мае дошку, але беларускае кніжкі там няма, як няма і апошніх выданьняў. У бібліотэцы саюзу будаўнікоў мы прачыталі плякат: „Книги, рекомендуемые для прочтения молодежи“. Там зьмешчана 99 назваў кніжак розных аўтараў,

па некалькі назваў аднаго аўтара, як, скажам: Дж. Лёндон 12, Сейфуліна—6, Сынклер—8, Кельлерман—4. Далей ідзе Пушкін, Лермантаў, Верасаеў, Бунін ды інш.

Бязумоўна, можна раіць і Сынклера 8 кніжак і Сейфуліну, але чаму-б беларускай моладзі не параіць творы і нашых беларускіх пісьменьнікаў?

Гэтае пытаньне зусім ня цікавіць профсаюзных культработнікаў, для гэтага ёсьць многа даных. Існуюць, напрыклад, расійскія літ. гурткі ў клюбах, дзе плацяць кіраўніку, а да беларускіх такіх гурткоў не дадумаліся.

Калі сёньня запытаць бібліотэкі профсаюзных клюбаў: што зроблена для азнаямленьня чытача з беларускаю кнігаю, дак адзіным праўдзівым адказам будзе: нічога.

Ёсьць бібліотэкары, якія маглі-б зрабіць што-небудзь у гэтым кірунку, але „законом свыше не дано возможности такой“. Ёсьць праўленьні клюбаў, бібліотэчныя камісіі і завы культаддзелаў, якія стаяць „вышэй“ беларускае кніжкі і ўсякае такое нацпалітыкі.

# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ*)

*(Нататкі з падарожы)*

**М. Быкавец**

...Мне казалі каліс:
— Беларусь—
Гэта толькі балоты ды ўзгоркі,
Ды народ, што, сагнуўшыся ў крук,
Лье свой пот у чужыя разоры...

(Ал. Дудар—поэма „Сягоньня").

## З вакна вагону

Вядома, як сьпіцца ў вагоне! Цягнік ляціць, трасе, амаль штохвіліну ляскаюць дзьверы, праходзіць кондуктар... А далей, там, у кутку, нехта бубніць. Чорная ноч за вакном.

Поруч з цягнікам бяжыць і скача па траве і дрэвах сьвятло ад паравіка.

Заснуць у вагоне цяжка, але-ж утома бярэ сваё. Нейк пад раніцу я такі добра заснуў.

Махнуў ужо рукою на тых „добрых сяброў", што часам дапамагаюць падарожніку, клапоцяцца, каб лягчэйшым была падарож яго. Ня было чаго красьці ў мяне. У невялічкай скрынцы—фото-апарат, ручнік і запасныя гамашы.

Я ўзяў сабе за правіла: калі намерыў вандраваць, дык не бяры з сабою многа, бо ўсё роўна пакінеш.

Сьвежая хваля паветра разбудзіла мяне. Цягнік стаяў на станцыі. Была прыгожая раніца такая, ліпнёвая.

Наш цягнік Харкаў—Менск праходзіў ужо праз Чарнігаўшчыну. Часьцей пачалі сустракацца цукраварні, больш рухавы абмен пасажырамі на станцыях.

У вагоне горача. Адчыніш вакно—і цябе абдае пылам. Ён нават прабіваўся праз малюсенькія шчылінкі і шэраю плёнкаю пасьцілаў адзежу, рэчы, твар. Размова суседзяў ішла вакол цукровай вытворчасьці, ураджаю, гандлю.

---

*) Гэты артыкул М. Быкаўца друкуецца ў украінскай часопісі „Плуг". Рэдакцыя „Полымя" зьмяшчае яго з тэй думкай, што для беларускага чытача таксама будзе цікава пазнаёміцца з уражаньнямі староньняга падарожніка, які першы раз трапіў у нашу краіну.

Я шкадаваў, што прышлося мінаць Украіну і ўяжджаць на Беларусь днём. Мне не хацелася наглядаць паступовую зьмену пэйзажу, мне цікавей было-б раптоўна бачыць розьніцу краявідаў. Праўда, і Чарнігаўшчына нават крыху адрозьнівалася ад Харкаўшчыны. Тут больш лесу, больш цукровага бураку, тут не пачыналася жніво, хоць каляндар і паказваў 18 ліпня.

Я ўспомніў Палтаўшчыну—сваю бацькаўшчыну, дзе, як правіла, жніво пачыналася на Пятра.

Цягнік з пэўным сваім рытмам імчаўся далей. Хутка павінна была пачацца Беларусь.

На Беларусі я ніколі ня быў, чытаў аб гэтай краіне многа. Я ўяўляў сабе беларускае сяло такім, як яго малявала беларуская пісьменьніца К. Буйла:

Люблю народ наш беларускі.
Іх хаты ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў.
Люблю раку, што свае воды
Імчыць ў нявіданую даль,
І жоўтасьць берагоў пясчаных,
І яснасьць чыстых яе хваль.
І восень сумную люблю я,
І першы звон сярпоў і кос,
Як выйдуць жнеі збожжа жаці
І касары на сенакос...

Я спадзяваўся адразу спаткаць вось гэтыя ціхія рэчкі, апранутыя ў зелень лясоў, пясчаныя ўзгоркі з пустым борам. Я чакаў гэтага з нецярпеньнем і пазіраў у вакно. Цягнік імчаўся, і розьніцу краявідаў магло знайсьці толькі надзвычай уважлівае вока.

## Размова каля кіёску

Вось адна станцыя з двума надпісамі: парасійску і пабеларуску. Так, значыць, я на Беларусі. Іду на станцыю, падыходжу да кніжнага кіёску і пытаю:

— Ёсьць у вас беларуская літаратура?

— Что?

Паўтараю сваё запытаньне парасійску.

— Нет, не імеем.

— А беларускія газэты?

— Тожа нет.

Я стараюся даведацца, чаму кіёск не прадае беларускіх выданьняў, і чую адказ: ніхто ня купляе.

Другі званок. Я сьпяшаюся на цягнік. У галаве думка: які знаёмы адказ. І ў нас, на Украіне, яшчэ можна пачуць такі абсурдны мотыў: ніхто ня купляе!

Бо ніхто-ж не прадае!

Гэта мяне зьдзівіла, тым больш, што, праяжджаючы на Чарнігаўшчыне станцыі Варажбу, Бахмач, я ва ўсіх чыгуначных кіёсках бачыў украінскія выданьні. А на маленькай станцыі Пуціўлі прадавец выставіў на дзьверцах свае шафы ўсе дзевяць нумароў нашай „вясёлай кніжкі Плужаніна“. Вядома, радасна забілася маё плужанскае сэрца.

Знаходзіў я ў нашых кіёсках кніжачкі Вішні, „Червоний Перець“, „Вісти“, творы Віньнічэнкі.

Вёў гутарку з прадаўцамі; яны скардзіліся, што з цэнтру мала прысылаюць твораў Вішні, што няма таннага „Кобзаря“. І гэта на Чарнігаўшчыне, дзе процант украінскага насельніцтва значна меншы, чым на Палтаўшчыне ці Кіеўшчыне.

Так беларускае газэты не дастаў аж да прыезду ў Менск (дастаў „Зьвязду“ на расійскай мове).

Тымчасам надыходзіў вечар. Нейк гадзіны дзьве я не пазіраў у вакно, і потым, калі паглядзеў, то заўважыў беларускія асаблівасьці. Часта трапляліся балотцы, напоўненыя вадою. Чыгунка перасякалася масточкамі, а ўздоўж дарожнага насыпу часам на некалькі вёрст цягнуліся равы, пераходзячы ў шырокія копанкі.

Каля вёсак у такіх копанках жанчыны ў чырвоных хустачках мыюць, беляць палатно.

Мясцовасьць роўная, нізкая, падобна да кацярынаслаўскіх стэпаў, каб не вада і веліч зялёнага дрэва. Каля вады расьце знаёмая мне алешына.

Цягнік імчаўся праз хваёвыя, з бярозаю, лясочкі, выскакваў на ўзгоркі і прабягаў полем.

Вось праскаквае перад вачыма лапінка смарагдавага лёну, далей жоўтая палоска жыта, зялёная бульба. Звыклае да пшаніцы вока не прыкмячае яе тут. Затое многа грэчкі, аўса і ўсюды жыта.

Вось з краю лесу, як-бы прытуліўшыся да яго, стаіць вёска. Якая непадобная яна да нашых украінскіх! Шэрыя груды драўляных будынкаў, з адрэзанымі стрэхамі, гэта—хаты. Тут лесу хапае, і няма чаго займацца з глінаю і крэйдай. Многа будынкаў пад аднэй, агульнай страхою, а ёсьць і не агароджаныя двары. Калі дзе трапляюцца студні, дык з жураўлямі.

Кідаецца ў вочы надзвычайна малы лік ветракоў. Яны іншае канструкцыі: яны высокія, чатырохкрылыя. Яны ловяць вецер засаджанымі ў крыльле дранкамі ці, рэдка, палатном.

Зямля падзелена на доўгія, вузкія палоскі. Трапляюцца палянкі са сьвежа-пасаджаным сасоньнікам. Праехаўшы лес, часта можна бачыць вялікую зялёную раўніну. Вось маленькая рэчка, тут пастушкі з невялікім гуртам авечак, кароў. А там далей раскіданы будынкі.

Дзесь далёка бліснуў агоньчык. У вячэрнім зmроку я разглядаю некалькі фігур, а пры дапамозе біноклю пазнаю пастушкоў. Сядзяць яны каля агню і поркаюцца там, мусіць, бульбу пякуць. Прывольна тут

жывёле; сакавітая зялёная трава, тут-жа і вада, толькі машкара, якая хмаркамі круціцца, не дае спакою. Здагадваешся, чаму пастушкі раскладаюць агонь. Ён крыху бароніць іх ад камароў.

Прабягаюць невялічкія станцыі. Усюды надпісы на чатырох мовах: беларускай, расійскай, польскай і яўрэйскай. Я чытаю: „дзяжурны па станцыі", „дежурный по станции", далей—папольску і яўрэйску. Я зацікавіўся апошнім надпісам і папрасіў майго суседа па вагону, яўрэя, прачытаць, што там напісана. Ён прачытаў: „дзяжурны па станцыі". Выявілася, што яўрэйскімі літарамі напісаны неяўрэйскія словы.

На прагаліне, паміж дрэў, косяць траву. Касцы ў белым убраньні рытмічна махаюць рукамі. Гляджу ў бінокль і бачу, як плаўна кладзецца зрэзаная трава.

Падвячорак. Зноў на цёмна-зялёным фоне дрэў блішчыць агоньчык.

Робіцца зусім цёмна, у вагоне запальваецца электрычнасьць, і я нехаця адыходжу ад вакна.

Праз некалькі гадзін павінен быць Менск. Выходзіла, што я прыеду ў чужое месца а гадзіне 12 ночы. Гэта мяне крыху непакоіла, і я аглядаў сваіх суседзяў, каб знайсьці каго з беларусаў, ды можа яшчэ і з Менску. Маё вока спынілася на адным маладым хлапчуку. Неадвязна лезла думка ў маю галаву: гэта напэўна поэта (да таго-ж падобны да нашага Пятра Галоты). „Поэта" стаяў каля вакна і гутарыў са студэнтам. Я падышоў бліжэй, каб паслухаць, на якой мове гутарка ідзе. Гутарылі парасійску. Скарыстаўшы паўзу ў іхнай гутарцы, я зьвярнуўся да „поэты" паукраінску з запытаньнем, ці ня з Менску ён. Ён пабеларуску адказаў мне—так, з Менску. У сваю чаргу запытаў мяне:—А вы украінец? Такім чынам мы ўжо ведалі адзін аднаго: ён быў беларус, а я украінец. Пачалася гутарка. Я разумеў яго мову, а ён маю.

Выявілася, што ён сапраўды былы член аб'яднаньня „Маладняк". Ён распытваў мяне пра украінскую літаратуру, апавядаў пра беларускую. Так у жывой гутарцы прайшло некалькі гадзін. Я папрасіў даць мне адрасы: гасьцініцы, выдавецтва, рэдакцый газэт, „Маладняка".

Мы пад'яжджалі да сталіцы Беларусі—Менску.

### Сталіца Беларусі

Хай другія на сьвеце брадзяжаць
ды шукаюць багатых зьмен.
Ах, як многа, як многа кажа
беларускаму сэрцу Менск!
(А. Дудар—„Менск").

У Менску няма трамваю, ёсьць конка, але быў пачатак першае гадзіны ночы і конка адпачывала.

Бяру возьніка і еду ў гасьцініцу „Эўропа". Учора ў Менску быў вялічэзны дождж, ён заліў некалькі сутарэньняў у будынках, і цяпер пры сьвятле ліхтароў людзі помпамі выкачваюць ваду.

— А калі-ж у вас будзе трамвай?—пытаюся ў возьніка.

— Абяцалі на 1928 год, дык можа трэ' было пачакаць на вакзале, пакуль збудуюць трамвай?—адказвае ён і згаджаецца завярнуцца і адвезьці мяне на вакзал, каб я пачакаў трамваю. Ён аж падскоквае ад сьмеху, а конь гэтым часам аблюбаваў ціхую хаду. Гэта мне не перашкаджае. Я разглядаю Менск і вяду гутарку.

Нарэшце мы каля „Эўропы". Гэта прыгожая гасьцініца. Швайцар паднімае мяне ліфтам на трэці паверх і адмыкае мой нумар. Блізка і рэсторан. Змораны 24-гадзінным падарожам, я хутка моцна засынаю.

Раніцою пачынаю аглядаць горад. Пляц Волі. Кідаецца ў вочы вялікі будынак старога польскага касьцёлу. Побач будынак Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Беларусі. Тут-жа блізка Наркамасьветы, суд, банкі. Пасярод плошчы невялічкі сквер, а ў ім помнік Гіршу Лекерту, пабудованы ў 1922 годзе ў дзень 25-годзьдзя з дню кары сьмерцю гэтага рэволюцыянэра царскім генэралам фон-Валем.

Вуліцы гораду паволі ажываюць. Кідаецца ў вочы вялікі лік майстэрань саматужнікаў: краўцоў, шаўцоў, фотографаў, цырульнікаў і г. д. У маленкіх крамках адну палову займае кравец, другую—гадзіньнікавы майстар або галянтарэйшчык. Усё гэта невялічкае, дробнае, але поўнае руху, гандлёвае зацікаўленасьці. Мала вялікіх магазынаў. З аднаго боку плошчы, да гістарычнае рэчкі Нямігі, ідуць старадаўнія будынкі— сьведкі даўных часоў з тоўстымі сьценамі, вузкімі вокнамі, масыўнымі варотамі.

Менск старанна будуецца. Бадай на кожнай вуліцы перагароджваюць дарогу рыштаваньні новых будынкаў—вялікіх, з некалькімі паверхамі.

Вось прачнулася і конка. Паціхеньку пляцецца яна вуліцаю, памахвае праваднік пугаю і звоніць. На пад'ёме да пары коняй падпрагаюць трэцяга і едуць сабе далей. Аднача сна курсыруюць аўтобусы. Нейк дзіўна бачыць у сталіцы рэспублікі аднача сна існуючыя два процілеглыя па сваёй тэхніцы віды транспорту.

### Я знаёмлюся з пісьменьнікамі

Іду ў Дзяржаўнае Выдавецтва, бо якраз маю даручэньне ад ДВУ; апрача таго, хачу-такі спаткацца з пісьменьнікамі, і гэта лягчэй дасягнеш, калі пойдзеш па выдавецтвах.

Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам кіруе Цішка Гартны. Гэта старэйшы пісьменьнік, выдатны дзеяч *савецкай* беларускай культуры. Заходжу ў пакой, на дзьвярах якога напісана: „Загадчык". За сталом сядзіць паважны „дзядзя" ў круглых нямецкіх акулярах. Ведаў я яго па фотографіі, і цяпер з першага погляду ўпэўніўся, што гэта Цішка Гартны. Кажу, хто я, і прашу аўдыенцыі.

— Вельмі прыемна, сядайце!

Ен распытвае пра Украіну, гутарым аб літаратурных, выдавецкіх справах, распытваю пра маладнякоўцаў. Выяўляецца, што маіх знаёмых пісьменьнікаў Дудара і Александровіча няма ў горадзе. Трэці мой знаёмы (і то толькі па перапісцы) Іл. Барашка недзе ў музэі. Тав. Цішка Гартны раіць мне пайсьці ў рэдакцыю газэты „Савецкая Беларусь“ да тав. Зарэцкага.

У невялічкім пакоі рэдакцыі „Савецкая Беларусь“ сядзіць чатыры чалавекі. Хто-ж з іх пісьменьнік?

Іду проста да маладога яшчэ таварыша з русымі валасамі і шэрымі вачыма, пытаюся:

— Ці ня вы Міхась Зарэцкі?

— Я. Што хочаце?

Кажу яму, хто я і чаго прыехаў на Беларусь. Пра Зарэцкага я чуў. Якраз перад гэтым у часопісі „Полымя“ чытаў першыя разьдзелы яго вялікага соцыяльнага роману „Сьцежкі-дарожкі“, з гэтага я і пачынаю, хвалю яго роман, бо ён сапраўды мяне зацікавіў.

Ласкавыя вочы Зарэцкага прыемна ўсьміхаюцца. Ён цісьне маю руку і кідае пахвалу па майму адрасу.

— Я чытаў вашы артыкулы ў часопісі „Плужанін“, чуў пра вас, чытаў і ваш артыкул у нашай часопісі „Маладняк“.

Адразу знаходзяцца супольныя інтарэсы, супольны грунт для размовы. Ён знаёміць мяне са сваімі супрацоўнікамі. Пытаецца, дзе я быў, каго бачыў, ці доўга прабуду на Беларусі. Рэдактар газэты Міхась Чарот у водпуску, і Зарэцкі яго замяшчае.

Хутка зьбіраецца даволі значная група таварышоў, і мы ідзём сьнедаць.

Пасьля з дапамогаю таго-ж Зарэцкага я дастаю ў Галоўліце дазвол фотографаваць краявіды на Беларусі.

Летняя пара не дае магчымасьці пазнаёміцца з многімі пісьменьнікамі. Сустракаем на вуліцы выдатнага байкара Крапіву. Наскора паціскаем адзін аднаму руку, абменьваемся некалькімі словамі.

У кнігарні адбіраем навінкі літаратуры, і мае знаёмыя пішуць на сваіх кніжках таварыскае прысьвячэньне.

Часу вельмі мала, бо падарож мая павінна прайсьці праз Беларусь, Украіну, праз Чорнае мора, аж на Кубань. Трэба скарыстаць адпускны час і ўсюды пабываць. Беларусам мая сьпешка не падабаецца. Яны запрашаюць застацца яшчэ на колькі дзён, прапануюць паехаць да М. Чарота, які жыве на дачы—кілёмэтраў сто ад Менску.

Зарэцкі доўга звоніць па тэлефону. Нарэшце ўдаецца яму перадаць колькі слоў Чароту адносна часу нашага прыезду.

Нечакана знаходжу я сабе кампаньёна ў падарож. Адзін з супрацоўнікаў газэты хоча скарыстаць свой водпуск падарожаю на параходзе

праз Украіну ў Крым. Ён раней зьбіраўся кампаніяй ехаць ў чайцы, але гэты плян ня зьдзейсьніўся, і ён далучыўся да мяне.

На кароткай нарадзе вызначаем месца і час выправы. Параходы ходзяць ад Барысава па Бярэзіне і далей па Дняпру да Кіева.

Мне падабаецца пэрспэктыва праехаць параходам па Беларусі, хоць гэта зойме ня мала часу.

Вось мы і пастанавілі паехаць з пачатку да Чарота, які жыве ў шасьці кілёмэтрах ад прыстані Барысаў, прабыць там ня больш аднаго дня і рушыць ужо ў падарож.

## У Дзяржаўным музэі

Тымчасам іду я з тав. Барашкам у Дзяржаўны музэй, які месьціцца ў былым архірэйскім доме. Музэй яшчэ малады, але памяшканьне для яго ўжо цеснае. Час быў позьні, і музэй зачынены, але, з дапамогаю тав. Барашкі, нам яго адчыняюць. Замест музэйнага кіраўніка, знаёміць мяне з музэем тав. Барашка, які сам многа працаваў па стварэньні яго. Музэй мае тры аддзелы: беларускі, яўрэйскі і невялічкую карцінную галерэю. У яўрэйскім цікавымі зьяўляюцца экспонаты з культу—скруткі торы, магільныя помнікі з надпісам паяўрэйску, розныя амулеты, старадаўняе пісьменства на пэргаміне, а таксама працэс вырабу гэтага пэргаміну. Гэты аддзел невялічкі.

Значна большы беларускі аддзел. Зьвяртаюць увагу старыя цэхавыя сьцягі XVI стагодзьдзя, скрынкі з патайнымі шуфлядкамі. Каля сьцяны стаіць піяніна менскага вырабу. На сьценах зброя, прылады для паляваньня. Многа вырабаў з саломы і лазы (лапці, кошыкі для хлеба, для рыбы).

Вялікі аддзел драўлянай прамысловасьці. Гэта галоўны промысел Беларусі; таму зусім зразумела, што яму адведзена ў музэі пачэснае месца. Тут вялікі асортымэнт лыжак, збанкоў, дзежак, місак, драўляныя бораны, вульлі, прылады да бандарства. Трошкі далей — беларускія вопраткі. Цікава, што пераважны колер у іх, гэта—чырвоны, і амаль не прыкмячаецца жоўтага колеру, таксама і блакітнага (як гэта ў нас на Украіне).

На іх месца кідаецца ў вочы яшчэ сіні ці цёмна-зялёны колер.

Вось невялічкая вітрынка народных беларускіх інструмантаў: скрыпка, цымбалы, доўгія дудкі з бяросты—жалейкі і кароткія—з дрэва.

Беларускія мастакі расьпісалі сьцены музэю; асабліва ў пакоі карціннае галерэі іх панно адбіваюць беларускія краявіды; поруч портрэты пісьменьнікаў, дзеячоў.

Трэба адзначыць, што карцінная галерэя вельмі малая, з выпадковымі экспонатамі: гэта пераважна карціны з панскіх маёнткаў, работы старых майстроў і то хутчэй усяго копіі.

Зацікавіла мяне ў музэі маленькая вітрына—модэль беларускага лялькавага тэатру, які носіць назву „Батлейка“ (ад слова Батлеем—Віфлеем). Гэта цалкам аналёгічная рэч з украінскім вертэпам. Гэты тэатр марыонэтак вельмі пашыраны быў сярод беларускага сялянства.

Ён існаваў да сёнешняга дня. Асноўнымі тэмамі гэтага тэатру былі царкоўныя містэрыі. Найбольшым посьпехам карысталіся п‘есы „Цар Ірад“ і „Цар Максімільян“.

Праўда, да гэтых старадаўніх п‘ес народ дадаваў многа свайго, з народнага жыцьця, высьмейвалася рыцарства, казакі, чэрці. Героі гэтых п‘ес гралі на жалейцы, на дудзе (адну з іх знайшоў на сяле т. Барашка).

Вельмі цікавым зьявішчам, характарным для Беларусі, зьяўляюцца слуцкія паясы. Яны выдатнае месца займаюць сярод старадаўняга мастацтва. Яны ўсходняга пахаджэньня. Першымі майстрамі гэтых паясоў былі армяне. Потым Ян Маджарскі ў 1758 г. заснаваў у Слуцку „пэрсыдзкую фабрыку“—„Пэрсыярню“. І вось усходнія ўзоры, орнамэнты паступова ў руках беларускіх рабочых падмяняюцца мясцовымі. У тканіну ўтыкаюцца ўзоры васілька, чырвонае гвазьдзікі і наогул мясцовыя кветкі, і такім чынам парушаюцца геомэтрычныя лініі пэрсыдзкіх кілімаў і паясоў.

На некаторых паясох яшчэ і цяпер можна прачытаць „во граде Слуцку“, або „Лео Мажарскі“.

На жаль, вельмі мала засталося цэлых паясоў, бо папы і ксяндзы скарысталі іх на сваё царкоўнае ўбраньне, парэзаўшы на часткі.

Таксама ня мала парэзана дываноў з мэтаю здабычы серабра і золата, бо некаторыя паясы маюць гэтага мэталю нават каля двух фунтаў.

У музэі ня многа паясоў, але кіраўнікі музэю здабылі колекцыі фотографій, зарысовак з тых, якія ёсьць у Ленінградзе, Маскве, і такім чынам ёсьць магчымасьць мець аб гэтых паясох поўнае ўяўленьне. Ёсьць невялічкая кніжачка: „Каталёг выстаўкі слуцкіх паясоў Беларускага Дзяржаўнага музэю“.

### Гарадзкі парк. Тэатр Галубка

З т. Цішкам Гартным мы ўмовіліся а 7-ай гадзіне вечара сустрэцца ў гараздкім парку. Хутка пасьля агляду музэю я з тав. Барашкам зайшлі да т. Зарэцкага, а потым спаткалі поэту Валерыя Маракова і супрацоўніка Інстытуту Беларускай Культуры тав. Цьвікевіча А., і ўсе гуртам накіраваліся ў парк.

Ён знаходзіцца на беразе рэчкі Сьвіслач на схіле гары і мае надзвычайна прыгожы выгляд. З другога боку, праз рэчку, знаходзіцца гарадзкая электра-станцыя. Да яе праз рэчку ідзе вузкакалейка, па якой маленькім паравічком падвозяць торф для станцыі.

Нам трэ‘ было знайсьці Цішку Гартнага. Гэта ня лёгкае заданьне, бо людзей было ў парку многа. Мы падзяліліся на некалькі груп, і вось адна ўбачыла яго важкую фігуру. Ён ляжаў з рукапісамі на мяккай траве.

З захадам сонца мы пакінулі парк. Мае новыя знаёмыя вельмі шкадавалі, што ня могуць павесьці мяне ў тэатр, бо якраз Першы Дзяржаўны Тэатр у адпачынку. Вандроўны тэатр, якім кіруе Галубок, быў на вёсцы. Гэты тэатр яшчэ ў траўні выехаў на Гомельшчыну і Калініншчыну.

Таварышы расказвалі мне, што гэты тэатр карыстаецца вялікім посьпехам і папулярнасьцю. Пазьней у беларускай прэсе я прачытаў кароткае паведамленьне пра работу вандроўнага тэатру. Тэатр праехаў 500 вёрст, даў 85 спэктакляў, на якіх прысутнічала да 70.000 гледачоў.

Вялікая доля посьпеху гэтага тэатру належыць яго кіраўніку, тав. Галубку. Гэта цікавая фігура на Беларусі. Сын сьлесара Менскага дэпо, ён ў 1908 г. пачаў працаваць у беларускай прэсе, календарох, пішучы апавяданьні з жыцьця сялян. Пазьней Галубок скарыстаў некаторыя свае апавяданьні для п'ес, а затым аддаўся выключна драматургіі. За ўвесь час ён напісаў некалькі дзесяткаў п'ес з мяшчанскага і сялянскага жыцьця. Гэтыя п'есы вельмі папулярны на сяле. Галубок ня ставіць сваім заданьнем шукаць новых сьцежак у тэатры. Гэту ролю выконваюць другія беларускія тэатры. Тэатр Галубка абслугоўвае пераважна сялянскія масы. Ён скарыстоўвае старыя п'есы, пераапрацаваўшы іх адпаведна інтарэсам сёнешняга дня.

На другі дзень я закончыў свае выдавецкія справы, разьвітаўся з таварышамі з выдавецтва і рэдакцый, зрабіў некалькі фото-здымкаў Менску, выслаў на Украіну два пакункі беларускае літаратуры і разам з Міхасём Зарэцкім і маім новым спадарожнікам тав. Лявонам выехалі чыгункаю ў гор. Барысаў у госьці да М. Чарота.

### Па дарозе да М. Чарота

Цягнік наш ішоў павольна, але я і не наракаў. Хацелася добра разгледзець мясцовасьць, пацерціся на станцыях між людзьмі.

Мая украінская мова і выгляд зварачалі ўвагу; на вуліцах, у сталоўках, магазынах мяне ўважна аглядалі ўсе.

Гэта мяне зацікавіла, і я пытаюся ў Зарэцкага, у чым справа.

— Калі-ж у цябе выгляд нейкі дзіўны: люлька ў зубах, на галаве каўбойка, а тут яшчэ і рубашку такую купіў,—адказаў ён.

І сапраўды, здаецца, нідзе я ня бачыў у Менску такіх капялюшоў. Ды люлька многа значыла. А пазьней на адным прыпынку параходу з гурту беларускіх сялянак я пачуў:

— Малады дзядзька, а люльку курыць!..

Бадай што на кожнай станцыі прадаваліся лясныя ягады. Прадаюць іх у кулькох з бяросты. Яны смачныя і недарагія.

Пачыналася жніво. Яно зусім не падобна да нашага украінскага. Нагінаецца жанчына, рэжа сярпом сьцебялькі. Калі-ж набярэцца поўная жменя, яна кладзе кучкі ў гурт, з якога і складаецца сноп.

Было паўдня, а снапоў каля жняі было вельмі мала. Я крутнуў галавою: шкада стала, што так вядзецца работа.

Беларусаў гэта зьдзівіла. Я расказаў пра украінскае жніво, дзе даўно забыліся пра серп.

А калі давялося мне на Кубані расказваць пра беларускае жніво, дык усе дружна сьмяяліся з гэтага.

Кідалася ў вочы вялікая колькасьць ніў, на якіх расла бульба. Бульба на Беларусі мае такую паважную ролю, як на Украіне пшаніца.

У полі ня відаць было мужчын. Жнуць жанчыны. Мужчына сее, а зьбіраць ураджай—жаночая справа.

... Красавала, наліваласяя,
Ї дасьпеў шнур мужычы;
Час вам, жнейкі, на бітву!
„Постаць“ кліча, ой, кліча!
Вышлі з хатак на вёску,
Гнуцца бедныя ў полі,
Толькі песьня чуваці
Їхняй долі-нядолі...

(Я. Купала—„Жнеям“).

Едзем такімі мясьцінамі, дзе менш вады, лесу, а больш поля, ды зрэдку шэрыя няпрываблівыя хаткі. Вялікіх сёл ня відаць. Вось невялічкая група хатак, каля іх бярозкі, студня з жураўлём.

Паравік паляць дрывамі,—лесу хапае. Нарэшце Барысаў. Адсюль фурманкаю трэба ехаць да Чарота, гэта 7—8 кілёмэтраў. Ён абяцаў спаткаць нас на станцыі. Шукаем—няма. Ад станцыі да гораду ходзіць аўтобус, але там набілася многа людзей, і мы бяром возьніка. Не ад'ехалі мы і кілёмэтра, бачу, стаіць збоку старэнькая царква, падобная да старавераўскай. Яна ўся дрыўляная, шэрая, званіца яе зусім не падобна да нашых. Я сфотографаваў, і толькі рушылі далей, едуць насустрач нам М. Чарот і В. Сташэўскі. Я перасядаю да іх, паварочваем і едзем назад.

Міхась Чарот — яшчэ малады, з энэргічным тварам, рухавы і надзвычайна сымпатычны. Ён чамусьці нагадаў мне Васіля Блакітнага. Нават па тэй ролі, якую ён адыгрывае ў культурным руху Беларусі. Гэтыя дзьве асобы маюць многа супольнага. М. Чарот рэдактар газэты „Сав. Беларусь“, як Блакітны быў рэдактарам „Вістей“; ён старшыня „Маладняка“, а Блакітны—„Гарту“. Чарот, як і Блакітны, член ЦВК. Але падабенства гэта было ня толькі, як-бы сказаць, у службовых адзнаках, нешта супольнае было ў рысах іх твараў. Я ня вытрымліваю і кажу пра гэта падабенства Чароту. Ён ведае Блакітнага, чытаў яго вершы і нагул ведае яго ролю ў УССР. Уяжджаем у Барысаў. Гэта невялікі горад, але гандлёва-прамысловы, бо тут-жа рэчка Бярэзіна і вялікая фабрыка запалак „Чырвоная Бярэзіна“. Перакусіўшы на скорую руку ў сталоўцы, мы бяром возьнікаў і едзем далей, на дачу ў Стары Барысаў.

Трэба сказаць, што барысаўскія возьнікі мусіць добра організаваны. Яны абкружылі нас, страшэнна гергеталі, лаяліся паміж сабою, кожны хваліў свайго каня, але ніводзін не збаўляе цану.

У Барысаве ёсьць цікавыя старыя будынкі, але звычайна на першым месцы касьцёл і царква. Там-жа ёсьць і кнігарня Белдзяржвыдавецтва.

Няпрыкметна ў размовах пад'ехалі мы да Стара-Барысава. Дарога крута павярнула налева, уніз к Бярэзіне. Перад вачыма—шырокая лагчына, па якой вужакаю вілася рэчка. Каля берагу некалькі раскіданых плытоў. Чарот паясьніў мне, што нядаўна была вялікая паводка, якая шмат бяды нарабіла плытнікам. Я прыпамінаю запруджаную плытамі мясьціну каля маста ў Барысаве. Маленькія фігуркі плытнікаў валтузяцца каля вялікіх дрэў, вяжуць іх у лаўкі, у згоны і адсюль накіроўваюць у вялікую дарогу аж на Украіну і да Днепрастану. Многа дрэва зьядаюць фабрыкі запалак.

Чарот паказвае мне, дзе былі драцяныя загаражы і акопы і дзе адбываліся вялікія бойкі з белапалякамі.

У праменях вячэрняга сонца вялікія хвоі выглядаюць асабліва прыгожа; іх доўгія цені перагароджваюць наш шлях і зьліваюцца з нашымі ценямі. Яшчэ некалькі паваротаў, маленькі пад'ём на гару, і мы ўяжджаем у лес, у быўшы маёнтак князя Мікалая Мікалаевіча, цяпер сельска-гаспадарчай школы.

### На дачы

У гэтай школе адзін будынак заняты домам адпачынку мясцкому саюзу працасьветы. Людзей ня мала. Няма тых нудных, службовых гутарак. Пад вечар усе зьбіраемся каля вогнішча і сьпяваем. Беларусы хочуць пачуць ад мяне украінскую песьню. Многа песень у нас агульнага пахаджэньня, вось чаму, калі пачаў я, дык усе дружна падхапілі і нечакана вышаў концэрт.

Агонь у лесе, цёплае і здаровае паветра родзяць у мяне, Зарэцкага і Лявона думку—начаваць на дварэ, каля агню. Нашы гаспадары протэстуюць, нам прыгатавана пасьцель у клясе школы. Але мы цішком вылазім праз вакно і бяжым да агню. Пакуль ён гарэў, было цёпла, а досьвіткам нас добра ўзялі дрыжыкі. Прышлося ўставаць, зьбіраць дровы і падкладаць. Галасы нашы крыху пахрыплі, але мы ня каяліся, бо пасьля гарадзкога паветра, а мне дык пасьля яшчэ падарожы чыгункаю, хацелася піць і піць гэтае лекавае паветра. Хата была працоўна. Раніцою ўсе пайшлі да Бярэзіны купацца. Хуткае цячэньне не давала магчымасьці плысьці ўверх, супроць вады. Чыстае дно, халодная, сьвежая вада,—усё гэта было прыемнаю асалодаю.

Тут-жа я меў магчымасьць праверыць, наколькі беларуская літаратурная мова адрозьніваецца ад народнай. Здалёк чутны былі галасы

плытагонаў. Да мяне выразна далятала кожнае іх слова. Прыкмеціўшы, што я слухаю размову сялян, мае знаёмыя прыціхлі. Яны зразумелі, у чым справа. Я чуў чыстую беларускую мову, прыемную на слух, мэлёдычную, звонкую.

Перад гэтым я яшчэ ў Барысаве прайшоўся па месту, пагутарыў з сялянамі, сфотографаваў іх. Але тут многа было стараквераў, перасяленцаў з Расіі, у якіх яшчэ шмат засталося расійскіх слоў.

Вось у размове плытагонаў, а крышку пазьней двух сялян, якія праяжджалі паўз рэчку, я пачуў сапраўдную народную беларускую мову. Гэта мяне ўсьцешыла.

Цёплае спатканьне, шчырыя, адразу таварыскія адносіны былі прычынаю майго затрыманьня тут на большы час. Я выехаў з Лявонам, але праз тры дні. І то так не хацелася ехаць, але пачало дажджыць і давялося-б сядзець у хаце. Нашы гаспадары праводзілі нас за межы маёнтку. Чарот паехаў з намі да Барысава. Азіраючыся на нашых прыяцеляў, якія махалі рукамі, мы разьвітваліся з добрымі людзьмі і надзвычайна прыгожай мясцовасьцю. Гэтыя тры дні вельмі зблізілі нас; здавалася, што мы знаёмы ўжо не адзін год.

### Дождж. Возьнік і мяшок з сенам

З захаду насоўвалася хмара. Трэ' было сьпяшацца, бо адзеты мы былі вельмі ўжо палетняму.

І сапраўды, у Барысаве пачаў цярушыць дробны, але густы дождж. Аўтобус, які ідзе на станцыю, перапоўнены, а возьніка няма.

Што рабіць?

Знайшлі аднаго возьніка бяз будкі. Здохлы конік, стары фурман ня цешылі нас, але іншага выбару нельга было зрабіць, бо параход хутка павінен адыходзіць.

Комічнаю была наша язда ад гораду да прыстані. Возьнік ехаў ціхім спакойным рытмам, а дождж паліваў нашы плечы. Дзед-возьнік прычапіў ззаду мяшок з сенам і вось ён зваліўся і ўвесь час цягнуўся за возам. Сустрэчныя людзі крычалі і паказвалі нам на мяшок. А дзед флегматычна махнуў рукою: нічога, хай сабе!..

Але далей і яго цярпеньне, відаць, ня стрывала. Ён пачаў лаяцца:— А-гі к чортавай мацеры!.. Далей яго лаянка рабілася грубейшаю, бо сапраўды ня было такога сустрэчнага, які-б ня лічыў сваім абавязкам паказаць дзеду на мяшок. А дождж ліў і ліў. Становішча было комічнае, і мы весела ехалі далей. Гэтая язда цягнулася з гадзіну. Мы былі зусім мокрыя, прабірала халадком. Нарэшце станцыя, і мы, забраўшы свой ручны багаж, бяжым на прыстань.

**На параходзе „Желанный“**

Вось Бярэзіна. Каля берагу маленькі параход „Желанный“. Бярэм білеты II клясы проста да Кіева, але нам кажуць, што гэта такі параход, дзе II кляса ня мае ніякіх прывілей. І сапраўды, унізе два маленькія пакойчыкі—агульны і для жанчын. Няма буфэту, нямнога пасажыраў, некалькі чалавек каманды і капітан у брызэнтавай накідцы.

Яшчэ існуе традыцыя даваць тры гудкі. Роўна а 3-яй гадзіне дня мы адплываем. Ехаць нам Бярэзінаю да Бабруйску 232 вярсты, г. зн. гадзін каля 20. Наш параходзік мае даўжынёю каля 30 мэтраў, шырынёю 4 мэтры. Пабудованы ён у 1907 годзе ў колішнім яшчэ Кацярынаславе. Грузу можа ўзяць толькі 20 тон ды 143 пасажыры.

Ён належыць Верхня-Дняпроўскаму параходзтву. Гэтым мусіць і тлумачыцца тое, што надпісы на ім парасійску і... паукраінску. Надпісаў пабеларуску няма. Праўда, сустрэчныя баржы мелі назву і пабеларуску.

Дождж не перастае. Неба, зацягненае шэрымі хмарамі, паказвае, што пагоды ня будзе. Мой апарат ляжыць без карысьці і нельга скарыстаць яго, хоць едзем мы надзвычайна прыгожымі мясьцінамі. Лясістыя берагі, а над самым краем рэчкі складзеныя ў сажні дровы. Многа загатавана дрэва для сплаву. Барысаў—вялікі пункт ляснога промыслу. Зайздросна робіцца, паглядзеўшы на ўсё.

Людзей на параходзе мала. Чуваць ціхая гутарка, пераважна на яўрэйскай мове. Яна значна адрозьніваецца ад яўрэйскага жаргону на Украіне. Тут мова прыгажэйшая, плаўная.

Насустрач нам ледзьве лезе буксырны параход. Ён цягне за сабой тры баржы з лясным матэрыялам. Наш „Желанный“ пачаў непакоіцца, ён часта садзіўся на мель. Ён цяпер паволі абмінае баржы, дае гудкі, але мы ўсё-ж такі селі на мель. Каманда бярэ прысы і пачынае сьпіхаць яго.

Мясцамі Бярэзіна настолькі вузкая, што калі-б „Желанный“ стаў упоперак, дык можна было-б пераходзіць па ім з аднаго берагу на другі. Далей ад Барысава рэчка робіцца шырэйшаю, але так закручвалася, што часам здавалася, быццам мы едзем назад.

Звычайна, калі адзін бераг высокі і зарос лесам, то процілеглы быў нізкі, з лазовымі кустамі і копамі сена. Гэтае сена прастаіць тут у стагох да зімы, бо зараз нельга дастаць яго адсюль.

Касцы не зважаюць на дождж, косяць. Вельмі рэдка трапляюцца вёскі і на гарыстым беразе, а дзе і пабачыш, дык яны чорныя, пад пачарнелаю старою саломаю ці гонтамі. На зелені травы выразна відаць стайка белых гусей. Выганы, гусі, лаза—усё гэта знаёма мне, але ня бачыць вока маё ніводнае белае хаткі, і вось гэта асабліва паказвала мне, што я на Беларусі, якую так добра некалькімі словамі малюе поэта Ал. Дудар.

...Наша песьня—з балота, ды лесу,
Наша песьня з кудлатых імшароў...
...Над ракой—туманная лагчына,
Два дзесяткі хат—старых грыбкоў.

Або ў народнага поэты Якуба Коласа знаходзім:

О, край родны, край прыгожы!
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей на сьвеце белым
Гэтых сьветлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе бары-лясы гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутарку вядуць;
Гэтых гмахаў безгранічных,
Балатоў тваіх, вазёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор.

(Поэма „Сымон Музыка", ч. III).

Калі пад Барысавам мы наглядалі па берагох вялікія склады экспортнага лесу, кубы розных дроў, калі там часта зусім неспадзявана выглядала з-за лесу чорная труба лесапілкі, то бліжэй да Бабруйску гэтага ўсяго відаць было менш, іншыя пайшлі краявіды. Часьцей відаць гарысты бераг з дубам, ліпаю.

Ноч прайшла. Позьняю раніцаю мы набліжаліся да Бабруйску.

Тут нам перасядка на другі параход.

*(Далей будзе)*

# НАТАТКІ АБ САБЕ САМОМУ

**Гергарт Поль**

Я нарадзіўся ў маленькім провінцыяльным гарадку прускае краіны Сылезіі 9 ліпня 1902 году. Мой бацька быў расійскі падданы нямецкага пахаджэньня і потым прыняў нямецкае падданства. Маці мая паходзіць з старое гугеноцкае *) сям'і, якая 150 год таму назад перасялілася з Францыі. Мой бацька быў уласьнікам трох вялікіх пільняў: у Сылезіі, Пазнані і Ўсходняй Прусіі ды яшчэ невялічкае зямельнае маемасьці ў маім родным гарадку—Трахэнбэргу. Дзякуючы заможнасьці маіх бацькоў, мае раньнія дзіцячыя гады, як і ў усіх дзяцей буйнабуржуазных сем'яў,—прайшлі ў вясковай зацішы бяз ніякіх ведаў аб сапраўдным палітычным стане на сьвеце, бяз ніякіх клопатаў і ў цесным абмежаваньні сфэраю нямецкага дробнаместачковага грамадзтва. Мой бацька, які паходзіў з старое сялянскае сям'і, займаў у стасунку да сваіх рабочых становішча нейкага патрыярха, г. зн. ён даваў ім найніжэйшую заработную плату ў параўнаньні з усімі іншымі прадпрыемцамі ў данай мясцовасьці, але затое клапаціўся аб асабістым жыцьці сваіх работнікаў. У выніку гэтага яго любілі і шанавалі тыя з іх, якія былі мала асьвечаны і адукаваны.

Потым справа пачала ўсё больш і больш расьці і змусіла майго бацьку пераехаць у Браслаў, горад з поўмільённым насельніцтвам, і там закласьці галоўную кантору свайго вялікага прадпрыемства. Вось гэткім чынам і трапіў я васьмігадовым хлопчыкам у вялікі горад усходняе Нямеччыны і зусім неспадзявана пачаў знаёміцца з соцыяльнымі супярэчнасьцямі, якія характарызуюць сучаснае нам грамадзтва.

Час ішоў—і адносіны паміж маім бацькам ды рабочымі яго прадпрыемстваў пагоршыліся, бо цяпер ім здалёку даваліся дырэктывы, і асабісты кантакт быў ужо страчаны. У аднолькавай меры папсаваліся і адносіны паміж бацькам і мною, бо я, асабліва дзякуючы выбуху ўсясьветнае вайны, якая тады якраз пачалася,—усё больш і больш выразна прадчуваў, да чаго давядзе ўся гэтая справа. Мой бацька быў у дрэнным

---

*) Францускія протэстанты, якія пераважна належалі да альвінскага веравызнаньня, дэкрэтам караля Людвіка XIV (у 1689 г.) былі пазбаўлены ўсіх праў і змушаны эміграваць у чужыя краі—галоўным чынам у Англію, Нямеччыну і Галяндыю. *Л. Ц.*

настроі ў выніку цяжкіх стратаў на прадпрыемстве, бо адна з яго пільняў была зруйнавана вайсковым аддзелам расійскае царскае арміі. Злаваўся ён і на „поступ зьдзічэньня“ сярод рабочых (пад гэтымі словамі мой бацька разумеў узрастаньне ўплыву на работнікаў з боку соцыялістычнага руху). Цяпер ён ужо выразна выказаў свае рэакцыйныя пераконаньні. Першыя рэзкія сутычкі паміж ім і мною вынiклі ў 1917 годзе, калі ў Расіі былі ўжо разгорнуты чырвоныя сьцягі рэволюцыі, а ў Нямеччыне вялікая забастоўка рабочых на фабрыках баявых прыпасаў была і першым сыгналам блізкага канца і зруйнаваньня вільгэльмавае імпэрыі.

У 1918 годзе я ўжо адкрыта выступаў у якасьці прыхільніка нямецкае соцыял-дэмократыі, якую я, тады семнаццацігадовы хлапец,—лічыў адзіным рэволюцыйным чыньнікам у Нямеччыне. Я прымаў удзел амаль ва ўсіх вялікіх выступленьнях на карысьць рэспубліканскага ладу і організаваў у сваёй гімназіі вучнёўскую раду. Гэткім чынам моцна пахіснулася і маё становішча ў школе, якое да гэтага часу было вельмі добрае, дзякуючы маім здольнасьцям. Мне больш нічога не заставалася, як толькі за год да сканчэньня курсу прамяняць гэтую рэакцыйную гімназію на іншую—больш лібэральную. У гэтай апошняй я ў лютым 1920 году з посьпехам здаў экзамены і атрымаў пасьведчаньне даспеласьці. З прычыны мае адкрытае дзейнасьці на карысьць рэспублікі (прычым гэтая мая чыннасьць не давала мне ніякае магчымасьці быць у добрых адносінах з тымі грамадзкімі коламі, дзе мой бацька быў сваім чалавекам), я быў змушаны выслухваць бязупынныя дакоры ад свае сям‘і, пакуль урэшце у кастрычніку 1920 году бацька канчаткова не забараніў мне жыць у яго доме. Я заняў пасаду супрацоўніка аднае тэатральнае газэты і гэткім чынам зарабляў крыху грошай, што давала мне магчымасьць далей займацца навукамі. Дзякуючы сваім прыяцелям, заўсёды гатовым мне дапамагчы, я мог паехаць у 1921 годзе ў Мюнхэн і Франкфурт, дзе ў якасьці журналістага, пропагандыстага [1]) аднае выдавецкае суполкі і карэктара,—хоць і ўбога, але ўсё-ткі трымаўся на паверхні жыцьцёвага мора.

Тымчасам мой бацька памёр—і маці мела цяпер магчымасьць даваць мне грашовую дапамогу. Аднак яна, спрактыкаваная ў справах, страціла сваю даволі значную маемасьць у часы абясцэненьня грашовых знакаў.

У Бэрліне, дзе я жыву з 1922 году,—я азнаёміўся з сапраўдным рэволюцыйным рухам Нямеччыны—з коламі комуністычнае партыі. Вілі Мюнцэнбэрг запрапанаваў мне рэдактарскую пасаду ў закладзенай ім „Работніцкай Ілюстраванай газэце“ („Arbeiter Illustrierte Zeitung“), а потым і абавязак літаратурнага кіраўніка „Усясьветнае Бібліятэкі для ўсіх“ („Universum Bücherei für Alle“). Абедзьве гэтыя пасады я займаю вось

[1]) Пашыральніка кніжак, выданьняў—нямецкі тэрмін у галіне кніжнае справы. *Л.Ц.*

ужо два з паловаю гады і гэткім чынам пасьпеў ужо глыбака зазірнуць у тыя абставіны, у якіх знаходзіцца пролетарскі лягер.

Мая літаратурная дзейнасьць складаецца галоўным чынам з апавяданьняў і літаратурнае крытыкі. Маё першае апавяданьне „Фрагольфава крыжовая пуціна“ („Fragolfs Kreuzweg“), рэволюцыйная новэля, якая была спробаю даць мастацкае аформленьне шляху і лёсу найлепшых элемэнтаў сярод буржуазнае моладзі,—зьявілася ў друку ў 1920 годзе і мела надмеру вялікі посьпех.

У 1923 годзе выдаў я „Дзеньнік уводніцкіх згаршэньняў, вартых увагі“ („Das Tagebuch merkwürdiger Verführungen“), дзе зьмена ва ўзаемаадносінах паміж мужчынамі і жанчынамі прадстаўлена як вынік зьмененых абставін эпохі.

У гэтым годзе я хачу выдаць даволі значнага аб'ёму зборнік, у які ўвойдуць апавяданьні пад агульнымі загалоўкамі „Амаль што ў самы рай“ („Fast bis ins Paradies“) і „Гісторыі маленькіх людзей“ („Geschichten von kleinen Leuten“). З гэтых апавяданьняў адно „Ї вар'яцтва ёсьць таксама козыр“ („Wansinn ist Trumpf“) ужо вядома чытачом гэтае часопісі.

Апроч таго я пачынаю зьбіраць матэрыял для двух вялікіх соцыяльных романаў.

Мая літаратурна-крытычная дзейнасьць цесна зьвязана з штомесячнай часопісяй „Новы кніжны агляд“ („Die neue Bücherschau“), якая выдаецца мною і мае агульна прызнаную рэпутацыю найбольш паступовага і радыкальнага літаратурнага пэрыядычнага выданьня ва ўсёй Заходняй Эўропе.

У гэтай часопісі я зрабіў спробу выкарыстаць гістарычны матэрыялізм для мэтаў літаратурнае крытыкі і распрацаваць цэлую разьвітую сыстэму эстэтычных законаў, згодных з сучаснасьцю—на матэрыялістычнай падставе.

Рэволюцыянэр па сваіх пераканаНьнях і сваім тэмпэрамэнце,—я з наймацнейшаю цікавасьцю сачыў за разьвіцьцём Савецкага Саюзу, пачынаючы з самага першага дня яго ўзьнікненьня, і адчуваю сябе цесна зьвязаным з працоўнымі гэтага краю, а таксама і з рабочай клясаю ўсіх іншых краін у цэлым сьвеце.

# ПОЭТА, ЯКІ ПАДАВАЎ НАДЗЕІ

*(Пра Ўладзімера Жылку)*

**Тодар Глыбоцкі**

У тыя дні, калі Беларусь канчала ўжо цяжкі шлях барацьбы, калі ў бліжэйшыя часы разьвіваліся перад краінай пэрспэктывы мірнага будаўніцтва, беларуская моладзь вылучыла з сваіх шэрагаў групу маладых поэтаў, шляхі якіх за гэтыя восем год значна разышліся. Сярод гэтай групы быў і Ўладзімер Жылка. Пачаў ён сваю творчасьць у пачатку 1920 году ў Менску, пасьля на нейкі час зьнік з літаратурнага небасхілу і толькі праз пару год у Вільні зьяўляюцца ў друку дзьве яго кніжачкі: „Уяўленьне“ і „На ростані“. Павучыўшыся некаторы час у Празе, Жылка вяртаецца ў Менск, і зусім нядаўна выходзіць з друку яго зборнік „З палёў Заходняй Беларусі“. Вось кароткая спраўка для чытачоў пра літаратурны шлях Уладзімера Жылкі.

У зборнік „З палёў Заходняй Беларусі“ *) ўвайшла значная частка папярэдніх зборнікаў, і дзеля гэтага на іх бадай што ня варта спыняцца. У кароткіх рысах мусім зазначыць, што „Уяўленьне“ прадстаўляла сабою вучнёўскі твор поэты, які ня мог яшчэ выявіць твару аўтара. У зборніку-ж „На ростані“ трапляліся ўжо досыць зграбныя вершыкі, якія выклікалі надзею на далейшае разьвіцьцё маладога поэты. У кожным выпадку Жылка сярод нешматлікіх поэтаў Заходняй Беларусі прадстаўляў сабою ўжо даволі выдатную фігуру.

Калі верыць датам, пастаўленым пад вершамі, дык зборнік „З палёў Заходняй Беларусі“ ахапляе сабою значны пэрыод часу з 1921 да 1926 году і афармляе цэлы вялізны этап у літаратурнай творчасьці поэты. Таму і мусім мы падыйсьці да гэтага зборніка асабліва сур'ёзна.

Мы, жыхары Савецкай Беларусі, звыклі асабліва чула адносіцца да ўсяго, што робіцца на тэрыторыі Заходняй Беларусі, жывасілам адрэзанай ад нас ганебнаю мяжою. На працягу 8 год нашы поэты адвялі ў сваёй творчасьці значныя разьдзелы, прысьвечаныя долі беларускага народу, што пакутуе пад панскім ботам. Гэтыя творы зьяўляліся толькі адказам на сапраўды дзікія факты польскага гаспадараньня, падрахункі якога за 8 год зараз падводзяцца ў мурох Віленскага суда, дзе польская ўлада пасадзіла на лаву падсудных увесь беларускі народ Заходняй

*) „З палёў Заходняй Беларусі“. Вершы. БДВ, Менск. 1927, ст. 128. ц. 90 к.

Беларусі ў асобе яго прадстаўнікоў. І вось прыяжджае поэта адтуль, дзе гэта ўсё адбываецца, дзе ён уласнымі вачыма бачыў тое, што нашы поэты толькі ўяўляюць. Выдае зборнік на 128 старонак пад назваю, якая многа абяцае. І поэта бязбожна ашукаў грамадзтва гэтаю назваю. *Ва ўсім зборніку „З палёў Заходняй Беларусі“ няма ніводнага вершу, які проста ці ўкосна закрануў-бы становішча гэтай краіны.* Пра самы зборнік ёсьць шмат што сказаць, але мы не знаходзім назвы для гэткай спэкуляцыі на пачуцьцях нашых чытачоў! Сарамлівая ўвага выдавецтва адносна тэматыкі ў пачатку зборніку гучыць страшэннаю гіроніяй у стасунку да аўтара, бо тэматыка вершаў гэтага зборніку зусім не паказвае, дзе і пры якіх абставінах пісаў Жылка свае творы. Увага выдавецтва мае значэньне толькі для магчымага будучага біографа Ул. Жылкі.

Перш, чым прыступіць непасрэдна да разгляду твораў Жылкі, мы мусім зрабіць невялічкі экскурс у галіну некаторых агульнапрызнаных палажэньняў нашай літаратурнай публіцыстыкі. Гэта палажэньне аб выкарыстоўваньні культурнай спадчыны. Пролетарыят, будуючы сваю культуру, павінен выкарыстоўваць культурную спадчыну папярэдніх эпох разьвіцьця чалавецтва. Было-б вялікім глупствам выкідаць, скажам, з нашых заводаў патрэбныя машыны на тэй падставе, што яны зьяўляюцца продуктам буржуазнай культуры. Было-б дзіка адмаўляць антычнае мастацтва толькі таму, што яно вырасла на грунце рабаўласьніцкай гаспадаркі. Мы можам сьмела прызнаваць і выкарыстоўваць законы версыфікацыі, пакінутыя нам буржуазнаю культураю. Мы можам, нарэшце, высока ацэньваць творы выдатных дваранскіх поэтаў ды пісьменьнікаў і выкарыстоўваць іх дасягненьні для будаваньня сваёй літаратуры. Усё гэта якраз і адпавядае словам Леніна пра выкарыстаньне культурнай спадчыны. Але выкарыстаньне не заўсёды азначае сабою перайманьне. Калі мы, апрача формальных дасягненьняў якога-небудзь дваранскага поэты, будзем пераносіць у нашу літаратуру ідэёвы зьмест яго творчасьці, дык гэта ў яго якраз будзе перайманьне, нічога супольнага ня маючае з палажэньнем аб выкарыстаньні культурнай спадчыны. З гэтага боку прадстаўляюць вялікую цікавасьць шмат якія вершы Жылкі. Возьмем адзін з гэтых вершаў „Матылі“ (ст. 115):

Помню—хлопчыкам маленькім
Падабаў я зелень ніў
І на пожні каля рэчкі
Матылёў лавіць любіў.
Так у гульнях і забавах
Дзень за днём міналі ўсьлед,
А у ночку на купальле
У лес шукаць бег агняквет.
А цяпер, калі шукаю
Праўды, шчасьця для людцоў,
Ці ня тое-ж дзіцянё я,
Што лавіла матылёў?

Падаем гэты верш не дзеля таго, каб упікнуць поэту ў гэткім лёгкадумным марнаваньні часу, як паляваньне на матылёў; пры плянавай пастаноўцы справы гэта можа быць вельмі карысным для прыродазнаўчых габінэтаў. Мы дазволім сабе зьвярнунь увагу чытача на тэму і на яе трактоўку. Тэма гэтая пачынала здавацца ў архіў яшчэ ў часы Вялікай Французскай рэволюцыі, ужо тады яна лічылася трафарэтнай і шаблённай; мы ня думаем, каб за такі доўгі час яна стала сьвяжэйшаю. Усё пытаньне тут зводзіцца да таго, што зямное жыцьцё—гэта толькі „суета сует и всяческая суета". Мораль, відавочна не ўласьцівая нашаму часу і нашым паглядам. Вершаў з гэткаю архіўнаю мораллю ў зборніку многа; найбольш яскравымі зьяўляюцца наступныя: „Каханьне" (ст.69), „Незразумелае" (ст. 70), „Марта" (ст. 73), „Вершы спадзяваньня" (ст. 85), „Так, ня шмат мне засталося" (ст. 104), „Хараство" (ст. 112), „Дзіця" (ст. 113), „Хлопчык" (ст. 114) і г. д. Усе гэтыя вершы як па тэмах, па моралі, так і па спосабах нават напісаньня аддаюць такою цьвільлю, што можна толькі тлумачыць недаглядам зьмяшчэньня іх у зборніку з загалоўкам „З палёў Заходняй Беларусі". Няўжо гэта адтуль прынёс Уладзімер Жылка гэту мяшчанскую філёзофію, гэтыя прыёмы пятаковых „русских песенников"? А калі і адтуль прышлі гэтыя мотывы, то з якіх груп, з якога стану? Возьмем яшчэ для прыкладу верш „Марта". Тэма біблейская, нашым дзевятнаццаці-дваццацігадовым юнаком яна ўжо нічога не гаворыць:

Імя, як ноч, глухое—Марта
Не зачаруе чулы слух,
Пагляд прыцішаны, упарты
Лятункамі ня ўскрыліць дух.
Вось гэткую, Хрысьце, ў Бэтане
Ты знаў, як я, ў сваю пару
Марыі ўзвышанай каханьнем
Затурбаваную сястру.
І ты, калі ад воч Марыі
На Марце супыняў свой зрок,
Ты сілы знаў яе зямныя,
Няўдалы цяжкі бачыў крок.
І ты пад лёгкаю тканінай
Грудзей заўважваючы сьпель,
Ты чуў, як кроў стае няўпыннай,
Як захмяляе цела бель.
І дума здрадная самоты
Ўзьнікала іскрай між другіх:
Ці гэткім аддаюць пяшчоты?
Ці льга кахаць такіх брыдкіх?
Прайшлі вякі... Яна-ж адвечна
Усё тэю-ж буднасьцю цьвіце,
І я на думцы недарэчнай
Лаўлю сябе, як ты, Хрысьце.

Гэта лішні раз падкрэсьлівае гіронію прадмовы выдавецтва. Поэта пісаў свае вершы на палёх Заходняй Беларусі, у буржуазнай Чэхасла-

ваччыне і да нас прынёс вэршы, у якіх ня толькі форма, але і зьмест запазычаны ў пануючых там станаў: Жылка перасаджвае на сялянскае поле расьліны панскіх оранжэрэй.

Наогул, настрой у Жылкі вельмі і вельмі містычны. Да першага разьдзелу ён бярэ эпіграфам словы Блока „Всей душой слушайте музыку революции". Блок у сваёй поэме сымболізаваў рэволюцыю ў вобразе Хрыста і яго апосталаў. Жылка, ня ўцяміўшы Блокаўскага сымболю, таксама пачаў прыплятаць бога да рэволюцыі. Паслухаем-жа, якую музыку рэволюцыі чуе Жылка:

І лес у чаканьні бязмоўным
Зялёнай жывою сьцяной
*Стаіць, маліцьвеннасьці поўны*
*Ўрачыста, як на мшы сьвятой.*

З гэткага маліцьвеннага настрою выцякае і адпаведная програма:

Толькі той, чый вольны дух
Застаецца ў бойках квол,
Толькі той, хто творыць рух
Беларускіх мест і сёл,
Толькі той, *хто верыць ў цуд*—
Лепшу долю курных хат,
Толькі той, хто любіць люд,
Толькі той—мой любы брат.

Такім чынам, пераважная частка рабочых і сялян ня можа папасьці ў „любыя браты" Жылкі, таму што ні ў які цуд ня вераць, а лепшую долю для курных хат здабывалі і здабываюць сілаю. Бязумоўна, каб іх ідэолёгія супадала з Жылкаваю, дык гэта лепшая доля магла-б зьявіцца толькі дзякуючы цуду.

Родны край і свабоду Жылка вельмі паважае: нязьменна ўсюды зьвяртаючыся да іх, ён пачынае з вялікай літары; мімаволі ўспамінаецца закід Леніна ў бок тых „дурачков, которые слово „революция" всегда и везде готовы писать с большой буквы". Гэта чыста мяшчанскі прыём: каб паказаць сваю рэволюцыйнасьць, пачынаць з вялікай літары адпаведныя словы. Ёсьць у Жылкі яшчэ адзін момант, таксама ўласьцівы старому грамадзтву—лісьліваму і двудушнаму. У той час, як становішча жанчыны ў буржуазным грамадзтве ўсім вядома, як становішча жывога тавару, як об'екту для здавальненьня самых віртуозных выдумак гуляшчых самцоў, у той самы час буржуазныя поэты пафарысейску заціраюць гэта становішча, убаўляючы жанчыну ў сваіх творах. Чым далей у глыбіню сярэднявякоўя, тым выразьней адчуваецца гэта тэндэнцыя як найболей замазаць рачаіснасьць. У нас ужо зусім іначай будуюцца адносіны паміж жанчынай і мужчынай, усё глыбей укараняецца погляд на жанчыну, як на таварыша, як на роўнапраўнага сябра грамадзтва. У Жылкі спатыкаецца гэта манера сярэднявяковага трубадура. Мы дазволім сабе

прывесьці адрыўкі з найбольш яскравых у гэтым кірунку „Вершаў спадзяваньня“:

Ля ног тваіх маўчаць трывогі,
І думкі маліцьвенна строгі,
Як мнішкі белыя гурбой
Ў цішы пуціны лесавой.
О, соладка ля ног тваіх,
У плашч чароўнасьці адзеты,
Схіляюцца красою кветы.
І вецер сіверны заціх,
Бязбурны дзень — вачэй затокі,
Яны празрысты і глыбокі,
І ясны, як вясны палон.
Іх лёгкі ціхамірны сон.
Мне люба сьніць (бязбурны дні!)
Аб шчасьці гэткім квола-крохкім
І веславаць лятункам лёгкім
Па крышталёвай глыбіні.
О, мармур сьветлага чала
Пад пасмамі глухой завеі!
О, тонкіх рук, о, рук лілеі,
Што ня чынілі справы зла!
О, харaство зялёнай пальмы!
Ты ўся зьвініш напевам псальмы,
І росных траваў родны пах
Кадзіць на твой азурны шлях!
Якая слабасьць і спакой,
Якая дзіўная суточнасьць
У сьвет нясьці адну пяшчотнасьць
І ўсё змагаць адпэю ёй.
А мне маліць — мая Марыя,
Прымі малітвы маладыя
І яснасьцю душы тваёй
Маю пахмурую напой...

Нешта накшталт „Богородице, дево, радуйся“; наш сучасны трубадур зусім разамлеў і расплыўся такімі самымі вобразамі, як бог у Пушкінскай „Гаврилиаде“:

...Люблю, люблю Марыю.
В унынии бессмертие влачу...
Где крылия?.. К Марии полечу
И на груди красавицы почию!“
И прочее... все, что придумать мог...
Творец любил восточный пестрый слог.

Ці трэба падкрэсьліваць яшчэ, што гэткія мотывы ў нашай сучаснай літаратуры гучаць дзікім архаізмам і маглі-б, можа, быць цікавымі, як пісаў Багдановіч 16 год таму назад, тады, —

Калі чыталі „Громобоя“.
„Пастушки грусть“ et cetera.

У творах Жылкі ёсьць яшчэ разьдзелы природаапісальнай лірыкі, якія нічым не вызначаюцца сярод безьлічы гэткага гатунку продукцыі маладых поэтаў. Ніводнага сьвежага вобразу, ніводнай цікавай сытуацыі. Тое самае можна сказаць і пра вершы, прысьвечаныя Беларусі. Некалі, у 1920 годзе, Жылка блиснуў быў „орыгінальнасьцю" ў гэтым кірунку. У той час, калі ўсе беларускія поэты сталі пад сьцяг Савецкай Беларусі, Жылка пісаў яшчэ:

Пад штандар бел-чырвона-белы
Гуртуйся, раць, адважна, сьмела,
Адважна храбрых ваякоў.

(„Беларусь". 1920 г., № 16).

Цяпер і гэткай „орыгінальнасьці" не засталося, бо трэ' было-б быць бязвыхадным вар'ятам, каб у сягонешні дзень думаць пра „бел-чырвона-белы" штандар. Ну, а да чырвонага штандару Жылка не дайшоў.

Спынімся цяпер на некаторых асаблівасьцях Жылкавага стылю, які, бязумоўна, знаходзіцца ў шчыльнай сувязі з мотывамі яго творчасьці. Возьмем такія вобразы і выразы: *старыя стагодзьдзі, радасьць вялікодная, божы сьвет, даўныя паданьні, дзень уваскрошаньня* і г. д. Трафарэтныя эпітэты зьвіваюць сабе ў творчасьці Жылкі моцнае гняздо: *вузкі загон, сьветлыя росы, векавечны бор, глухая сьцежка, блакітная даль, сьветлае чало, белыя лілеі* і г. д., і г. д.

Архітэктоніка вершаў (за выключэньнем старых канонічных форм, як сонэт) вельмі слабая і ўмоўная: падзел зборніку на разьдзелы фактычна нічым не апраўданы, як мала апраўданы і загалоўкі шмат якіх вершаў. Іх можна перастаўляць з месца на месца, зьмешваць строфы і г. д.—ад гэтага зборнік ні лепшым, ні горшым ня будзе. Вельмі слабая і рыфмоўка; пераважнаю ў зборніку зьяўляецца рыфмоўка крыжаваная, рыфмы найчасьцей самыя зацяганыя: *рух—дух, зор—віхор, звон—сон, сталь—даль, край—рай, лёс—сьлёз, балотам—чаротам, сонцы—старонцы, пушча—гушча...* Самае паганае ў Жылкі—гэта яго мова. Апрача відавочных русызмаў, як *зоў, улюблёны, моўча, стыхія, тайны, проч, суліў* і г. д., мы спатыкаем цэлы шэраг слоў, выдуманых самім Жылкам на падставе беларускіх карэньняў: словы гэтыя Жылка будаваў па адзінай схэме, дадаючы да таго ці іншага слова канчатак *аньне* або *асьць* і вось што ў яго павыходзіла:

...думнасьць... шэрасьць...
...уваскрошаньне... сьпяваньняў...
...твае блакітнасьці (?)... напаенасьць...
...сьцюжнасьць...

Наогул з законамі мовы Жылка лічыцца мала, асабліва там, дзе яны спатыкаюцца з законамі версыфікацыі: тады Жылка калечыць слова, пераносіць націск, расьцягвае, ці сьціскае слова; адным словам, як

некалі пісаў Бядуля, бацьку роднага для рыфмы зарэзаць гатоў. І таму выходзіць вельмі цяжка і нязграбна. А вось яшчэ:

Заход бяздушным сьветлым палам
Адзначыў сьвежае *дзярма*.

Для нас ня зусім ясна, што хацеў сказаць аўтар гэткаю лірычнаю пабудоваю, але сэнс апошняга слова не вымагае тлумачэньняў; лірычнасьці-ж у ім ня вельмі многа.

Агульнае ўражаньне ад зборніку Жылкі такое: уявеце сабе, што глухі музыка на паламанай скрыпцы ў працягу гадзіны (колькі трэба, каб прачытаць зборнік) цягне бясконца верхняе ля; пасьля гэтага доўга стаіць у вушшу ня зусім прыемны гук. І, прачытаўшы гэту кніжку, задаеш сабе недаўменнае пытаньне: каму і навошта патрэбна яна, каго могуць узбудзіць ці зацікавіць яе замагільныя вобразы, яе сярэднявяковая лірыка? І самае галоўнае, ці можна спакойна ўспрымаць той факт, што зборнік вершаў, відавочна чужых нам і па форме, і па ідэёваму зьместу, носіць многазначную назву „З палёў Заходняй Беларусі“?

# КНІГАПІС

**Юрка Гаўрук. Кветкі з чужых палёў.** Пераклады. *Выданьне ЦБ „Маладняка“—Менск, 1928, Ст. 108. Цана 60 кап.*

Маладнякоўскаму выдавецтву належыць пачын у вельмі важнай для нашага кніжнага рынку справе: яно першае на Беларусі пачало выдаваць пераклады лепшых чужаземных мастацкіх твораў на беларускую мову. Перад намі ўжо пятая па ліку кніжка перакладаў. Тут, у процілежнасьць ранейшым кніжкам, сабраны творы 20 аўтараў, якія прадстаўляюць поэзію ангельскую, нямецкую, францускую, італьлянскую і польскую. Такім чынам, пры ўсім жаданьні выдавецтва даць чытачу прадстаўленьне аб творчасьці выдатнейшых чужаземных поэтаў зборнік па сваёй мізэрнасьці зрабіць гэтага ня можа. Укладаючыся ў разьмер кніжкі, перакладчык часамі прымушан браць творы таго ці іншага аўтара далёка для яго не характарныя. Самы падбор аўтараў пакідае нас у недаўменьні адносна прынцыпаў, якімі кіравалася выдавецтва пры ўкладаньні кніжкі. На ўсю кніжку мы маем толькі адзін верш сучаснага пісьменьніка — „Шпік“ Бранеўскага; рэшта аўтараў аддзяляецца ад нашага часу цэлымі сталецьцямі, так што „кветкі“ гэтыя пасьпелі ўжо ў значнай ступені завянуць; перакладчык яшчэ дапамог гэтаму, але пра гэта ніжэй. У невялічкім уступе да кніжкі перакладчык тлумачыць свой выбар тым, што ў сучаснай заходня-эўропэйскай поэзіі няма нічога новага, нічога цікавага. У гэтым мы ня зусім згодны з ім, бо даволі назваць такія імёны моцных рэволюцыйных поэтаў, як І. Бэхэр, Эдгар Лі Мастэрс і шмат іншых. Але і прынцып выбару старых поэтаў нам ня зусім зразумелы. Напрыклад, францускую поэзію прадстаўляе Гюго, якога, як поэту, наогул, мала хто ведае, тым часам як па сваёй прозе можа лічыцца найвялікшым пісьменьнікам Францыі; потым ідуць вершы такіх вядомых буржуазных лірыкаў, як Бодлер, Вэрлен, Леконт дэ-Ліль і г. д. А такіх поэтаў, як Бэранжэ, Вэрхарн ці Андрэ Шэнье, мотывы творчасьці якіх могуць шмат болей сказаць сучаснаму чытачу, чымся творы Бодлэра, ці Вэрлена, няма. Творчасьць Г. Гайнэ прадстаўлена „песьнямі“— г. зн. якраз тымі творамі вялікага поэты, якія не зьяўляюцца для яго характарнымі; перакладчык не паклапаціўся даць аніводнай сатыры Гайнэ.

Калі паглядзім самыя пераклады, дык убачым, што яны ў значнай сваёй частцы зроблены вельмі неахайна. Напрыклад, верш Кёрнэра „Вясна“ перакладчык так пакалечыў, што проста зьяўляецца думка, ці ня сам ён напісаў гэты верш; ён зьмяніў назву, зьмяніў разьмер, перайначыў рыфмоўку і г. д. Для ілюстрацыі возьмем адну з песень Гайнэ ў такім выглядзе, як падаў яе перакладчык:

Як двом падыходзіць разлука,
Дык рукі яны падаюць,
І плачуць тады й наркаюць
На горкую долю сваю.
Ня плакалі мы з табою,
Ні „вой“ не казалі, ні „ах“ —
І сьлёзы і ўздыхі патрэбны
Тады, калі ўсё далавах.

— І гэта клясык сусьветнай літаратуры,—скажа, чытач, прачытаўшы

гэту мазьню. Але віна тут, бязумоўна, ня Гайнэ, вінен перакладчык, які ня мае ці здольнасьці, ці жаданьня перадаць мастацкі твор у мастацкай форме. Пакалечыў перакладчык і вядомы верш Гайнэ „Ткачы“, у апрацоўцы Гаўрука з вершу гэтага прапала ўся яго звонкасьць, уся сіла. Да таго-ж перакладчык неахайна абыходзіцца і з нашаю мовою:

> Як-жа *прыгож* быў той сьветлы дзень
> у часе *даждлівага* тыдню...
> ... Карыстайцеся *балазе* (?)—

і цэлы шэраг іншых гвалтаў над словамі, прыцягнутымі для рыфмы, ці пакалечанымі для захаваньня разьмеру. Вельмі часта перакладчык перагружае радкі як словамі, так і аднастайнымі гукамі. Агіднае ўражаньне робіць пераклад вершу Бодлера „Падна“.

Наогул, мы мусім толькі вітаць выхад з друку новай кніжкі перакладаў. Але ў далейшым выдавецтву варта было-б паклапаціцца, каб набыць кадр больш здольных і пісьменных перакладчыкаў, чымся Гаўрук.

**Т. Г.**

Науковий збірнік Харківськоі Науково-Досьлідчоі катедри історіі украіньскоі культури, ч. 4. **Повстання декабристів на Украіні. За ред. акад. Д. Багалія**. *Д. В. У. 1926 г., стар. 234.*

Перад намі новая, надзвычайна цікавая кніга па гісторыі дзекабрыстых. Нельга не адзначыць, што аж да апошняга часу на рух дзекабрыстых глядзелі, галоўным чынам, як на пецярбурскі рух, які ўзьнік у расійскай сталіцы часткаю ва ўмовах пэўных элемэнтаў гаспадарчага пераломy расійскае прамысловасьці, часткаю ва ўмовах тагачаснае гвардзейскае службы, якая адбівала сабою адначасна і прогрэсыўныя ўплывы замежнага паходу, і некаторыя мо' традыцыі гвардзейскіх пераваротаў, што адбываліся ў царскіх палацах у XVIII ст. Толькі зараз, у выніку абсьледваньня значнае колькасьці новага матэрыялу, для гісторыографіі зьявілася магчымасьць падыйсьці да дзекабрызму з іншага, больш глыбокага пункту гледжаньня, паставіць пытаньне ў яго сувязі з грамадзкім рухам на абшарах усяе тагачаснае Расіі, прычым ня толькі ў аднэй вайсковай асярэдзіне, але і ў асярэдзіне самых розністайных грамадзкіх слаёў—і дваран, і буржуазіі, і часткаю прыгоннага сялянства.

Выданы пад рэдакцыяй профэсара Д. І. Багалея зборнік „Повстання декабристів на Украіні“ грунтуецца як на дакладнай пераапрацоўцы выдрукаванага ўжо матэрыялу і літаратуры, так і на нявыданым яшчэ матэрыяле Магілеўскага Ваеннага суда, што зьяўляецца каштоўным дадаткам да вядомых ужо ў навуцы матэрыялаў Сьледчае Камісіі.

Цікавы ўступны артыкул М. І. Яворскага, дзе малююцца ўмовы ўздыму украінскага прамысловага капіталу ў пачатку XIX ст. і саюз створанай на гэтым грунце буржуазнай опозыцыі з опозыцыяй дваранскай. Апошняя, у сваю чаргу, зьявілася лёгічным вынікам перараджэньня дваранскай дыктатуры XVIII ст. ў бюрократычна-паліцэйскі рэжым XIX ст., які прыгнятаў ужо нават некаторыя слаі самога дваранства. Украінскі дваранін, які к гэтаму часу перажываў значныя экономічныя труднасьці і ўрэшце зусім здрабнеў і згалеў, адзіны выхад з гэтага бачыў у вайсковай службе, а тут ён якраз сустракаўся з аракчэеўшчынай, з бязглуздай і жорсткай муштроўкай салдат, паводле вымаганьняў пляц-параднай дысцыпліны. Другою апораю для буржуазнай опозыцыі на Украіне ў пачатку XIX ст. было украінскае сялянства. На правым беразе Дняпра, дзе прыгоннае права панавала ў поўнай меры, сялянства—у сувязі са зьніжэньнем хлебных цэн—усё больш і больш падпадала пад сельска-гаспадарчую эксплёатацыю, а на левым—дзе яшчэ заставалася тое-сёе ад былое волі—сялянства ўсё больш

і больш закабальвалася. Пачатак XIX сталецьця азначаны на Украіне цэлым шэрагам буйных сялянскіх узрушэньняў, адно з якіх, напр., у Палтаўскай губэрні цягнулася 5 год. Урэшце ў якасьці сталае, выразна акрэсьленае ідэолёгічнае перадумовы да надыходзячага руху, трэба адзначыць і ўплыў напалеонаўскай вайны, якая спарадзіла на Украіне цэлы шэраг надзвычайна цікавых настрояў ды ідэалаў, зьвязаных, між іншым, і з аднačасным абвастрэньнем мясцовага нацыянальнага пытаньня. У артыкуле Яворскага сабраны і аб'яднаны даныя, якія датычаць так званага „Маларасійскага таварыства", у выніку чаго і роля гэтага вогнішча украінскага нацыянальнага руху набывае больш выразнае выяўленьне, чым на старонках тэй агульнай распаўсюджанай літаратуры, што мелася да гэтага часу.

Нарысы А. П. Дабравольскага „Повстання Чернігівського полку" і О. Д. Тарарынавай-Багалей „Учасники повстання Чернігівського полку перед військовым судом у Могільові" цікавы як паўнатою скарыстанага друкаванага і архіўнага матэрыялаў, так і тымі падрабязнымі біографічнымі і топографічнымі заўвагамі, якія паглыбляюць і конкрэтызуюць сувязь паўстаньня з рознастайнымі ўмовамі грамадзкага жыцьця тагачаснай, пераважна левабярэжнай Украіны. Асабліва каштоўны весткі сабраныя аб удзельніках паўстаньня з ніжэйшых чыноў, часткова з пазбаўленых чыноў афіцэраў. Былі бязьлітасна пакараны за ўдзел у паўстаньні два радавыя з пазбаўленых чыноў—беларус Грахольскі і паляк з магілеўскіх дваран Равуза.

У кнізе шмат вельмі цікавых ілюстрацый і здымкаў, ёсьць картаграма і зьмешчаны надзвычайна грунтоўны і поўны бібліографічны агляд. Думаецца, што нават сярод надзвычайна багатае зараз літаратуры аб паўстаньні дзекабрыстых зборнік Харкаўскае катэдры зойме паважнае месца, як канечна патрэбны падручнік пры выўчэньні сувязі дзекабрыскага руху з яго галоўнаю крыніцаю—экономічнымі і соцыяльнымі супярэчнасьцямі на абшарах ня тольк Расіі, але і Беларусі і Украіны.

**Зьм. Жарынов.**

**Якуб Колас (К. Міцкевіч).** Выбраныя творы. Угодкавае выданьне. Вільня — 1927. *Беларускае Выдавецкае Таварыства. 78 стар., 4°.*

Дваццацігадовы юбілей літаратурнай дзейнасьці Якуба Коласа, які сьвяткаваўся ў канцы 1926 г. ў Савецкай Беларусі, знайшоў сабе водгук і ў Вільні. Віленскае Беларускае Выдавецкае Таварыства адгукнулася на гэты юбілей выданьнем спэцыяльнай кнігі з выбранымі творамі пісьменьніка.

Выданая на добрай паперы in quarto, акуратна выдрукаваная прыгожым чытэльным корпусам кніга з надворнага боку робіць вельмі добрае ўражаньне.

У пачатку кнігі зьмешчаны крытычны артыкул Ант. Навіны „Жыцьцё і творчасьць Якуба Коласа". Асноўная думка артыкулу: „Якуб Колас—першы пасьля Янкі Купалы вялікі мастак слова, які сам вышаў з народнае гушчы, які ніколі ад яе не аддзяляўся і даў сапраўднае да канца — *выяўленьне беларускае сялянскае душы*". А ў зносцы крытык пацьвярджае: „Места заўсёды было і засталося для Коласа чужым і незразумелым". Відаць, што Ант. Навіне ў той момант, калі пісаўся артыкул, былі невядомы найноўшыя прозаічныя творы Коласа, такія, прыкладам, яго творы, як „Колектыў пана Тарбецкага", асабліва-ж, зборнік „На прасторах жыцьця". Іначай ня было-б такой катэгорычнай ацэнкі. Прыходзіцца пашкадаваць, што нашы савецкія выданьні запозна даходзяць да віленскіх культурнікаў. У іншым артыкул Навіны зьмяшчае, галоўным чынам, аналіз поэтычнай

творчасьці К. Міцкевіча; проза, якая таксама становіць паважную часьціну яго творчасьці, блізка што не разглядаецца крытыкам. Гэта, бязумоўна, ёсьць недахопам артыкулу.

У зборніку знаходзім нізанку вершаў, выбраных з зборнікаў „Песьні жальбы“ і „Водгульле“, аднак усё на больш-менш нэўтральныя тэмы. З поэм „Сымон Музыка“ і „Новая зямля“ выбраны цэлыя адрыўкі закончанага зьместу і коратка пераказаны зьмест гэтых поэм. З зборніка „Родныя зьявы“ перадрукаваны: „Думкі ў дарозе“, „Дудар“, „Зло не заўсёды — зло“, „Малады дубок“, „Выстагнаўся“; з зборнічку „Казкі жыцьця“—апавяданьне пад гэтай-жа назвай. Урэшце даюцца выняткі з аповесьці „У палескай глушы“.

У цэлым і паасобку выдрукаваныя вынятків з твораў Як. Коласа да кропачкі супадаюць з тэй часьцінай II в. „Хрэстоматыі новай беларускай літаратуры“ І. Дварчаніна, якая афярavana творчасьці Коласа (150-212 ст.). Няма тут толькі крытычных заўваг да мовы пісьменьніка.

Канечна, выбарка твораў пэўнага аўтара заўсёды рэгулюецца больш суб'ектыўнымі, чым об'ектыўнымі мотывамі, і зборнікі выбраных твораў менш за ўсё могуць мець значэньне для вычарпальнай характарыстыкі творчасьці пісьменьніка, аднак яны набываюць значэньне з погляду пэдагогічнага. З гэтага погляду і прыходзіцца ацэньваць віленскае выданьне выбраных выданьняў Як. Коласа. Кніга можа быць карыснай, як падарунак вучням беларускіх школ.

**М. Аршэнік.**

**Апісаньне Горацкага раёну.** (Прырода, гаспадарка, гісторыя і быт). Праца навуковага таварыства па вывучэньні Беларусі пры БДАСГ з удзелам Горацкага раённага таварыства краязнаўства. *т. III, Горкі, БССР 1927 г. In fol. 8°, стар. 1+284., 1.000 экз., цана 2 р. 75 к.*

Усебаковае вывучэньне Беларусі навуковымі і краязнаўчымі таварыствамі за апошнія гады дасягнула значных посьпехаў. Выдана некалькі невялікіх брошурак, прысьвечаных апісаньню раёнаў. Цяпер Горацкае Навуковае Таварыства разам з краязнаўчым таварыствам выдала ўжо трэцюю кніжку сваіх прац, прысьвечаную апісаньню Горацкага раёну. Гэта першая кніжка ў БССР, якая дае навуковае ўсебаковае апісаньне аднаго раёну.

„Апісаньне Горацкага раёну“ складаецца з трох падзелаў: прыроды, гаспадаркі і гісторыі і быту. У першым падзеле (ст. 1—85) зьмешчаны артыкулы, прысьвечаныя вывучэньню геолёгіі, глебы, флёры, і фаўны Горацкага раёну. Проф. Ф. Люнгэрсгаўзэн у сваёй невялічкай працы „Нарысы геолёгічнае пабудовы Горацкага раёну“ спыняецца на разглядзе сподняй і верхняй морэны раёну, мяркуючы свае вывады па тых даных, якія былі здабыты ў самым раёне. Спыняецца крыху на асаблівых умовах раёну ў заляганьні грунтоў і наогул падземнай вады. Далей аўтар артыкулу кажа: „Магчыма, гэта плошча сучаснага раёну была некалі затоплена кэмбрыйскім морам, хаця аб гэтым мы пэўна нічога ня ведаем. Вельмі магчыма, што і сылюрыйскае мора пакрывала нашу старонку. Ужо бясспрэчна затапляла наш край мора дэвонскае“. Зазначае на адсутнасьць даных рэльефу раёну, матэрыялаў да геолёгічнай карты, яго профілю і падрабязнага апісаньня, што не дало магчымасьці аўтару больш дакладна спыніцца на гэтым пытаньні. У канцы даецца рада краязнаўцам, што і як павінна вывучацца з геолёгіі раёну.

П. Кучынскі знаёміць чытача з „Глебамі Горацкага раёну“, разглядаючы глебы і пароды, глебы і рэльеф, пастаноўку досьледаў і апісаньне глебаў Горацкага раёну. Васількоў падае „Матэрыялы да флёры Горацкага раёну“. Пасьля невялічкага ўступу аўтар пералічае флёру раёну і ў канцы падае сьпіс 642 назваў ві-

даў папаратнёвых, голанасенных і схавананасенных расьлін, якія зарэгістраваны самім аўтарам да 1927 г. Проф. П. Салаўёў у сьціслым нарысе „Фауна Горацкага раёну“ зазначае літаратуру, у якой маюцца весткі аб фаўне раёну і папаўняе гэтыя весткі новымі відамі фаўны раёну.

Аддзел гаспадаркі складаецца з трох артыкулаў (ст. 86—148): Х. Плятнэра—„Экономіка сельскай гаспадаркі Горацкага раёну“; Г. Несьцярука,—„Лясы Горацкага раёну“ і Б. Фэдэрака, — „Кароткі нарыс паляўнічай гаспадаркі Горацкага раёну“.

Х. Плятнэр свой артыкул пабудаваў на выўчэньні такіх галін экономікі сельскай гаспадаркі, як: па-за-раённыя рынкі і шляхі зносін з імі, унутраныя рынкі і шляхі зносін з імі, занятк і шчыльнасьць насельніцтва, формы карыстаньня (sic) і зямляўпарадкаваньня, дыфэрэнцыраванасьць сялянскіх гаспадарак, забясьпечанасьць с.-г. угодзьдзямі, паляводзтва, ураджай культур па раёне, тэхніка палявой гаспадаркі, быдла, сьвінаводзтва, аўчарства, пчалярства, птушніцтва, с.-г. прылады, будынкі і ўрэшце спыняецца на аднаўленьні сельскай гаспадаркі. Аўтар ня робіць гістарычных экскурсаў, не дае дынамікі, а выкладае становішча экономікі сельскай гаспадаркі па цяперашніх даных, сабраных з розных установаў раёну. Тэмы, пастаўленыя аўтарам, вельмі цікавыя, але даць выразны, зьвязны малюнак на 48 старонках нельга, таму артыкул вышаў даволі схэматычны. Г. Несьцярук дае кароткія весткі аб лясох раёну, спыняючыся на лясных пародах, на безгаспадарчым становішчы лясоў і г. д. Б. Фэдэрака пералічае, як і проф. П. Салаўёў, фаўну раёну і ўрэшце сам кажа, што „Аб паляўнічай гаспадарцы ў раёне, як аб такой, амаль што немагчыма казаць, бо ня толькі няма агульнага пляну гаспадаркі, але не вядзецца і простага падлічэньня забіваемай дзічыны. Ніякіх заказьнікаў у межах раёну няма“. Пасьля вышэйазначанага самім аўтарам у артыкуле вядома няма нічога адпаведнага яго назьве.

Разьдзел гэты, на нашу думку, мог-бы быць дапоўнены яшчэ такімі цікавымі адносна гаспадаркі данымі, як: вытворчыя сілы раёну, прамысловасьць, клясавыя суадносіны насельніцтва, гандаль, коопэрацыя, мястэчкі і г. д. На жаль, гэтыя пытаньні не знайшлі сабе месца ў зборніку.

Трэці разьдзел кніжкі „Гісторыя і быт“ самы найбольшы (ст. 149—284). Тут зьмешчаны два нарысы Д. Васілеўскага,—„Кароткі нарыс гісторыі Горацкага раёну і г. Горак“ і другі—„Народная асьвета ў Горацкім раёнё“. Проф. Н. Пелехава — „Аб становішчы сялян Горацкага раёну ў палове мінулага сталецьця“; М. Сраговіна—„Яўрэйскае насельніцтва Горацкага раёну“; Т. Котава—„І. Вясельле, II. Купальле“, М. Ганчарыка—„Да гісторыі вышэйшай сельска-гаспадарчай школы ў Горы-Горках“ і А. Гарэлікава і К. Загорскага—„Статыстычны абгляд Горацкага раёну“,— з дадаткам у канцы сьпісу насельных пунктаў раёну паводле даных перапісу 1926 г.

Абодва нарысы Д. Васілеўскага ў яскравых рысах, у гістарычным разрэзе даюць малюнак гісторыі Горацкага раёну і асьветы ў ім. Артыкулы пабудаваны на дакумантальных крыніцах, у патрэбных выпадках паданы лічбовыя даныя. Як адзін, так і другі артыкул цесна ўкладаюцца ў тыя старонкі, якія ім адведзены.

Н. Пелехаў у сваім артыкуле зрабіў цікавае параўнаньне. Ён узяў весткі аб стане сялян паловы XIX сталецьця і даныя 1926 г. і, карыстаючыся параўнаўчым мэтодам, дае малюнак сялян таго часу ў параўнаньні са становішчам сялян 1926 г. Такім-жа мэтодам аўтар склаў і свае табліцы, якія дадаюцца да нарысу. У артыкуле шмат новых і цікавых даных да гісторыі сялянства Беларусі XIX ст. М. Сраговіч знаёміць чытачоў з некаторымі гістарычнымі

фактамі з жыцьця яўрэйскага насельніцтва раёну. Артыкул свой аўтар, галоўным чынам, пабудаваў на першакрыніцах, так званых „пінкасу“, з якога падае шмат гістарычных вынятак і даведак. Цікавы нарыс з гісторыі вышэйшай с.-г. школы ў Горы-Горках дае М. Ганчарык. Аўтар старанна выўчыў архіўныя дакументы да сваёй тэмы, падрабязна і дакумантальна спыняецца на ўсіх момантах разьвіцьця вышэйшай школы ў Горы-Горках, падаючы шмат новых вестак, цікавых наогул для сельскагаспадарчай асьветы ў б. царскай Расіі. Гэта даволі грунтоўная монографія прадстаўляе сабой цікавы навуковы досьлед, зроблены аўтарам.

Быт беларусаў паданы ў апісаньні Т. Котава „вясельле“ і „купальле“. Т. Котаў паступова запісаў абрад „вясельля“ і потым „купальля“, падаючы народныя песьні. На жаль, трэба адзначыць, што з артыкулу ня відаць, дзе запісаны гэтыя бытавыя малюнкі, калі запісаны, ад каго і кім. Пры запісах народных песьняў ня ўжываліся ніякія правілы, вызначаныя для гэтага, і навуковая вартасьць артыкулу вельмі няпэўная.

Апошнім артыкулам зьяўляецца статыстычны агляд Горацкага раёну, у якім падаюцца даныя аб насельніцтве раёну, аб занятках насельніцтва, становішча народнай асьветы, аховы народнага здароўя, аб пажарах, аб бюджэце Райвыканкому, аб паморы жывёлы. У канцы дадаткам прыложаны сьпіс паселішчаў.

У гэтым разьдзеле з посьпехам можна было-б яшчэ даць гістарычныя весткі аб рэволюцыйнай барацьбе ў раёне, аб кастрычнікавых падзеях, аб культурным будаўніцтве і г. д. Гэтак сама ня менш цікава было-б пазнаёміць чытача ня толькі з вясельлем і купальлем, але і даць малюнак матэрыяльнага быту насельніцтва раёну.

Як заўважае ў прадмове да зборніку проф. Люнгэрсгаўзэн, зборнік мелася на ўвазе скласьці так, каб артыкулы, будучы орыгінальнымі, навуковымі, былі ў той жа час даступны кожнаму пісьменнаму чалавеку. Гэта правесьці ў поўнай меры ў зборніку не ўдалося. Некаторыя артыкулы ад „прыстасаваньня“ страцілі пэўную сваю навуковую цікавасьць і ў той-жа час шырокія колы рабочых і сялян па гэтым зборніку ня ўявяць сабе поўнага малюнку прыроднага, экономічнага і культурнага стану і значэньня Горацкага раёну. Артыкулы ў большасьці падаюць схэматычныя весткі, прычым слаба адзначаецца экономічнае і культурнае значэньне апісаных у кнізе даных раёну. Напр., Г. Несьцярук, прысьвяціўшы свой артыкул такой важнай экономічнай галіне раёну як лясы, шмат нагаварыў аб шкодніках лясоў, ня даў нарысу аб экономічным значэньні лесу для раёну зараз і ў далейшым, апрача выпадковых заўваг аб заработках сялян на лясных промыслах. Бяз гэтага ня кожны чытач зразумее ўсю вартасьць лесу.

Заўважанае не дае магчымасьці далучыцца да думкі проф. Люнгэрсгаўзэн, што зборнік дае зьвязны малюнак прыроды, сельскай гаспадаркі, быту і гісторыі Горацкага раёну. Для гэтага патрэбна было-б даць яшчэ шэраг артыкулаў, прысьвечаных розным пытаньням, якія не закрануты ў зборніку. Але і ў такім выглядзе зборнік „Апісаньне Горацкага раёну“ зьяўляецца даволі цікавым і каштоўным. Усе артыкулы яго пабудаваны на новых матэрыялах, што надае зборніку большую каштоўнасьць. Усе нарысы напісаны на беларускай мове, хаця мясцамі сустракаюцца няўдалыя словы: як: „рэсьць“ (расьці, ст. 135), „маецца шанцы“ (ст. 9), „цяжолыя“, (цяжкія, ст. 167) і інш. Кніга прысьвечана 10-годзьдзю Кастрычнікавай рэволюцыі. Надрукована чыста. Тэкст кнігі добра ілюстраваны адпаведнымі малюнкамі, картамі і табліцамі.

**М. Мялешка.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

**Сярод пісьменьнікаў і поэтаў**

* *Якуб Колас* здаў для друку Бел. Дзярж. Выдавецтву першы том сваіх твораў, у які ўвайшлі вершы ранейшага пэрыоду творчасьці поэты.

* *Я. Ліманоўскі* зараз канчае вялікую аповесьць пад назвай „Над абрывам.“ Аповесьць будзе друкавацца ў часопісі „Полымя“.

* *Андрей Александровіч* піша новую поэму „Пятрусь Шарсьцень“ з часоў XVII сталецьця. Гэты-ж аўтар працуе над трэцяй і чацьвертай частками поэмы „Цені на сонцы“.

* *Васіль Каваль* падрыхтаваў да друку зборнік казак і напісаў аповесьць „Жніво“.

* У Менску 6 лютага г. г. ў памяшканьні Дому Асьветы аб'яднаньнем поэтаў і пісьменьнікаў „Полымя“ быў наладжаны вялікі дыспут на тэму: „Пісьменьнік і чытач“, які пасьля ўступнага слова Цішкі Гартнага выклікаў вялікія спрэчкі.

* У сярэдзіне лютага г. г. адбылася Ўсебеларуская конфэрэнцыя літаратурнага аб'яднаньня пролетарскіх пісьменьнікаў „Маладняк“.

На конфэрэнцыі было вырашана пытаньне аб уваходзе „Маладняка“ ва ўсесаюзнае аб'яднаньне пролетарскіх пісьменьнікаў. Конфэрэнцыя таксама пастанавіла, што „Маладняк“ павінен заняць першае месца ў пролетарскай літаратуры.

У склад Цэнтральнага Бюро „Маладняка“ абраны: т. т. Лынькоў, Ліманоўскі, Мазуркевіч, В. Каваль, Галавач і інш.; кандыдатамі т. т. Бобрык і Барашка.

У склад рэдакцыі ўвайшлі т.т. Ліманоўскі, Галавач, Звонак, Моркаўка, і Каваль.

* Па запрашэньні Харкаўскага літаратурнага будынку ім. Блакітнага выехалі ў г. Харкаў сябры аб'яднаньня „Полымя“: Ц. Гартны, М. Чарот. М. Зарэцкі і народныя поэты Янка Купала і Якуб Колас.

Нашы пісьменьнікі прысутнічалі на вечарох памяці украінскага пісьменьніка Т. Шэўчэнкі, а таксама прымалі ўдзел у наладжаньні вечару беларускай літаратуры.

* У сучасны момант літаратурнае аб'яднаньне пролетарскіх пісьменьнікаў „Маладняк“ налічвае: Менская філія—30 чал.,. Аршанская—6, Бабруйская—3, Віцебская—7, Магілеўская—5, Полацкая—1, Гомельская—1.

**Тэатр, мастацтва, музыка**

Зараз БДТ2 напружна працуе над падрыхтоўкаю дзьвюх новых п'ес: „Калі пяюць пеўні“—Юр'іна і „Разлом“—Лаўрэнева.

Першую п'есу ставіць малады рэжысэр, ён-жа актор тэатру, Мікола Міцкевіч. Мастаком запрошаны з Масквы тав. Гольц.

Пастаноўка „Разлому“ даручана рэжысэру Разанаву, які ўжо прыехаў у Менск і распачаў працу. Мастаком запрошаны з тэатру МГСПС тав. Волкаў.

П'есы выйдуць з працы ў сярэдзіне сакавіка.

* Цэнтральнае бюро краязнаўства разам з Белдзяржмузэем наладжвае ў часе ад 15 красавіка да 15-га траўня 1928 г. выстаўку краязнаўчых фотографій і зарысовак.

Выстаўка мае мэтаю выявіць дасягненьні ў справе фотографаваньня і зарысоўваньня розных мясцовась-

цяй БССР, а таксама запасы краязнаўчых ілюстрацыйных матэрыялаў.

Удзел у выстаўцы прымаюць дзяржаўныя інстытуцыі, краязнаўчыя організацыі, фотографічныя гурткі, аб'яднаньні фотографаў, мастакоў ды інш.

За лепшыя экспонаты будуць выдавацца дыплёмы I і II разраду.

* Кіно-камітэт пры АПА ЦККП(б)Б зацьвердзіў новы сцэнары т. Доўгапольскага „Пеўні пераклікаюцца".

Сцэнары малюе абшарніка, які пераходзіць савецкую граніцу і бачыць гаспадараньне сялян у яго маёнтку. На гэтым фоне разгортваецца ўвесь сюжэт сцэнарыю.

* Ужо больш як 2 гады працуе „Беларускі Студыйны Хор" і за гэты час ён заваяваў популярнасьць сярод рабочых клюбаў Менску. Улічваючы мастацкае выкананьне і важнасьць Колегія Наркамасьветы разглядзела пытаньне аб рэорганізацыі Беларускага Дзяржаўнага Студыйнага Хору. Згодна пастановы Колегіі, Беларускі Дзяржаўны Студыйны Хор рэорганізуецца ў Беларускую Дзяржаўную Капэлю.

* Белдзяржкіно закончыла пастаноўку новага фільму „У вялікім горадзе" паводле сцэнарыю тав. Данскога. Карціну ставіў рэжысэр Аўярбах.

* БДТ I, закончыў п'есу „Чаму замоўк гармонік"—Рамановіча; адноўлены музычныя п'есы „Мешчанін у шляхецтве" і „Машэка". Рыхтуюцца да пастаноўкі п'есы Зорава „Імя ім легіён", мае быць пастаўлена п'еса Быль-Белацаркоўскага „Месяц зьлева".

Тэатр зараз ужо рыхтуецца да будучага тэатральнага сэзону. Рэжысэр тэатру Міровіч рыхтуе да пастаноўкі музычную сучасную сатыру. Таксама рыхтуецца да пастаноўкі „На купальле"—М. Чарота. На гэту пастаноўку запрошаны композытар Стрэльнікаў, які ўжо прыехаў знаёміцца з характарам, кірункам і пастаноўкамі тэатру. З украінскай сцэны тэатр мяркуе ўзяць „Рэспубліка на калёсах".

Да наступнага сэзону пераапрацоўваецца нанова „Бронецягнік"—Іванова, дапасаваўшы гэту п'есу да беларускіх умоў. Гэтай пастаноўкай будзе адкрыты сэзон.

Тэатр зьвярнуў увагу на павялічэньне ў рэпэртуары музычнай часткі. Апрача „На купальле" і музычнай сатыры Міровіча, тэатр мае на мэце паставіць наступныя музычныя п'есы: „Галька"—Монюшка, „Лагчына"—Д. Альбэрга і музычную комэдыю Ільлінскага. З Ленінграду запрашаецца сьпявачка (мэцо-сопрано) Васільчэнка і сопрано Кіеўскай опэры Багданава. Таксама павялічваецца склад балету.

Канец сэзону тэатр мае закончыць комэдыяй Грамыкі.

* Нядаўна спэцыяльная камісія Саюзнага СНК адпусьціла Белдзяржмузэю 5000 руб. на набыцьцё малюнкаў беларускіх мастакоў. На сходзе Менскага філіялу мастакоў пастаноўлена ўлетку гэтага году організаваць мастацкую выстаўку, дзе Белдзяржмузэй зможа выбраць лепшыя экспонаты.

* Нар. Кам. Асьветы БССР пастанавіў стварыць пры Дзяржаўным Тэатры оркестр, які будзе абслугоўваць усе тыя тэатры і трупы, што працуюць у будынку гэтага тэатру.

Дзеля гэтага пастаноўлена аб'яднаць оркестры Беларускага 2-га Дзяржаўнага Тэатру і Дзяржаўнага Яўрэйскага Тэатру БССР.

* Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр пад кіраўніцтвам Галубка прабыў у Мазырскай акрузе больш за два месяцы і даў усяго 57 спэктакляў. Тэатр праехаў коньмі каля 200 вёрст і абслужыў 30 тысяч рабочых, сялян і чырвонаармейцаў. А за мінулы 1927 г. Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр паставіў у провінцыі 114 спэктакляў і концэртаў і 88 спэктакляў у Менску. На гэтых спэктаклях было 150.000 гледачоў—рабочых і сялян.

* Для прыстасаваньня кіно да дзіцячага гледача, навукова-мэтодолёгічны камітэт пры НКА разгарнуў працу па падрыхтоўцы адпаведных кіно-фільмаў. Зараз разгледжаны два дзіцячыя сцэнарыі: „Спрэчкі між дамамі“ і „Кветкі з бур'яну“. Навукова-мэтодолёгічны камітэт з свайго боку будзе даваць рэжысуры пры пастаноўках гэтых кіно-фільмаў консультацыйную мэтодолёгічную дапамогу.

* У Менску організавалася Беларускае Мастацкае Т-ва „Прамень“, якое налічвае каля 20 чалавек пераважна з рабоча-сялянскай моладзі.

**Хроніка беларускага друку**

* Зараз катэдра гісторыі беларускай літаратуры друкуе другі том твораў беларускага пісьменьніка М. Багдановіча, а таксама вядуцца падрыхтоўчыя працы па выданьні твораў А. Гаруна і Цёткі.

* Васіль Каваль здаў Бел. Дзярж. Выдавецтву для друку зборнік сваіх апавяданьняў пад назвай „На загонах“.

* Пры НКА складзена камісія па падрыхтоўцы матэрыялаў для беларускага аддзелу на міжнароднай выстаўцы друку ў Кёльне, якая адкрыецца 5-га траўня гэтага году.

На выстаўцы будуць прадстаўлены як гісторыя разьвіцьця пэрыодычнага беларускага друку, так і ўсе беларускія сучасныя пэрыодычныя выданьні.

Апрача гэтага, будуць прадстаўлены найбольш важныя кніжныя пытаньні, а таксама дыяграмы, здымкі ды іншыя экспонаты, якія характарызуюць беларускі друк і сучаснае яго становішча, як, напрыклад, здымкі з грамат ЦВК аб наданьні годнасьці народных поэтаў Янку Купале і Якубу Коласу і пастановы ўраду БССР у сувязі з сьвяткаваньнем 400-лецьця беларускага друку, фотографіі факультэту журналістыкі, Камвузу ды інш.

А таксама на міжнародную выстаўку друку ў Кёльне і ІБК пасылае экспонаты ад аддзелаў—мовы і літаратуры, прыроды і гаспадаркі і нацсэктараў — польскага і яўрэйскага. Усяго будзе паслана 67 экспонатаў, сярод іх працы профэсароў Бузука, Смоліча, Растаргуева, Некрашэвіча ды інш.

* У хуткім часе Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва пачынае друкаваць вялікую чатырохтомную гісторыю Беларусі, напісаную проф. У. Пічэта. Першы том ужо падрыхтаваны да друку.

* Б. Дз. В-ва пачынае друкаваць зборнікі вершаў Аркадзя Моркаўкі „Дымы“ і М. Лужаніна „Крокі поэзіі“.

* Канчаецца друкам „Гісторыя беларускае літаратуры“ М. Піотуховіча.

* Гістарычная камісія польсэктару канчаткова падрыхтавала да друку зборнік архіўных матэрыялаў аб паўстаньні 1863 году на Віцебшчыне.

Выяўлена, што паўстанцкія організацыі Віцебшчыны мелі сувязь з расійскай рэволюцыйнай організацыяй 60-х гадоў „Зямля і Воля“. Аб гэтым захаваліся орыгіналы нумароў першых выданьняў „Зямлі і Волі“. Гэтая праца хутка выйдзе з друку.

* Падрыхтаваны да друку краёвы слоўнік Мазыршчыны, складзены мазырскім краязнаўцам Струкоўскім. У слоўніку налічваецца да 10.000 слоў.

* Друкуюцца Бел. Дз. Выдавецтвам новыя масавыя п'есы Давыдчыка Антося „Кветкі на балоце“ з вясковага жыцьця ў 3 дзеях і Ўл. Гладкага „Голас з неба“, п'еса ў 2 дзеях.

* Настаўнік Шатэрнік сабраў на Чэрвеншчыне каля 1.000 беларускіх слоў. Зараз увесь гэты матэрыял ужо напалову прарэдагаваны ды апрацаваны і неўзабаве будзе перададзены ў друк. Апрацоўка і рэдагаваньне яго даручана Эпімаху - Шыпіле і М. Байкову.

* Зданы Бел. Дз. Выдавецтвам у друк V том збору твораў У. Леніна на беларускай мове.

* У хуткім часе выйдзе з друку IV том збору твораў Янкі Купалы.

* У бліжэйшы час ІБК прыступае да выданьня цэлай сэрыі прац на тэму „Да географії і статыстыкі Беларусі". У першым томе гэтых прац мае быць надрукована монографія Г. Гарэцкага „Аб географічных межах Беларусі на Захадзе".

* Пачаў друкавацца асобнай кніжкай новы роман М. Зарэцкага „Сьцежкі-дарожкі".

* Слоўнікавая камісія ІБК у хуткім часе выдае тры краёвыя слоўнікі Чэрвеншчыны, Мазыршчыны і Калініншчыны. У кожны слоўнік увойдзе да 10 тысяч слоў.

* Беларускае Дзярж. Выдавецтва здало ў друк пяты том збору твораў Янкі Купалы.

* Проф. Бузук падрыхтаваў да друку лінгвістычную географію Беларусі, якая будзе ілюстравана 20-ма картамі. Гэтая праца будзе вельмі каштоўнаю для вывучэньня дыялектаў Беларусі і паасобных моўных зьяў.

### Рознае

* У літаратурную камісію пры Інбелкульце паступіў сшытак пасьмяротных твораў вядомага беларускага пісьменьніка Алеся Гаруна. Гэты сшытак пасьля сьмерці быў пераданы сястрою нябожчыка Язэпу Лёсіку, які ў свой час і перадаў яго ў літаратурную камісію.

Частка гэтых матэрыялаў да апошняга часу яшчэ нідзе не надрукавана. Гэтыя вершы А. Гарун напісаў у Бадайбо і Кірэнскім павеце (Сібір) за час 1906-1917 гады, дзе ён адбываў ссылку.

* Цэнтраархіў БССР бярэцца зараз за распрацоўку архіўнай тэрмінолёгіі, якая павінна будзе ўдакладніць архіўную працу ў БССР. Гэта тэрмінолёгія будзе складацца ўсімі загадчыкамі архіўных устаноў БССР, пасьля чаго будзе падана на зацьверджаньне ў Інбелкульт.

* У рукапісным аддзеле Акадэміі Навук знойдзены вельмі цікавы экзэмпляр беларускае граматыкі 40 гадоў мінулага сталецьця. Гэта граматыка напісана вядомым беларускім этнографам Шпілеўскім.

* У Менск прыехаў з Чэха-Славакіі вядомы дыялектолёг член-корэспондэнт Саюзнай Акадэміі Навук проф. М. М. Дурнаво, якога Інбелкульт абраў сваім правадзейным членам. У Празе чэскай проф. Дурнаво знаходзіўся ў навуковай камандыроўцы ад Саюзнай Акадэміі Навук і ў часе свайго побыту там апублікаваў цэлы шэраг прац па дыялектолёгіі ў француской і чэскай мовах.

Зараз М. М. Дурнаво прыехаў у Менск для сталай працы ў ІБК у якасьці загадчыка катэдры па гісторыі беларускае мовы.

* Праўленьне Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту атрымала запрашэньне беларускіх гісторыкаў на ўсясьветны конгрэс гісторыкаў.

* У бліжэйшыя часы распачынаецца сэрыя дакладаў, якія рыхтуе камісія гісторыі тэатру Дасьледчага Інстытуту Мастацтва.

Шэраг працаўнікоў, якія далі сваю згоду на працу ў гэтай камісіі, рыхтуюць свае даклады на тэмы, асьвятляючыя як пытаньні беларускага народнага тэатру, так тэатру сярэднявяковага і сучаснага. Найбольш навукова апрацаваныя з гэтых дакладаў складуць сабою спэцыяльны зборнік прац гэтай камісіі.

* У склад акадэмічнае рады ІБК, даабраны наступныя асобы: проф. Дурнаво, проф. Фядзюшын і Сосіс, а ўсяго ў радзе 27 чалавек.

* Галоўнавука РСФСР зьвярнулася ў Галоўнавуку БССР з просьбай адпусьціць для музэю народазнаўства ў Маскве беларускія экспонаты, якія дэмонстраваліся на Усесаюзнай выстаўцы нацыянальнасьцяй СССР.

Галоўнавука БССР дала на гэта сваю згоду пры ўмове, калі каштоўнасьць гэтых экспонатаў будзе компэнсавана другімі рэчамі музэйнага значэньня.

* У Парыскай нацыянальнай бібліотэцы паміж лацінскімі рукапісамі знойдзены сшытак за № 7568 беларускай граматыкі пачатку XVII стагодзьдзя, напісанай Янам Ужэвічам, студэнтам-тэолёгам Парыскай акадэміі.

Гэтая граматыка называецца „Граматыка славенская, написана прэз Іоанна Ужевича Славянина, славной академіі Паризкой в теологіі студента в Парижу, року от нароженія сына божего 1643".

Граматыка Ўжэвіча зьяўляецца граматыкай старабеларускай літаратурнай мовы.

Кляса мовы і літаратуры ІБК пастанавіла зьвярнуцца ў Парыж у Нацыянальную бібліотэку з просьбай фотографічна перавыдаць гэты цікавы помнік старажытнай беларускай мовы за кошт Інбелкульту.

Граматыка мае бясспрэчнае значэньне для выўчэньня беларускае мовы.

Аб гэтай граматыцы паведамляе вядомы расійскі мовазнаўца А. Сабалеўскі ў „Чтениях общества Нестора Летописца" за 1906 год, выпуск другі.

* На гэтых днях Беларускі Дзяржаўны Музэй набыў 18 антычных рымскіх і візантыйскіх монэт, якія адносяцца да I—VIII веку і вельмі рэдка сустракаюцца ў музэях.

Монэты знойдзены пры капаньні акопаў каля Маладэчына.

* Абхаская навукова-дасьледчая сельска-гаспадарчая ўстанова, якая знаходзіцца ў Сухуме, зьвярнулася ў Галоўнавуку БССР з просьбай дапамагчы наладзіць сувязь з адпаведнымі ўстановамі БССР для абмену з імі практыкай і навуковымі выданьнямі.

* Вучоны археолёг і мастак І. Ц. Фурман, латыш па паходжаньні, надаслаў у ЦП Краязнаўства цэлы шэраг зарысовак латыскага орнамэнту, які ўжываецца латыскімі колёністамі Віцебскай акругі пры вышываньні ў ткацкай справе ды інш.

Гэтыя орнамэнты сьведчаць аб глыбокім уплыве старога беларускага мастацтва на латыскае.

* Гістарычная камісія польсэктару ІБК на падставе археолёгічных матэрыялаў распрацавала монографію па пытаньні рэволюцыйных гурткоў на Беларусі 70-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Гурткі былі ў Менску, Вільні, Горы-Горках, Магілеве ды іншых мясцовасьцях. Некаторыя з гурткоў, як менскі і віленскі, ня гледзячы на сваю народніцкую афарбоўку, мелі сувязь з польскай партыяй „Пролетарыят". Як выяўлена, адзін з удзельнікаў магілеўскага гуртка Сьцяпан Язерскі яшчэ ў канцы 60-х гадоў, як народнік, вёў барацьбу з Нячаевым, бо народнікі, з прычыны сваёй дробна-буржуазнай сутнасьці, не маглі яго зразумець.

Гэта монографія здана ў друк.

* 12 лютага г. г. адбылося пасяджэньне правапіснай камісіі ІБК у пашыраным складзе з удзелам прэзыдэнта ІБК тав. Ігнатоўскага, Наркамасьветы тав. Баліцкага і Сакратара ЦК КП(б)Б т. Васілевіча. На гэтым пасяджэньні разглядалася пытаньне аб далейшым кірунку працы камісіі ў галіне правядзеньня рэформы беларускага правапісу.

На пасяджэньні было пастаноўлена ў першую чаргу ўзяцца за апрацоўку проекту зьмены ў правапісе, які трэба скончыць да 1-га чэрвеня, гэтага году.

* У беларускім цэнтраархіве ў справах канцылярыі былшага менскага губарнатара за 1879 г. знойдзена справа па абвінавачаньні студэнта пецярбурскага унівэрсытэту Гаховіча ў распаўсюджаньні часопісі „Вперед" выданьня „Земля и Воля" ды інш. рэволюцыйнай літаратуры. Гэта рэволюцыйная літаратура, як устаноўлена, распаўсюджвалася тады ў Менску ў вялікай колькасьці. У Гаховіча была таксама знойдзена фотографічная картка Веры Засуліч. Матэрыялы па гэтай справе выўчаюцца зараз у Інбелкульце.

* Колегія Нар. Кам. Асьветы зацьвердзіла камісію па ахове помнікаў старасьветчыны ў БССР. У склад гэтай камісіі ўваходзяць: т.т.— Некрашэвіч, Ластоўскі, проф. Фядзюшын, Ляўданскі і проф. Сэрбаў.

* Яўрэйскі сэктар ІБК ўзяўся за распрацоўку матэрыялаў равінскіх казак былой Менскай губ., датычных яўрэйскага насельніцтва.

Гэтыя казкі адносяцца да першай паловы XIX сталецьця; такія матэрыялы ў яўрэйскай гісторыяграфіі распрацоўваюцца ўпяршыню і даюць магчымасьць атрымаць па першакрыніцах весткі аб соцыяльным стане яўрэйскага насельніцтва.

* Яшчэ ў пачатку мінулага году адміністрацыя Гомельскага аддзяленьня дзяржаўнага музэю распачала організацыю пры музэі краязнаўчага аддзелу. У аснову гэтага аддзелу быў пакладзены дагістарычны краязнаўчы матэрыял (косткі мамонта, тура, аленя і насарога, рэчы, атрыманыя шляхам раскопак і знаходак— акамянеласьці драўлянага пахаджэньня) і ўзоры жалезнай балотнай руды ды мінэраляў Гомельшчыны.

Краязнаўчы аддзел будзе складацца з 3-х аддзяленьняў: прамысловасьці і гандлю, сельска-гаспадарчага і грамадзка-бытавога.

* Нядаўна ў віленскай польскай газэце „Кур'ер Віленскі“ (за 11—2) быў надрукаваны вялікі артыкул аб жыцьці і творчасьці Францішка Багушэвіча. У гэтым артыкуле побач з даволі няўдалымі спосабамі зрабіць з Багушэвіча паляка, польскага патрыёта і прыхільніка паноў, ёсьць і цікавыя біографічныя (а таксама і нэкролёгічныя) весткі.

Пачынаецца артыкул апісаньнем пахаваньня песьняра, далей апісваецца віленскі пэрыод яго жыцьця і нарэшце ідзе „крытыка“ яго твораў і пробы давесьці польскасьць Багушэвіча.

* У Беларускім Дзяржаўным Музэі адкрываецца з 15-га сакавіка аддзел сучаснага беларускага мастацтва. У аддзел увойдуць тыя мастацкія творы, якія былі куплены пасьля другой усебеларускай мастацкай выстаўкі. Экспонаты займуць асобны пакой у музэі. У склад іх уваходзяць творы мастакоў Беларусі, як т. Грубэ, Сьляпяна, Бразэра, Філіповіча, Хрусталева, Волкава, Кудрэвіча, Станюты, Віера, Руцая, Ахрэмчыка і інш. У сувязі з адчыненьнем новага аддзелу, у музэі адбываецца перавеска карцін.

* Беларускія пісьменьнікі і таварыства культурнай сувязі з заграніцай паслалі Лейпцыгскаму суду наступную тэлеграму: „16 сакавіка Нямецкі Дзяржаўны Суд мае судзіць выдатнага пролетарскага пісьменьніка Іоганэса Бэхэра за яго літаратурныя творы. Абвінавачаньне за вольную думку поэты, выказчыка настрояў мільёных працоўных гушчаў, зьяўляецца ганебным і някультурным учынкам, які ня робіць гонару Нямецкай рэспубліцы, як культурнай краіне.

Абвінавачваньнем Бэхэра нямецкая буржуазія хоча задушыць разьвіцьцё рэволюцыйнай пролетарскай нямецкай літаратуры, бачачы ў ёй адзін са сродкаў змаганьня працоўных гушчаў за сваё соцыяльнае вызваленьне.

Мы моцна протэстуем супроць стороннай судовай расправы над Бэхэрам.

Організацыя беларускіх пісьменьнікаў „Полымя“: народны поэта Янка Купала, народны поэта Якуб Колас, Міхась Зарэцкі, Алесь Гурло, Андрэй Александровіч, Алесь Дудар, Янка Нёманскі.

Беларускае таварыства культурнай сувязі з заграніцаю: Цішка Гартны, Міхась Чарот. Беларускае таварыства драматычных пісьменьнікаў: Міхась Грамыка, Уладыслаў Галубок, Васіль Сташэўскі, Алесь Ляжневіч.

Беларускае аб'яднаньне пісьменьнікаў „Маладняк“: Янка Ліманоўскі, Браніслаў Вансоўскі, П. Галавач.

* У штотыднёвай літаратурна-мастацкай расійскай (Масква) часопісі

„Читатель и Писатель“ № 3 ад 1-га лютага г. г. зьмешчаны вялікі цікавы артыкул „Литературная Белоруссия“. Артыкул у каротkіх словах дае гісторыю беларускай літаратуры. Артыкул ілюструецца портрэтамі беларускіх пісьменьнікаў. На красавік месяц бягучага году аб‘яднаньне пісьменьнікаў „Полымя“ запрашае ў Менск шэраг украінскіх пісьменьнікаў, прыезд якіх зьявіцца адказам на паездку беларускіх пісьменьнікаў на Украіну.

## У Інстытуце Беларускай Культуры

* Этнографічная камісія ІБК у цяперашні момант распачала падрыхтоўчую працу па выўчэньні матэрыяльнай культуры на Беларусі: паселішчаў з іх вуліцамі, сядзіб, двароў і розных будынкаў, гаспадарчага інвэнтару, вопраткі ды інш.

* Слоўнікавая камісія ІБК зрабіла справаздачу на Прэзыдыуме ІБК аб сваёй навуковай дзейнасьці за апошнія 3 гады.

За гэты час слоўнікавая камісія сабрала 375 тысяч картак-слоў, надрукавала краёвы слоўнік Віцебшчыны. У пачатку наступнага году камісія прыступае да I тому Беларускага Акадэмічнага Слоўніка.

Прэзыдыум ІБК прызнаў работу слоўнікавай камісіі плянавай і энэргічнай. Разам з гэтым Прэзыдыум ІБК лічыць першачарговай задачай выданьне краёвага слоўніку Заходняй Беларусі.

* Зацьверджана палажэньне аб Геолёгічным Інстытуце, які зьяўляецца ўстановаю ІБК і будзе яднаць выўчэньне геолёгічнае і мінэралёгічнае сыравіны Беларусі. У якасьці дырэктара інстытуту будзе прызначаны вядомы геолёг, правадзейны член ІБК, проф. Блюдуха.

Інстытут зьмяшчаецца зараз у адным будынку з Сельска-Гаспадарчым Дасьледчым Інстытутам імя Леніна. Там-жа разьмешчаны багатыя геолёгічныя колекцыі, сабраныя да гэтага часу экспэдыцыямі ІБК. З гэтых колекцый створаны геолёгічны музэй, у якім зьмяшчаюцца апрацаваныя ўзоры земных парод і карысных выкапняў Беларусі.

* Камісія батанікі ІБК вядзе працу над дасьледваньнем альбінізму (прасталіснасьці) у расьлін Беларусі.

У гэтым сэнсе напісана першая праца, у якой разгледжана да 80 расьлін.

Праца выклікала вялікую зацікаўленасьць з боку навуковых колаў.

* Вучоны спэцыялісты ІБК т. Рагавы закончыў апрацоўку глебавай карты Мазыршчыны ў 3-вярстовым маштабе. Здымкі гэтай карты рабіліся летам 1927 г.

Да гэтага часу зроблены глебавыя здымкі ў 4-х акругах: Менскай, Барысаўскай, Аршанскай і Мазырскай.

Здымкі зьяўляюцца вялікай каштоўнасьцю ў галіне дасьледваньня глебавых уласьцівасьцяй Савецкай Беларусі.

* Беларускі Навукова-Дасьледчы Інстытут сельскае і лясное гаспадаркі распачынае выўчэньне беларускага зямельнага права. Гэтая праца даручана вядомаму знаўцу зямельнага права проф. Яўціхіеву.

Выўчэньне зямельнага права ў БССР будзе падзяляцца на тры кругабегі: 1861—1917 г. г., 1917—1924 г. г. і з 1924 г. па сучасны момант.

* Інстытут мастацтва ІБК атрымаў праз СНК Беларусі з Масквы 3.000 р. на дасьледваньне беларускіх музычных інструмантаў. Асыгнаваньне гэтых грошай знаходзіцца ў зьвязку з выстаўкаю музычных інструмантаў, якая адбылася ў Франкфурце на Майне. На гэтай выстаўцы выявілася, што беларускія музычныя інструманты орыгінальныя і маюць каштоўнасьць для навукі.

* Інстытут Беларускае Культуры распачаў досьледы па выяўленьні антраполёгічнага тыпу беларуса. Досьледы вядуцца антраполёгічнай катэдрай пад кіраўніцтвам профэсара

Бел. Д. Ун-ту Ленца і сваёй працай ахапляюць фізыолёгічную частку, досьледы па вышэйшай нэрвовай дзейнасьці, функцыянальна-конституцыйны тып, дэмографічныя даныя, расавы тып, племянны склад ды інш.

У досьледах прымае ўдзел шэраг навуковых працаўнікоў-спэцыялістых па асобных галінах антрополёгіі.

* Інстытут навуковае мовы закончыў друкаваньнем слоўнік глебазнаўчае тэрмінолёгіі, зацьверджаны Галоўнай Тэрмінолёгічнай Камісіяй ІБК. Слоўнік надрукаваны ў трох мовах—расійскай, беларускай і нямецкай і зьмяшчае ў сабе 832 словытэрміны.

* Выяўлены ў Саюзнай Акадэміі Навук рукапіс беларускае граматыкі (пашыраны) Б. Тарашкевіча. ІБК мае намер накіраваць свайго прадстаўніка для азнаямленьня з гэтым гістарычным дакумантам і яго надрукаваньнем.

* Пры ІБК утвараецца катэдра беларускага права, якая будзе складацца з дзьвюх камісій—дзяржаўнаадміністрацыйнага і гаспадарчага права.

* Катэдра гісторыі беларускае літаратуры рыхтуе маладых дасьледчыкаў па беларускай літаратуры. У якасьці асьпіранта зараз працуе тав. Чаржынскі.

# ХРОНІКА УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Пісьменьнік В. Вінічэнка напісаў новы роман з жыцьця украінскай эміграцыі пад назвай „Поклади золота“.

* У Харкаве ў літ. будынку ім. Блакітнага 15 студзеня г. г. адбыўся вечар, прысьвечаны сучаснай беларускай літаратуры.

Вечар наладзіла аб'яднаньне сялянскіх пісьменьнікаў „Плуг“.

Дакладчык т. Піліпенка зазначыў, што ў пляне работы будынку ім. Блакітнага вызначана наладзіць вечар беларускае літаратуры з удзелам беларускіх пісьменьнікаў і што гэты вечар ставіць сваім заданьнем азнаёміць літаратурнае кола Харкава з характарам найноўшае беларускае літаратуры, падрыхтаваць яго такім чынам да выступленьня прадстаўнікоў гэтае літаратуры. Дакладчык пачаў агляд беларускае літаратуры з „Энэіды“, „Тарас на Парнасе“, потым спыніўся на творчасьці пісьменьнікаў XIX сталецьця, пад канец якога да мотываў фольклёрных *(Дунін-Марцінкевіч)* далучаюцца мотывы соцыяльна-палітычныя, якія зьяўляюцца адбіткам цяжкога становішча беларускага сялянства.

1905 год абудзіў сялянскія масы да актыўнага грамадзкага жыцьця, нараджаецца беларуская прэса, зьяўляюцца выдатныя беларускія пісьменьнікі як: Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны і Зьмітрок Бядуля, якія маюць назву старэйшых пісьменьнікаў. Т. Піліпенка, спыняючыся на творчасьці прадстаўнікоў гэтае групы Я. Купалы, Я. Коласа, знаёміць з асноўнымі рысамі яе.

З Кастрычнікавай рэволюцыяй зьявіліся новыя мотывы.

Асабліва оптымістычны настрой уносіць група маладых пісьменьнікаў, як М. Чарот, М. Зарэцкі, А. Александровіч, А. Дудар ды іншыя. Беларуская літаратура пачынае выкарыстоўваць тэмы гарадзкога жыцьця.

Пасьля дакладу т. Піліпенка прачытаў апавяданьне М. Зарэцкага: „Голы зьвер“, у якім аўтар у орыгінальнай форме даў яскравы малюнак барацьбы з бандытызмам. Апрача гэтага, т. Піліпенка прачытаў у сваім перакладзе на украінскую мову некалькі баек Крапівы, а М. Бykaвец падзяліўся сваімі ўражаньнямі з падарожы на Беларусі мінулага лета.

* Віньніцкае аб'яднаньне літаратараў пачало выпускаць новую часопісь „Струмінь“.

* У Харкаве створана камісія па правядзеньні 15-гадовага юбілею з дню сьмерці вядомага украінскага пісьменьніка Коцюбінскага.

* У лютым месяцы г. г. прыяжджалі ў Менск для азнаямленьня з беларускай літаратурай і культурай наогул украінскія пісьменьнікі-поэты: Мосэнка, Ковтун і Момот.

* Малады пісьменьнік Андрэй Головко, аўтар вядомай аповесьці „Бур'ян“, напісаў новы роман „Три сини“. Роман пачаў друкавацца ў часопісі „Плуг“.

* Украінская Акадэмія Навук надрукавала вялікі (каля 30 друкаваных аркушаў) III зборнік прац камісіі па дасьледваньні гісторыі Заходня-расійска-украінскага права. У зборніку шмат артыкулаў з гісторыі бе-

ларускага і украінскага права так, напр., артыкулы: В. Навіцкага, М. Максіменка, С. Барысёнка, М. Слабчэнка, Л. Окіншэвіча, І. Чэркаскага і іншых. У зборніку ёсьць і наступныя аддзелы: палемічны, бібліографічны, справаздача аб працы камісіі, артыкул акад. Васіленка памяці Івана Балінскага. У бібліографічным аддзеле ёсьць рэцэнзія Л. Окіншэвіча на артыкул У. Пічэты, надрукаваны ў „Полымі“ № 8 за 1926 г. і № 2 за 1927 г. і рэцэнзія С. Іваніцкага на артыкул В. Дружчыца— „Места Менск ў канцы XV і пачатку XVI ст.“

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны абвесьціла конкурс на лепшы юнацкі роман з часоў гісторыі Украіны ад мінулых да нашых дзён, рэволюцыйнай барацьбы, соцыялістычнага будаўніцтва і г. д.

* У Харкаве 19 лютага г. г. аб'яднаньне сялянскіх пісьменьнікаў „Плуг“ сьвяткавала юбілей 20-гадовай літаратурнай чыннасьці украінскага пісьменьніка В. Алешка.

* АРМУ зараз вядзе падрыхтоўчую работу па організацыі ў Кіеве выстаўкі графікі, малюнкаў і архітэктуры.

* Харкаўскі дом літаратуры імя В. Блакітнага наладзіў вялікі ўсеукраінскі дыспут аб украінскай сучаснай літаратуры. Дыспут, які цягнуўся 4 дні, выклікаў вялікую зацікаўленасьць як сярод літаратараў усіх плыняй, так і сярод шырокіх колаў грамадзтва.

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, М. Зарэцкі, Я. Ліманоўскі.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

# ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

Зьмешчаная ў № 1 часопісі „Полымя“ поэма А. Александровіча „Цені на сонцы“ выклікала сабою шэраг гутарак сярод некаторых колаў грамадзтва. Знайшліся паасобныя ядынкі апошняга, якія лістамі ў адпаведныя ўстановы павялі дробныя мяшчанскія бульварныя напады супроць аўтара поэмы і рэдакцыі часопісі. Якіх толькі слоў не знаходзіцца ў іх лексыконе! На якія толькі хітрыкі ня кідаюцца яны, каб так ці іначай выкарыстаць выпадак для наступу на пролетарскі фронт беларускае культуры! Тут не бракуюць сродкамі ажно да сумеснага рэдагаваньня лістоў з некаторымі рэдакцыйнымі працаўнікамі.

Рэдакцыя часопісі „Полымя“, маючы гэта на ўвазе, засьвядчае: яна надрукавала поэму А. Александровіча, як выдатны з літаратурнага боку твор поэты, адбіваючы некаторыя адмоўныя бакі ў галіне беларускага культурнага будаўніцтва. Ніводнае асобы конкрэтна поэма не зачапляе, ніводнае асобы нікому не паказвае. Тое-ж, што некаторым ядынкам поэма здалася накіраванай супроць іх, яскрава гаворыць за наяўнасьць „ценяў на сонцы“, за наяўнасьць адзначаных поэмаю адмоўных умоў у беларускім жыцьці. Гэта суцяшае рэдакцыю, якая з часу заснаваньня часопісі „Полымя“ ў звароце да сваіх чытачоў пісала: „Наш журнал ёсьць і часопісьсю зьбіраньня і часопісьсю расколу. Мы ворагі яднаньня ў імя яднаньня. Мы хочам яднаньня вакол програмы... Наша програма— адданая, самаахвярная праца на карысьць соцыялістычнага разьвіцьця савецкай рабоча-сялянскай Беларусі, на ўздым яе гаспадаркі і на ўзрост яе культуры“.

Выходзячы з гэтага, часопісь „Полымя“ і надалей мецьме адным ад сваіх заданьняў весьці на сваіх старонках няшчадную барацьбу з тымі фактамі, якія становяцца ўпоперак разьвіцьцю беларускай соцыялістычнай культуры. Яе цікавяць ня людзі, а факты.

**Рэдакцыя „Полымя“.**

# ЗЬМЕСТ

Стар.

ЦАНА 1 руб. 50 кап.